МАКСІМ ГАРЭЦКІ.

# ХРЫСТАМАТЫЯ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТЭРАТУРЫ

XI век — 1905 год.



ВІЛЕНСКАЕ БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА Б. КЛЕЦКІНА.
ВІЛЬНЯ, 1922.

З дняўніка за 1922 г. сьветлай памяці Ганны Гарэцкай.

„Узноў заскрабло, забалела, зашчаміла на сэрцы. І чаго толькі? Чаго баліць яно, беднае? А ці таго, што кругом відзіць няпраўду, гора, сьлёзы бедных людзей?“

„Ужо ўсюды ўсё красуець. Дрэвы ўжо пачынаюць раскідацца. Траўка зелянеець, птушачкі пяюць. На магілках ужо п казаваюцца цьвяточкі з сьветла-зялёненькімі, нежненькімі і слабенькімі, і хіленькімі лісточкамі Хмурымі кажуцца і красачкі на магілках, як-бы і самі магілкі. Сьпяць у гэтых магілках людзічкі. Сьпіце, вечная памяць вам. Вы нічога ня бачаце, што кругом вас, куды ні глянь, усё зелянеець, расьцець, жывець і борыцца за жыцьцё, як калі-то бароліся і вы. Буду і я жыць, буду любіць і даражыць жыцьцём, і бароцца за жыцьцё, і памагаць жыць другім.“

„Багацькаўка! Мая мілая і ўмесьце з тым пастылая Багацькаўка! Люблю я цябе з тваім садком, ляском... Люблю тваіх мілых, слаўных, вясёлых дзетак, тужлівых старычкоў і вясёлых пявуньняўдзевак. Ненавіджу тваю гразь, няпрытульнасьць. Скарэй нада набрацца сілухны і пачаць варушыць камні“...

ЯЕ ДАРАГОМУ ВОБРАЗУ,
ЯК ПАМЯТКУ НА МАГІЛКУ
Ў ЧУЖЫНЕ, ГЭТУЮ КНІГУ
ПАСЬВЯЧАЮ.

БРАТ.

# ПРАДМОВА.

Гэтая спроба выпісак з літэратуры павінна хоць троху здаволіць вялікую патрэбу грамадзянства ў падручнай гістарычналітэратурнай хрыстаматыі.

Кніга больш-менш дапасована да маей „Гісторыі беларускае літэратуры“. Некаторых пажаданых выпісак у ёй няма дзеля незалежных ад мяне прычын.

Патрэба ў выпісках з літэратуры нашаніўскага часу троху меншая, бо творы найнавейшых нашых пісьменьнікаў, хоць ня ўсе, але ў большасьці даступны грамадзянству ў продажы і бібліятэках. Таму з гэтай справай яшчэ можна чакаць лепшага часу.

М. ГАРЭЦКІ.

Вільня, Базыліянскія муры.
1921 г. — 1922 г.

# Царкоўна-славяншчына.

(10 — 11 — 12 век).

## З Тураўскага Евангельля *).

(11 веку).

Ре̅ г̅ь к' прішьд'шіім' к' немоу іюдеом'. сего раді мя оц̅ь любіть яко аз' полагаю дш̅ю мою да пакы пріімоу ю. нік'то же в'зьметь ею от мене н' аз' полагаю о себе о власть бо імам' положіті ю но власть імам' пакы пріяті ю сію заповедь пріят' оц̅а моего расьпря же пакы бысть в' іюдеіх' за словеса сі гла̅аху же мнозі от' ніх' бес' імать...

Сказаў Госпад прыйшоўшым да яго юдзеям: за тое мяне любіць Ацец, што я аддаю душу (ж ы ц ь ц ё) маю, каб ізноў знайці яе; ніхто ня возьмецъ яе ад мяне, але я сам кладу яе, бо маю ўладу аддаць яе і ўладу маю ізноў прыняць яе; гэткі загад дастаў я ад Аццa майго. Ад гэтых слоў ізноў была нязгода сярод юдзеяў. Шмат хто з іх казаў: чорт у ім.

## Сьвятаславаў Ізборнік.

(1076 г.).

### Аб чытаньні кніжак.

Добро есть, братіе, почітанье кніжьное... Егда чьтеші кнігы, не т'штіся б'рзо іштісті до дроугыя главізны, н' поразоумеі, чьто гл̅ють кнігы і словеса та, і трішьды обраштяяся о единоі главізне...

Добра ёсьць, браты, чытаць кніжкі. Калі чытаеш кнігі, не старайся шыбка прачытаць да другога разьдзелу, але паразважай, што гавораць кнігі і словы тыя, і тройчы зварочуйся да аднаго разьдзелу.

## З апокрыфу аб Адаме і Еве.

... прінесе Каінь жр'тву Богу от жіта. Не пріа Богь, но презрі нечісто, бяше бо Каінь в' гресе зачатся, тем не пріят его Бог' дары. Авел же прінесе дары от тоука овец своіхь; прізре Богь на

Прынёс Каін ахвяру Богу жытам. Ня прыняў Бог, пагрэбаваў нячыстым, бо Каін зарадзіўся ў грасе, дзеля таго ня прыняў Бог яго дароў. Авель-жа прынёс дары тукам (жырам) авечак сваіх;

---

*) Прыклад пісьма з гэтым тэкстам зьмешчан на стр. 7 „Гісторыі беларускае літэратуры“.

дары і оузят. За то враждова Каін на Авеля і убі его. І лежаше не погребен 30 лет. сей быс(ть) пр'выі мертвец на землі. Адам же і Евва не домысліста ся, камо его подеті і ходящча над онь. і відевь Адам в' гр'ліце: една умре а другаа похова ю. і то відеста і погребоста і Авеля, і преста плач...

зьвярнуў увагу Бог на дары і ўзяў. За гэта зрабіўся ворагам Каін Авелю і забіў яго. І ляжаў (Авель) непахаваны 30 гадоў; быў ён першы мярцьвец на зямлі. Адамжа і Ева не дамысьліліся, дзе яго падзець, і хадзілі над ім. І відзіў Адам у ластавак: адна памёрла, а другая пахавала яе. А відзеўшы тое, пахавалі Авеля, і скончыўся плач.

## З апокрыфу „Як хадзіла Багародзіца па муках“.

І оувіде с(вя)тая древо железно, (імеюшчь отраслі і ветвіе железны), і вършіе ветвія того імеяше оуды железны, і бяше тоу вісяшчых' множьство моужь і жень за языкы. і відевші с(вя)тая просльзі ся і в'просі Міхаіла: „Кто сі соуть, что лі с'грешеніе іх'?“

І реч архістратіг: „Се соуть клеветьніці, с'вадьніці і еже разлучіша брата от брата і моуже от жен' своіх“...

І ўвідзела Сьвятая дрэва зялезнае, маючае адросткі і гальлё зялезнае, і вярхушкі гальля таго мелі канцы зялезныя, і было тут вісячых множства мужоў і жон за языкі. І відзеўшы Сьвятая прасьлязілася і спыталася ў Міхаіла: „Хто яны і за якія грахі?“

І кажаць архістратыг: „Гэта маніўшыя на другіх, зводнікі і тыя, што разлучылі брата з братам і мужоў з жонкамі сваімі“.

## „Пчала“.

**Кнігы, бчела. речі і мудрості...**

... Плутарх' рече. Ні болнаго можеть ізлечіті кровать злата. ні несмысленому пользуеть слава і богатьство...

... і сократ рече. Нікому-же в напасті не поносі...

... Платон. Сладко слушаті правды. глаголаті же право луче неже слышаті.

... епікур рече. Сміреная душа славою ослабіся...

... Соломон. Іже ся утвержаеть лжею. тот' пасеть ветры...

**Кнігі „Пчала“, гутаркі і мудрасьці...**

Плутарх кажаць: хворага ня можа вылячыць залаты ложак, дурному ня дасьць рады слава і багацьце.

І Сакрат кажаць: не ганьбуй нікога, хто ў бядзе.

Платон: салодка слухаць праўду, але гаварыць яе лепей, чымся слухаць.

Эпікур кажаць: сьціплая душа аслабляецца славаю.

Саламон: хто мацуецца маною, той пасьціць ветры.

# З Хронографа.

Слова „Хронограф", або часапісаньне ў старадаўны час мела ў нас два значаньні. Гэтым імем называліся звычайна перакладзеныя з грэцкае мовы (у 10 веку) кронікі: Ягора Амартола, Івана Малалы, Кастантына Манасіі і інш. Пад ім-жа разумеліся і славянскія компіляцыі па сусьветнай гісторыі, зложаныя з розных крыніц і ў розны час.

**О преложеніі кніг от' Греческаго языка на Словенскій.**

... Коньстянтін' Філософ і брат Мефодіі преложіта стыа кнігі от' Греческаго языка на Словенскіі. Болгаре же і Словене. і Сербі. і Арбанасі і Басане і Русы. во всех' тех' єдін язык'. стыі же Константін Філософ' многы кнігі преложів' отоіде прежереченыя языкі учіті і предаті ім' святое пісаніе по іх языку...

**Аб перакладзе кніг з грэцкае мовы на славянскую.**

Касьцянцін Філёзоф (у манахах Кірыла) і брат яго Мяфод пераклалі сьвятыя кнігі з грэцкае мовы на славянскую. Бо і баўгары, і славенцы, і сэрбы, і арбанасы, і басане, і русы гаварылі аднэю моваю. Дык сьвяты Касьцянцін Філёзоф, пераклаўшы многа кніг, адправіўся раней казаныя народы вучыць і прапаведаваць ім сьвятое пісьмо на іхнай мове.

## З кронікі Івана Малалы.

**Аб Каю Цэзару Калігуле.**

По црстве же Тіверія кесаря црствова Іаіос... бе же высокь. тонок'. ліцем' леп' роумян' наоус' прост власы. малыма очіма борзоречівь. гневлівь. веледшень...

Пасьля гаспадараньня кесара Тыверыя гаспадарыў Іаіос. А быў высокі і тонкі, прыгожы і румяны з твару, з простымі валасамі ў вусох, бойкі на гутарку, гняўлівы, вялікадушны.

## З кронікі Ягора Амартола.

По Аоулентіане же царствова Граціан сн Аоулентіановь... По Гратіяне же црствова Феодосіі велікыі тогда отць Феодосіевь і томоу такоже імя Феодосіі велікыя пл'кы варварьскыя языкы ісел'чівь победі...

Па Валенцыяне-ж гаспадарыў Грацыян, сын Валенцыянаў... Па Грацыяне-ж гаспадарыў Феадосі Вялікі. Тады бацька Феадосіяў, якому таксама імя Феадосі, вялікія палкі барбарскіх народаў, пайшоўшы на вайну, пабядзіў.

## Пачатак повесьці „Александрыя“.

Житіе і жізнь і деяніе і вся брань на Олександра царя Макідонскаго... По Даріі же Арсюмоданіне царьствова Александр' Макідонскыі лет 12. образ' же рожества і доблесть мужьства *)...

Жыцьцё, і дзеяньні, і ўсе войны Аляксандравы, цара Македонскага... Па Дарыю Арсюмоданіну гаспадарыў Аляксандар Македонскі 12 гадоў. Прыклад-жа ражства і доблесьць мужства...

## Летапісь Несьцера (*1056—†1114).

... І Радімічі, і Вятічі, і Север' одін' обычай імяху: жівяху в' лесе, якоже вьсякый зверь, ядушче вьсе нечісто, срамословье в' ніх' пред' отьці і пред' снохамі; браці не бываху в' ніх', но ігрішча межю селы. Схожахуся на ігрішча... і ту умыкаху жены собе... імяху же по две і по трі жены.

... Сі же творяху обычая Крівічі, прочіі поганіі, не ведушче закона Божья, но творяшче самі собе закон...

І Радзімічы, і Вяцічы, і Север мелі аднакавы звычай: жылі ў лесе, як і ўсякі зьвер, елі ўсё нячыстае, саромныя словы ў іх — перад бацькамі і перад нявесткамі; шлюбаў у іх ня было, але ігрышчы між сёлаў. Схадзіліся на йгрышчы і тут хапалі сабе жонак... мелі-ж па дзьве і па тры жонкі.

Гэткім-жа звычаем рабілі Крывічы, іншыя паганыя, ня ведалі закона Божага, але тварылі самі сабе закон.

## Даніла Паломнік (1115 г.).

Паломнік — падарожнік-багамол.

... любві раді святых мест'. написах все еже відех очіма своіма грешныма. да бы не в забыты то было. еже мі показа богь недостойному...

... і ту есть град макріі.

В том граде макріі... ту ся ражает тімьян. гонофіт черный. і тако ся ражаеть. ісходіт із древа яко мезга. і снімають железом острым. а імя древу тому зігня ест. образом акі олха древо то...

Любові дзеля да сьвятых местаў, напісаў усё тое, што відзіў сваймі грэшнымі вачыма. Каб не ў забыцьці тое было, што паказаў мне Бог нявартаму.

І ёсьць тут горад Макрыя.

У тым горадзе Макрыі, тут родзіцца тымян, чорны ганафіт. І родзіцца так: выходзіць з дрэва, як мязга. І зьнімаюць яго войстрым зялезам. А называецца тое дрэва: зігня. Выглядаець-жа тое дрэва — быццам вольха.

*) Гл. далей выпіску з повесьці „о цары Александры“, зьмешчаную ў разьдзеле 17-го сталецьця.

## Напіс на крыжы Апрасіньні Полацкай.

в ле(то) 1161 покладаеть офросінья чьстныі крьст'. в манастырі своемь. в церкві святого спаса. чьстное древо бесценьно есть. акованье его. злото. і серебро. і каменье. і жьнчіг'. в 100 грівн. а др:.... 40 грівн. да неізнессеться із манастыря. нікогда же яко ні продаті. ні отдаті...

господі помозі рабоу своему лазорю нареченомоу бог'ші с'делавшемоу крьст' сіі црькві святаго спаса і офросіньі.

У 1161 годзе кладзець Апрасіньня часны крыж у манастыры сваім у царкве Сьвятога Спаса. Часное дрэва — бясцэнна. Акаваньне яго: золата, серабро, каменьне і жомчуг — у 100 грывень, а інш. .... 40 грывень. Хай ня будзе вынесены з манастыра а ніколі, а ні прадаць, а ні аддаць...

Госпадзі, памажы рабу свайму Лазару,названаму Богушу, зрабіўшаму крыж гэты царкве Сьвятога Спаса і Апрасіньні.



**Апрасіньня Полацкая.**

## Кірыла Тураўскі († 1182 г.).

**З навукі ў нядзелю пятую па Вялікадні.**

Аз убо, о друзі і братье, надеях'ся на въсяку неделю боле собьраті в' церковь людий, на

Я тымчасам, о другі і браты, спадзяваўся на кожную нядзелю болей сабраць у царкву людзей,

послушаніе божествьных' словес', ныняже мьне приходіть... В'прошю же вы, і отвешчайте мі: ашче злато ілі сребро по вься дьні раздавал' быx', ілі мед', лібо се піво, не бысте лі пріходілі самі і не прізываемі?... Ныне же словеса Божія раздаваю, лучьша паче злата і каменья драгаго, і слажьша паче меду і с'та, і лішаетеся іх', не пріходяче к' церкві...

паслухаць боскія словы,—сяньня-ж меней прыйшло... Спытаюся-ж у вас, і адказавайце мне: калі-б золата ці срэбра што дня раздаваў-бы, ці мёд, або вось піва, ці-ж бы не прыхадзілі самі і нягуканыя?... Цяпер-жа словы Божыя раздаю, яшчэ лепшыя за золата і дарагога каменьня, і яшчэ саладзейшыя, чым мёд і сыта,—і трацице іх, ня прыходзячы да царквы.

# Слова а палку Ігараве.

(Канец 12 веку).

Не лепо лі ны бяшеть, братіе, начаті старымі словесы трудьных' повестій о п'лку Ігореве, Ігоря Свят'славліча? Начаті же ся той песні по былінам' сего времене, а не по замышленію Бояню. Боян' бо вешчій, ашче кому хотяше песнь творіті, то растекашеться мысію по древу, серымь в'лкомь по землі, шізымь орьломь под' облакы. Помьняшеть бо, рече, пьрвых' времен' усобіці; тогда пушчашеть 10 соколов' на стадо лебедей: который дотечаше, та преді песнь пояше старому Ярославу, храброму Мьстіславу, іже зареза Редедю пред' п'лкы касожьскымі, красьному Романові Свят'славлічу. Боян' же, братіе, не 10 соколов' на стадо лебедей пушчаше, н' своя вешчая пьрсты на жівыя струны в'складаше; оні же самі князем' славу рокотаху.

Почьнем' же, братіе, повесть сію от стараго Владімера до нынешьняго Ігоря, іже істягну ум' крепостію своею і поострі

Ці ня лепей было-б нам, браты, пачаць а палку Ігараве, Ігара Сьвятслаўліча, старымі словамі сумных пераказаў? Пачаціся-ж той песьні складам былінаў гэтага часу, а не Баянавым спосабам. Бо чарадзей Баян, калі хацеў аб кім песьню пяяць, дык расьцякаўся вавёркаю па дрэву, шэрым ваўком па зямлі, шызым арлом пад ваблокамі. Спомніўшы бо, кажа, першых часоў разруху ад нязгоды, пушчаў тады дзесяць сакалоў на лебядзінае стада: якую дацінаў сакол, тая лебедзь пачынала пяяць песьню аб старым Яраславе, ці храбрым Амсьціславе, што забіў Радзедзю перад касожскімі палкамі, ці слаўным Рамане Сьвятслаўлічы. Ды ня дзесяць сакалоў на лебядзінае стада, браты, пушчаў то Баян: то ён чарадзейныя пальцы свае на ажываўшыя струны ўскладаў; яны-ж быццам самі князём славу ракаталі.

Пачнём-жа, браты, повесьць гэтую ад старога Ўладзімера да цяперашняга Ігара, які паказаў крэпкі розум і навайстрыў муж-

сердьца своего мужествомь; нап'лнів'ся ратьнаго духа, наведе своя храбрыя п'лкы на землю половецькую за землю русьскую.

Тогда Ігорь в'ззьре на светьлое солньце і віде от' него тьмою вься своя воя прікрыты. І рече Ігорь к' дружіне своей: „Братіе і дружіно! луче ж' бы потяту быті, неже полонену быті; а в'сядем', братіе, на своя б'рзыя комоні, да позьрім' сіняго Дону"... „Хошчю бо, — рече,—копіе пріломіті конець поля половецькаго; с' вамі, Русічі, хошчю главу свою пріложіті, а любо іспіті шеломомь Дону".

О Бояне, соловію стараго времене! абы ты сія п'лкы ушчекотал', скача, славію, по мыслену древу, летая орьломь под' облакы, с'вівая, славію, оба полы сего времене, рішча в' тропу Трояню, чрез' поля на горы. Петі было песнь Ігореві, того внуку: „Не буря соколы занесе чрез' поля широкая, галіці стады бежать к' Дону велікому". Чілі в'спеті было, вешчій Бояне, Велесов' внуче: „Комоні ржють за Сулою; звеніть слава в' Кыеве; трубы трубять в' Новеграде".

Стоять стязі в' Путівле, Ігорь жьдеть міла брата Всеволода. І рече ему буй-тур' Всеволод': „Одін' брат', одін свет' светьлый ты, Ігорю! оба есве Свят'славліча. Седлай, брате, своя б'рзыя комоні, а мої ті готові, оседлані у Курьска напереді. А мої ті Куряне сведомі кметі: под' трубамі повіті, под' шеломы в'злелеяні, конець копія в'ск'рмлені, путі ім' ведомі, яругы ім' знаемы, луці у

ствам сваё сэрца; напоўніўся ваяўнічым духам і навёў свае храбрыя палкі на палавецкую зямлю за зямлю рускую.

Паглядзеў тады Ігар на сьветлае сонца і бачыць, як пакрыла яно цемнатою ўсіх яго вояў. І кажа Ігар сваёй дружыне: „Браты і дружыньнікі! Лепей-жа быць пабітаму, чым узятаму да няволі. Узьсядзем-жа, браты, на сваіх шыбкіх коні ды й пабачым сіняга Дону". „... Бо хачу, кажа, прыламіць піку аб дальні загон палавецкага поля; з вамі, русічы, хачу або галаву сваю злажыць, або напіцца з Дону шоламам".

О, Баяне, салавей даўнага часу! Вось каб ты апяяў гэтыя палкі, бегаючы, салавею, па дрэву думак, лятаючы арлом пад ваблокамі, зьвіваючы, салавею, абедзьве часьці гэтага часу (мінулае і сучаснае), рыскаючы Траянаваю сьцежкаю цераз поле на горы. Выпадала пяяць песьню Ігару, унуку таму: „Ня бура сакалоў занясла цераз поле шырокае, а стая галак бяжыць к Дону вялікаму". І выпадала пяяць, чарадзей Баяне, Вялесаў унуча: „Коні іржуць за Сулаю; зьвініць слава у Кіеве; трубы трубяць у Новагорадзе".

Стаяць сьцягі ў Пуціўлі, Ігар жджэць мілага брата Ўсевалада. І кажа яму буй-тур Ўсевалад: „Адзін брат, адзін сьвет сьветлы—ты, Ігару! Абодва дзеці Сьвятслаўлевы. Сядлай, браце, сваіх шыбкіх коні, а мае табе гатовы, асядланы ўперад ля Курску. А мае куране табе ведамыя людзі: пад трубамі спавіты, пад шаломамі усьпешчаны, канцом пікі ускормлены, шляхі ім вядомы,

ніх' напряжені, тулі отворені, саблі із'острены, самі скачють акы серыі в'лці в' поле, ішчючі себе чьті, а князю славы.

Тогда в'ступі Ігорь князь в' злат' стремень і поеха по чістому полю. Солньце ему тьмою путь заступаше; ношчь стонушчі ему грозою птіць убуді; свіст' зверін'... дів' клічеть вьрху древа, веліть послушаті землі незнаеме, В'лзе і Поморію, і Посулію, і Сурожю, і Корсуню, і тебе, тьмутороканьскый б'лван'! А Половьці неготовамі дорогамі побегоша к' Дону велікому; крычать телегы полуношчі, рьці лебеді роспушчені. Ігорь к' Дону воі ведеть... В'лці грозу в'срожать по яругам'; орьлі клек'томь ні кості зверi зовуть; лісіці брешуть на чьрленыя шчіты. О русьская земле! уже за шеломенемь есі.

Д'лго ночь мьркнеть; зарясвет' запала; мьгла поля покрыла; шчекот' славій ус'пе; говор' галічь убуді. Русічі велікая поля чьрленымі шчіты прегородіша, ішчючі себе чьті, а князю славы.

С' заранія в' пят'к' потоп'таша поганыя п'лкы Половецькыя і разсушася стреламі по полю, пом'чаша красьныя дев'кы половецькыя, а с' німі злато і паволокы і драгыя оксаміты; ...япончіцамі і кожюхы начаша мосты мостіті по болотом' і грязівым' местом' і вьсякымі узорочьі половецькымі. Чьрлен' стяг', бела хоруговь, чьрлена чол'ка, сребрено стружіе храброму Свят'славлічю! Дремлеть в' поле Ольгово хороброе гнездо, далече залетело. Не

каляіны ім знаёмы, лукі ў іх нацягнуты, каўчаны адчынены, шаблі навойстраны, самі скачуць, як шэрыя ваўкі ў полі, шукаючы сабе чэсьці, а князю славы".

Тады ўлажыў нагу князь Ігар у залаты страмень і паехаў па чыстым полі. Сонца яму цемнатою дарогу заступала; ноч стагнала яму газою і птушак узбудзіла; сьвіст зьвярыны... птушка лесавая паверх дрэва клікае, дае загад, каб пачулі нязнаныя землі—Волга і Памор'е, і Пасуль, і Сурож, і Карсунь, і ты, тмутараканскі балване! А полаўцы пабеглі к вялікаму Дону ненаторанымі дарогамі; скрыпяць іх калёсы а поўначы, як распушчаныя лебедзі. Ігар к Дону вояў вядзе... Ваўкі бяду па равох варожаць; арлы клёктам на косьці зьвяр'ё гукаюць; лісіцы брэшуць на блісучыя чырвоныя шчыты. О руская зямля! ужо ты за кардонам.

Доўга меркне ноч; сьветлая зара запала; імгла палі пакрыла; салаўінае шчоўканьне замёрла; гоман галаччы узьняўся. Вялікае поле перагарадзілі русічы чырвона-блісучымі шчытамі, шукаючы сабе чэсьці, а князю славы.

Спазаранку ў пятніцу, патаптаўшы паганыя палавецкія палкі і рассунуўшыся стрэламі па полю, памчалі прыгожых дзевак палавецкіх, а з імі золата і пакрыўкі і дарагія аксаміты; ...апанчамі, і кажухамі, і ўсякімі ўзорнымі палавецкімі тканінамі пачалі масьціць масты па балотах і гразкіх месцах. Сьцяг чырвоны, харугва белая, бунчук чырвоны, струг сярэбраны —храбраму Сьвятслаўлічу! Дрэмле ў полі храбрае Алегава гняздо, далёка заляцела. Ня было

было оно обіде порождено, ні соколу, ні кречету, ні тебе, чьрный ворон', поганый Половьчіне! Гзак' бежіть серымь в'лкомь, Кончак' ему след' правіть к' Дону велікому.

Другаго дьне вельмі рано кровавыя зорі свет' поведають: чьрныя тучя с' моря ідуць, хотять прікрыті 4 солньца: а в' ніх' трепешчють сініі м'лніі: быті грому велікому, іті дождю стрелами с' Дону велікаго; ту ся копіем' пріламаті, ту ся саблям' потручаті о шеломы половецькыя, на реце на Каяле, у Дону велікаго. О русьская земле! уже за шеломенемь есі.

Се ветрі Стрібожі внуці, веють с' моря стрелами на храбрыя п'лкы Ігоревы; земля тутьнеть, рекы мутьно текуть; пoросі поля прікрывають, стязі глаголють; Половьці ідуть от' Дона і от' моря, і от' вьсех' стран', русьскыя п'лкы оступіша. Деті бесові клікомь поля прегородіша, а храбріі Русічі преградіша чьрленымі шчіты. Яр'-туре Всеволоде! стоіші на бороні; прышчеші на воі стрелами, гремлеші о шеломы мечі харалужьнымі: камо, тур', поскочаше, своімь златымь шеломомь посвечівая, тамо лежать поганыя головы половецькыя; поскепані саблямі каленымі шеломі оварстіі от' тебе, яр'-туре Всеволоде!...

Былі веці Трояні, мінула лета Ярославля; былі п'лці Ольговы, Ольга Свят'славліча: т'й бо Олег' мечемь крамолу коваше і стрелы по землі сеяше, ступаеть в' злат'

яно пароджана ў крыўду, ні сакалу, ні крэчату, ні табе, чорны груган, паганы палаўчанін! Бяжыць Гзак шэрым ваўком, Канчак кіруець яму дарогу к вялікаму Дону.

На другі дзень вельмі рана паказуюць на сьвітаньне крывавыя зоры; чорныя хмары з мора ідуць, хочуць прыкрыці чатыры сонцы,*) а ў іх трапечуць сінія маланкі: быць вялікаму грому, іці дажджу са стрэлаў ад вялікага Дону; паламацца тут пікам, пашчарба ціцца тут шаблям аб палавецкія шоламы, на рацэ на Каяле, **) ля вялікага Дону. О руская зямля! Ужо ты за кардонам.

Вось ветры, Стрыбогавы ўнукі, веюць з мора стрэламі на храбрыя Ігаравы палкі; зямля тужыць, рэкі мутна цякуць, порась-пыл поле пакрывае, сьцягі гаворацьшумяць; полаўцы йдуць ад Дона і ад мора, і ад усіх старон,—рускія палкі абступілі. Чортавы дзеці клікам поле перагарадзілі, а храбрыя русічы загарадзілі чырвонымі шчытамі. Яр-туру Ўсеваладзе! Стаіш ты на абароне, пырскаеш на вояў стрэламі, грыміш аб шоламы мечмі сталёвымі: дзе, тур, паскочаш, сваім залатым шоламам пасьвечаваючы, там зяжаць паганыя палавецкія галовы; паскіпаны гартаванымі шаблямі аварскія шоламы ад цябе, яр-туру Ўсеваладзе!..

Адбыліся Траянавы вякі, мінуліся Яраслававы гады. Адбыліся Алегавы паходы, Алега Сьвятслаўліча: той Алег дык мечам нязгоду каваў і сеяў па зямлі

*) Чатырох князёў (Алегава гняздо): 1) самаго Ігара, князя Ноўгарад-Северскага, 2) яго брата—Усевалада Трубчэўскага, 3) сына—Уладзімера Пуціўльскага і 4) пляменьніка—Сьвятаслава Ольгавіча Рыльскага.

**) Цяпер завецца: Кагальнік.

стремень в' граде Тьмутороканe. Тоже звон' слыша давьный велікый Ярославль сын' Всеволод'; а Владімір' по вься утра уші закладаше в' Чернігове; Боріса же Вячеславліча слава на суд' пріведе... за обіду Ольгову, храбра і млада князя... Тогда прі Ользе Горіславлічі сеяшеться і растяшеть усобіцамі, погыбашеть жізнь Дажьбожа внука, в' княжіх' крамолах' веці человеком' сократішася. Тогда по русьской землі ред'ко ратаеве кыкахуть, н' часто врані граяхуть, хотять полететі на уедіе. То было в' ты раті і в' ты п'лкы, а сіцей раті не слышано. С' заранія до вечера, с' вечера до света летять стрелы каленыя, грімлють саблі о шеломы, трещчать копія харалужьная в' поле незнаеме среді землі половецькыя. Чьрна земля под копыты костьмі посеяна, а кровію польяна, — тугою в'з'ідоша по русьской землі.

Что мі шуміть, что мі звеніть далече рано пред' зорямі? Ігорь п'лкы заворочаеть: жаль бо ему міла брата Всеволода. Бішася день, бішася другый, третьяго дьне к' полудьнію падоша стязі Ігоревы. Ту ся брата разлучіста на брезе быстрой Каялы; ту кроваваго віна не доста; ту пір' докончаша храбріі Русічі: сваты попоіша, а самі полегоша за землю Руськую. Нічеть трава жалошчамі, а древо с' тугою к' землі пріклоніся. Уже бо, братіе, не веселая годіна в'стала;

стрэлы. Укладаў ён нагу ў залаты страмень у горадзе Тмутаракані *). Той звон чуе даўны вялікі Ўсевалад Яраслаўліч; а Уладзімер што раніцы затыкаў вушы ў Чарнігаве; Барыса-ж Вячаслаўліча прывяла пахвалка на сьмяротны суд... за крыўду Алегаву, маладога і храбрага князя... Тады пры Алегу Гораслаўлічу**) сеяліся і расьлі міжусобіцы, гінула жыцьцё Дажбожага ўнука, дзеля князёўскіх нязгод укарачаўся людзём век. Тады па рускай зямлі рэдка пяялі аратаі, а часта каркалі груганы, хацеўшы лятэць на пажыву. Гэтак было ў тыя войны і ў тыя паходы, але аб такой бітве і ня чувана. Ад раньня да вечара, ад вечара да сьвету лятуць гартоўныя стрэлы, грымяць аб шоламы шаблі, трышчаць сталёвыя пікі ў нязнаным полі сярод палавецкай зямлі. Чорная пад капытамі зямля, касьцьмі пасеяная, а крывёю палітая, тугаю ўзыйшла на рускай зямлі.

Што мне шуміць, што мне зьвініць далёка рана перад зарою? Ігар палкі заварачае: жальжа яму мілага брата Ўсевалада. Біліся дзень, біліся другі, трэцяга дня к полудню зваліліся Ігаравы сьцягі. Разлучыліся тут браты на беразе быстрай Каялы; не хапіла тут крывавага віна; скончылі тут баль храбрыя русічы: сватоў папаілі, а самі пaляглі за рускую зямлю. Панікла жальбою трава, а дрэва з тугі к зямлі пахінулася. Бо ўжо, браты, невясёлая настала гадзіна; пустыня ўжо сілу па-

---

*) У часе сварак з іншымі сваймі князямі прывадзіў сабе на падмогу полаўцаў.

**) Алег Сьвятаслаўліч празываецца тут Гораслаўлічам, затое што пры ім было шмат гора.

уже пустыні сілу прікрыла: в'стала обіда в' сілах' Дажьбожа внука, в'ступіла девою на землю Трояню, в'сплескала лебедінымі крілы на сінемь море, у Дону плещючі, убуді жірьна времена. Усобіца князем'... рекоста бо брат' брату; „се мое, а то—мое же“. І начаста князі про малое „се велікое“ м'лвіті, а самі на себе крамолу коваті, а поганіі с' вьсех' стран' пріхождаху с' победамі на землю Русьскую. О! далече зайде сокол', п'тіць бья,— к' морю. А Ігореві храбраго п'лку не кресіті...

Жены русьскыя в'сплакашася, арькучі: „Уже нам' своіх' мілых' лад' ні мыслію с'мысліті, ні думою с'думаті, ні очіма с'глядаті, а злата і сребра ні мало того потрепаті“.

А в'зстона бо, братіе, Кыев' тугою, а Чернігов' напастьмі; тоска разліяся по русьской землі: печаль жірьна утече среді землі русьскыя. А князі самі на себе крамолу коваху; а поганіі самі победамі нарішчюшче на русьскую землю, емляху дань по беле от' двора...

Свят'слав' грозьный, велікый кыевьскый... наступі на землю половецькую; прітоп'та х'лмы і яругы, в'змуті рекы і озера, ізсуші потокы і болота; а поганаго Кобяка із' луку мора от' железьных' велікых' п'лков' половецькых' яко віхрь выторже; і падеся Кобяк' в' граде Кыеве, в' грідьніці Свят'славлі.

Ту Немьці і Венедіці, ту Гре-

крыла. Крыўда паўстала ў сілах Дажбожага ўнука, узыйшла яна дзяўчынаю на Траянаву зямлю, успляснула лебядзіным крыльлем на сінім моры, плёскаючы ў Доне, узбудзіла лепшыя часіны. Міжсобіцы князёўскія... (губілі народ). Сталі казаць (князі) брат брату: „Гэта маё, а й тое маё“. І пачалі яны дробнае ўважаць за важнае, а самі на сябе загубу ад нязгоды каваць; тымчасам паганыя з усіх бакоў прыхадзілі з пэбедамі на рускую зямлю. О! Далёка заляцеў сакол, птушак пабіваючы,— к мору. А храбрага Ігарава палка не ўваскрасіці...

Загаласілі рускія жанчыны, кажучы: „Ужо нам сваіх мілых мужоў ні мысьляй узмысьліць, ні думай уздумаць, ні вачыма зглядзіць, а золатам і серабром тым а ні пабразкаць“.

І застагнаў-жа, браты, Кіеў ад тугі, а Чарнігаў ад напасьцяў; нуда разьлілася па рускай зямлі: журба ахінула зямлю рускую. А князі самі на сябе загубу ад нязгоды ўзвадзілі; і паганыя, самі з пабедамі налятаючы на рускую зямлю, выбіралі дань па белцы ад двара...

Грозны Сьвятслаў, вялікі князь кіеўскі... *) наступаў-жа на палавецкую зямлю; прымяў узгоркі і равы, узмуціў рэкі і вазёры, высушыў крыніцы й балоты; а паганага Кабяка з марскія лукі ў вялікіх зялезных палавецкіх палкоў, як віхор, вытаргнуў; і заваліўся Кабяк у горадзе Кіеве, у Сьвятаслаўлевай сьвятліцы.

Тут немцы і венэцыяне, тут

*) Аўтор далей прыпамінае вялікую пабеду Сьвятаслава Усеваладавіча над полаўцамі за колькі месяцаў перад нешчасьлівым Ігаравым паходам (1184 г.).

ці і Морава поють славу Свят'-славлю, кають князя Ігоря, іже погрузі жір' во д'не Каялы, рекы половецькыя. Руськаго злата насыпаша ту. Ігорь князь вы-седе із' седла злата, а в' седло кошчеево: уныша бо градам' за-брала, а веселіе поніче.

А Свят'слав' мутен' сон' віде. „В' Кыеве на горах' сі ночь с' вечера одевасте мя, рече, чьрною паполомою на кроваті тісове; чьрпахуть мі сінее віно с' тру-домь смешено; сыпахуть мі тьшчі-мі тулы... велікый женьчюг' на лоно, і негують мя. Уже д'скы без' кнеса в' моемь тереме зла-товьрсемь. Вьсю ношчь с' вече-ра.. врані в'зграяху"... І рькоша бояре князю: „Уже, княже, туга ум' полоніла: се бо два сокола слетеста с' отьня стола злата, по-іскаті града Тьмутороканя, а лю-бо іспіті шеломомь Дону; уже соколома крільца пріпешалі по-ганых' саблямі, а самою опуташа в' путіны железьны. Темьно бо бе в' 3 день: два солньца помь-ркоста, оба багряная ст'лпа по-гасоста, і с' німа молодая меся-ца. Олег' і Свят'слав' тьмою ся поволокоста. На реце на Каяле тьма свет' покрыла; по руськой землі прострошася Половьці, акы пардуже гнездо... Се бо готь-скыя красьныя девы в'спеша на брезе сінему морю, звоня русь-скымь златомь: поють время Бу-сово, лелеють месть Шароканю. А мы уже, дружіна, жадьні ве-селія".

грэкі і маравы пяюць славу Сьвят-славу, ды ганяць князя Ігара, што патапіў дабро на дно Каялы, па-лавецкай ракі. Насыпаў там ру-скага золота. Сыйшоў князь Ігар з залатога сядла, а трапіў у сядло нявольніцкае; засмучэньне абня-ло гарады, зьнікла вясёласьць.

А Сьвятслаў відзіў нядобры сон. „На гарах у Кіеве, гэтай но-чы з вечара, акрывалі, кажа, мяне чорнаю посьцілкаю на цісавым ложку; чэрпалі мне зялёнае віно, зьмешанае з муцьцю; сыпалі з мізэрных каўчанаў (палавецкіх)... буйны жомчуг мне на ўлоньне, песьцілі мяне. Ужо дошкі бяз скрэпы ў маім залатаверхім хо-раме. Усю ноч з вечара... крум-качы гракалі"... І сказалі баяры князю: „Ужо, княжа, туга думкі твае апанавала: вось-жа два са-калы зьляцелі з воччага залатога пасаду пашукаць горада Тмута-раканя ці напіцца з Дону шола-мам; ужо сакалом падсечана крыльліка паганскімі шаблямі, а самих іх апуталі зялезнаю паву-чынаю. Бо цёмна было на трэ-ці дзень: памерклі два сонцы, абодва патухлі чырвоныя стаўпы, а з імі два маладыя месяцы. Алег і Сьвятслаў завалакліся цям-нотаю. На рацэ на Каяле цямно-та сьвятло пакрыла; па рускай зямлі, як гняздо хіжых зьвяроў, распасьцёрліся полаўцы... Вось-жа гоцкія гожыя дзяўчаты запя-ялі на беразе сіняга мора, зво-нячы рускім золатам: пяюць яны а Бусавым часе, песьцяць Шара-канаву помсту *). А мы ўжо, дру-жыньнікі, бяз ніякай вясёласьці".

*) Палаўчанкі з гоцкіх пасёлкаў на ўзьбярэжжы Чорнага мора спамінали ў песьнях пабеды полаўцаў над русічамі.

Тогда велікый Свят'слав' ізроні злато слово, с' слезамі смешено, і рече: „О моя сыновьца, Ігорю і Вьсеволоде! рано еста начала половецькую землю мечі цвеліті, а себе славы іскаті; н' нечестьно одолесте; нечестьно бо кровь поганую проліясте. Ваю храбрая сердьца в' жестоцемь харалузе скована, а в' буесті закалена. Се лі с'творісте моей сребреней седіне!“...

А чі діво ся, братіе, стару помолодіті? Колі сокол' в' мытех' бываеть, высоко п'тіць в'збіваеть, не дасть гнезда своего в' обіду...

Велікый княже Всеволоде! не мыслію ті прілететі іздалеча, отьня злата стола поблюсті: ты бо можеші Волгу веслы раскропіті, а Дон' шеломы выльяті; аже бы ты был', то была бы чага по ногате, а кошчей по резане...

Ты, буй Рюріче і Давыде! не ваю лі злаченіі шеломі по крові плаваша? не ваю лі храбрая дружіна рыкають акы турі, ранені саблямі каленымі на поле незнаеме? В'ступіта, господіна, в' злата стремена за обіду сего времене, за землю русьскую, за раны Ігоревы, буяго Свят'славліча!

Галічькый Осьмомысле Ярославе! высоко седіші на своемь златокованьнемь столе, подпер' горы угорьскыя своімі железьнымі п'лкы, заступів' королеві путь, затворів' Дунаю ворота, меча бремена чрез' облакы, суды рядя до Дуная. Грозы твоя по землям' текуть: отворяеші Кыеву

Тады вялікі Сьвятслаў сказаў са сьлязьмі залатое слова: „О мае пляменьнікі, Ігару і Ўсеваладзе! рана вы пачалі сячы мячамі палавецкую зямлю, шукаючы сабе славы; ды бяз славы зрабілі; бяз славы паганскую кроў разьлілі. Вашы храбрыя сэрцы ў нязломнай скованы сталі, а ў буйнай адвазе загартованы. Што-ж зрабілі маёй сівізьне сярэбранай!...

А ці-ж дзіва, браты, памаладзець старому? Калі сакол ліняець, высака ўзьбівае птушак, не дае ў крыўду гнязда свайго...

Вялікі княжа Ўсеваладзе! ня думкаю-б табе прыляцець здалёку, воччы залаты пасад абараніць: ты-ж можаш Волгу вёсламі распырскаць, *) а Дон шаломамі выліць; каб ты быў, то была-б нявольніца па нагаце, **) а нявольнік па рэзані... **)

Ты, буй-Рурык і Дывыдзе! ці ня вашы залачоныя шоламы па крыві плавалі? Ці ня вашы храбрыя дружыньнікі, як туры, рыкаюць, раненыя гартоўнымі шаблямі ў нязнаным полі? Улажыце, вашы міласьці, свае ногі ў залатыя страмені за крыўду гэтага часу, за зямлю рускую, за раны Ігаравы, мужнага Сьвятславліча!

Галіцкі Асмамысьле Яраславе! Высака сядзіш ты на сваім залатакованым пасадзе, падпёр ты Карпаты сваімі зялезнымі палкамі, заступіў шлях каралю, зачыніў Дунаю вароты, шыбаючы ціжары цераз аблокі, урадуючы да самага Дунаю. Граза твая па землях расходзіцца: адчыняеш

*) Гэтым спамінаецца пабеда Усевалада над Волжскімі Баўгарамі ў 1182—1184 г.

**) Нагата і рэзань — тагачасныя грошы; у куне чатыры нагаты.

врата; стреляешi с' отьня злата стола салтаны за землямi. Стреляй, господiне, Кончака, поганаго кошчея, за землю русьскую, за раны Iгоревы, буяго Свят'славлiча!

А ты, буй Романе i Мьстiславе! храбрая мысль носiть ваю ум' на дело: высоко плаваешi на дело в' буестi' яко сокол' на ветрех' шiряяся, хотя п'тiцю в' буйстве одолетi. Суть бо у ваю железьныя паперсi под' шеломы латiньскымi. Темi тресну земля i многы страны... Лiтва, Ятвязi... i Половьцi сулiцi своя повьргоша, а главы своя подклонiша под' тыя мечi харалужьныя.

Н' уже, княже Iгорю, утьрпе солньцю свет', а древо не бологомь лiствiе сронi; по Р'сi i по Суле грады поделiша, а Iгорева храбраго п'лку не кресiтi. Дон' тi, княже, клiчеть i зовет князi на победу.

Ольговiчi, храбрii князi, доспелi на брань; Iн'гварь i Всеволод' i вьсi трi Мьстiславлiчi, не худа гнезда шестокрiльцi, не победьнымi жребii собе властi расхытiсте. Кое вашi златii шеломi i сулiцi ляцькыя i шчiтi? Загородiте полю ворота своiмi острымi стрелами за землю русьскую, за раны Iгоревы, буяго Свят'славлiча!

Уже бо Сула не течеть сребренымi струямi к' граду Переяславлю, i Двiна болотомь течеть оным' грозьным' Полочаном' под' клiкомь поганых'. Едiн' же Iзяслав', сын' Васiльков', позвонi своiмi острымi мечы о шеломы

вароты Кiеву; стpаляеш з воччага залатога пасаду султанаў за землямi. Страляй, ваша мiласьць, Канчака, паганага раба, за рускую зямлю, за раны Iгаравы, мужнага Сьвятслаўлiча!

А ты, буй-Рамане i Мсьцiславе! Сьмелая думка носiць ваш розум на ўчынкi. Высака плаваеце ў мужстве на ўчынкi, як сакол у паветры купаючысь, калi хоча птушку ў бойцы адалець. Бо ёсць у вас зялезныя наперсьнiкi пад шаломамi лацiнскiмi. Дзеля таго затрасьлiся землi i многiя старонкi... Лiтва, ятвягi... i полаўцы пiкi свае кiнуўшы, а галовы свае пахiнуўшы пад мячы тыя сталёвыя.

Ды ўжо, княжа Iгару, аслабела сьвятло сонцава, а дрэвы не дабром лiсьце асыпалi; па Росi i па Суле гарады падзялiлi, але храбрага палку Iгарава не ўваскрасiцi. Дон цябе, княжа, клiчаць i гукае iншых князёў на пабеду.

Вольгавiчы, храбрыя князi, патамiлiся ў войнах; Iнгвар i Ўсевалад ды й усе тры Амсьцiслаўлiчы, не благога гнязда шасьцiкрыльцы, не пабедным жэрабем сабе ўладу прыдбалi. Да чаго-ж вашы залатыя шаломы i пiкi польскiя i шчыты? Загарадзiце вароты полю сваймi вострымi стрэламi за рускую зямлю, за раны Iгаравы, мужнага Сьвятслаўлiча!

Бо ўжо Сула не цячэ пералiвамi сярэбранымi к гораду Пераяслаўлю, i Дзьвiна мутная цячэ к тым грозным палачанам пад крыкам паганых. Адзiн толькi Iзяслаў, Васiлькаў сын, пазванiў сваймi войстрымi мячамi аб лi-

літовьскыя, прітрепа славу деду своему Вьсеславу, а сам' под' чьрленымі шчіты на кроваве траве прітрепан' літовьскымі мечі... Дружіну твою, княже, п'тіці крілы пріодеша, а звері кровь полізаша. Не бысть ту брата Брячіслава, ні другаго Вьсеволода: едін' же ізроні женьчюжьну душю із' храбра тела, чрез' злато ожереліе. Унылі голосі, поніче веселіе, трубы трубять городеньскыя. Ярославе і вьсі внуці Вьсеславлі! уже понізіте стягы своя, воньзіте своя мечі вережены; уже бо выскочісте із' дедьней славы. Вы бо своімі крамоламі начасте наводіті поганыя на землю русьскую, на жізнь Вьсеславлю, которою бо беше насіліе от' землі Половецкыі...

На седьмом' веце Бояні вр'же Вьсеслав' жребій о девіцю себе любу... і скочі к' граду Кыеву і дотчеся стружіем' злата стола Кыевьскаго. Скочі от' ніх' лютым' зверем' в' пл'ночі із' Белаграда, обесіся сіне мьгле, утр'же... отворі врата Новуграду, разшібе славу Ярославу, скочі вл'ком' до Немігі...

На Немізе снопы стелють головамі, молотять цепы харалужьнымі, на тоце жівот' кладуть, веють душю от тела. Немізе кроваві брезі не бологомь бяхуть посеяні, посеяні костьмі русьскых' сынов'.

Вьсеслав' князь людем' судяше, князем' грады рядяше, а сам' в' ночь в'лкомь рыскаше: із' Кыева дорыскаше, до кур', Тьмутороканя; велікому Х'рсові в'лкомь

тоўскія шаломы, перабіў славу дзеду свайму Ўсяславу, а сам пад чырвонымі шчытамі на крывавай траве перабіт літоўскімі мячамі... Дружыну тваю, княжа, птушкі крыльлем апранулі, а кроў зьвяры палізалі. Ня было тут брата Брачыслава, ні другога Ўсевалада: адзін ён выпусьціў жамчужную душу з храбрага цела цераз залатое ажарэльле. Засмуціліся галасы, зьнікла вясёласьць, трубяць трубы гарадзенскія. Яраславе і ўсе ўнукі Ўсяслаўлевы! абнізьце ўжо сьцягі свае, пахавайце мячы свае пашчарбаныя; выскачылі ўжо вы з дзедавай славы. Бо вы дзеля сваіх нязгод пачалі навадзіць паганых на рускую зямлю, на збудаванае жыцьцём Ўсяслаўлевым, дзеля чаго і насільства было ад палавецкае зямлі.

На сёмым Баянавым веку кінуў Ўсяслаў жэрабе аб любай сабе дзяўчыне. Заскачыў к' гораду Кіеву і даткнуўся пікаю да залатога кіеўскага пасаду. Лютым зьверам кінуўся адтуль, а поўначы—з Белгорада, ахутаўся сіняю імглою, — і на раніцы адчыніў... вароты Ноўгораду, разьбіў славу Яраславу і паскакаў ваўком да Нямігі...

Ня Нямізе снапамі сьцелюць галовы, малоцяць цапамі сталёвымі, на таку жыцьцё кладуць, веюць душу ад цела. Крывавыя Нямізіны берагі ня збожжам былі пасеяны, пасеяны касьцьмі рускіх сыноў.

Князь Ўсяслаў людзьмі кіраваў, князём гарады парадкаваў, а сам па начох ваўком бегаў: з Кіева ў Тмутаракань да пятухоў забягаў, вялікаму Хорсу ваўком

путь прерыскаше. Тому в' Полотьсте позвоніша заутренюю рано у святыя Софеі, а он' в' Кыеве звон' слыша. Ашче і вешча душа в' друзе теле, н' часто беды страдаше. Тому вешчій Боян' і пьрвое прірев'ку смысленый рече: „Ні хытру, ні гораздy, ні п'тіцею горазду, суда божія не мінуті".

O! стонаті русьской земли, помянув'ші пьрвую годіну і пьрвых' князей! Того стараго Владіміра не льзе бе прігвоздіті к' горам' кыевьскым'; сего бо ныне сташа стязі Рюріковы, а друзіі Давідовы...

Ярославьнін' глас' слышіть; зегзіцею незнаема рано кычеть: „Полечю, рече, зегзіцею по Дунаеві; омочю бебрян' рукав' в' Каяле реце, утру князю кровавыя его раны на жестоцемь его теле". Ярославьна рано плачеть в' Путівле на забрале, арькучі: „О ветре, ветріло! чему, господіне, насільно вееші? Чему мычеші хыновьскыя стрел'кы на своею нетрудьною кріл'цю на моея лады воі? Мало лі ті бяшеть горе под' облакы веяті, лелеючі кораблі на сіне море? Чему, господіне, мое веселіе по ковылію развея?" Ярославьна рано плачеть Путівлю городу на забороле, арькучі: „О Днепре Словутічю! ты пробіл' есі каменьныя горы сквозе землю половецькую; ты лелеял' есі на себе Святославлі насады до п'лку Кобякова: в'злелей, господіне, мою ладу к' мне, абых' не с'лала к' нему слез' на море рано". Ярославьна ...

дарогу перасякаючы. Затое-ж, калі ў Полацку на завутраню рана пазвоняць у Сьвятой Сахвеі, ён у Кіеве звон чуў. Хоць і чарадзейную душу ў друзлым целе меў, шмат бяды, аднак, зазнаў. Яму ж Баян мудры найперш і прыпеўку зручную зла-жыў: „Ні хітраму, ні прытнаму, ні як птушка лёткаму суду Божага ня мінуці".

О! стагнаць рускай зямлі, памянуўшы першую часіну і першых князёў! Таго Уладзімера старога нельга было прыкаваць к кіеўскім горам. Вось-жа цяпер яго сьцягі сталі: адны Рурыкавы, а другія Давыдавы...

Чуваць голас Яраслаўнін; *) нязнаная, зязюлькаю на раніцы стогне: „Палячу, кажа, зязюлькаю па Дунаю; абмачу бабровы рукаў у Каяле-рацэ, абатру князю крывавыя раны яго на магутным целе яго". Раніцаю плачаць Яраслаўна ў Пуціўлі на замковай сьцяне: „О вецер, вятрыла! чаму-ж ты, валадар, вееш так дужа? Чаму ты сваім лёгкім крыльлем падганяеш ханскія стрэлы на вояў майго любага мужа? Ці мала табе веяць высока пад ваблокамі, караблі песьціць на сінім моры? Чаму, валадар, радасьць маю па кавыль-траве разьвеяў?" Раніцаю плачаць Яраслаўна ў горадзе Пуціўлі на сьцяне, кажучы: „О Няпро-Славута! прабіў ты горы каменныя скрозь палавецкую зямлю; зыбаў ты на сабе Сьвятаслаўлевы насады к войску Кабяковаму: прызыбай, валадару, майго мужа ка мне, каб ня слала к яму раніцаю

*) Яраслаўна — Ігарава жонка, дачка Яраслава Галіцкага.

славьна рано плачеть в' Путівле на забрале, арькучі: „Светлое і тресветлое с'льнце! вьсем' тепло і красьно есі: чему, господіне, простре горячюю свою лучю на лады воі? в' поле безводьне жаждею ім лукы с'пряже, тугою ім' тулы зат'че?“

Прысну море полуношчі, ідуть сморчі мьглами: Ігореві князю Бог' путь кажеть із' землі половецькой на землю русьскую к' отьню злату столу.

Погасоша вечеру-зарі. Ігорь с'піть, Ігорь б'діть, Ігорь мысьлію поля меріть от' велікаго Дону до малаго Доньца. Комонь в' полуночі Овлур' свісну за рекою, веліть князю разуметі... Стукну земля, в'сшуме трава, вежі ся половецькыя подвізошася. А Ігорь князь поскочі горностаемь к' тростію і белымь гоголемь на воду; в'вьржеся на б'рз' комонь і скочі с' него босымь в'лкомь, і потече к' лугу Доньца, і полете соколомь под' мьглами, ізбівая гусі і лебеді завтраку і обеду і ужіне. Колі Ігорь соколомь полете, тогда Влур' в'лкомь потече, труся собою студеную росу: прет'ргоста бо своя б'рзая комоня.

Донець рече: „Княже Ігорю, не мало ті велічія, а Кончаку нелюбія, а Русьской землі веселія“. Ігорь рече: „О Доньче! не мало ті велічія, лелеяв'шю князя на в'лнах', стьлавьшю ему зелену траву на своіх' сребреных' брезех', одевав'шю его теплымі мьглами под' сенію зелену древу: стьрежаше его гоголемь по воде, чайцамі на струях', чьрнядьмі ні ветрех'“...

сьлёз на мора“. Раніцаю плачаць Яраслаўна ў Пуціўлі на сьцяне, кажучы: „Сонца сьветлае, прасьветлае! Усім ты цёплае, прыгожае: чаму-ж, валадарнае, бліснула палючымі косамі на вояў мужавых? у полі бязводным смагаю лукі ім спрагла, тугаю каўчаны ім заткала?“

Пырснула мора а поўначы; цямнотаю сьмерчы йдуць: князю Ігару Бог дарогу наказвае з палавецкай зямлі на зямлю рускую к пасаду воччаму залатому.

Згасла вячэрная зара. Бы-та сьпіць Ігар; не, дбае, думкай поле мераючы ад вялікага Дону да малага Данца. А поўначы сьвіснуў Аўлур *) каня за ракою, даючы князю знак... Стукнула зямля, зашумела трава, зарухаліся палаткі палавецкія. А князь Ігар гарнастаем скочыў у чарот і белым гогалем на ваду; ускінуўся на шыбкага каня і сыйшоў з яго босым ваўком, пацёк у Данцоў луг, сакалом паляцеў пад імглою, забіваючы гусі і лебядзі на сьняданьне, і абед, і вячэру. Калі-ж Ігар сакалом паляцеў, дык Аўлур ваўком пацёк, абтрасаючы сьцюдзёную расу: бо надарвалі сваіх шыбкіх коні.

Кажа Данец: „Княжа Ігару, ня мала табе ўцехі, Канчаку злосьці, а рускай зямлі радасьці“. Ігар кажа: „О Донча, ня мала й табе пыхі, песьціўшаму князя на хвалях, пасьцілаўшаму для яго зялёную траву на сваіх сярэбраных берагох, апранаўшаму яго цёплаю імглою пад засеньню зялёных дрэў, сьцярогшаму яго гогалем на вадзе, чаіцамі на пералівах, чорнымі птушкамі ў паветры“...

*) Полавец, які памог Ігару ўцячы з няволі.

А не сорокы в'строскоташа: на следу Ігореве ездіть Гзак' с' Кончакомь. Тогда врані не граяхуть, галіці пом'лкоша, сорокы не троскоташа, по лозію ползоша только; дятьлове тек'томь путь к' реце кажуть, соловіі веселымі песньмі свет' поведають. М'лвіть Гзак' Кончакові: „Аже сокол' к' гнезду летіть, соколіча розстреляеве своімі злаченымі стреламі". Рече Кончак' ко Гзе: „Аже сокол' к' гнезду летіть, а ве сокольца опутаеве красьною девіцею". І рече Гзак' к' Кончакові: „Ашче его опутаеве красьною девіцею, ні нама будеть сокольца, ні нама красьны девіці, то почнуть наю п'тіці біті в' поле половецьскомь".

Рек' Боян'... „Тяжько ті, голове, кроме плечю, з'ло ті, телу, кроме головы",— русьской землі без' Ігора. Солньце светіться на небесі, Ігор князь в' русьской землі. Девіці поють на Дунаі, вьються голосі чрез' море до Кыева: Ігорь едеть по Борічеву к' святей Богородіці Пірогошчей; страны рады, граді веселі.

Пев'ші песнь старым' князем' а потомь молодым' петі слава: Ігорю Свят'славлічю, буй-туру Всеволоду, Владіміру Ігоревічю: „Здраві князі і дружіна, побарая за хрістьяны на поганыя п'лкы! Князем' слава і дружіне". Амінь!

А не сарокі то ўзстракаталіся: па сьлядох Ігаравых езьдзіць Гзак з Канчаком. Тады груганы ня каркаюць, галкі пазмоўклі, сарокі не траскочуць, па лазе толькі шныхараць; дзятлы цёканьнем дарогу к рацэ значуць, салавейкі вясёлымі песьнямі сьвітаньне наказуюць. Мовіць Гзак Канчаку: „Калі сакол у гняздо ляціць, сакалёнка разстраляем сваймі пазлачонымі стрэламі". Кажа Канчак Гзаку: „Калі сакол к гнязду ляціць, апутаем сакалка харошаю дзяўчынаю". І кажа Гзак да Канчака: „Як апутаем яго харошаю дзяўчынаю,—ні нам будзе сакалок, ні нам будзе харошая дзяўчына*), і пачнуць нас біці птушкі ў полі палавецкім".

Сказаў Баян... „Цяжка табе, галава, не на плячах, блага табе, цела, без галавы",—рускай зямлі бяз Ігара. Сонца сьвеціцца ў нябёсах, Ігар-князь у рускай зямлі. Дзяўчаты пяюць на Дунаі, ўюцца галасы цераз мора да Кіева: едзець Ігар па Барычаву к сьвятой Багародзіцы Пірагошчай; краі радуюцца, гарады весяляцца.

Пеўшы песьню старым князём, пасьля пеці маладым славу: Ігару Сьвятслаўлічу, буй-туру Ўсеваладу, Уладзімеру Ігаравічу: „Хай жывуць князі і дружыньнікі, змагаючысь за хрысьціянаў з палкамі паганскімі! Слава князём і дружыньнікамі". Амін!

---

*) Уладзімер, Ігараў сын, пабраўся, аднак, з дачкою хана Канчака.

## Падгатавальная пара.

(13—14—15 век).

### Смаленская тарговая праўда.

(1229 г.).

Князь Мстіслав' Давыдовіць послал' свої мужі, Еремея Попа, Пантелея Сотьского, от' Смольнян' в' Рігу, а із Рігы на Готьскый берег', утвержіваті мір', а розлюбье на сторону отверечі, которое было межі Немці і Смольняны...

... А се почінок' правде:

1. Оже убьють вольнаго человека, платіті за голову 10 грівен' серебра.. по 4 грівны кунамі ілі пенязі, а за холопа грівна серебра; аже кто холопа ударіть, грівна кун'. Та же правда буді і в' Смоленске, і в' Різе, і на Готьском' березе.

2. Ашче око выб'ють ілі руку от'тнуть ілі ногу, ілі іная которая храмота на теле явіться, 5 грівен' серебра, а за зуб' 3 грівны серебра. (Усяго 35 артыкулаў).

Готьскый берег—Нямеччына.
розлюбье—нязгода.
отверечі—адкінуць.
се—вось.
Оже—калі.
кунамі—скуркамі куніцы.
пенязі—грошы.
холопа—вольнага чалавека, які за доўг мусіў служыць другому; халопаў нельга было ні прадаваць, ні даваць у заставу ці ў пасаг.
Ашче—калі
от'тнуть—вывіхнуць, адарвуць.

### З Гердзеневай граматы.

(22 сьнежня 1264 г.).

Князь Гердень кланяеться всемь темь, кто відіть сую грамоту. Тіе люді, што ныне жіві суть, а темь, кто напосле пріідуть, темь ведомо буді, как мір' есьмы творілі промежі местеря і с' ратьманы Ріжскымі і с' Полочаны і Відьбляны.

... Немечькому гостю в Полочьскую (зямлю) волно ехаті і торговаті, купіті і продаті, такоже Полочаном' і Відібляніну волно гостіті в' Рігу і на Готьскы берег'. А где будеть кто кому ві-

новат, в томь городе правіті, где тот' человек' жіветь, інде суд' ему не іскаті; в которої волості человек' ізвініться, ту ему правда даті, ілі віна его.

. . . Сію грамоту тогды напсана в Різе, колі Бог' был' 1000 лет' і 200 і 60 лет і 4 ле по Рожен Божії дні за тры дні.

суую (сію)—гэтую.
ныне—цяпер.
гостю—купцу, **т**арговаму чалавеку.
правіті —судзіць, разьбіраць справу.
інде—яшчэ абы-дзе.
ізвініться—правініцца.

# З япіскупавай граматы.

(Блізка 1300 г.).

Поклон' і благословленье от' Якова, епіскупа Полотьского, бровстові, наместьніку піскуплю, і детем' моім' ратманом'... А ныне есмь оуведал, любовь ваша правая с' сыном' моімь, с Вітенемь; також, деті, была любовь ваша первая с Полочаны, с' детьмі моімі, што вам было надобе, то было ваше. А ныне што детем' моім надобе, того ім' не бороніте; а ныне абы сте пустілі жіто оу Полотеско...

Паклон і блаславеньне ад Якава, япіскупа полацкага, пробсту, архірэйскаму намесьніку, і дзяцём маім ратманам... А цяпер я даведаўся, (што) згода ваша справядлівая з сынам маім, з Вітэнем; таксама, дзеці, была згода ваша першая з палачанамі, з дзяцьмі маімі: што вам было патрэбна, то было вашае. А цяпер—што дзяцём маім патрэбна, таго ім не забараняйце; а цяпер каб вы прапускалі жыта ў Полацак.

# З умовы Рыгі з Полацкам.

(Блізка 1330 г.).

Тако хочем мы горожане с мештерем. Переже како весіті воск на скальвах, а вам чініті також не тяжелей нашего полупуда, тот товар который весіті на скальвах. А язык пускаті на товар, а колі товар на стану станеть отступі проч, а рукою не пріймай... А весіті чістый воск без подставы, без смолы, без сала, как верх так і спод...

Гэтак хочам мы, гараджане з містарам. Перш-наперш важыць воск на шалях; і вам рабіць таксама, каб не цяжэй нашага паўпуда быў той тавар, каторы важыцца на шалях; а віхлік спушчаць на тавар; а калі тавар на раўнавазе станець, — адступіцца, а рукою не чапаць... А важыць чысты воск без падсады, без смалы, бяз сала, як верх, так і спод.

## З князевай граматы манахам.

(1396 г.).

Во імя Божіе стансе. Яз князь Полоцкій Ярослав' Ізяславовіч' сознаваю сім моім лістом вечно і непорушоно, іж' на чолобітые архімандріты нашого Борісоглебскаго Філарета і всей братыі его богомольцов' нашіх, ку потребе, выжівеню і пожітку іх', позволілі есмы і вечне надал' на основаные і созыжденіе млына берег' вольны протыво іх' берега, на реці Белчіцы...

Ўва імя Божае хай будзе. Я, князь полацкі Яраслаў Ізяслававіч, сьцьвярджаю гэтым маім лістом вечна і непарушна, што на чалабіцьце (просьбу) нашага барысаглебскага архімандрыта Філарэта і ўсяе брацьці яго, багамолцаў нашых, к патрэбе, пажыве і карысьці іх, пазволілі і навекі аддалі, на аснаваньне і збудаваньне млына, пусты бераг супроць іхнага берага, на рацэ Белчыцы.

## З жыцьця Аляксея, чалавека Божага.

(15 век).

Святый Олексей был сыном Евфімляновым, мужа прешляхетнаго рымляніна, у дому цесарском першій, перед которым трі тысячі детей стояло, которые снурамі золотымі препоясовалися, а в рубье шолкове облачалися. А тот Евфімлян был вельмі мілосердный, а на кожную дніну у его дому трі столы убогім, сіротам, пергрымом і вдовам поставліваны, которым-же мужне служіла ёго жона іменем Аглаяс, тогоже закону і тогож умысла была.

... уделалі гроб іс золота і с жемчуга і з дорогого каменія у котором пресвятого тело с велікою честію положілі, а с того гробу пресласный запах запахнул аж усім віделося іж бы был дорогіх мастей полон...

рубье—вопраткі.
облачалися—апраналіся.
пергрымом—багамолам-падарожнікам.
пресласный—надта прыемны.
іж бы—як-бы, як быццам.

## З повесьці а Трох Каралёх.

(15 век).

Попове грецке суть жонаты, а носять долге волосы да не верять штобы Святыі Дух' от Отца і Сына походіл. але толькі от Отца. теж не верять, штобы чістець был' да тымі члонкі от церкве Рымское суть отделены. Да колі мшу держаті хотять,

тогды вырежуть с кiслого хлеба гостiю албо оплаток на чоты-рi углы на посвяшченiе, да тую гостiю кладуть на блюдечко зо-лотое албо серебреное, да на верх положать звезду как бы ско-ворода загнутую, накрывшi чiстым платем, да по офертоpыi уздоймуть блюдо з оплатком i звездою на верх головы. I с ка-дiльнiцамi i с свечамi з велiкою пiлностiю, почтiвостiю несуть че-рес церков аж до олтаря. Тогды весь люд падуть на землю на лiце свое...

теж—тож, таксама.
члонкi—артыкулы, члены.
мшу—iмшу, абедню.
гостiю—аплатак для прычасьця (ахвяру).
оферторыi—той часьцi набажэнства, калi асьвячаюцца Дары (ахвяра).

## З Казiміравага Статуту.

(1468 г.).

Казiмiр, Божьею мiлостью король полскый, велiкый князь лiтовьскый i рускiй, княжа пруское, i жомоiтьскый, i iных, чiнiм знаменiто сiм нашiм лiстом', кто на нь посмотрiть, iлi чтучi услы-шiть, iжь мы с' князьмi i с' паны-радою нашею Велiкого Князь-ства Лiтовьскаго i с' всiм' поспольством' согадавшi, урядiлi есмо так':

1. Што с' лiцом' прiведут' татя будеть лi мочi чiм платiтi, iно заплатiтi iстiнну; пак' лi чего у дому не будеть, а будеть лi то жона ведала з' детмi ужо iзрослымi, iно жоною i детмi запла-тiтi, а самого на шiбеницю; а што будуть малыi детi, нiже семi годов', тыi в' том' невiннi. (У с я г о 25 а р т ы к у л а ў).

на нь—на яго.
согадавшi—абмеркаваўшы, абдумаўшы.
урядiлi—пастанавiлi.
есмо—ёсьць (мы ёсьць).
с' лiцом—з навочнымi сьведкамi.
татя—злодзея.
мочi—магчы.
iно—дык, то, хай.
iстiнну—колькi належыцца.
пак' лi—цi калi, цi ўзноў-жа
жоною i детмi—iхнымi коштамi.

## З Увараўскай кронiкi.

(15 век).

... оньж кнзь велiкii Якаiло. свет сотворiль. мтрью своею ве-лiкою кнгiнею Оульяною i з бра-

Гэты-ж князь вялiкi Ягайла зрабiў раду з маткаю сваёю вя-лiкаю княгiняю Ульянаю, i з бра-

тею своею і со всімі кн҃зьмі. і бояры Літовьскія землі і поехаль Краковоу. оу Лядьскоую землю. тамож самь крстіся і братя его і кн҃зі і бояре Літовьское землі. і поняль за себе королевну Ядвігу. і корунанова быс того королевьства короуною. і оттоле начша крстіті Літву в Латыньскоую веру...

тамі сваімі, і са ўсімі князямі і баярамі літоўскае зямлі і паехаў у Кракаў, у польскую зямлю. Тамжа сам хрысьціўся, і браты яго, і князі і баяры літоўскае зямлі. І ўзяў за сябе каралеўну Ядвігу і каранаваўся таго каралеўства карунаю. І з таго часу пачаў хрысьціць Літву у лацінскую веру...

## З Аўрамкавай кронікі.

(1495 г.).

гонца пошлеть. к' веліму князю вітовту к дорогічіноу (Дарагічыну). што тая дела сталася. і гонець той найдеть. велікого князя вітовта оу городне (Горадні). і княз҃ велікый вітовт' за одінь дн҃ь (дзень) з городна пріженеть (прыедзе) к оц҃у своемоу велікомоу князю кестоутью (Кейстуту). он ж рекл (сказаў) сн҃оу (сыну) своемоу велікому князю вітовтоу ты мне. не веріл'. а ѐе тыі грамоты. што запісаліся на нас'. но бг҃' (Бог) нас' остерег'. іно я велікому, князю ягаілоу (Ягайле) нічого не вделал'. не роушіл' есмі ні скарбов его. ні стад'... *)

## З Быхаўцовай кронікі.

(16 век).

... Князь Вітебскі сынов' немел, толко дочку, і он дал за него (Альгерда) дочку свою і прінял его в' землю (зямлю) Вітебскую...

... І колі князь Ольгерд' понял' (узяў) за себе жону княжну Уляну Вітебскую, для котороеж' князь Ольгерд' охрістілся в' Рускую віру (веру), а панове Літовскіе всі былі у своіх верах' поганьскіх', і кн. в. Ольгерд' нечініл ім сілы (не прысіляў) і в' веру свою не вернул...

... (Ольгерд) собравші воіска своі всі, Літовскіе і Рускіе, і пошол' з Вітебска просто ку Москве, і на самы веденіі день (Стрэчаньне), рано, кн. в. со бояры і со князі от завтрыні ідет' з церкві, а кн. вел. Ольгірд' со всімі сіламі своімі, роспустівші хоругві свої, вказался на Поклонной горе...

---

*) Прыклад пісьма з гэтым тэкстам зьмешчан на стр. 19 „Гісторыі беларускае літэратуры“.

... Князь велікі Швідрігайло собрал' сілу многую Рускую і поіде на Літву, і повоевал', і пожег', і попленіл' землі Літовское много...

... (1495 г.) кн. в. Александро з' в. кн. Оленою і з' паны езділ' у воб'езд' поземлі Руской, і был у Смоленску, і в' Вітебску, і в Полоцку, і к' весне пакі (ізноў) возвратіся к' Вільні...

# З Рачынскай кронікі.

(16 век).

... І часу панованья Монтвілова повстал цар Батыі і пошол на Рускую землю, і всю Рускую землю звоевал' і кнзеі Рускіх постінал' а іншых' у полон' повел' і столец' всее Руское землі город Кіев' з'жог' і пуст учыніл', а кнзь велікіі Кіевскіі Дмітр' боечыся велікое сілы і моцы его збег' с Кіева до города Чернігова і потом доведал'ся, што город Кіев' сожжон', і вся земля Руская спустощона, і слышал іж мужыкі меш'кающь без' господэра, а зовутся Дручане, і он' собравшыся з людмі своімі і пошол' ко Друцку і землю Друцкую посел' і город' Друческ зарубіл' і назвал'ся велікім кнзем Друцкім, і в тот' час' доведался велікіі кнзь Монтвіл' Жомоітскіі іж Руская земля спустошона і кнзі Руские розогнаны і он' давшы воіско сыну своему Ер'дівілу і послал' з нім панов' своіх' рад'ных'... і зашлі за реку Велю, і потом перешлі реку Немон і нашлі в чотырох мілях' от рекі Немна гору красну і сподобалося ім і вчынілі на неі город і назвалі его Новгородок і вчыніл собе княз велікіі в нем столец і назвался велікім кнзем Новгородскім, і пошедшы з Новагородка і зарубіл город Городно, і потом пошол до Берестья і нашол Берестеі і Дорогічын і Мельнік от Батыя спустошоны і покажены, і он тые городы зарубіл і почал на іх княжыті...

... княз велікіі Мінгаіло собравшы воіско свое і поідеть на город Полтэсск'..., і город' Полтэск' возметь і зостал' велікім князем' Полоцкім' і будучы ему велікім князем Новгородскім' і Полоцкім' пановал' много лет і вмер, і оставіл по собе двух сынов своіх' одного Скірмонта а другого Кгінвіла, і Скірмонт' почнеть княжыті на Новегород'цы а Кгінвіл' на Полоцку, і поіметь Кгінвіл' доочку у велікого кнзя Тверского у Борыса іменем Марю для которое ся окрестіл' у Рускую веру і далі ему імя Борыс' і мел' с нею сына іменем Рогволода, которого назвал Рускім іменем Васілеі, і тот Кгін'віл реченыі Борыс вчыніл город на імя свае на рецэ Березыні і назвал яго Борысов, і будучы ему Русіном был велмі набожон і вчыніл' цэрков' каменую в Полоцку святое Софеі, а другую святого Спаса девічыі манастыр у верх' рекі Полоты от города у полумілю, а третюю цэрков' монастыр' на Бельчыцы святого Борыса і Глеба, і пануючы ему в Полоцку был ласкав на подданые своі і дал ім волност вечем ся судіті і в' звон звоніті...

# Залатая пара.

(16 век).

## Францыск Скарына.

(Радз. бл. 1490 г.).

**Бівлія руска выложена доктором' франціском' скоріною із славнаго града полоцька богу ко чті і людем' посполітым' к доброму наученію.**

(1517 — 1519 г. г.).

Всякому человеку потребна честі, понеже есть зерцало жітія нашего, Лекарство душевное, Потеха всем' смутным наіболеі оні же суть в' бедах і в немошчах' положены. Протож' я Франціщек' Скорін сын Полоцка лекарскіх' науках' Доктор'. Знаючі сее іже есть наівышша мудрость. Размышленіе смерті і познаніе самого себе і в'спомінаніе напрідушчіе речі. Казал' есмі тіснуті...

Усякаму чалавеку трэба чытаць, бо кнігі — люстра нашага жыцьця, лякарства для душы, пацеха ўсім смутным, найболей-жа тым, што ў бедах і ў трудах знаходзяцца. Дзеля гэтага я, Францыск Скарынін сын з Полацка, доктар лекарскіх навук,— ведаючы тое, што ёсьць найвышэйшая мудрасьць, развага аб сьмерці, пазнаньне самаго сябе і навука для будучыні,—пастанавіў друкаваць.

... В сеі кнізе (Біблії) всее пріроженое мудрості зачало і конець... В сеі кнізе всі законы і права, імі же (якімі) люде на землі справоватіся імають, попісаны суть. В сеі кнізе всі лекар'ства душевные і телесные зупол'не (поўнасьцю) знаідете... Ту наученіе сед'мі наук' вызволеных' достаточное. Хошчешi лі уметі граматіку ілі по рускы говорячі грамоту еже (каб) добре честі (чытаць) і мовіті учіть, знайдешi в зупол'ноі Бівліі псалтыру чті (чытай) ее... Ашчелі же (калі-ж) коханіе імашi (маеш) ведаті о военных' а о богатыр'скіх делех' чті кнігі Судеі, ілі кнігі Махавеев'...



**Д-р Францыск Скарына.**

## З ПРАДМОВЫ ДА ПСАЛТЫРЫ.

І відечі таковые пожіткы в' так' малоі кнізе, я францішек' скорінін' сын' с полоцька, в лекарскых' науках доктор' повелел' есмі пал'тырю тіснуті... к пожітку посполітого доброго, найболеі с тое прічіны іже мя мл҃твыі бг҃' с того языка на свет' пустіл'.

іже мя — што мяне.
мл҃стівыі бг҃ — міласьцівы Бог.

## З ПРАДМОВЫ ДА КНІГІ „ЮДЫФЬ“.

Понеже от пріроженія звері ходяшчіе в' пустыні знають ямы своя. птіці летающчіе по воз'духу ведають гнезда своя. рібы плывающчіе по морю і в реках чують віры своя. пчелы і тым подобная боронять ульев' своіх'. также' і люді ігде зроділіся і ускормлены суть по бозе к тому месту велікую ласку імають.

Понеже — калі-ж ужо, дзеля таго што.

## З „ПРЫТЧАЎ“ САЛАМОНА.

... Іді ко м'равіем' оленівый, із'наменай путі іх, і навучіся мудрості. Оніже неімають вожа іні наукі іні князя. Готують собе в'лете браш'но, ісобірають вов'ремя жат'вы штобымелі напотом ясті...

... Леп'шій е҃ кус' сухыі хлеба з'радостію: нежелі полон' дом' покармов' с' сваром'...

... Чотырі суть мален'кіх назем'лі, ітіе суть мудрейшіе надовсі мудреці зем'лі. Мравіе сіем' немошч'ныі іже собірають во время жатвы брашно свое. Заечек' племя несілное он'же полагаеть наскалах гнез'до свое. Царя кобыл'кы над'собою неімають, всегдаже ополчаются полкамі своімі. Жужел'ка под'піраюшчіяся ногамі своімі якобы рукама: іживушчі в' полатах' Цар'скых'.

м'равіем' — мурашкам.
із'наменай путі іх — і йдзі іхным шляхам, бяры з іх прыклад.
Оніже — яны-ж.
вожа — правадыра, кіраўніка.
в'лете — улетку.
браш'но — яду.
ясті — есьці.
е҃ — пакарочанае „ёсьць“.
суть — ёсьць (у множ. ліку).
ітіе — і тыя.
надовсі — над усімі (над усе).
сіем' немошч'ныі — гэтым слабыя.
кобыл'кы — прусы.
Жужел'ка — яшчарка.

## З КНІГІ „ЭСФІР“.

Ас'вер' Царь пресіл'ныі владеюшчіі От індіі даже До ефіопіі. Ста і двадцеті і сед'мі стран Князем', І воеводам' под' властію моею сушчім', Ласку свою всем' усказую. Понеже над многімі народы Царствую, І всі землі под'біл' есмі под' власть свою. А протож ніколі нехотех' обрашчаті ко злому моці своее превелікое. Но добротлівостію мысліх' всегда справоваті свое под'даные...

## З ПРАДМОВЫ ДА КНІГІ „ЭСФІР“.

(Прыклад вершаў Ф. Скарыны).

Не копаі под' другом' своім' ямы
сам в'валіш'ся в ню

Не став' Амане Мар'дохею шібеніце
сам повіс'неш' на неі.

в ню — у яе.
на неі — на ёй.

## З КНІГІ „ІСХОД“.

(Прыклад вершаў Ф. Скарыны).

Веруі в бога едінаго.
А не бері надармо імені его.

Помні дні светые святіті.
Отца і матку чтіті.

Не забіваі ні едіна.
І не делаі греху блудна.

Не вкраді что дружнего.
А не даваі сведецства лжіва.

Не пожедаі жены бліжнего.
Ні іменія ілі речі его.

## З КНІГІ „АПОСТАЛ“.

1. **З першага пасланьня Карынфам апостала Паўла:** ...Поздравуеть вас' все собраніе церкві ясінское. поздравуеть вас' о гдї много, Акіла і Пріс'кіла, с' домашнею челедію своею. поздравують вас' братія вся. целуйтеся друг' друга, целованіем' свтым. целованіе моею рукою павлею...

**2. Пасланьні** *). Послания: — Доконана е̄ сія кніга зовемая апостол', еже замыкае в собе найпервей деянія апстльская Потом' посланіей свтых' апостол', соборных седм': — Таж' епістол' свт̄го павла 14: — Лета понароженіі нашего спасітеля іс̄а хрс̄та сына божія. Тысешчнаго, Пятьсотаго, І двадесеть пятого. Месеца мар'та: — Прі держаніі наласкавшего господаря Жікгымонта Казіміровіча, Короля пол'ского. І велікого князя Літов'скаго, І рускаго, І жомоітьскаго І іных'. Во славном' месте віленском' выложена, і вытіснена. Працею і велікою піл'ностію. Доктора франціска скоріны с полоцка: — Богу во троіці едіному. І пречстой матері его маріі. со в'семі светымі ко чьті. І людем' посполітым' к' доброму навченію: —

о гд̄і — а Господу, ўва йимя Господа.
челедію — хатнімі (людзьмі).
свт̄ым — сьвятым.
е̄ — ёсьць.
епістол' — пісьмаў.
ко чьті — к чэсьці.
людем посполітым — усяму народу.

### З „МАЛОЙ ПАДАРОЖНАЙ КНІЖКІ“.

Пісаныі речі: — в сей малой подорожной кніж'це по ряду кратце положены суть: — Найпервей Псал'тырь зуполная (п о ў н а я). На стіхі (в е р ш ы) статіямі (а р т ы к у л а м і) разделена, в ней же знайдешi стіхов', ілі пріпелов'. две тысешчі і шест' сот'. За каждою кафісмою заставіца бол'шая. а по каждой славе, заставіца меншая. для леп'шего разделенія ч'тушчім' положены суть: — За Псалтырею песней десеть, с вет'хаго і с новаго закону божія із'браные: — Потом' часословец', імея нощчную, і дневную службу Напреды (н а ў п е р а д) полуношчніца...

## Васіль Цяпінскі.

(Радз. бл. 1540 г. г.).

### З ПРАДМОВЫ ДА ЕВАНГЕЛЬЛЯ (1570—1580 г. г.).

... вжо некоторые (з к н я з ё ў і п а н о ў) і пісьмом се своім. а злашча в слове бж̄ем встыдают. А на остаток што может быті жалоснеішая, што шкарадша. іж і тые што се межі німі зовут' дх̄овнымі і учітелі, смеле мовлю намнеі его не вмеют, намнеі его вырозуменя не знают, ані се в нем цвічат. але і ані школы коу науце его нігде не мают...

*) Прыклад друкаванага пісьма з гэтым тэкстам зьмешчан на стр. 23 „Гісторыі беларускае літэратуры“.

... вы бы, помогаючі вашому народові..., мітрополіта вашого, владык і учітелей вашых до того просьбамі вашімі наклонялі, абы... заложілі школы. ...а школы повінны быті учінены з маетностей, которые славное паметі предкове панов надалі станові духовному не на марнотрацства, не на строй і што такого, але дле наук'; не такіх наук яко тепер, на вечный свой встыд только прочесті і то ледво в своем езыку, не больш учатсе...



ВАСИЛЬ ТЯПИНСКИЙ

## З ПЕРАКЛАДУ ЕВАНГЕЛЬЛЯ.

Евангелія Светая Ісуса Хрыста напісаная через Марка светого... Голос крычачаго в пустыні: готуйте дорогу панскую, простые чініте стежкі его. Был Іоан крестечі в пустыні і проповедаючі крешчен'е покаян'я на отпушчен'е грехов. І выходіла к нему вся Юдская сторона, і Еросулімляне і крестіліся всі у Ердане реце от его, вызнаваючі грехі свої. А был Іоан оболочен шерстію верблюжаго волосу і ременный пояс на поясніцы своей, а ел шаранчу а мед дзікі. І оповедал кажучы: ідеть дужейшій ніжлі я следом за мною; у Его я негоден нахілівшісь розвязаті ремень обувя Его...

се встыдают — стыдаюцца.
шкарадша — найгорш, найгідзей.
іж — што.
се зовут' — завуцца.
намнеі — найменш.
се цвічат — практыкуюцца.
коу — ку, к.
абы — каб.
панскую — Божую.
оболочен — апранут.

# Сымон Будны.

(Другая палавіна 16-га веку).

## ПАЧАТАК „КАТЭХІЗІСА" (1562 г.).

Катіхісіс'. то ест, наука стародавная хрістіаньская от светого пісма, для простых' людей языка руского, в' пытаніах' і отказех' с'брана...

## З ПРАДМОВЫ ДА «КАТЭХІЗІСА».

... мілості нетолько в' чужоземскіх языцех' кохалі, але бы ся тежь вші Княжацскіе млсті і того здавна слав'ного языка слoвен'ского розміловаті і оным'ся баваті рачілі. Слушная бо речь ест', абы вші Княжацскіе млсті того народу язык' міловаті рачілі, в' котором' дав'ные пред'кі і іх' Княжац'скіе млсті панове отці вашіх' Княжецскіх' млсті славне преднейшіе преложеньства несуть *).

(Каб вы, князі) любілі ня тольскі чужаземныя мовы, але каб вашы княжацкія міласьці палюбілі таксама і тую здаўна слаўную мову славянскую, і каб яе ўжывалі. Бо слушным ёсьць тое, каб вашы княжацкія міласьці любілі мову таго народу, якім даўныя прэдкі і іх княжацкія міласьці паны бацькі вашых княжацкіх міласьцяў спрадвеку слаўна кіруюць.

# Філон Кміта.

(Другая палавіна 16-га веку).

## З „ОДПІСАЎ“ (1573—1574 г.г.).

**Шпягоўскія ведамасьці аб Маскоўшчыне.** Далі мне справу шпегі мої, іж' велікій князь Московскій, собравші войска немалые, просто тягнул' (пайшоў) до Казані, хотечі даті ратунок: бо дей Череміса Луговая от' него ся откінувші, дорогі землею і водяные всі до тых' царств' его залеглі і до Казані не пропускают', шкоду велікую чінят', і тых дей часов' войска его осмь тысяч' на-голову поразілі. Также дей і Нагайцы і іншые орды от' него ся откінулі і Казань дей запевне облеглі...

**Як маскоўскі князь прыймаў паслоў ад перакопскага цара.** От' царя Перекопского был у велікого князя посол...; і колі дей того посла пріймоваті мелі, сам' дей князь велікій сел' на местцу своем' господарском' і взложіл шлык' на себе бараній, а ормяк сермяжный, а перед' нім' держалі топор'; а сына дей посаділ' подле себе; у таком же уборе. І колі дей посол' перед него прішол' і посольство справовалі, в' котором' мовіл' от' царя... (вымагаў дані і інш.) а впомніку подал' ему от' царя нож' голый (пагражаючы вайною): то пак' дей (пасьля гэтага) князь велікій, кгды (калі) выслухал' посольства, отказал' дей тому послу тымі словы: „царь дей господарь твой просіт' мене о дань; іно дей (але-ж) нечого даті, он' мене всего сам' ограбіл', а то ты

*) Прыклад друкаванага пісьма з гэтым тэкстам зьмешчан на стр. 28 „Гісторыі беларускае літэратуры“.

посол' его відіш, в' чом' я теперь сіжу, і нічого не маю, а што маю то посылаю"‥ І снявші дей с' себе тот' бараній шлык, а с' сына такій же другій, і тому послу дал'...

**Аб вайсковых прыгатаваньнях Маскоўшчыны.** У во второк', Марца 2 (1574 г.), пріслал' до мене с' заграпічья шпекг мой на імя Кузма Труба, посланца своего, даючі знать, іж' дей на' днех' теперешніх' блізко прошлых', люду Московского немалые войска до Смоленска прібылі, а людей погранічных' із' сел' от' граніц' пріставшчікі выгоняют' до Смоленска, і острог' (вайсковы замак) дей новый моцный в' Смоленску почалі робіть... Для певнейшей і лепшой ведомості, тот' Труба сам' ешче на рубежу (граніцы) позостал...

**Нараканьне Ф. Кміты на няўдзячнасьць за яго цяжкую службу і паказаньне на свае заслугі.** Освецоные і ясневельможные, мілостівые панове рада велікого князьства Літовского, панове мої мілостівые! Пан' Тарановскій не Літвы, але только своее одной жаловал' шкуры... а мы, пак', Бог то ведает', ...якой беды і небезпечності есмо ужівалі... А теж' і тых жаль Богу, хто бы себе марно тратіл (марнаваў): бо і первей... в' недостатку сілы, фортелямі (хітрасьцямі) есмо наробілі; трі человекі за трідцать або за сто тысяч' сталі, которымі тремя шестьдесят' тысяч войск' Московскіх' с Серебреными і с' царевічі от' Орші прогнано (у 1564 г.): за што не только не дяковано, але ешче, яко речь злую і нецнотлівую (непачэсную), зтерлі, змялі і в' землю закопалі. А за таковые ярма... годілося б'... опатреньня (награды), а не іншого на нас' домышленія (пагляду); што все нехай Бог платіт'. А теж як доробіло ліхо, прорежутся і зубы (войстра сказаць праўду)... Пісан (ліст) в' Орші, месяца Іюня 1 дня, року 74.

дей — слова, якое нічога не азначае, а ўжываецца дзеля паважнасьці, як цяпер на ўсходзе Беларусі слова „пыні".

---

# Тодар Еўлашэўскі.

(1546—1604).

## З „ДНЯЎНІКА".

**Нарадзіны аўтора.** Самому Пану Богу мому (майму) зо всякіх', добродейств' Его насветшое мілості нех' зостава (будзе) вечна честь і хвала, за Которого прізренем' (даглядам) і я, Федор' Евлашевскій, уроділемсе (урадзіўся) от' выше помененых' родічов' (бацькоў) моіх' в' Ляховічах' в' року от' нароженя

Сына Божого 1546, месяца февраля 7 дня, в' неделю, ночі прішлое, около полночі, а дано мі (мне) імя ведля (у зьвязку) свята руского, которое было на он' (гэты) час' в' понеделок', месеца февраля 8 дня, а у рімлянов' положено ест' месеца марца 2 дня — Теодора, гетмана от' Ліцініуша змучоного. А яко мелом' (меў), ведомость от' родічов', же (што) в' рок' по уроженю моем', промовілем (прамовіў) до отца моего „абба" (тата), з чого се оні урадовалі (узрадавалiся); але я намней (наймeнш) потом' не мовіл' аж в' полчварта року от' нарожіня моего почалом' мовіть...

**Адукацыя.** А в' пятом' року почато мне бавіті наукою рускою, кгдыж' (калі-ж) в' тых' часех' в' той нашей стороне не было ешче іншіх' наук', і для того прішло мі зостаті з' рускою і полскою наукою; і по жідовскый напісаті умелом', але тое пісьмо іх' потребуе умеетності (уменьня) языка ебрайскаго, або хоть немецкого, кгдыж' вже тепер' біблія жідовская немецкім езыком', а літерамі іх выдана, чогоб' полскім езыком' учініті бы се не могло для ортокграфеі, якей в' нашіх языках' не маш'. А потом', удавші се на службу, трафялі мі се такі паны, которые ме (мяне) оборачалі до браня (зьбіраньня) поборов' і чіненя лічб'...

**Вайсковая служба.** А потом', за наступленем і поднесенем' войны от' короля его мілості Жікгімонта Августа з' кнезем' Іваном' московскім' року 1564 месеца генваря 27, былем' (быў) в' бітве на Іваным полю над рекою Улою, а потом' — то і до вприкреня были мі частые язды на тые войны...

**Зданьнё.** 1566 року... едучі з Вілна до дому, мяновіте (іменна) в' Дорогове, в' стодоле ночуючі, обачілем' (убачыў) юж (ужо) на світаню в' ізбе огністого человека, до которого кгдым' се порвал' (калі я кінуўся), он' теж' до мне выступовал' і, зшедші се серед' ізбы, порвалем (выхапіў) з запалем' нож' і ударілем' нань (на яго), а он', знікнувші, знов' се был' в' тым' же куте указал' і знову до мне шел'; а я шапку рутілем' (шыбнуў) нань і окно отворілем'; юж' малый день был', а то згінуло...

**Ведамасьці аб вайне і асабістыя.** Король, его мілость, Стефан' под' Кгданском' з войском' был', а Московскій Іван' у Ліфлянтах' замков' веле (многа) побрал' і позаседал'; там' же з' под' Кгданска з' абозу прінесено мі лісты короля, яго мілості, на мостовнічество (урадовая пасада) пінское і сервецкое, по небожчіку пану Стефане вакуючое.

**Князь маскоўскі аб уніі.** Року 1570... послы были у московского..., которые князю велікому московскому Івану Васільевічу о доконченье унее нашое ознаймілі (абвесьцілі)... Смеялісе

Московскій на ознаймене уней, мовечы: „давном' я то ведал' же Ляхі і Літва королевскіе".

**Сьмерць маткі.** (1572) року нешчаслівого месеца марца второго дня в' неделе пределнем' (перад днём) умерла намілшая (наймілейшая) матка моя Феодора з' велікім жалем' пана отца нашого і нас, детей іх мілых... А ту (тут) се за смертю пані маткі моей розерване мыслей моіх стало вторе: былі ехать до Угор' і до Турціі, зведаті інше краіны далеке, научіть се ремесл' розных...

**Панскія сэймы і банкеты.** Року 1578... На том-же сейме был у Варшаве княже Ерый Фрыдэрык' з' Аншпах', маркграбя бранденбургскій з малжонкою своею; вырежал' му (рабіў яму) король Стефан і королева веліку учтівость і банкет' велікій ве дне і в' ноцы (ночы) з танцамі чінено; і выправіл собе опеку над княжатем' прускім', але му потом' княжна малжонка его умерла; шідзоно (казана з насьмешкаю) прі дворе, же се (што сябе) порушіла танцем'...

**Забілі сына.** Року 1602 ...в' лютым місяцы, 16 дня, в' суботу, забілі сына моего Яна, второго по Ярошу, першым' сыне моем', незбожный Ольбрыхт' Бруханскі, з' помочю Корсака, швагра своего, там же на месте в' Новогродку...

# З тэстамэнту Васіля Загароўскага.

(1577 г.).

З нараканьнямі Васіля Цяпінскага на адсутнасьць добрых беларускіх школ і ўпадак дзеля таго асьветы і любові вышэйшых станаў да роднае мовы, а таксама з ведамасьцямі з „Дняўніка" Тодара Еўлашэўскага аб адукацыі дробнай шляхты—трэба дзеля зразуменьня справы параўнаваць, як глядзелі ў 16-ым веку на адукацыю сваіх дзяцей прадстаўнікі вялікай беларускай шляхты. Паважна ўзіраючыся на патрэбу адукацыі для свайго стану, яны, пры ўсёй цьвёрдасьці ў роднай мове і рэлігіі, аддавалі дзяцей у езуіцкія школы.

Васіль Загароўскі, кашталян Брацлаўскі, у сваім перадсьмертным наказе, цікаўным і з боку мовы, пісаў у 1577 годзе так:

«... А колі ім' (яго дзяцём) Бог' мілосердный даст' в' своем' языку руском', в' пісме светом', науку досконалую, ...тогды мает' ее мілость пані дядіна моя, бакаляра статечного, который бы іх' наукі Латінскаго пісма добре учіті мог', ім' з'еднавшi (даіх узяўшы), в' дому моем' велеть учіть. А кгды (калі) вже в'

науце той доб'рые початкі в' себе меті будут', мает' іх ее мілость... до Віл'ні к езуітом', бо там' фалят' детям' добрую науку..., до наукі даті, которое абыся (каб), до дому не пріежчаючі, ані в' нем бываючі, еслі Бог' даст', сем' лет', або і больш уставічне і піл'не учілі..., также, абы пісма своего Руского і мовенья Рускімі словы і обычаев' цнотлівых і покорных Рускіх не забачалі (не забывалися), а наболей веры своее, до которое іх Бог везвал' і в' ней на сесь (гэты) свет створіл', і набоженства в' церквах' нашіх', Греческому Закону належного і порядне постановленого, ніколі, аж до смерті своее, не отпускалі, ... а ересі всякое, як одное трутізны душевное і телесное, пілне ся выстерегалі і от' нее ся отгребалі».

## „Прамова“ Івана Мялешкі.

(1589 г.).

Найясней(шы) мілостівый король і на мене ласкавыя паны братія! Выехавші з дому, Богу-м' ся помоліл', чтобы к' вам' здоров' пріехал' да вашу мілость здоровых' огледал', і прівітал'. Прішло мене з' вамі радыты, а я на гетакіх' з'ездах' няколі не бывал' і з' королем' его мілостію ніколі не заседал; только за покойніков' князев' нашіх', которые королевалі, что воеводамі бывалі, сентенцій гетакіх' не бывало, попросту правым' сердцем' говорілі; політікі не зналі, а правдою в' рот', яко солію в' очы, кідывалі. Скоро-ж королі больше Немцев' як' нас' улюбілі, зараз' што нашіе старшіе собралі, то все Немцом' роздалі нашіе господары. Пруч' Зыгмунта короля (того нічего в' люды лічыть, бо той Подлясье і Волынь вынішчыл', Ляхом' мянуючіся), але Зыгмунда Первого, солодкая паметь іего, бо той Немцев' як' собак' не любіл', і Ляхов' з' іх' хітростьмі велме не любіл', але Літву і нашу Русь любітельно міловал', і гораздо лучей за іего меваліся, хотя в' так' дорогіх' світах' не ходывалі: другіе без' ногавіц' як' Бернардыны гулялі, а сорочка аж до косток', а шапкі аж до самого пояса нашівалі. Дай Боже ізнов' такой годыны прыждаты і тепер'. Я сам колі по домовому уберусь, то еі мосць пані Мстіславска малжонка моя натешытіся і насмотреть на мене не можеть.

Надто уже насмотрыуся на все гето, мілостівые паны братія, і на тые нудные Немецкіе штукі, што на врады; а коліж' то у ніх' бывало: в' сукнях' перестых' ходять, то нігігі! Да уже у нас' змешалія, і попольску так' умеють говорыты, і все ліхое короліом' паном' Речі Посполітой кам' могуть было баламутять. А колі сам' Немчіна іде, ілі жонка его поступае, то через' скуру скры-

піть, шелестіть і дорогім піжмом' воняеть. Колі-ж' до тебе панічык' прыеде, частуй же іего достатком', да і жонку свою подле іего посады; а он' сыдыть як бес' надувшыся, махаеть шапкою ілі капелюшем', і з' жонкою нашептывает',..... Да колі-ж' бы я гетого чорта кулаком'..... по хрыпте, так' кабы король іего мілость не слыхал'!.....

Помню я короля Генрыха, которій з' заморской стороны Немецкой был', да зрозумев', што мы іему не много давалі шыбінковаты, а Немцы іего не вельмі перекрывалі, так' і он', познавші, што то не шутка, да і сам', нікому не оказавшіся, проч' поехал' аж у свою сторону, аж' за море скікнул'.

Кажучы правду, не так віноват' король, як' гетые радные баломуты, што пры нім, сідят' да крутят'. Многа тута гетакіх' ест', што хоть наша костка, однако собачым' мясом' обросла і воняет'; тые-то нас' дерут' і за іх' баламутнямі нашые не пожывятся, Речу Посполітую губят', і Волынь с' Подлясем' пропал'! Знаю, нам' пріступіло, што ходім' ..... подваренные, бо ся іх' боімо. А колі-б' гетакого беса кулаком' ....., забыв' бы другый мутыты!

І то, мілостівые панове, не мала шкода, слугі ховаем' Ляхі: давай же іему сукню хвалендышовую, кормі ж' іего тлусто; а з' ніх службы не пытай, — і только убравшіся, на высокіх' подковках' до девок' дыбле і ходыть, а з' велікого кубка трубіт': ты пане за стол', а слуга собе за стол'; ты боршчік' а слуга за пукатую штуку мяса; ты за фляшку, а он' за другую, а колі слабо держыш', то он' і ту з рук вырвет'!..... І такого чортополоха з Немцамі выгнаты, што до нас' влезлі проців' праву нашему.

Але зарадно поговорылісмы о разных' нашіх інтересах'. І гетая не малая штука — коні дрыганты на стайні держаті: давай же ім' в' лето і в' зіме овес' і сено, подстелай же што ноч', ховай же для ніх' слугу Ляха, конюшню і маштелера (канюха); а з' ніх' жадной службы не пытай. А колі ж' ешче Лях' як' жеребец' ржет' коло девок' як' дрыгант' коло кобыл', прыймі ж' к' нему двох' Літвінов', на страж'; бо і сам' дедко (чорт) не упільнует'!

І гетая на свете дурніна: годыннік' мне прітрафілося на тандете в' Кіеве купіты; далісьмы за іего тры копы грошы, а якосьмы послалі до Вільна на направу, аж' он' на пятую копу крутыл' злодей заморшчык'! Добры - то наш' годыннык' петух', што нехыбне о полночі какарекает!

І то вельмі страшная шкода — гологузые куры ховать: іх' достатком' варыты. А за моей паметі прысмаков' гетых' не бывало; добра было: гуска с' грыбкамі, кашка з' перчыком', печонка з' цыбулькою ілі з' чосныком', а колі на перепышные достаткі — каша рыжовая з' шафраном'. Віна венгерского не за-

жывалі перед' тым',— малмазыю скромно піялі, медок' і горелочку дзюбалі. А грошы подостатком' мевалі, муры муровалі і войну славную крепко і лучей держалі.....

І то не доречы: в' богатых' сукнях' нашые пане ходят'; не зналі перед тым португале ілі фортугале,..... Я тоже раділ бы, нехай бы беложонкі нашые в' запінаные давные убераліся козакіны, шнурованные назаде носілі роспоркі,.....

Да бы о чом' радыты, не знаю; то только вашей мілості пріпомінаю, штобы завсегда, сколько сенаторов' і панов' Літовскіх' прі короне іего мілосты было, был' бы і я. Только кролевшчізны не маю, бо перед' другімі не схопыл'.

А штож' есмо сказалі, то всіе правда. І Анпульку, королевну еі мілость, міленко в' ручку поціловалі, як' другые младшые сенаторшчыкі. Давно о том' раділ' весь повет' не только в' Смоленску, але і в' Мозыру, кого-б мудрого до вас' на тот' з'езд' выбраты і сентенцыі выправіты;..... уметы перед' королем' іего мілостыю і вамі, панове братіа, одкрыты нашые врады. Сказал' бі кто з' вас лутше, только не баламутячы; то я на том' перестану. *)

## Андрэй Рымша.

(Канец 16-га веку).

### КОТОРОГОСЯ МСЦА ШТО ЗА СТАРЫХ' ВЕКОВ' ДЕЕЛО КОРОТКОЕ ОПІСАНІЕ.

(5 мая 1581 г.).

Мсца сентебра погебреіску еюль  
просто вресень.  
Двад'цать четвертого дня мсца сен'тебра  
дороблен' еросолім' сталася реч' добра.

Мсца октовріа погебреіску тышрі  
просто паздернік'.  
Арха з ноім' на горе станула на суші,  
другіі потоп' не будет так' нам' пісмо туші...

Мсца ноемвріа погебреіску марге усам',  
просто грудень.  
Жідом' свято уставіл' тут' царь еровоам',  
мы о своі недбаем', невелміж' добро нам'...

---

*) Сьпіскаў „Прамовы" ёсьць некалькі; дзеля недаступнасьці гэтым часам беларускага сьпіску, тут зьмешчана „Прамова" з украінізаванага сьпіску; яе варта параўнаваць са зьмешчанай у „Гісторыі Беларусі" Власта.

Мсца декавріа погебреіску хашлеу
просто просінец'.
В том' мсцы іс хс народілся нам',
нехто іныі тот ізбавіл' душі сам'...

Мсца генуара, погебреіску тебет,
просто стычень.
Чужозем'скіе мудр'цы ха прівіталі,
злато ладан' і міру яко пану далі...

Мсца февраля погебреіску себат.
просто лютыі.
Смотрі як' то голубка ноаху служіла,
мы о бога недбаем' толькоб' злость плужіла...

Мсца марта, погебреіску адар',
просто марец'.
В' том' месецы господа жіды кріжовалі.
собе ліхо нам' добро тым' паном' з'едналі...

Мсца апріля, погебреіску нісан,
просто кветень.
Жідове сухо прошлі чірвоное море
корміл' іх' бог напушчі не было ім' горе...

Мсца мая. погебреіску іяр'.
просто маі.
Ноі арху готует' божім' повеленіем',
абы в' потоп' незгінул' з' своім поколеньем'...

Мсца іюня, погебреіску сыван'
просто чырвец'.
Ужо воды в'сіх топят' ноах в' корабль вошол'.
Знать іж' богу кланялся, про то ласку знашол'...

Мсца іюля, погебреіску тамус,
просто ліпец'.
Моісіі побіл' табліцы з' пріказаньем божім'
а мы грешім што часок', ніся страхом трвожім...

Мсца августа, погебреіску аов' лібо ав',
просто серпень.
В' том' месецы аарон' умер' божіі ереі,
того собе напріклад' ты попе зав'жды меі...

Мсца — месяца.
туші — дае надзею.
іс хс — Ісус Хрыстос.
плужіла — здавальняла.
ніся — ні сябе.
зав'жды — заўседы.

## НА ГЭРБ „ЯСНЕВЕЛЬМОЖНОГО ПАНА ОСТАФЕЯ ВОЛОВІЧА, ПАНА ВІЛЕНСКОГО і ПРОЧІХ“.

(1585 г.).

Што две стрелы,
Што врубы, што лелеі значат,
то всі люді мудрые вельмі
горазд' бачать.
Которыхь, зацныі тот' дом
за герб' ужіваеть.
Вер' мне, іж там' господу, цнота свою маеть.

**А. Р.**

врубы — вераб'і.
цнота — дабрадзейнасьць.

## З ЭПІГРАМЫ НА ГЭРБ КАНЦЛЕРА ЛЯВОНА САПЕГІ.

В'се можем' своім' оком', лацно обачіті,
Дол'жыню і шырокость, шнуром' позначіті,
І чоловека можем', познаті по твары,
Еслі в' собе не маеть, лішнее прівары,
Але где цнота собе, обрала оселость,
Там' ростроп' ест' до всего, і мужьская смелость,
Которая зацные завжды домы буді
І клейноты роздаеть, тымі слынуть люді,
Бо такіе ніколі с света не ісходеть,
Але одін' по другом' во векі славу плодеть...
Живете ж' сапегове, всі в' многіе лета,
Ваша слава слыть будеть, покуль станеть света,
Подавайте ж' потом'ком', што маете з' пред'ков'
Ведже і вашіх' цных' справ' в'весь свет' полон' светков'.

лацно — лёгка.
прівары — заганы.

# Лявон Мамоніч.

(Канец 16-га веку).

## З ЭПІГРАМЫ НА ГЭРБ ЛУКАША МАМОНІЧА. *)

Не преподобно оубо о благіх' молчаті,
Яко же і не таяжде воспомінаті.

Стрела оубо воздух' презезуе высоко,
Туголучно іспушчена летіт' широко.

---

*) Надрукована ў „Псалмах' Давіда пророка і царя...“ (Вільня, 1593 г.).

Крест' же паче сея небесі ся касает',
Сего носяй светлее паче всех бывает.

Ты же мі богомыслне взірай на обое:
Веліко бо едіно, много паче двое...

оубо (чытаецца: убо) — бо.
благіх' — добрых.
таяжде — таіўшы.
паче сея ся касает' — болей за гэтую датыкаецца.
Сего носяй — хто яго носіць.
мі — мне.
много паче — шмат болей.

У мове беларускіх вершаў 16 га веку чыста народных асаблівасьцей мала. У гэтым-жа вершы асабліва многа церкоўна-славянізмаў, што можна тлумачыць надрукаваньнем яго ў кнізе царкоўных псальмаў. Апроч таго, эпіграмы на гэрбы, пасьвячэньні і розныя пахвальныя вершы, якія зазвычай пісаліся тады ў прадмовах да кніг, выдаваных коштам багатых людзей,— былі скованы трафарэтнасьцю, не дапускаўшаю у падобных выпадках „простай“ мовы.

## З Баркулабаўскае кронікі.

**Вайна з Маскоўшчынай.** Року 1580, господарь кроль Стефан' был' под' Псковом' і взял' город' Псков', а Москва, то ест Серебреный, з немалым' войском', место славное Могілев' выжог'; там же у краі Шклов', Копысу, села велмі выпустошілі, так' же і около Могілева. На Орші і до Радомлі, Мстіславля тых' замков' не подходіла ані рушыла; а в Боркулабове князь Чарторійскій Іван' з войском' своім' на тот' час' был', так теж' і Темрюк' со трістамі войска татарскаго прі нем' был' у Баркулабове, на тот' час', і сторожу у Новоселках' московскую поймалі; а потом' Темрюк' і князь Чарторійскій князь Іван', взявші ведомость певную от сторожі московское, которую поймалі у Новоселках'... і князь Іван' Чарторійскій заехал' от Шупень, дорогою велікою Шкловскою до Могілева тягнул', а Москва под местом Могілевом' места жгут', а Темрюк' з Баркулабова дорогою могілевскою на Задубровеня до замку Могілева з войском' прітягнул', а войско літовское у Шклове стояло. Тепер' же от Могілева почалі отпірать с трех' сторон': Чарторійскій от Шупень, Темрюк' з Баркулабова, войско літовское з Копысі і з Шклова. Москву от Могілева отперлі, побілі, отогналі. Страшно было трупу московского гледеті, реку Днепр' сілным' трупом'... загороділі, із' колко недель днепровое рыбы не ядалі і воды не півалі, для велікого гнюсу трупу московского.

**Новы календар.** Року 1583 календарь новый выдан' за кроля Стефана, за мітрополіта Девочку, за владыку полоцкаго Терлецкаго ляха, бо перед тым' был' ротмістром' і век' свой зжіл'. На тот' же час' было велікое замешаніе промежі панамі і промеж' людмі духовнымі, также і людмі простымі было плачу велікого, нареканя сілнаго, похвалкі, посваркі, забуйства, грабежі, заклінанія, відячі яко новые свята установлялі, празнікі отменялі, купцом' торгі албо ярмаркі поотменялі, — праве было начало прістья антіхріста, у таком' веліком замешанью.

**Царкоўнае жыцьцё.** Того ж' часу почалі у во Львове, у месте Віленском', у Берестю школы науку выдаваті, братерство якоесь установляті і тым' закон' у веру утверждаті, за патріархі не кажут' Бога просіті, ані его успомінаті, толко за папежа; тепер же почалі сеймы-соборы чініті і до ніх' ізежчатіся.

**Панскае вясельле.** Року 1583. месеца септеврія 8 дня, его мілость князь Богдан' Соломерецкій, староста крічевскій і луцкій, пріехавші з войска з службы з двору его кр. мілості с под' Пскова, по взятію, панну Евву Баркулабовну, старостянку дісенскую у стан' малженскій за себе взял', а веселе было у месте Віленском.

**Панскія ловы.** Того ж' року 1583 у пост' Філіпов' у пущі Сідоровской его мілость князь Богдан' Соломерецкій побіл' лосей десять велікіх а вепров' дікіх' осм', где теперь село Сутокі і Махова.

**Мор і вялікая бязгодзіца ў надвор'і.** Того ж' року 88, у месте Віленском', там у тых' краях', так' же у Кіеве і на многіх' странах велікій мор' был'. Того ж' року 88, от семое суботы аж' до Рожства Хрістова велмі велікая была непогода і неуставічность: в лете дожду не было, а у восень снегу не было, толко ветры а дожды, у восень о святом' Покрове велмі поводок' велікій был', аж' по лугам' пошла, праве яко на весне веліка была, а до Рожства Хрістова у Днепре вода прібывала, і з берегов' вылівалася. Року того ж' 88, месяца генваря 18, после святого Афанасія на третій день дожды велікіе былі, аж' снег' согнало, праве было яко на весне: пастухі на бор' с статкамі погналіся на паству, а потом' за недель трі знову зіма лютая.

**Нарадзіны князя.** Року 1589, месяца мая 30 дня, по запустах' святого Петра і Павла у пятніцу ее мілость кнежна Богдановая Соломерецкая, княгіна Евдокія Баркулабовна Корсаковна, у замку Крічевском' за староства князя малжонка своего породіла сына іменем' Ісакія Долматскаго, по прозвішчу князь Богдан', а крестіл' его старец' убогій.

**Змаганьне за веру.** ... Того ж' року 92, сталося велікое і немілостівое замешане у вере от рімлян' на святую веру восточ-

ную греческую; почалі соборы помесные чініті, то ест' у месте Віленском' братство навчоных' людей до себе на поратунок' прібавілі з места Лвовского Грігорія Раготінца, Стефана Зізанія. Тые сілную і велікую войну з рымляны мевалі, не толко на ратушах' і прі рынку, по дорогах', но і посредку церкві святое войну, потарчку велікую мевалі...

**Атаман Налівайка.** Лета Божого нарожения 1595, месеца ноября 30 дня в понеделок' за тыдень перед' святым Ніколою,— Северіян' Налівайко, прі нем' было казаков' 2000, дел' 14... (у кроніцы пропуск) место славное Могілев', место побожное, домы, крамы, острог' выжглі, домов' всех' яко 500, а крамов' з велікімі скарбамі 400. Мешчан, бояр', людей учтівых' так мужей, яко і жен', детей малых' побілі, порубалі, попоганілі, скарбов' теж незлічоных' побралі с крамов' і с домов'...

**У справе царк ўнай уніі ў Бярэсьці.** ...Того ж' року 96, за Мітрополіта Рагозу, за Жікгімонта Третего, за канцлера Лва Сапегу, у Берестю правдіве на соборе владыка луцкій, владыка володімерскій, владыка полоцкій, іных' мало не всі пріступілі і подпісаліся до нового календару.

... Мітрополіта і владыков' праве кгвалтом', слыше, прімушано до прісягі.

... Там' же у олтара руского, где служіл рімлянін', в келіху віно у кров' барзо шпетную смродлівую обернулося, же тот' езуіта непожівал', а у алтаря рімского у Потея віно обернулося у простую горкую воду.

... Нафтанаіл Терлецкій, владыка полоцкій... Тот' помаленку уводіл' новый календар', бо был родом' поляк' і мовіл' пополску.

**Засяленьне краю.** Року 97... князь Богдан' Соломерецкій..., заклікавші і давші слободы, албо волності людем' пріхожім' на год' петнадцать седеті, волно мёд сытіті, піва варіті, горелку куріті, заложіті рачіл' іменем' своім' место Богданово...

**Адукацыя.** Року 97. Во велікій пост' его мілость князь Богдан' іменем' Ісакій, у месте Баркулабове почал' учітіся поруску грамоте і погрецку, а был' бокаларем' пан' Лаврентій Зізаній, человек' навченый, з места Віленского прібавленый. А роділся его мл. князь Богдан' в року 88.

Року 1600... месеца апреля у понеделок' на святого Мартіна, взявші з наукі от' Лавреньтія зараз дано до наукі латінскія, до пана Максіма (у ман. Мялеція) Гарасімовіча Смотріцкого.

**Войны, голад, хваробы.** ...Того ж' року (1600)... велікіе бо: лесті, хоробы, так' же войны велікіе, голод', невроажай сілный - было поветріе албо мор' на людей перехожіх', множество на ніз ідучіх'; около тысешч' 4000 з голоду мужей і жен', детей пошло,

так' іж' страшно было відеті, іж' на уліцах', по дорогах', по гумнах', у ровех' псы мертвых' многіх' тела елі.

**Вайсковыя лупежствы.** В' том' же року 607 было велікое на хрістіяне і немілостівое жолнерство, лупежство; по местах', по селах' жолнері берестейскіе, жолнере кгроденскіе тые по волості кролевской капшчізну бралі, а на панскіх' і княжескіх' пріставство на подданых' вытегалі. К тому зас' особліве жолнеры Лісовского, жолнеры Кгроденского тые по подданых' кролевскіх' і князскіх', панскіх', шляхецкіх' велікое і немілостівое пріставство, албо стацію по волостях' бралі, яко збожем', также і пенезьмі.

**Цэны на збожжа.** Року 1607. Тот' рок' з ласкі Божей был' здоров' на люді, также і врожай збожу середній был', также і цена збожу была: жіта чверть гр. 8, пшеніца чверть грошей 6, ечмень гр. 6, овса чверть грош. 5, гречіхі чверть гр. 4.

**Кароль і шляхта.** ...того року 607 велікая была незгода і і замешане кролю с панамі, паном' с кролем', з рокошанамі, велікій бунт', забіте, кровопроліте...

неуставічность — зьменнасьць.
потарчку — калатніну.
дел' — арудзьдзяў (гармат).
барзо — надта.
шпетную — брыдкую, гідкую.
рачіл' — зрабіў ласку.
на ніз — у ніз па Дняпру, на Украіну.
жолнеры — салдаты.
капшчізну — паборы.
стацію — станцыю, пастой.
пенезьмі — грашмі.

# Літоўскі Статут.

(1529 г.—1566 г.—1588 г.).

## РЭДАКЦЫЯ 1529 г.

### З РАЗЬДЗЕЛУ ПЕРШАГА.

**Будучі в Полшчы не маем' нічого нікому даваті ані прівілеев' потвержаті.**

25. Теж уставуем, іж от того часу мы самі (к а р о л ь, в я л і к і к н я з ь) і потомкі нашi будучі в' панстве нашом короне польской немаем нікому нічого в панстве нашом велікoм Князстве Літ. іменей людей і земль даваті і первых данін' кому будет далі потвержаті, ніжлі мы самі і потомкі будучі у велікoм Князстве

падданым нашім маем даваті і обдароваті подлуг іх заслуг, і прівілев' на вечную реч не маем інде нікому даваті оліж' кгды будем' всполок' с паны радамі нашімі на валном' соймі. А так еслі бы хто после тое уставы нашое якокольвек в нас людi і землі кгды будем в Полшчі упросіл, або первую даніну нашу прівільем нашім' потверділ таковые лісты і прівіля нашi ні увошто оборочаем і не маем іх мы самі держаті і потомкі нашы, ніжлі што ся дотычет куплі кождому везде і у панстве нашом' коруне полской будучі маем' то потвержаті.

іж — што.
ніжлі будучі — толькі тады, як будзем.
подлуг — па (заслугах).
оліж' кгды — але-ж калі, толькі калі.
всполок' — разам, супольна, сумесна.
якокольвек — як-колечы, як-небудзь.
ніжлі што ся дотычет — толькі-ж, калі што датыча.

## З РАЗЬДЗЕЛУ ЧАЦЬВЕРТАГА.

### О девкі, которые будут' выданы до чужое землі.

10. Теж' уставуем, естлі бы которая девка панства нашего велікого Князства Літовского пошла до чужое землі до Полшчы або до Мазовш' або до которое колве землі, маючы іменя отчізные і матерістые в панстве нашом веліком Князстве Літовском; тогды тая девка с' тым мужом своім чужоземцом не мает дедічіті в тых іменях своіх' тыя імене ее отчізные і матерістые мают пріті на стрыев' рожоных', а не будет лі стрыев' іно на блізкіх ее, а оні не повінні ей будуть пасагу даті, яко в' тых правех опісано девком зыменей і четвертое часті даваті.

которое колве — якой-небудзь.
дедічіті — даставаць права на зямлю бацькоў.
стрыеў — дзядзек.

## З ДРУКАВАНАГА ЛІТОЎСКАГА СТАТУТУ Ў РЭДАКЦЫІ 1588 г. *)

## АРТЫКУЛ 1.

### Всі обывателі велікого Князства Літовского тым одным' правом' пісаным', і от нас' даным' сужоны быті мают'.

Напрод' мы гсдр' обецуем' і шлюбуем', под' тою ж' прісегою, которую учінілі есмо всім' обывателемь всіх' земль паньства нашого Велікого Князства Літовского, іж' всіх' княжат' панов' рад' духовныхь і светскіх, панов' хоруговных' шляхту, места і всіх' под-

*) Прыклад друкаванага пісьма з гэтым тэкстам зьмешчан на стр. 37 „Гісторыі беларускае літэратуры".

даных' нашіх', і всіх' станов' в том панстве нашом' велікомь князстве літовском', і іных, всіх' земль, здавна ку тому паньству прiслухаючіх', почон'шы от вышшого стану аж до ніжшого, тымі однымі правы і артыкулы, в том' же статуте ніжей пісанымі, і от нась данымі судіті і справоваті маем'. также чужоземцы заграничнікі велікого князства літов'ского, пріеж'дчые і якім' колвек' обычаем' прібылые люді, тым же правом' мают' быть сужоны, і на тых' врадехь где хто выступіт'.

### АРТЫКУЛ 2.

**Мы гсдр' шлюбуем' нікого не караті на заочное поведанье' хотябы дотыкалося маестату нашого гсдр'ского ображня.**

Напрод' — найперш, наўперад.
шлюбуем — даём урачысты абет па любові.
почон'шы — пачаўшы.
врадехь — урадах, установах.
маестату — дастойнасьці.
ображня (ображенія) — абразы, зьнявагі.

## З перапіскі невядомага аўтора.

(Ліст пісаны 11 лютага 1564 г.).

**Аб польскіх замахах на незалежнасьць Літоўскага (беларускага) гаспадарства.** Панове Ляхове дівнымі а рознымі претекстамі хотелі, жебы Літву у кабалу запісалі і у вечную неволю собе нас' взялі; наперве, одное ляскі, одное печаті, одного скарбу, одное канцеляреі допіралися; потом', кгды того довесті не моглі, тогды предься, жебы всі тые станове і врядникі Літовскіе пісалися „маршалок' земскій коруны Польское у велікомъ князьстве Літовском", потомуж' і іные всі врядникі Літовскіе, а король жебы ся пісал' „король Польскій і земль князьства Літовского", чого кгды теж, довесті не моглі, тогды предься то нам' отнімають, чого ім' Боже не поможі, абы зараз' в' Польші на велікое князство подношенье было, а в' Літве жебы ніколі на князство подношенье не было Потомуж' і о соймы, абы соймы вальные через' то в' Літве не былі, только спольные з' німі на граніцах'; чого панове пословe нашi, дай пане Боже, абы боронілі, якож' есть і надея в' Бозе, штож' і оборонят'...

претекстамі — пратэкстамі, прычынамі, падходамі.
ляскі — дяржаўная кія, скіпэтру.
скарбу — фінансаў, грошы.
канцелярэі — дзяржаўнага дзелаводзтва.
подношенье — каранацыя.
спольные — супольныя, сумесныя.

## З „Ай Кітабу“.

**Старонка 1.** Напрод Божэ іме успамінайма. Мілосьць у нутрах свайіх уфундуем. Першый і астатній, он ест векоістый. Да кожнэй рэчы моцный. Ніхто ему непадобный. Едыный ест. Есьлі нічога не было, стварыв сьветы...

стварыв землю і неба, людзей і ангелі, месец, і слонца, і звезды, сем крот небос. За расказанем месец і слонца узыдзе і зайдзе...

**Старонка 2** Успомнем м а р а д ж праро́цкій. Калі учуеш йі рада будзе уся душа.

Мовіл Аббасов сын тое слова. Ведамасьць дае прарок ему сам...

*) Цемна было, очы сьветласьці не відзелі. Куры не пелі. Сабакі не брэхалі.

Дожш ішов. Цемна было. Вецер веяв. Разумев, што судный дзен' настав. *)

Межы с а ф а і м э р в э хадзіў; мысьлёчэ, межы іх стояв. А землі, а небосах мыслів. Моцы божэй дзівавався.

Казав, іж то ест моцный, праўдзівый Пан, як стварыв землю і небоса наповесіу.

**Старонка 3.** У том умысьле спаць мне захацела. Сын Аббасов, выслухай гэта слова.

Потым ачнувся скора. Глянув на чатійі (ч а т ы р ы ?) стараны. Чатійі ангелі увідзев, што кожный у руках па харонгві дзержаць. Гэтый увесь сьвет у сьветласьці став.

Гэтый сьвет наповнівсе сьветласьцей с канца у канец. Бляск пав на гару, на каменя.

З небэм была ровна кажная харонгев. Уперад прышэв Гэбраіл. Дав с э л я м.

Глянув Гэбраіл у твар. Месец, слонца засмело (з а ц ь м і л а ?).

Месец і слонца не сенілі парсону сваю. Ад землі да неба аперласе велічна его.

Напісано ест перэд ім... Немаш іншаго Бога, тылько Аллах імя его, моцнаго.

... Мохаммэд ћосол божэй, Мохаммэд пророк

## З беларускай лёгікі 16-га веку.

Дзеля абстракцыйнай мовы ў выкладзе лёгікі, было прыдумана ў той час многа новых беларускіх слоў, як: самасьць, душавенства (дух), мушанства, усячаства, гдзечаства, штоўства, адзяржыцель (суб'ект), адзержаны (об'ект), раджонае (вывад з думкі) і інш. Адсутнасьць гэтых слоў у цяперашняй літэратурнай беларускай мове,

*) Прыклад пісьма з гэтым тэкстам зьмешчан на стр. 41 „Гісторыі беларускае літэратуры“.

а таксама нязручная для нашага часу сінтаксічная будова сказаў у старадаўнай літэратурнай беларускай мове—замінаюць сучаснаму чытаньніку разумець з патрэбнай лёгкасьцю напісанае ў лёгіцы 16-га веку.

**З прадмовы.** ... Пытал' мя (а ў т о р а) пан' єдін' премудрый речнік арапскій о мудрості словесной, наріцаемая лоіка, абых' єму расказал' слово странных', іже прісслухают' в' лоіце премудрым людем', языком' короткім', не преволокая, о всех' словесех' странных, ніжлі збудіт' сердце учені͡ково до премудростей седмі і до велікіх кніг' лоічных', іже оні суть судно всем' тем' мудросстем' седмім'...

## З беларускай астролёгіі 16-га веку.

Первая планета рекомый Крон, а держіть суботу, а стоіть над' Русью, над' Новым' городом' і над' Москвою і над Літвою...

Третья планета аріес', а держіть вовторок', а стоіть над Угорьскою землею і над' Ческою і над' Волош(с)кою...

Таврус' землю одр'жіть подле берега морскаго і где Канстінтінополь, Татарскіі поля, Белую Русь, где Новгород' стоіть, тежь Велікую Польску...

## З „Лексікону“ Памвы Бярынды.

Врач': Лекар', доктор'.
Град': Место.
Гражданін': Мешчанін'.

Ісполін': Гігант', велет', ол'брым', дужій а велікій ч͞лк'.
Краніево место: Лобное месце, лысая гора.
Лікую: Танцую.

Полата: Палац'.
Попрішче: Міля.
Праг': Порог', одверок.
Пестун': Педагог', детоводітель.

Совест': Сумненьне, разум'.
Супруг': Пара.
Торжішче: Рынок', торг'.

Цар: Круль, король, найвыш'шіі пан Скіптрофорос.

Что: што, шчо.

# Сход.

(17 век).

## З полемікі „протів люторов“.

(1580 г.).

### Абарона сьвятых абразоў.

... Глаголеть (кажа) в' десятословію: „не вчіні собе всяко подобіе“, то почто (навошта) повеле Сам' Бог' сотворіті подобіе херувімска? Тако несмыслені быша (былі) Люторі, яко і Самого Бога не єдіногласно (не адно кажучым) і Моісея преступніка (праціўнікам) закону і всех' пророк' с'творіша. Обычаі бо бе (былі) в' ветхом' законе почітаті божественая честне і покланятіся, не яко боготворящче вещчеі (прадметы, рэчы), ...(але) честію відімою невідімаго Бога почітающче...

... І еже глаголеть (калі тое кажа): „не вчіні собе всяко подобіе“, добре глаголеть: что мелі молеваті, невідев'ші Бога? Іліі явілся в' бурі і мгле: чі віхор мелі молеваті, або мглу? Моісею прі купіне огнене явілся, — что мелі молеваті, чі огнь, або куст? І прі камені задняя Своя явіл' во окомг'неньню, — то лі мелі молеваті тень? Але нам' задняя і предняя явіл' в' супол'ності вчеловеченья Своего...

... І на іконах напісуем' Іс Хрістос', а не Аполона ілі Дія, албо Ер'мію, ілі іншаго ругателя... і на Пречістой Богородіцы іконе імя Ей святое подпісуем', а не Ардеміду...

... Колі кому царь што дасть через' ліст' свой, тот' ліст' на главу кладет', печать целуеть, і пред лістом' его уставают', шапкі снемші слухают'. І естлі учтівость так' тленнаго цара есть, подобнеі вечнаго Цара образу Ісус' Хрістову чініті честь“.

## Стафан Зізані.

### З ПЕРАКЛАДУ КАЗАНЬНЯ СЬВ. КІРЫЛЫ, ПАТРЫЯРХІ ІЕРУСАЛІМСКАГА (1596 г.).

(Полемічная літэратура).

#### З прадмовы перакладчыка, пасьвячонай князю Астрожскаму.

| | |
|---|---|
| ... Много ест речій непевных', в которіх ся кохают люде. леч побож'ность ... маетность вечная і несмер'телная..., которая не толко на сем свете але і по смер'ті ...помагаеть. | Многа ёсьць рэчаў няпеўных, якія да спадобы людзём. Толькі-ж пабожнасьць... маемасьць вечная і няўмірушчая... каторая ня толькі на гэтым сьвеце, але і па сьмерці... памагаець. |

### З выкладу казаньня.

| | |
|---|---|
| ...біскуп рімскій... люд от всех краюв земле до послушенства своего прітягает, ...мечем уставічне воюет, і всех хрістіян' і всякое колено абы ся му яко богу поклоніло розмаітымі практыкамі ласкою, подаркамі, обе́тніцамі, прозбо́ю грозбо́ю, ка́раньем, войною, через послов і слуг своіх уряду духовного і свецкого прівoдіт, хотячі абы жаден' не зостал' прі старожітной вере... а на его рімскіе новые еретіцства полные постановеня зезволілі... | Біскуп рымскі да паслушэнства сабе цягнець люд усіх краёў сьвета. Мечам бесьпярэч ваюець, і ўсіх хрысьціян, і ўсякі род, каб яму, як богу, пакланіліся, усялякім спосабам—ласкаю, падаркамі, абяцанкамі, просьбаю, грозьбаю, караю, вайною, цераз пасолоў і слуг сваіх духоўных і сьвецкіх—прысіляець, хочучы, каб ніводзін не застаўся ў старадаўнай веры, а (ўсе) прысталі-бы на яго новыя рымскія пастановы, поўныя герасі. |

# Іпаці Пацей.

## З „ЖЫЦЬЦЯ ГАНАДЗІЯ, ПАТРЫЯРХІ КАНСТАНЦІНОПАЛЬСКАГА“.

(1605 г.).

(Полемічная літэратура).

... А теды опустів'шы оные пер'шые чотыры ар'тікулы, окоторых' тот' патріарха светобливыі Генадеі Школяреі пісал', поневаж' многіе пісма людеі учоных' отом' наідуются, взялем' перед' себе остатніі ар'тікул' пятыі, озверхності папежскоі, окотороі тепер' межі намі, іпротів'нікамі нашымі набол'шіі спор' деется. для бол'шого сведец'тва тое прав'ды, жебы протівніцы іто ведалі яко ісамые патріар'хове, озверх'ності папеж'скоі розумелі. авыложылем златінского езыка на рускіі тот' ар'тікул', которого ар'тыкулу ест' роз'делов', 20. апреложено з'греческого езыка (которых' он' генадеі досвоіх' греков' пісал') налатін'скій езык'. ітак сут' слова генадіевы...

**З разьдзелу 4-га.** ... На другіе засе повесті што задают, же найвыс'шыі спіскопі тепер' нежівут' так' яко петр' светыі жіл'. отказую. Ачколвек троха прыостреишім' речено здатіся будет'. еслі преложоного рымское століцы братія мілые в'том' він'ным' чыніте, чому теж' віны недаете восточ'ным епіскопом'; ані іх штрофуете, іж' старых' епіскопов' іапостолов' жытія ненаследуют. ... Але только рымского хочете ганіті, для котороеж' те прычыны; одно іж' латін'нік', а іж' бороду голіт', а в' середу і в'пятніцу олей ірыбы едает'. Тое теды умеете ганіть, алаком'ства піянства інеумеетьності своіх', неумеете ганіт'. есліж суть греш-

ные люде яко вы розумеете рым'скіе епіскопове, што вам' дотого, ненаша ест' реч' отом' судіті...

найдуются — знаходзяцца, ёсьць.
апреложено — а перакладзена.
засе — ж.

Ачколвек — хацяж.
речено — сказана.
преложоного — начальніка (папу).

# Лявон Карповіч.

## З КНІГІ „КАЗАНЬЕ ДВОЕ...“ (1615 г.).

... Але што задів', же слуг' свет' не знает'; кгды і самого Пана не познал', обачывшы его водменном' габіце, в' пелкгрымском' убере, в' служебнічой постаті, в' убоз'стве і нішчете последней. Леч' кгды тот' премож-ный Пан' в' своем' прырожоном' габіте, в' своем' пресветном убере, в' своей превелможной славе і оздобе ся явіт'; в' тот час' і нас' убогіх' подлых', в'згаржоных', і яко неякое сметье ногамі мілостніков того света подоптываных', в' подобные своей велможності шаты пріоболочет...

Але што за дзіва, што слугаў (Божых) сьвет ня знаець, калі і самаго Бога не пазнаў, увідзеўшы яго ў перамененым габіце (расе), у падарожным уборы, у васобе слугі, ў убожстве і беднасьці астатняй? Ды калі той усемагутны Бог у сваім прыраджоным габіце, у сваім праслаўным уборы, у сваёй правяльможнай славе і прыгажстве зьявіцца,—у той час і нас убогіх, простых, пагарджаных і як нейкае сьмяцьцё нагамі любячых гэты сьвет таптаных, у падобныя да сваёй вяльможнасьці багатыя вопраткі прыбярэць.

# Вучыцельнае Евангельле Каліста.

## (1616 г.).

У вучыцельных Евангельлях зьмяшчалася зьвязаная з евангельскім тэкстам навука—выклад тэксту. Вучыцельнае Евангельле, навука ў якім напісана патрыярхам Калістам (пагрэцку), было раней у нас у славянскім перакладзе. У пачатку 17-га веку манахі Духаўскага манастыра ў Вільні пераклалі яго на беларускую мову. Гэтая аграмадная кніга надрукована ў 1616 годзе ў м. Еўі (35 вёрст ад Вільні) коштам Ганны Хадкевічоўны, княгіні Карэцкай.

Прычынай яе выданьня ў беларускім перакладзе зьявілася патрэба ў абароне сваей паствы ад пераходу на іншую веру ў гэты час войстрага рэлігійнага змаганьня на Беларусі.

### З ПРАДМОВЫ ДА ЕВАНГЕЛЬЛЯ.

Тепер' зась (пре незнаемость і неумеетность языка Словенского многіх') многім... мало пожіточен' ставшіся (т в о р п а т р ы я р х і К а л і с т а), знову переложеньнем' его на язык' наш'..., якобы з мертвых' вскрешон' ест', а выданьнем' з друку... всех'... языка Словенского неумеючіх', і для того под' час до заразьлівых' еретіческоі... наукі паствіск удаватіся звыклых', учіті будет'.

### З Е В А Н Г Е Л Ь Л Я.

Два человекі вошлі в' церков' помоліті ся, одін Фарісей, а другій Мытнік: Фарісей теды ставші особно, так' ся моліл': Боже, дякую тобе же не е́стем' я таков' якові сут' іншіі люде, грабежніцы, несправедлівцы, чужоложніцы, або теж' як і сей Мытнік. Два разы по́шчу в' тыдню: десятіну даю з всего штоколвек маю. А Мытнік' оподаль стоячі, не хотел' і очій поднесті на́ небо: але біл' персі свої мовячі, Боже мілостів' будь мне грешному. Поведа́ю вам'. от'ішол' сей до дому своего усправедлівен над о́ного. Поневаж' кожды, который ся вывышает', будет' поніжон': а который себе поніжает', будет' вывышон'...

Тепер' зась — цяпер-жа.
же не естем' — што я ня ёсьць.
персі — грудзі.

## Мялеці Сматрыцкі.

### З КАЗАНЬНЯ НА ХАЎТУРАХ Л. КАРПОВІЧА (1620 г.).

... Пачатак', мовлю, духовным' з' православнымі бе́седам' моім в' сем' месте Вілні, і з сего, в' церкві сей святой нато поднесе́него местца учініті предся взялем' был'. Не в' той една̀к' матеріі, не в' той заісте православніі Христіяне, в которой тепер' над мысль, над волю, і над очеківан'е мое і ваше з словамі момі найдоватіся пріходіт' мі. Не в' матеріі жалю і плача, але в' матеріі евангелскої утехі і радості. Ачколвек і евангелская утеха і радость, неіншее што сут', толко жаль і плач'...

предся взялем' — прадпрыняў.
заісте — прыгодзе, падзеі.
над очеківан'е — супроць чаканьня.

## Кірыла Транквіліон-Стаўравецкі.

### З КНІГІ „ПЭРЛА МНАГАЦЭННАЕ" (1646 г.).

**З прадмовы.** Кніга сія наріцаема Перло Многоценное. Для двох' прічін' поважных для высокого Розума Богословскаго, і

сладкоглаголіваго языка Ріторскаго, і для Поетіцского художества. Кніга то святая Філозофіі бозскоі, мает' в' собе розум'; которая с'держіт' в' собе Похвалу Тріпер'соналному бозтву. і Страсті Хрістове. і похвалу Прест. Богородіці. і іныі многі песні духовніі; сладкіі веселыі: і плачлівыі. Композітор; або складач сіх' вершов', Кіріл Старый Транквіліон Ставровецкій...

**З вершаў.** А то сіх Лекарство полагаю, Роскошніком' того света, Правдівое. Песнь вдячная прі банкітах панскіх.

О смерті несподевана,
Тось мя богатого Пана,
Без от'поведі ныне зостала,
І все красное і любімое мое забрала,
І на векі от очій моіх' в' тме сховала.
Где моі ныне замкі коштовне мурованыі,
І Палацы моі светне і слічне маліованыі,
А шкатулы злотом нафасованыі,
Возінкі под злотом' цугованыі.
Где моі пресветлыі златотканыі шаты,
Рысі соболе кармазіны і дорогіі шкарлаты,
О смерті все твоім приходом от мене забрано,
І на векі от очій моіх' в'тме сховано.
Где моі сады і красныі вінограды,
І ногамі твоімі о смерті потоптаны,
І на векі от мене несподеване забраны.

наріцаема — называная.
сладкоглаголіваго — добрамоўнага.
светне — бліскуча.
слічне — хораша.
нафасованыі — накладзеныя.

# Іоанікі Галятоўскі.

## З КНІГІ „КЛЮЧ РАЗУМЕНЬНЯ“ (1659 г.).

1. **З казаньня на Стрэчаньне.** Ест' Хрістос Магнесом', Магнес' тягнет' до себе железо, еслі бы кого пострелено кулею железною, а немоглі з'него тоеі куле выняті, ал'бо еслібы пострелено кого стрелою, а зостало внем' железко от стрелы, інемоглі его выняті, нехай пріложат' до тоеі раны, до того пострелу Магнес' то он' вытягнет' з' тела кулю железную ігрот железный от стрелы. І Хрістос потягает' до себе людей грешных...

2. **З артыкулу: „Навука, альбо способ складаць казаньне“.** ...Старайся, жебы все люде зрозумелі тое, шчо ты мовіш' в' казаню. Может' кто спытаті, где маемо взяті матерію, з' которой

бысмо казане моглі учініті? отказую: треба чітаті Біблею, животы святых', треба чітаті учітелей церковных'... котрыі пісмо святое в' Бібліі толкуют'; треба чітаті гісторіі і кроннікі о розмаітых' панствах' і сторонах', шчо ся в' ніх' деяло і тепер' шчо ся деет'; треба чітаті кнігі о зверох', птахах', гадах', рыбах', деревах', зелах', каменях' і розмаітых водах', которыі в' морю, в' реках', в' студнях' і на іншы местцах' знайдуются, і уважаті іх' натуру, власності і скуткі, і тое собе нотоваті і апплековаті до своей речі, которую поведаті хочіш'...

### З КНІГІ „НЕБА НОВАЕ" (1677г.).

Прійдет' на свет' слово вечное,
Верным' своім' пожытечное;
З неба ест' от Бога посланный
През' жівот' цнотлівоі Панны;
Горы і велікіе валы
Прейдет', будет' тут' час' немалый...

бысмо — бы мы, мы-б.
жівоты — жыцьці
розмаітых' — самых розных, усялякіх.
панствах' — гаспадарствах.
власності — асаблівасьці.
скуткі — рэзультаты.
нотоваті — запісаваць.
апплековаті — практыкаваць.

## Лазар Барановіч.

### З КНІГІ „ТРУБЫ СЛАВЕС" (1674 г.).

На сія трубы уші накланяйте,
Трубамі трубы суда в'спомінайте.
Празднікі святых' сія трубы Трубят',
Да празднолюбцы Іх собе улюбят'...

Трубы суда — трубы сьветапрастаўленьня, трубы на суд

## Антон Радзівілоўскі.

### З КНІГІ „ВЯНЕЦ ХРЫС ОЎ" 1688 г.).

З слова: „На в'еханіе в' іерусалім Господа нашего Іісуса Хрыста".

... Цесар' негдысь до Ріму, гды вежджал', четырідесять слоней Воз его тягнулі, а люде пред нім', около него і за нім', збро-

йно в' розмаітых' строях' ішлі. Марк' Антоніуш, Львы закладаті казал' до своеі кареты, Авреліан—елені. Неро на Мулах' среб-ром' подкованых до Ріму в'ежджал', маючі прі собе тісячу ка-роц', і много барзо людей збройных. Ссесóстрес' Цар Егіпетскій на колесніці был проважен' такой, которую четырі Царі в' ко-роны убраныі, сцептра в' руках держачіі, тягнулі. Соломон' Цар' на в'езд' свой до Іерусаліму, албо і до іншых мест', в' дворе своем' Царском' ховал коней четыредесят тысяц', а возов' десять тісяшч'; А Ты Хрісте Спасітелю болшій над Соломона, тепер' до Іерусаліму в'ежджаеш', тылько на плóхом быдляті ослем'...

## З КНІГІ „АГАРОДАК МАРЫІ БАГАРОДЗІЦЫ“.

... Пішет' Іосаф Гісторік жыдовскій, же цар' Навходоносор в Вавілоне для Нітокры жены своей выставіл' был' огородка на высокіх' столпах' каменных высячій, раз'маітых' рожаем' древ' і цвéтов' оные насадівші; который огородкі звано чудо света... так ты о Маріе естесь на ласках' і дарах' Духа святого, яко на высокіх' нéкоторых' каменных выставлена стóлпах'!...

кароц' — карэт.
барзо — надта.
сцептра — скіпэтры.
Агародак — сад.
рожáем — родам.
естесь — ты ёсьць.

# Духоўныя вершы *).

## АБ СТРАШНЫМ СУДЗЕ.

Прыдзець час, і Госпад на воблацах слаўна
Прыдзець ўсіх судзіці са славаю яўна.
З войскам ангел і архангел бязчысьлéнных,
Сьвятых сабор праслаўлéнных.
Ваструбіць архангел, і мертвыі вазстануць,
А прад судам страшным нагіі паўстануць.
Там убогі, і скарб многі,
Там ўладыкі, і калекі —
Усі роўна стануць.
Царые і князі бяз слуг, без адзежды,
Бяз скарбаў, бяз помпы, бяз жаднай надзежды,
987Стануць нагі, без павагі, без радзіны,
Бяз дружыны, самі сабою.

*) Па этнографічных запісях 19-га сталецьця.

Сядзячаму на прастоле мусяць адвет даці,
Як ся справавалі бяз боскай благадаці.
Ах мой Божа, паможа
Бо шатана зла, хітра здрада.
Бо там на вымовы ня зраць,
Ні на роды, а ні на парсону,
Ні на прожны свары, хто што зробіць,
Хто што стварыў, люб благое, люб тэж злое,
Яўна там будзець.
Ўся там дзелы нашы адкрыюцца яўна,
Грэшным на стыд вечны,
А верным на славу.
Што тут скрыта, там адкрыта;
Ўсё явіцца, аблічыцца
Там прад Тваім сьветам.
Які там стыд будзець, якая срамота,
Гдзе яўна там будзець, злым злая работа.
Ні сказаці, ні сьпісаці невазможна,
Бо ня ложна там ся то станець.
Патом Госпад крыкнець на злых:
Адыдзіце, а праклятыя людзі, да пекла ідзіце!
Ў якім страсе і вужасе будуць злыі,
Егда тыі словы услышаць.
А напотым Госпад ліцэм добразрачным
Ваззрыць на сьвятых.
А голасам ўнятным к ім прамовіць
І так мовіць: маі друзі, маі слузі, ка мне прыідзіце!
Насьледуйце царства і вечную радасьць.
Якая там будзець ў той час сьвятым радасьць.
Ні сказаці, ні сьпісаці невазможна,
Бо ня ложна там ся то станець.
Міласэрды Божа, даждзь нам памінаці
Ўсягды суд Твой страшны, а не саграшаці.
Тут карай мя, тут зьмірай мя!
Адверзі злых, бо сьмех там будзець прад цэлым сьветам.
Кроў Твая сьвятая з рук, з рэбр, з ног пралітая.
Няхай будзець тою злосьць наша амыта.
Ў тым надзею я і мею,
Жэ ачысьціць і услышыць мяне грэшнага.

ня зраць — не глядзяць.
прожны — пустыя, непатрэбныя.
Егда — калі.
Адверзі — адкрый.

## О МОЙ БОЖА! ВЕРУ ТАБЕ...

О мой Божа! Веру Табе,
А ўсё веру, што для Цябе.

Ўсю надзею ў Табе маю,
За ўсё Цябе выхваляю.
Ты стварыў, Ты адкупіў,
Ты нас, Божа, прасьвяціў.
Зато Табе, гдзе ёсьць людзі,
Чэсьць і слава няхай будзе.
Ах мой Божа! Зграшыў Табе,
За грэх дастаў пекла сабе;
Ды ня так жаль згубы маей,
Як жаль, Божа, крыўды Тваей.
Дзеля Твайго спадабаньня,
Хачу хаваць прыказаньня.
Жыць і ўмерці ў Табе волю,
На грэх болей не дазволю.
Цалуючы Твае раны,
Спасіцелю наш каханы,
Сьлёзы нашы выліваем,
Шчырым сэрцам прыракаем:
Пакуль будзем з людзьмі жыці,
Ня будзем Богу грашыці.
О Марыя, матка Божа,
Прасьвятая райска рожа!
Маліся Богу за намі,
Нягоднымі грашнікамі.
Ўсе сьвятыя! ўзгляньце з неба,
Ваша ласка нам—патрэба.
Ручкі, вочкі к небу ўзносім,
Адпушчэньня грахоў просім.

## СТАРЫ ВОСІП БАРАДАТЫ.

Стары Восіп барадаты
Спалохаўся, скочыў з хаты:
Што гэта, дзеткі, за пракуда?
Неба гарыць, над чудам чуда!
Вангелі хораша сьпяваюць,
На жулейчыках іграюць,
Кажуць: Хрыстос нарадзіўся,
Ў Віхлееме нам зьявіўся.
Пабяжым усе да Яго,
Прывітаем мы Яго.
Неба й зямлі Князь багаты
Ў ясьлях ляжыць між быдляты,
Ня прыбраўся ў царскі шаты,
Няма ў Яго жменькі сенца,
А ні руба палаценца;

Толькі над Ім сапіць бычок,
З другога боку асьлячок.
— — — — — — —
Хімка з Агатай, дзьве маладзіцы,
Прынесьлі коўш галявіцы;
А Барыс стаіць пад вакном,
Дзяржыць чаўхірку з талакном;
Кузьма й Дзям'ян, два ліцьвіны,
Прынесьлі гаршчочак бацьвіны.
Прачыстая паглядае,
На ліцьвінаў наракае:
Як вы глупы, два ліцьвіны,
Ня есьць мой Хрыстос бацьвіны,
Прынясіце кашкі з малачком,
Калі не з мядовым сачком,
За то Хрыстос ласкаў будзе,
Па век вякоў не забудзе...

## Школьная драма.

### З ІНТЭРМЭДЫІ Ў ДРАМЕ АБ ПАТРЫЯРХАХ ЯКУБУ і ЯЗЭПЕ.

(1651 г.).

Інтэрмэдыя гэтая захавалася ў рукапісу 1651 г. Напісана яна, як уступ к драме. Аўтор маець на мэце, пасьмяшыўшы публіку асобай мужыка „простай веры“, выклікаць у яе пеўнае пачуцьцё ў пытаньні, якая вера лепей. Інтэрмэдыя напісана лацінкаю і па старыннай правапісі. У ёй ch азначае гук, які мы цяпер пішам літэраю г = h; замест ż пішацца z (бяз пункта). Некаторыя месцы нячытальныя. Селянін (Iwan rusticus) і чорт (daemon) гавораць пабеларуску, а школьны слуга (aulicuc) — папольску.

**Iwan.** Panowie, szto to za dzieło bydut' tut dziełaci,
Czy nie swadźbu na mieyscu siom budić skakaci.

**Aulicus** адказвае, што ён ведае, але дарма ня скажа.

**Iwan.** Proszu ciebie, skaży mnie, miłościwyj Panie.

**Aulicus** згаджаецца сказаць з умоваю, што селянін адкажа яму на пытаньне, „чаму жыды ядуць рогі казы“ (мабыць—рагатую казу).

**Iwan.** Baćko tak moy kazywał, ciwun wielmi zaczny
I z nauki chbubokiey, vsim mużom znaczny.

Byw ion wielmi cz.. iemu wielmi nauczony,
I po wsiom naszym siele naukam ustawiony.
Vmiew ion hanbiecadło, panowie, całoie,
Jak ruskoie, tak też mudreysze lackoie.
Tot bywało on o tom hetak ludziom każeć,
Chdy spytaiuć, czamu żyd kazynu wielmi iadaieć.
Koli Boch miłościwy twarzyw świat z niczoho,
A czołowieka czyniw z chliny mizernoho,
Na wsie inney rzeczy rok chwiat [1]) tworzaczy,
A biies się przypatrował [2]) Hospodu stojaczy.
Chciel bies sobie vdziałaty podobnoho zchoła, [3])
Nie znaićże, szto sowa nie rodzić sokoła,
Chociew mowić Panskoho chwiat naśladuiąc, [4])
Ale wymowiw: chwik, chwik! aszno wyskakuiąc
Wyrał [5]) kazu z rohami y z chwostom wielikim.
Chocieczy sie prychledzić przymiotom vsiakim,
Vniał kazu za iey chwost; kaza, kak szalona,
A znać iego rohami była postraszona,
Z wielikim pudem na płoty wysokie skoczyla,
Ale szewni swoy chwost w rukach zostawiła.
Wiedaesz ciepier, czom kazy bies chwostow swych chodziu[ć],
A kozlata czemu od nich takie rodziu[ć].
I dla teho rodzi [6]) iesz kazynie żydowie,
Bo tak niebosczyk kazaw baćko moy, Panowie.

**Aulicus** кажа Івану, каб ён ня плёў гэткай лухты, і даець яму другое пытаньне: што такое Бог і што такое унія, патрэбная ўсім адшчапенцам?

**Iwan.** Boris iest świetoho Mikoły rożony brat; y kolip Boh nie byw Bohom, tob świety Mikoła byw Bohom, a Vniia iest Preczystoi rożonaia siestra. Tak moy Baćko niebosczyk staroiey wiery kazaw.

**Aulicus** кажа, каб селянін не гаварыў такіх слоў, дзеля таго што Бог — вечны, а сьвяты Мікалай — створаны чалавек; унія-ж не сястра Прачыстае, а злучэньне праўдзівай веры. Урэшце даець яму трэцяе пытаньне: чыя лепшая вера, і пагражаець, калі той не адкажа, „аблажыць яго кіем каля вуха, што аж да сьмерці ня прыйдзе да добрага слуха".

**Iwan.** Dobra nasza wiera Vnitickaia, da taki prawdu mowiaczy lepsza Lackaja, ta y koniackaia. Bo sczo Lach abo Vniat, to Panok, a sczo Vsmatyk, to mużyk ladaszo, da sztosz taki dobro posięku [7]) szapka. Mużykom dobraia mużyc-

---

[1]) rok chwiat — рэк: fiat — сказаў: хай станецца! [2]) Бес прыглядаўся. [3]) Zhoła — зусім. [4]) Насьлядуючы, пераймаючы. [5]) Vyrzał — ujrzał, увідзіў. [6]) Pori. [7]) Па Сеньку.

kaia wiera, sobaka zieść y bies soli; staraia wiera nasza— prawda to, — da y czort że nie mołody, da taki biesu schodzi sie, modliw sia dowcho Bohu, da y żyd molit' się da taki biesu choditsia [1]).

Aulicus кажа, што на гэты раз Іван сказаў праўду і затое зараз даведаецца, што цяпер будзе ў гэтым тэатры дзеіцца: будзе камэдыя аб сьвятым Якубу і аб яго адзінай акрасе — Язэпу, праданым сваімі братамі ў Эгіпет і пасьля імі там пазнаным.

Iwan. A czy budziet' że czort z rohami?

Aulicus кажа, што будзе й ён, бо старацца будзе падбіць братоў на Язэпа і засмуціць яго бацьку.

Iwan. A tut chto?

Daemon. A (wo)ś ia bies sysmaticki syn.

Iwan. Idź że, czorcie, od mienie do Biesa.

Daemon. Ja ciebie lublu.

Iwan. Da ia ciebie nie lublu.

# „О цары Александры".

Роман аб Александру Македонскім, пашыраны ў свой час па ўсёй Эўропе ў розных варыянтах і мясцовых апрацаваньнях, быў вядомы беларусам яшчэ ў пару царкоўна-славяншчыны. У многіх беларускіх перакладах з розных славянскіх моў і з усякімі перапробкамі і дадаткамі, ён асабліва популярны быў у нас ў 16—17 веку. Найболей чытала яго беларуская шляхта гэтага часу, лічыўшая сябе рыцарамі і знаходзіўшая ў „Александрыі" багатую крыніцу для сваіх жаданьняў і думак аб рыцарстве.

Зьмест „Александрыі" па розных беларускіх сьпісках гэтакі:

„Египтяне мудріі розумеючі меру землі, розность вод' морскіх' і ряд' небескі знаючі, то есть бег звездны̄, і теж рушане округу небесного которіі теж' на вес̄ (у в е с ь) свет' выдалі велмі широко узнане наук' чернокніжскіх'. іж (ш т о) поведают о царю іх' же (ш т о) был добре розумеючі в науце звездно̄, і в' практыце цьвічоны̄ (с п р а к т ы к а в а н ы). (О)дного часу дня некоторого, колі ему поведано, іж' хус' (А р т а к с э р к с э с) цар' перскі з моцною рукою не пріятелскою протів ему прітягнул: он' для того не порушал ріцерства своего, а ні готовал' сіл' своіх: але потаемне вшол' до особноі ковнаты (п а к о ю) полаты своеі а взявші медніцу (м і с к у) мосязовую наполненую воды дожчовоі,

[1]) Годітся — гадзіцца.

а держачі в' руце посох (к і й) мосязовы: там през чернокніжскії чары діяволов взывал, а розумел' то добре през чернокніжство во оно (г э т а й) медніцы яко шікованы (п а с т а ў л е н ы я ў в а й с к о в ы я р а д ы) люді протів ему моцно приходілі...“

Калі гэты эгіпецкі цар, чарнакніжнік Анактанак (Анектанеб), увідзіў з чараўніцтва, што няма рады ад пэрскага войска, ён абстрыгся, абгаліўся, зьмяніў вопратку і ўцёк з Эгіпта ў Македонію. А ў той час цар Македонскі, Піліп, быў выехаўшы на вайну. Анактанак спадабаў Алімпіяду, прыгожую Піліпаву жонку, зьявіўся да яе богам Амонам, і ў іх радзіўся сын— Аляксандар Македонскі. Далей апісуюцца Аляксандравы нарадзіны, яго ўзгадаваньне, забавы, конь Буцафал і г. д. Калі Піліп памёр, Аляксандар зрабіўся гаспадаром Македоніі і зрабіў слаўныя паходы на Эгіпет, Сірыю, Палястыну і Пэрсію. Перамогшы Дарыя і зваяваўшы Пэрсію, ён езьдзіў у Грэцыю і Македонію. Як Дарыя забілі, пакараў забіўцаў і пабраўся з Ракcанаю, дачкою Дарыя.

Ад гэтага месца «Александрыя» ня мае зусім нічога супольнага з гістарычнымі фактамі: у ёй скрозь нязвычайныя дзівы і буйная фантастыка.

Аляксандар пайшоў вайною на індыйскага цара Пора і паразіў яго. У паходзе на Індыю ён знаходзіць розных нязнаных і дзіўных зьвяроў і людзей, нейкіх асілкаў-волатаў і пігмеяў. Тут і дрэвы гавораць, і зьмеі-цмокі агнём дыхаюць, і скрозь багацьце нязвычайнае.

Вось прыклад са зборніка ў беларускім Нацыянальным Музэі Я. Луцкевіча ў Вільні (з украінізмамі):

С т а р о н к а 107. «О дывных людех і женах і о зверых і о муров'ях велікіх.

Александер со всім войском своім пойде на правую сторону востока і там найде в той землі много людей немых, зверообразны, і очі в персех (г р у д з ё х) мают', косматі, як свіння, очі зоркі і светятся, як звезді. С тімі людмі (Стар. 108) Александер велікую бітву чініл, і погінуло іх многое множество от войска, бо тые люді былі безбронныя.

І от того места Александер недалеко перейшол і найдет' дывныя неякія жонкі, долгія і косматыя, і очі у ніх, як кошечі, бліскают', як огон'. А на войско александрово страшно і грозно позірают'. Тогді Александер велел іх на бітву і бой повадіті. Тыя жонкі дывныя, страшлівыя і грозныя протів войска віск пустылі. Мужіе іх на тот час з гор выбеглі і сталі біті на войско александрово дерев'ем і каменіем і много побілі александрова войска. А потом, колі мекедонское войско на ніх ударіло, і так без чісла іх побілі.

І оттул' Александер вернувшіся шест' дней ішол, і нікоторой землі пешчаной дойшлі. І там нашлі моровію такую велікую в той зем(л)і, іж одна мурашка, уфотівші коня, несла у яму. Александер велел на тую яму тростіну і солому волочіті і велел за-

паліті. В тот час страшная моровія погарела і против александрова войска не вышла і не выходіла.

Попалівші Александер моровію і оттол' пошол на сіверскія горы. (Стар. 109). Пріде на некоторое велмі велікое і шырокое поле. І на том полі столп, озеро быстро і студено, а на краі того озера образ члвеческі в золоте поставлен. А на том полі костей члвеческіх, іж неможно ступіті і поіті полем. Александер вперед всіх побежал і прібежал к тому оброзу ко столпу і посмотрел на образ той і найде у того образа пісмо, напісано елінскім языком і рече (кажа яно) так: Члвече, еслі схочеш пойті край света, дошедші столпа, верніся, бо не может члвек даліе от того столпа поіті. Я есмы цр Сонсохос, іж был есмы всего света цр і хотел есмы край света сойті і выведатіся. І взышол есмы на сіе поля велікое і широкое з войском своім. А оні востали на мене, дывныя люді, і побілі войско мое і мене самого на сем полі убілі. — Тыя словы Александер прочітавші, закрів пісмо тое для того, іж бы войско его не устрашілося пісма і не прочіталі. А потом мекедоняне пріступілі ко Александру, пыталі его, рекучі (кажучы): Велікій црю Александре! повіжд' (павед а й) нам, шчо указует' пісмо того образа.—Александер ім рече: Сладку оквітную (цьвітучую) землю перед намі указует', куды маем пойті. — Оні тому возрадоваліся.

(Стар. 110). Тогді у тогу езера Александер совсім войском своім стал. Кухар александров взял вялых рыб і хотел в том озері обмыты і прішол ко озеру і умочіл у воду рыбу. Скоро обмочіл, так рыбы ожылі і з рук у воду утеклі. І пошол кухар отповедаті тое Александру. То слышавші, Александер подівіліся тому. Ішол сам напервей к тому озеру іскупался і всему войску своему велел купатіся і с конмі. Як же скупался, так же всі моцны сталі от того жівушчаго озера. І коні, которіе сп(р)ацованые, старія люді, всі сталі молоді і кріпкі, і раненныя, которыя немошчныя, всі поздоровелі. Тут Александер у того озера трі дні стоял і войску своему отпочнуті казал.

Александер от того озера пошол со всім войском своім. І дойдут' некоторіе горы велмі высокія і страшное. І блізко той горы прішед і стал со всім войском своім і убачіл в той горы страшлівые люді, от места до места переходят і грозно і страшно на войско позірают. Ведініем (выглядам) велмі ст(р)ашны, двух сажон ліцем, долгі і косматі, очі іх овчіі. Відывші іх, Александер подівілся ім і боялся тых людей страшлівых. І помышліл собе, мовячі: Заправды (Стар. 111) тые сут' люды, іж некотораго часу цря Сонсохоса на сем полі розбілі. —І велел Александер войску своему направітіся на ніх ударіті, коштуючі і пробуючі тых дывных людей, послет до ніх одну жонку. А жена пріступіла блізко горы і села. Едін с тых людей выскочіл і почал кусаті...»

Быў Аляксандар навет у такой зямлі, дзе заўсёды цёмна, бо сонца з-за вялікіх бяз меры гор ніколі ня відаць. Ён на грыфах узьлятае на неба, нырае на дно мора, запірае ў горах паганыя народы Гога і Магога, гутарыць з голымі філёзофамі-брахманамі, мае перапіску з амазонкамі і г. д.

Вярнуўшыся ў сваю новую сталіцу Вавілон, Аляксандар паміраець. Яго атруцілі прыбліжоныя.

На гэтым „Александрыя“ канчаецца.

## Повесьць а Трої.

„За часов колі царствовал двд' (Д а в ы д) сын' іесеов в землі жідовско был' в' елінех цар' поморскі іменем прідеш'. которі одного часу для ловеня зверу заплыв до некоторой велмі оздобноі (п р ы г о ж а й) і веселоі выспы (в о с т р а в а). в которо з одноі стороны прілежіть море велікое; а з другоі скомандра река; з третеі стороны пелешіно море або озеро велікое: з четвертоі стороны прітягнул луг' названы додома: а з пятоі стороны доліна і лес' пріточіл' где велмі есть садового і розмаітого (с а м а г а р о з н а г а) дерева уподобал собе цар' оны (г э т ы) остров' і положене, зараз на імя свое место заложіл которое муровал' аж до смерті свое. Пріказал теж' і сыну своему уміраючі абы не переставал оного места будоваті. І так' одін другому уміраючі по собе поводь давалі...“

Троіл закончыў будаваньне Трої. Наступнікам Троіла быў Прыям, жонка якога, Якама, сасьніла, што ад яе радзілася галавешка, спаліўшая Трою. Чараўнікі разгадалі гэты сон так, што ў цара Прыяма родзіцца сын, за каторага Троя пагіне. Якама, жадаючы, як і ўсе, пазбыцца гэткае бяды, дзеля матчынай любові даручаець, аднак, свайму слузе занесьці і кінуць нараджонае дзіця жывым воддаль ад места ў пушчы. Тут знайшоў яго пастух, узгадаваў і назваў Фарыжам (Парысам). Ужо на сёмым годзе хлопчык звадзіў быкоў біцца і быка-пераможцу азначаў вянком з аліва, а пераможанаму ўскладаў на рогі вянок з саломы. Калі ён вырас, яму карціла хадзіць да панскіх дзяцей. Трапілася яму неяк быць на адным балі.

„Былі теж на оно (г э т а й) учте трі невесты вешч'кі (ч а р а д з е й к і), которіх елліні за богіні мелі“.

Парыс мусіў прысудзіць яблык самай з іх прыгожай.

„А фаріж прізнал елнушу межі оныі богіні оздобнешою“.

Гэтая багіня сказала яму, што ён не пастухоў сын, а Прыямаў і Якамін. Тады ён вярнуўся да сваіх праўдных бацькоў, і яны прынялі яго, але пачалі ізноў будаваць Трою дзеля яшчэ лепшай абароны.

„Тебуш' іграл в гуслі а место ся само будовало. а непте-набущ понырал в воду (мора) і выносіл камень і вапно".

Тады Парыс выпраўляецца да Мэнэляя быццам на службу; упадобіўшы тут Алёну, уцякае з ёю ў Трою. Грэцкія гэроі знарадзілі супроць траянцаў паход; пачынаецца вайна, якая цягнецца 9 гадоў. Далей — Ахілесаў гнеў, прыгода з Брызэідаю, Патроклава сьмерць і Ахілесаў выступ на вайну. Прыям запрашае на падмогу амазонак і чорных індыйцаў. Царыца Эўтропія, Гэктарава жонка, сасьніла, „яко бы вышла з трої места мечка *)", якую здужаў вапер (дурны знак Гэктару). Ня гледзячы на жонкіны ўпросы, Гэктар ідзе біцца і знаходзіць сьмерць. Прыям прыходзіць у грэцкі лагер да Ахілеса па сынаў труп, які і аддаюць яму. Тады-ж Прыям кажа Ахілесу:

„подіва до церкві бога аполона і учінімо прісягу і приміре не воеватіся межі собою".

Ахілес ідзець. Але тут Парыс, на злом веры, забіваець яго. Ізноў пачаліся бязупынныя бойкі, ды грэкі не маглі адалець траянцаў—і толькі з драўляным канём забралі горад. Мэнэляй загадаў сячы галовы Парысу і Алёне; тое-ж было зроблена і многім іншым асобам.

„А так' менела цар' Грецкі воротіл ся до Грецеі з славою а звітежством (пабедаю) велікім. Стоял под троею 10 лет' і 7 мсце. І так' конец' стал ся троскому панству"...

„Омір (Гомэр) автор' тоі троскоі повесті".

## З „Історыі о Атылі, королі угор'ском'".

... Кгды (калі) перед давнымі часы гуннове, або як ніне (цяпер) посполіце (ў народзе) зовут угрове, із своімі княжаты Белем, Кэвом і Надыком положыліся былі обозом над' рекою Тісою, тогды в тот' час' в Пан'нонеі, то ест' в том' краю, которыі тепер' угорскім' зовемо, мешкалі разные народы, а украіные местца для наездов' непрыятелеі сторожу держечы і до обороны готов' будучі держал с тое стороны Дуная неякіі Матернус...

... Атыльля тогды, которого по угорскі зовут' Этэле, был середнего узросту, персеі (грудзей) і плечеі широкіх, головы водле ін'шых члонков померное, облічя чернявого, очю светлых, носа закрывленого, походу гордого... на працу телесную, на голод', на спанье, на студень і на горачость велмі терплівыі, велікого серца, рады доброе і смелыі, рукі хісткое і мужное, в речах рыцэрскіх' учоныі, до славы велмі хотлівыі..., в бітве всего доглядуючыі..., а протів покорных' лацныі (добры) і мілосердныі.

---

*) На полі рукапісу зроблен вынас: мядзьведзіца. Слова „мечка" — сэрбскае: беларускі пераклад „Повесьці а Трої" быў зроблен з сэрбскае мовы.

## З повесьці

**„о вітезех с кніг' сэрб'скіх, а звлашча о славном' рыцэрі Трысчан(е), о Анцалоте і о Бове і о іншых' многіх' вітезех' добры(х)".**

... І колі прыехалі, Трышчан (Трыстан) даровал Іжоту (Ізольду) королю Марку (свайму дзядзьку) і рече (кажа): королю, маеш' мі за нее дяковаті, што есмі тобе ее другіі раз мечом добыл. Кроль Марко дяковал' ему, говоречы: Мої мілыі сестрэнче (сын сястры) Трышчане, ты много доброго вчынiл', а я твоі (твой) і все твое, што я маю, будь на твою волю. Трышчан поклекнул' на колені і вздал' фалу господу богу і потом дяковал' королю Марку велмі покорне. І тут' была вся Корноваля вместе, і не был ні стар ні молод, хто бы не іграл а не танцовал і не веселіл'. І так былі раді, як' бы ім сам' бог' прышол, іж былі так веселы, лепеі ніж тогды, колі ім перво Іжоту прынес' із Орлендэі...

## З повесьці „о Бове" *).

**Старонка 184.** ... і пойде Бова на мора і обачіл корабл' велмі далеко. І почал по берегу морскому бегаті і стал крічаті велікім голосом, абы его корабляне взялі. І відыт' Бова, што его коробляне не чуют'. І знял із себе сорочку і почал могаті. Коробляне уві(дзе)вші і почалі меж собою говоріті: Едмо к берегу; колі будет' татарін, то мы его забіймо, а еслі будет' хрістіянін, то мы его возмімо до себе. — І прјехалі до него і почалі его пытаті. Што есі за члвек, як тебе зовут'? — Бова рече: Я есмі хрістіянін, а мене зовут' Бовою. — І сталі его корабляне пытаті: Якого ты роду, отца і мті сын? — Бова речет': Отец мой был млынар, а мті моя добрім женам хусті пірала і тым ся контентовалі, як убогіе люді. — Выслухавші коробляне то, взялі его в корабл'...

**Старонка 188.** ... і сталася велікая бітва точіті. А Бова на тую бітву много дывілся і не утерпіл, а хотел моці своей попробоваті. І почал выражатіся на бітву протів Маркоброна. І взял жордку подле ворот, што ворота запірают. І стрітіл его едын млднц, протів его ідучі, і горко плачет'. Пытал его Бова: Млднче, чего ты плачеш? — Рече до него млдц: Як я не маю плакаті? Убіто у мене сей бітвы добраго пана. — І просіт у него Бова: Дай мне, млдче, свой меч. — І дал млдц свой меч і шчыт. І пріблїжілся Бова до того войска, а цр Маркоброн обачіл. І наступіло на Бову десят члвек, а Бова тых жердкою побіл. А потом на него наступіло шесдесят чловек, і тых Бова жерд(к)ою побіл...

---

*) Па зборніку ў Беларускім Нацыянальным Музэі Я. Луцкевіча ў Вільні.

## З аракулу „Загадкі цара Давыда“.

Аракул зьмяшчаець многа розных артыкулаў. Калі хацелі варажыць, кідалі зернетка ці якую галачку на круг з нумэрацыяй. Супроць якога нумэра лажылася галачка, пад такім нумэрам чыталі артыкул ў „Загадках цара Давыда“, як адказ на задуманае.

ПН. Як ворог в сіло увяз'нет' і невыдерется, так і ты, члвче, не помышляй на чужое, бо і ты в сіло впадеш і не выдересся, і там згніеш, бо недобро ест'.

РКД. Члвче, робіш і працуеш до поту і прав'дою на світі живеш і шчіростію ідеш; гсд бг тебі на помошч; добро ест'.

## Сымон Полацкі.

(1629 — 1680).

### З ЯГО МАСКОЎСКІХ ВЕРШАПІСАНЬНЯЎ.

1.

Магнітом' натренное железо пріемлет  
Сілу магніта: іглы железныя вземлет'  
К себе, едну по едной, доколе есть сіла,  
Юже Божія крепость в' той камень вложіла.  
Подобне праведніцы в' міре сем' творяют':  
Данную себе мудрость іным' ю подают'...

2.

Людін' обрете змія умершчвленна  
Мразом', і на путь во снег' ізверженна,  
Мілость сотворі, в' недра положіл' есть,  
Іже согревся воскоре ожіл' есть,  
Нача ползаті, потом' уязвіл' есть  
Мужа безумна, іже і согрел' есть.  
Тако і тому обыче быватi,  
Кто злыя мыслі любіт' согреваті;  
Ібо помалу ты ся ожівляют'  
І мыслітеля смертне убівают'...

вземлет' —бярэць.  
Юже — якую, каторую.  
ю — яе.  
обрете — знайшоў.  
мразом' — марозам.  
ізверженна — кінутага.  
уязвіл' — укусіў.  
іже і — каторы яго.  
обыче — звычайна.  
ты ся — тыя сябе.

# Занапад.

(18 век).

## З „Катэхізму капланскага“.

**Чы мают' кождого дня Ерэе моветі, под грехом смертельным, Полуношчніцу, Утрыню, Часы, Вечэрню і Павечэрню?**

Ответ. Рымляне повенны под грехом смертельным, але Грэкове і Русь не повенны под грехом смертельным, бо Рымляне мают' доходы велікіі, а Русь мусіт' сама собе хлеба зарабляті, Рымляне мают' пацеры малые, а Руская Полуношчніца, Утрня, Часы, Вечэрня і Павечэрня долгіі сут', повенны еднак Монахі кождого дня, а Ерэі тогды, колі мают' Службы Божыя отправоваті, Полуношчніцу, Утрню, Часы, Вечэрню і Павечэрню отправеті.

**Чы повенны Ерэі своіма рукамі ораті, сеяті і прочая дела служэбнічая совершаті?**

Ответ. Не повенні, але мают' собе трыматі слуг до такіх робот, бо для того, жэ в некоторых Діэцэзыях самі такіі роботы робят, сут' в неповазе, зажывают' іх людіе незбожныі в подводы, прымушают' до даванія чыншов і до іншых Станові Ерэйскому не прызвоітых тяжаров.

## З камэдый Смаленскай сэмінарыі.

### 1. СЕЛЯНІН У КАСЬЦЁЛЕ.

У гэтай сцэне, напісанай, як і езуіцкія інтэрмэдыі, на рэлігійным грунце, захмялеўшы селянін трапляе ў касьцёл. Пачуўшы музыку, ён там скачаць. Яго вытурылі вон, закавалі ў зялезы. Панпаляк сварыцца на яго. Селянін кажа:

Ох'ці мне, ці ведает' то ета моя баба, што я вь ета ліха попаўся і етым бязделлім обчіпався, каліб' уже і на свеце не было! а всіо яна, як' вужа вілами, так' мяне: ін' ідзі, дак' ідзі у Любавічі, ці ні пападзетца чаго гуляючі; і Богу помолісся, і з (с)ваімі павідзіся. Авось така і ці (па)падіетца чаго купіць,—а всіо каліб мужіка з двора збыць... Ну вот', правды яе і паслухаіся да і падзісь!

Паслухаўшы яе і пайшоўшы, ён сустрэўся з кумам; яны выпілі і пайшлі ў касьцёл:

Ажну там і сталі брязгаць, по нашему то к' обедні, а па іх к' замші; вот' я і паідзісь у іх' хасціолу, ажну там' як' заіграюць: хто в' дудачкі, хто в' свісцелачкі, а хто в' тарарычкі. Вот' я, правды, ня бывші ліх', да і падзісь скакаць, а тут' пат тую пару і прідзісь по нашему поп', а по іх' хазан...

Сцэна канчаецца бойкаю.

## 2. СЕЛЯНІН У СПОВЕДЗІ.

**Сьвірыд.** Ох'ці мне, Змітруче, усе то от детак!.. Толка кажуць: ідзі бацка к' успаведзі, ты не разу в' церкві не быв,—да і упіхнулі бацку, як' дурня в' церкву, кажі дзі, бацка, тоя, што поп' будзіць казаць. Вот поп' кажіть: „Ці быв ты хуть раз' в' усповедзі?" — І я папу: „Ці быв' ты хуть раз в' усповедзі? — „Што ты, знать, нехряшчонік'?" і г. д. Вот' за тое поп' на мене і моністы наложів'...

**Зьмітрок** (спамінаючы, як маліліся яго дзяды). Яны малівакіся по прастацкому, а не по пісмянному: ... Слава Цябе, Господзі, сушчую, часнейшую, ізбранны воявода, радуйся нявеста, усі чіны манашескія, святая трапеза... і кала і двора, і скацінкі і шарсцінкі, алілуй нас' да канца века. Амінь. І шарпні, Господзі, па душі і па целу, па жонкі і па дзеткам', святое сягодні, святое і завтре.

# З „Камэдыі" Марашэўскага. *)

(1787 г.).

„Камэдыя" была напісана лацінкаю. Па прыкладу псэўдаклясычных драм, у ёй захована адзінства месца, часу і дзеяньня. Яна складаецца з трох актаў, адбываецца ў полі пад лесам.

У першай зьяве першага акту **селянін кажа:**

Ох, як нешчасьліваё жыцьцё маё! Хаджу я, хаджу пераз цалютанькі дзень, аж ногі анямелі, рук ня чуваць ад працы і тапара, а горш яшчэ ад цапа. Малачу ад самых курэй, мала што не да паўдня, як-бы сам адзін. Праўда, што і жонка памагала, да што-ж яе за работа? Ведама жаноцкая справа: цюкнець колькі разы цапом, аж зараз яе ліха і бярэць — то сядзець, то

*) Прафэсара рыторыкі і поэзіі ў Забельскай гімназіі (пры Дамініканскім манастыры Дрысенскага пав. Віцебск. губ.

ляжаць..., а потым яшчэ з гоманам і кляцьбою пойдзець. Папытаюся я толькі яе: „Куды пойдзеш?“ — аж зараз скажаць: „Дзяцей карміць, страву варыць“. А я як пачую, аж яна ўпіўшыся ў карчме пад лаўкаю, як сьвіня, качаецца. А я сам, адзін, як цюк, так цюк, малачу аж да поту. А як сьвет, аж жонка і тут ужо кажаць, што дроў нада насеч. Хоць ты трэсьні і прападзі з тапаром! Ад цэпа яшчэ не адайдуць рукі, аж тут ад тапара мала што не адсохнуць; гэта жарт — нарубай у печ, у асець, у бровар, а ўсё як адзін, так адзін... Вот і цяпер, у лес трэба ехаць, а не з кім; гэта жарт, аднаму сасну спусьціць, пашчапаць і на воз, хоць ты трэсні, зваліць трэба, а прывёзшы да хаты і парубаць; а ўсё, як я казаў, памагчы некаму. Прападзі яно нешчасьліваё жыцьцё нашаё, бо ўсё як гараваць, так гараваць мусім.

Каб-то Адам, першы наш ацец, не зграшыў, так-бы і мы гэтак не працавалі-б. Ох! Дурак ты, дурак, нашто табе было ірваць яблык з дзерава праклятага? Прападзі яно: каб мне ня велена было, то-бы я а ні парухаў-бы, а мы-б у Раі, як паны-б, на зямлі жылі-б, клопату жаднага ня мелі-б, аб сярмягу тагды не хлапацілі-бы се, і голые-б у Раі перахадзілі-бы, а цяпер, як сярмяжка зьдзярэцца, хоць ты з галавы выйдзі, не адкуль узяць, а горш, што не за што купіць. А тут і зіма надходзіць, і ўстыдна, а я і шэлега пры душы ня маю! А пан, аднак, на тое не глядзіць, да ўсё крычыць: заплаці..., заплаці, вужава кроў, мужык! Ага ту! ага ту, на цябе, Адам, Адам, як ты нас пагубіў. Ох, каб-то я, я, я...

Зьяўляецца **карчмар**, і ў іх пачынаецца сварка, затое што селянін ня плоціць за гарэлку. Канчаецца яна тым, што карчмар уцякае, кажучы: „Будь здароў, дзякую, што з душою мене пусьціў“.

Селянін ізноў наракае на Адама, аж тут прыходзіць **чорт**, прыбраўшысь панічом. Ён вядзе з селянінам даўгую сьмяхотную насхолястычную гутарку. Пазьней умешваецца і карчмар. Нарэшце селянін робіць з чортам заклад, што ў працягу аднэй гадзіны ня скажа ніводнага слова. Чорт мае плаціць грашмі, а селянін, калі прайграе, павінен быць яго падданым. Зробіўшы ўмову, чорт называе сябе, кім ёсьць, і скідае з сябе панскую вопратку. Селянін страшэнна палохаецца, памкаецца ўцячы, але чорт пагражае, што забярэць яго душу ў пекла, калі ён адрачэцца ад умовы.

Пасьля гэтага, у *пятай зьяве*, селянін бядуе:

Ну ж, папаў-жа я залажыцца! Ох, каб я ведаў, хто ён ёсьць, не ашукаў-бы тагды ён мяне; а цяпер і рады сабе даць не магу, што маю рабіць? Аднак, заклад датрымаць трэба, бо з д'яблам жартаваць не патрафлю: ашукаў-жа ён мяне! Каб-то можна было, адрок-бы се і закладу, да ён не адступіць. Вот

бяда: не а цяжкую-то, праўда, рэч тут ідзець, маўчаць—здаецца —патрафлю; гэта-ж не вялікая рэч пераз гадзіну маўчаць. Я напару пераз цалютанькі дзень маўчу, калі ў полі раблю,—так мне ня цяжка будзець закладу дадзяржаць. Да як-жа ўжо дадзяржу, так буду мець сто рублёў, а можа і болей, як ён сам казаў. Тагды-ж я сабе статку накупляю, пану, што вінен, аддам, і яшчэ на гарэлку, з малацьбы ідзя, напіцца застанецца. Арандар тагды ня скажаць, што ня дам. Ох, каб ён тагды сказаў, што ня дам, то-бы я яго... адною рукою за пэйсахі, а другою паказаў-бы грошы... Тагды-бы ён быў для мяне лепшы!.. І суседзі тагды будуць мне кланяцца, калі абачуць, што я багаты. А Гарасім, хоць мой вялікі непрыяцель, аднак—спадзяюся—што будзець кланяцца, каб я толькі яму на чынш грошы пазычыў; да нет! не варвецы! зьесьць чарта — ня дам... ня дам, хоць-бы і зьеў: няхай розуму наўчыцца... І д'ябла ўжо чорт нясець: трэба губу затыкаць. Ужо мусіць быць тая гадзіна.

У шостай зьяве ізноў зьяўляецца чорт і кажа селяніну, што зараз праб'е гадзіна, ад якой ёй павінен будзе маўчаць. Дэкляруе даць за выйграны селянінам заклад цяпер сто рублёў і яшчэ што году плаціць па столькі-ж. Селянін кажа: „Дацерплю, бо губу пакулем, у дзёгаць памачыўшы, заткаю“. Чорт радзіць яму не рабіць гэтак і адходзіць.

У сёмай зьяве селянін разважае:

Вот цяпер абачым, хто каго пераможаць. Ён кажаць, што мяне возьмець да пекла, калі маўчаць ня буду, а я кажу, што ён і з родам сваім не дажджэць, бо я гатоў сабе губу на калодку замкнуць. Але, праўда, прыпамінаю сабе, нашто мне тыя калодкі, нашто тое пакульле з дзёгцем. Вот калі захочацца гаварыць, так я рукою губу заткаю, вот гэтак. (Паказвае). Абачым, што ён мне тагды зробіць! А коньча выграю сто рублёў; вот тагды мне будзець добра. (Садзіцца. Гадзіньнік б'е).

Зьява 8-ая. Прыходзяць **трое дзяцей**. Дзеці хочуць лезьці на неба хваліць Бога, але ня ведаюць, як падняцца. Тут сьпусьцілася з неба драбіна. Але дзеці ня ўмеюць лезьці й па драбіне: то бягуць аднымі нагамі, то паднімаюцца на руках, а ўзьлезьці ня могуць. Селянін вучыць іх на мігі, моўчкі. Ня ўцерпіўшы, кажа: „Вот гетак трэба лезьць. Вы ня ўмееце: абачыце, як я зараз улезу да неба“. Ды як толькі ён узяўся лезьці, драбіна паднялася, а ён заваліўся на зямлю.

Зьява 9-ая. Выскаківае чорт, хапае селяніна й цягне.

**Чорт.** A przysięga gdzie? Przyrzekłeś, że będziesz milczał; poszedłeś w zakład, a oto nie dotrzymałeś: ja ciebie teraz do piekła poprowadzę *). (Цягне, селянін устае).

*) А прысяга дзе? Зарокся, што будзеш маўчаць; пайшоў у заклад, а вось не дадзержаў: цяпер я цябе ў пекла павяду.

**Селянін.** Мой ты наймілейшы дабрадзею! Прапрашаю, выбачай мне, бо гэтыя блазны да астатняе злосьці мяне ўвялі. Чы ім Бог розум адабраў, чы што ў чорта, як ім не пазнаць таго, як лезьць трэба па драбіне.

Чорт вымагае, каб селянін ішоў у пекла. Селянін просіцца, бо хоча пажыць яшчэ на зямлі. Тады чорт вымаўляе селяніну, што ня трэба-ж было наракаць і на Адама, калі сам не цьвярдзейшы за яго. Урэшце пазваляе селяніну пажыць пакуль што яшчэ на зямлі, каб паправіцца.

У зьяве 10-ай селянін кажа:

Вот у якую я бяду ўлез! Хвароба тых блазноў на маю галаву прынесла. Вох, якія яны дуракі: на драбіну хацелі ўлезьць то аднымі нагамі, то аднымі рукамі, то вешліся, ліха ведаець, што яму рабілі; а я бачыў, што дужа прыгожа згары нехта іх прасіў. Да як-жа было маўчаць, хоць трэба было, бо я пашоў у заклад, але я тагды і забыўся, як мяне ў злосьць увялі. Няхай-жа буду на другі раз астаражнейшым! Зьясі ты ліха, пане д'ябле, калі мяне болей ашукаеш! Каб ты цяпер і недзьвядзёў на мяне спусьціў, то ўжо буду маўчаць. Цяпер яшчэ схаджу дадому, пакуль тая пара ня прыйдзець. Трэба абачыць, што там дзеецца: работку якую сабе загадаць, а ўзад потым сюды прысьці. Гэтыя сто рублёў мушуць-такі мае быць коньча!

У другім акце селянін сам просіць чорта яшчэ пайці ў той-жа заклад. Але з ім паўтараецца подобная-ж гісторыя, калі **тры браты** (гавораць яны папольску) ня могуць пралезьці скрозь вузкія дзьверцы, каб знайці скарб.

У трэцім акце селянін у трэці раз прайграў заклад: загаварыў **з пакутнікам.** Чорт ужо не даруе і нясець яго ў пекла.

# З макаранічных вершаў.

Яко ценцерук у лесе балбоча,
Так мое сэрцэ до цебе сакоча!
Ні верашчака, келбаса, сялянка,
Ніц мі не міло без цябе, каханка!

Рве сен мэ сэрцэ, як гуж у хамуце,
Кеды пшыядэн і сёндэн на куце!
Ды ўжо-ж насохся, як лапаць у печы, —
Горкая доля... А хто-ж мен улечы?

* * *

За пенкнай паненкай аж душа сумуе,
Як тая зязюля жаласна кукуе.
Як ня бачу панны, жыцьце мне — магіла,
Бардзо болі глова, уцякае сіла.

Дам я тобе зэгар, а велькі, як рэпа, —
Нех пры твоім сэрцы заўшэ моцна клепа,
Хай наўпамінае, цо я ці поведзіл,
Што і ў дзень і ў ночы неспокойне седзел.

Ніц мі — нічога мне.
Рве сен мэ — рвецца маё.
Кеды пшыядэн і сёндэн — калі прыеду і сяду.
Мен улэчы — мяне вылячыць.
пенкнай — прыгожай.
бардзо болі — дужа баліць.
заўшэ — заўсягды.
Зэгар — гадзіньнік.
Цо — што.
Ці — табе.

# Несьвядомае адраджэньне.

## Вікеньці Равінскі.

(1782—1842).

### З „БЕЛАРУСКАЙ ЭНЭІДЫ“.

Жыў-быў Энэй, дзяцюк хупавы [1]),
Парнюк няўвошта украсіў [2]);
Хоць пан, а ўдаўся нялукавы,
Даступен, весел, не грабіў;
Но Грэкі вуйму [3]) нарабілі:
Як ляда, Трою ўсю спалілі.
Кашэль ён згробшы—на уцёк,
І швыдка зробіўшы чаўнок,
Траянцамі яго набіў
І ў мора з імі ён паплыў.
Якась Юнона, баба злая,
Адродзьдзя панскага, ліхая,
Шукала ўсё яго згубіць,
На дно у пекла пасадзіць.
Затое, віш ты, ня ўзьлюбіла,
Яго Вэнэра што радзіла.
Юнона воблак адпіхнула,
Ды з неба на мора ўзглянула:
Плывець на чаўнаку Энэй.
„Ах ты, някруціна, зладзей!
„Вось я цябе скручу ў табаку,
„Ражном у мора, як сабаку!“
Панёву [4]) швыдка нахапіла,
Кашэль шашнямі налажыла,
Ў калёсы села, пакацілась,
Якраз ў Эоля апынілась.
Ўвайшла ў сьвятліцу—ды й на кут.
„Здаровы ўсе! Эоль ці тут?“
Эоль сядзеў тады ля печкі,
Мязгу скабліў на перапечкі
І лапці ліпай падплятаў.
Ён тут аборы падабраў,
Заткнуў за пояс кацатыг [5]),
Скаціўся з печкі ў адзін міг.
„Здароў, хвігурная [6]) Юнона,
„Цябе даўно я ня відаў!“
І, тры ёй зробіўшы паклоны,
Мякотнага на стол падаў.
Яна мякотнага пад'ела,
Уцёршысь так яму запела:
„Чы ведаеш маё ты гора?
„Энэй з траянцамі плывець:
„Сьпіхні яго ты, сват, у мора,
„Няхай паганец воду п'ець.
„Мяркую, чуў, Энэй то—зводнік,
„Буянец, злодзей, канаводнік;
„Траянцы такжа ўсе латрыгі,
„Ўсе бабнікі і ўсе юрыгі [7]);
„Іх нада ўсіх са сьвету зьвесьць;
„Калі, сват, зробіш тую чэсьць,
„То я дзявухну украсіву,
„Салодкую, як з мёдам сьліву,
„Табе за тое прывяду“.
Эоль разшупіў тое дзела;
З яго аж сьлюнка пацякла,
Дзявухна па нутру была.
Заскробся, барадой затрос,
Вусы разгладзіў, пацёр нос,
Хапіў напойку [8]) табаку,
Лупіў ён зубы, барматаў
І рэч Юноне ён таку
З паклонам, віш ты, адказаў:
„Ах вох-ці мне, мая Юнона,
„Ніводнага-ж нет ветру дома;
„Што буду робіць я цяпер?
„Барэй з пахмельля, як вапер,
„Ляжыць ў сьвятліцы на казёнцы [9]),
„А Нот учора зьехаў к жонцы,

---

[1]) Спрытны, круткі, рухавы. [2]) Хлапец досыць прыгожы. [3]) Бязладзьдзе, вайну. [4]) Добрую спадніцу. [5]) Лапатнае шыла. [6]) Стройная. [7]) Распусьнікі. [8]) Колькі трэба для аднаго разу. [9]) На тапчане.

„Зэфір з дзявухнамі заграўся,
„А Эвер ў батракі наняўся:
„Як хочаш, ты сабе зьмякай [1]),
„Ды мне дзявухну даставай,
„А я ўсё зраблю . . . . . ,
„Са ўсіх глуздоў іх сьцебану,
„З траянцаў выдаўлю алею,
„На дно у мора заганю.
„Твайго-ж набольша ліхадзея,
„ . . . . . . . . . Энэя,
„От так папру із дзяцюкамі,
„Аж булькаць будзе пузырамі,
„Як ў вір усіх торч галавой
„Намесьнік сьцягнець за сабой!“
І вось Эоль, галень схапіўшы,
На паншчыну гукаць пачаў.
І, ўсе ён ветры распусціўшы,
Бурліць ім мора наказаў.
Калі хто відзіў, як Бахціха [2])
Нямецка піва задаець;
Яко яно падымець ліха,
Запеніцца і розна прэць, —
От так і мора заравела,
Бурлілась, пенілась, шумела.
Энэй упудзіўся, ўсхадзіўся,
Матуз аж ад штаноў зваліўся.
Са страху й нюні распусьціў
І як у трасцы ён завыў.
Траянцы ўсі казлы задралі,
Са усіх чароў яны гукалі:
„Ў балоце быдла, Лісавей!“ [3])
Ачухаўшысь ўскрычаў Энэй:
„О цар-царэвіч, тат [4]) Нэптун!
„Ня буду прад табой брахун.
„Зьмілуйся, мора ты зьміры!
„Картузнай я прышлю цяртухі, [5])
„Сударскай [6]) моцнае сівухі,
„А грошы сам з тайстры бяры“.
Нэптун да грошы меў ахвоту,
Гарэлку добра ён сьцябаў,
Пазнаў, што будзе за работу,
То срога ветрам закрычаў:
„А вон, нячысты някруціны,
„З якей фантазіі вы тут?
„Глядзі, скаштуеце дубіны,
„І ноздры вам ражном утруць“.
Вось досыць ветрам тут зьдзікацца:
З Нэптунам, званлі, якей жарт.
Дамоўкі сталі убірацца,
Як ад Кутуза Банапарт.
Тут раптам неба спагадзелась,
Усплыла сонейка, з'ясьнелась.
Энэй, уцёкшы так ад бед,
Састрапаць загадаў абед.
Траянцы ўзялісь за ядзеньня,
Як з поля панскія харты:
Была ў іх з затаўкай крупеня,
Кулагу пхалі ў жываты,
Была ў іх гушча і драчона
І парасяціна смажона;
Пілі гарэлку не каўшом,
Цягнулі ў волю ўсе нагбом.
Усячыны панасьцябалісь
І на палацях спаць паклалісь.
Вэнэра з кірмашу вярнулась,
На Ўшэсьці, відзіш ты, была,
І аб Энэяньку дачулась,
Юнона як яго спрагла.
Андрак [7]) з насоўкай апранула,
З падплётам ўзьдзела кавярзьні,
Анучкі рабыя абула,
Як быццам войта селязьні.
Твар сыраваткаю абмыла,
Кужэльны узьдзела балахон,
Папранік [8]) ў хустачку ўлажыла,
Пайшла да Зэўса на паклон.
А Зэўс тагды сядзеў у клеці,
Гарэлку з мёдам там сьцябаў,
Бяз сораму, як малы дзеці,
З падоньня палцам калупаў.
Прыйшла Вэнэра і завыла
І так зазюкала яна:
„А чым перад табою, бацька,
„Мой абмішуліўся дзіцяцька?
„Зюкні, яка яго віна?
„Ня ўзьвідзяць Рыму яго вокі,
„Калі Юнону ня уймеш,
„Зьядуць на ростанях сарокі,

---

[1]) Мяркуй, бяры ў цям. [2]) Піваварная фірма ў Смаленску. [3]) Крыкамі пастуха перадражніваюцца гукі ванітуючых людзей. [4]) Пакарочанае панароднаму: тата. [5]) Табакі. [6]) Панскай. [7]) Суконную спадніцу. [8]) Пернік.

„Сатрэць яна яго ў кулеш“.
Тут Зэўс, гарэлачку дапіўшы,
Ражком ў халяву пастучаў,
Цыртухі моцнае зажыўшы,
Таку гаворку адказаў:
„Дапрэць Энэянька да Рыму
„І будзе тама ён царом;
„Палепшы Чыжаўскіх харом [1])
„Паставіць каменны палаты.
„Паны-ж ня будуць там багаты;
„Свае чаны ён завядзець
„І ўсё на одкуп пабярэць.
„Цяпер завернець к Карпагені,
„(У Дыдоны, відзіш, талака).
„Папрэць у волю ён смажэні,
„Ад'есцца з добрага быка.
„Папарыцца ён там у бані,
„Падпусьціць хвігля самой пані:
„Закруціць дужа галаву,
„На любжу прывядзець ўдаву.
„Ідзі, дачухна, ня турбуйся,
„Ды скорамам, глядзі, ня псуйся.
„Ні з кім саромна не клянісь
„І ў Сташкаў Нёбе пакланісь. [2])
Вэнэра тут яму прысела,
Хранцуз паненак як вучыў;
Пайшла, свадзебную запела:
Зэвэс ёй дужа дагадзіў.
Энэй ачухаўся, паскробся,
На ногі лапці падвязаў,
З палацей да кута дагробся
І плыць надкорніку казаў.
Плыў, плыў, аж ў вочах зьзеля-
[нелась
І горшы талакна прыелась:
На мора ведзьмай ён глядзеў.
А там пачаў ужо зьдзікацца,
І так ні к чому стаў злавацца.
Казаў: „Што-б лепшы на пагосьце
„Схаўтурылі мае там косці,
„Дарэмна з Трої пакруціўся
„І валачобнічаць пусьціўся.“
Ён з гора піпку закурыў
Ў балону галаву спусьціў...

Аж зірк у мора — і сказіўся,
Запеў „Ізбранную“ [3]), заксьціўся:
„Глядзіце, браццы, вун сяло!“
Тут ўсіх за сэрца узяло.
Якраз на бераг прывалілі,
За плот чаўнок свой прыкруцілі;
Па шклянцы выпілі сівухі,
Пад'елі нашча саладухі,
Камоў з сьмятанай і „глазухі“; [4])
Пайшлі у горад пагуляць.
Бягуць, як батракі з прыгона,
А ім ў варотах, тыц, Дыдона,
І стала так на іх казаць:
„Глядзі, які-ж то абарванцы.
„Ці смоль вы з Шчутча вязіцё,
„Ай вы Духанскія цыганцы,
„Курэй з падклецьця крадзіцё?
„Чаго сюды вас прыкруціла?
„Я й так дзесяцкага прыбіла,
„Што ён распраўшчыны ня знаець
„І без прашпорту ўсіх пускаець“.
Як валасьні [5]) закапашылісь,
Пластом траянцы паваліліcь,
Сачэнь Дыдоне паднясьлі;
Таку гаворку зацяглі:
„Мы ўсе з Траянскага прыходу,
„Сударскі [6]) перад тым былі;
„Ды ў восень прошлага мы году
„Ад Грэкаў з мора уцяклі.
„Энэй канторшчыкам у нас,
„Прашпорты дзержыць Апанас,
„Газэты-ж, панюхна, ты маеш:
„Спраглі як Трою, аб тым знаеш,
„То нечага табе казаць.
„О, артыкульная Дыдона!
„Ты нас у крэпасьць запішы:
„Ў нядзелю[7]) роб сабе два згоны,
„Мы робіць будзем, дадушы!
„І ўсяку паншчыну зьмякаем:
„І бровара глядзець як знаем,
„Загнеткі, суднікі рабіць!
„На бочкі вабручы набіць;
„Пiліп наш лепіць гарлачы,
„Пракоп-жа—ступы, таўкачы,

[1]) У двары князя Пацёмкіна Чыжове (Духаўшчынскага павету). [2]) Горад Асташкаў; Ніобея, матка — пакутніца за сьмерць дзяцей. [3]) Царкоўную песьню: „Избранный воеводе“... [4]) Яешні „вочкамі“. [5]) Вялікія чэрві. [6]) Панскія паддан ныя. [7]) Тыдзень.

„А Саўка зельле ўсяка знаець,
„Дзяцём ён вогнік адклікаець,
„Хупаў [1]) бабамі варажыць
„І скурапею [2]) адхадзіць.
„Глядзі, як мы парасшарпаліся,
„Аж сорам сьвеціцца наскрозь,
„Усе лапці розна растапталісь,
„Сарочкі чорныя, як вось.
„Калі ўжо ласка твая будзець,
„Вялі нам лазьню пратапіць:
„Адзежу трэба нам папрудзіць [3]),
„Бо ў такім брудзе трудна жыць!"
Дыдона румзала і выла,
Цякло, як з лівара, з вачэй;
Маністы доргала, круціла,
А сэрца тых-тых-тых у ей!
Яна ўжо чула пра Энэя,
Што з гулькаю ў яго і шэя [4]),
Што волас ў галаве скруціўся [5]),
Што нос казюлькай раздушыўся [6]);
То шупіла [7]) якей тут смак.
І вось кляўшыла [8]) яна як:
„Калі-б Энэй ваш схамянуўся,
„Ды сам ка мне-бы падвярнуўся,
„Усячыны-б тагды дастаў".
Ён, шмык, як быццам з неба спаў.
Увайшлі ў сьвятліцу, пераксьцілісь,
Энэй і „Вочча" прачытаў,
За стол ўсе порадам садзілісь,
. . . . . . . . . . . . .
Дыдона варыва ўлівала,
Шматкамі мяса ў міскі клала
І забяляла малаком;
Трупаціла яна крупеню,
Яешню, руднік, жур, смажэню,
Камы, пячэню з часнаком.
Былі й салодкія пацешкі:
Папранік вяземскі, арэшкі,
. . . . . . . . . . . . .
Дуда вярлюем тут равела,
Сапелка гусінай сіпела,
Скрыпела скрыпка, як каткі [9]).
Дзявухны галасу гукалі,
Вясну малоданькі склікалі,
І жарты розныя рабілі:
Казу сьвяточную вадзілі,
З загнеткі лося забівалі,
Дугу у барму прадзявалі, —
Пустоты ў воленьку было.
Расхарапужыўся Энэй,
Аж іскры сыплюць ад лапцей...

## Тарас на Парнасе.

(1837 г.).

Ці знаў хто, браццы, з вас Тараса,
У палясоўшчыках што быў?
На Пуцявішчы у Панаса,
Ён там ля лазьні блізка жыў.
Што-ж? Чалавек ён быў рахманы [10]),
Гарэлкі ў губу ён ня браў!
Зато-ж у ласцы быў у пана,
Яго пан дужа шанаваў.

---

[1]) Умелы (гл. вышэй: хупавы). [2]) Скурную хваробу. [3]) Гарачынёю забіць мікробаў. [4]) *З* нагулам' гладкая. [5]) Кучаравы. [6]) *З* равочкам на канцы. [7]) Цяміла. [8]) Казала. [9]) Колы. [10]) Разумны, добры.

Любіла тож Тараса й паня,
І войт ніразу не збрахаў,
Зато Тарас балота зраньня
Да цёмнай ночы пільнаваў.
Чуць золак, ён стральбу за плечы,
Заткнець сякеру за пояс, —
Заўсёгды ходзіць бор сцярэгчы
І птушак біць з ружжа Тарас.
Хадзіў ці доўга ён ці мала,
Ды толькі нешта адзін раз
Бяда ў бару яго спаткала...
Во, як казаў нам сам Тарас:

## II.

— На самага Кузьму-Дзям'яна
Пайшоў я ў пушчу паміж мхоў;
Устаў я нешта дужа рана, —
Здаецца, з першых пятухоў...
Іду сабе я панямногу,
Але й на пень троху прысеў.
Аж тут: лоп - лоп! Цераз дарогу, —
Як быццам цецярук зьляцеў.
Злажыўсь я стрэльбай, кляпсь — ня паліць!
Крамзель з другога! не пякець!
Гляджу, аж — вось з-за елі валіць,
Як быць хароміна — мядзьведзь!
Хоць ня трусьлівы я дзяціна,
Але затросься, як асіна,
Зубам, як цюцька, лепячу;
Гляджу — аж зломана лясіна,
І уздумаў: дай-ка ускачу!

## III.

Скакнуў—ня трапіў; пасьлізнуўся!
І ў яму маланьнёй лячу!
Ляцеў-ляцеў, як разануўся, —
Аж стала зелена ў ваччу!
Ляцеў ці доўга я, ці мала,
Таго ніяк я не ўцямлю,
Але ўжо ладна расьсвітала,
Як я зваліўся на зямлю.
Устаў з зямлі, абкалаціўся, —
Бо быў ў гразі я, як сьвіньня,
І дужа, дужа я дзівіўся, —
Дзе апынуўся гэта я.

Рукой паскробшы каля вуха,
Дабыў з табакай рагавень,
І храпы напіхаў цяртухай, —
Бо ня ўжываў я цэлы дзень!
Як прасьвятлелі мае вочы,
Мядзьведзя ўжо я ня шукаў!
Закінуў стрэльбу я за плечы,
І па бакох глядзець я стаў.

## IV.

А вох-ці мне! Як там прыгожа!
Ну быццам хто намаляваў!
Чырвоны краскі, мак і рожа,—
Ну, як сукенку хто паслаў!
І птушкі ёсьць там, дужа стройна
Пяюць, палепш за салаўя!
А вох-ці мне! А-а, а во й я!
Куды патрапіў гэта я?
Стаяў я доўга і дзівіўся,
Разьзявіў зяпу і глядзеў,
Аж вось адкулецька зьявіўся:
Ці то прышоў, ці прыляцеў —
Хлапчына некі круглалікі,
Увесь кудравы, як баран,
І за плячмі яго вялікі
Прычэплен лук быў і каўчан.
— Адкуль, куды дарога гэта?
Спытаўся я ў хлапца той час.
— Дарога гэта з таго сьвета,
І проста йдзецъ аж на Парнас! —
Сказаўшы, хлопычк таго часу
На крыльлях шпарка паляцеў,
Дарогу-ж паказаць Тарасу,
Ня меўшы часу, не хацеў...

## V.

Падумаў я тады нямнога,
Што за шайтан Парнас такі?
Пайшоў я проста тэй дарогай,
Узяўшы ў рукі добры кій.
Прайшоў вёрст дзесяць тэй дарогай,
Аж бачу я: гара стаіць.
Пад тэй гарой народу многа,
Як-бы кірмаш які кіпіць.

Прыйшоў я бліжай, што за ліха!
Народ ня просты, ўсё паны!
Хто дужа шпарка, хто паціху,
Ўсе лезуць на гару яны.
Як жыды ў школе, галасуюць,
Гатоў адзін другога зьесьць,
Бо кожны морду ўперад суець,
Каб першым на гару узьлезьць.

VI.

Усе з сабой цягаюць кніжкі,
Аж з іншых пот руччом плюшчыць,
Адзін другому цісную́ць кішкі,
Аж нехта з паміж іх крычыць:
— Памалу, браццы, ня душыце
Вы фэльетон мой і „Пчалу",
Мяне-ж самога вы пусьціце
І не дзяржыце за палу!
А не, дык, да-душы, ў газэце
Я вас аблаю на ўвесь сьвет,
Як Гогаля у прошлым леце.
Я-ж сам рэдактарам газэт! —
Гляджу сабе, аж гэта сівы,
Кароткі, тоўсты, як кабан,
Плюгавы, дужа некрасівы,
Крычыць, як ашалелы, пан.
Нясець вялікі мех пан гэты,
Паўным-паўнюсенькі набіт,
Усё там кніжкі ды газэты,
Ну, як каробашнік той, жыд!
Таварыш поплеч з ім ідзець
І несьці кніжкі пасабляець,
А сам граматыку нясець,
Што ў сэмінарнях абучаюць.

VII.

Во, нешта разам зашумелі,
Народ раздаўся на канцы,
І, як бы птушкі, праляцелі
Чатыры добрых малайцы.
Народ то быў ўсё не такоўскі:
Сам Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі
І Гогаль шпарка каля нас
Прайшлі, як павы, на Парнас!

Ну, словам, многа тут народу
Сабралась лезьці на Парнас:
Былі паны, было і зброду,
Як часам і на сьвеце ў нас.
Паміж людзей і я штурхаўся
І ціснуўся, што ёсьць пары;
Вось чуць-ня-чуць такі прабраўся
І лезу проста да гары.

VIII.

Узьлез. Гляджу, аж хата нова,
Стаіць, зазвычай, панскі двор,
Кругом, яго там тын яловы:
Нябойсь, ня плох, ня ўзлезець вор!
Кругом там сьвіньні ўсюды ходзяць,
Сабакі, козы, бараны...
Знаць і багі хадзяйства водзяць,
Калі сьвіньней дзяржаць яны.
На грошы ў тронкі тут гуляюць
Парнаскі хлопцы-дзяцюкі;
А хто капейкі з іх ня маець,
Той лупіць проста на шлякі.
Улез к багам тады я ў хату...
А вох-ці мне! Ні даць ні ўзяць,
Як у казарме тых салдатаў,—
Багоў ня можа сашчытаць!

IX.

Тарасу ліха што здаецца,
Ну, як бы ў рандзе ён сядзіць, —
Хто піпку курыць, хто сьмяецца,
А іншы песьні бурузьдзіць.
Глядзіць ён, аж на лаўцы шыюць
Шаўцы багіням хадакі,
Багіні-ж у начоўках мыюць
Багам кашулі і парткі.
Сатурн там, лыкі размачыўшы,
Падвіркай лапці падплятаў,
Па сьвеце добра пахадзіўшы,
Лапцей ён многа патаптаў.
Нэптун на лаўцы чыніць сеці
І восьці садзіць на шасты,
Пры ім-жа, мусіць, яго дзеці
Дзіравы ладзяць нераты.

X.

Вось б'юцца Марс ды з Гэркулесам,
А Гэркулес, як той мядзьведзь, —
Каб цешыць старага Зэвэса,
Хахол ён Марсу добра мнець.
Зэвэс-жа наўзнак лёг на печы,
Сярмягу ў галавы паклаў:
Ён грэў на печы стары плечы
І нешта ў барадзе шукаў.
Во, перад люстрам задкам мелець,
І маслам мажаць валасы,
І нечым морду сваю беліць —
Вэнэра, знаць, дзеля красы.
Амур-жа з дзеўкамі жартуець,
Ну, проста сьмех ажно бярэць,
То ён зьнянацку пацалуець,
То хустку з галавы зьдзярэць.
То ў гусьлі ён їм заіграець,
То сьмешны песьні запяець,
То адным вокам заміргаець,
Як быццам ён каго завець.

XI.

Вось затраслася ўся гара:
Зэвэс на печы зварухнуўся,
Зяўнуў і дужа пацягнуўся,
І кажаць: „Есьці ўжо пара!“
Прыгожа дужа дзеўка Гэба
Гарэлкі ў чаркі наліла
І, як жарон, букатку хлеба
Прынёсшы, бразь! сярод стала.
Яна ў страпухі ўзята ў неба,
Каб есьць варыць і плацьце шыць, —
Нябойсь, на цяжкім жывець хлебе,
Ці жарты-ж столькіх накарміць?
Во, з усяго сабраліс неба
Багі і селі ўкруг стала.
І стравы смачны з печы Гэба
Насіць да столу пачала.

XII.

Найперш дала яна капусту,
Тады са скваркамі кулеш,
На малацэ крупеню густу —
Даець у волю, толькі еж;

І з пастаялкай жур сьцюдзёны,
А з кашы сала аж цякло,
Ды і гусяціны пражонай
У волю ўсім багам было.
Як узьнясла-ж на стол каўбасы,
Бліны аўсяны ў рашаце,
Аж сьлюнькі пацяклі ў Тараса
І забурчэла ў жываце.
Гарэлку піць багі пачалі,
З бітлажкі ў чаркі, знай, ільлюць,
Падпіўшы, песьні запялі,—
Ну, як у рандзе, ўсе пяюць.
Бах сп'яна пеў такі прыпеўкі,
Што аж ня можна гаварыць,
Аж засаромііся дзеўкі,
Так стаў ён брыдка разводзіць.
А Зэўс тымчасам насьцябаўся,
Што носам чуць зямлю ня рыў,
Ён вочы плюшчыў і ківаўся
Ды быццам нешта гаварыў.
Хоць не маё-то, праўда, дзела,
Ня сьлед мне, можа, і казаць,
Любіў ён цешыць грэшна цела
Ды часам лоўка падгуляць...

XIII.

Але багі-такі прысталі,
Як ўсё паелі, папілі.
Во... разам у дуду зайгралі:
Скакаць багіні пачалі.
Узяўшы хустачку, Вэнэра,
Пайшла „мяцеліцу" скакаць,
Прыгожа, стройна цераз меру—
Пяром нямможна апісаць!
Чырвона, тоўста, круглаліца
І вочы, як на калясе,
Як жар, гарыць яе спадніца
І стужка ўплецена ў касе.
Хапіўшы келішак гарэлкі,
Амур яшчэ павесялеў —
Іграць пачаў ён на жалейкі
І дзеўкам стройны песьні пеў.
Нэптун з прыгожанькай наядай
Пайшоў ў прысядку казака,
Нябойсь, і у старога гада
Кроў грэець, як у дзяцюка.

А во і сам Юпітэр з Вэстай
Пусьціўся, стары хрэн, у пляс,
Як бы жаніх перад нявестай,
Заткнуў ён рукі за паяс.
А во і Марс у новых ботах, —
Ён, мусіць, ботаў не жалеў,
Бо з німфамі скакаў да поту,
Гуляў у жмуркі і шалеў.
І кожны бог так расплясаўся,
Што аж няможна удзяржаць,
А хто гарэлкі насьцябаўся,
Таго пад лаўку клалі спаць...

XIV.

Вось, як зайграў дудар плясуху,
Ніяк Тарас наш не ўцярпеў,
І з лаўкі ён, што ёсьці духу,
Скакаць на хату паляцеў.
Як стаў прыстуківаць атопкам,
Аж рот разьзявілі багі:
То ён прысьвісьнець, то прытопнець,
То шпарка пойдзець у кругі.
Глядзеў Юпітэр, і дзівіўся,
І пад дуду ў далоні біў,
У канцы к Тарасу прыбліжыўся
І так яго перапыніў:
— А ты адкулецька, прыяцель?
За чым прыйшоў ты на Парнас?
Ты хто такі? Ты ня пісацель? —
— Не, мой панок! - сказаў Тарас,
— Я палясоўшчык з Пуцявішча:
Чуць золак сяньня са двара,
Прыйшоў сюды я а паўдні шчэ
Ды ўжо й да дому мне пара,
Ці ня была б, паночак, ласка
Адсюль дамоў мяне завесьцьць;
Хадзіўшы па гарэ Парнаскай,
Мне дужа захацелась есьцьць.

XV.

Кіўнуў Зэвэс, і мігам Гэба
Крупені ў міску наліла
І добрую краюху хлеба,
Сказаўшы „еж!“—мне падала.

Крупені ў волю я пад'еўшы,
Усіх падзякаваў багоў;
Кашэль за плечы прывязаўшы,
Сабраўся ўжо ійці дамоў.
Але зэфіры падхапілі,
Хто за руку, хто за паяс,
І, як бы птушкі, паташчылі
Яны мяне цераз Парнас.
Нясьлі на крыльлі, быццам вецер,
І проста прынясьлі ў наш лес.
Гляджу я: мусіць ужо вечар,
Бо маладзік на неба ўзьлез...

---

З тых пор Тарас ужо ня ходзіць
Так дужа рана па лясох,
А дзеля гэтага ня шкодзіць
Бярвеньне красьці па начох.
Дык во, што бачыў наш Тарас,
К багам узьлезшы на Парнас.
Ён гэта мне апавядаў,
А я ў паперку запісаў.

# Паўлюк Бахрым.

(1814 — ?)

## ЗАГРАЙ, ЗАГРАИ, ХЛОПЧА МАЛЫ...

Заграй, заграй, хлопча малы,
І ў скрыпачкі і ў цымбалы.
А я заграю у дуду,
Бо ў Крошыне жыць ня буду.

Бо ў Крошыне пан сярдзіты,—
Бацька кіямі забіты,
Маці тужыць, сястра плача...
Гдзе-ж ты пойдзеш, небарача?

Гдзе я пайду? Мілы Божа!
Пайду ў сьвет, у бездарожжа,
Ў ваўкалака абярнуся,
Сьлёзна на вас абзірнуся.

Будзь здарова, маці міла!
Каб ты мяне не радзіла,
Каб ты мяне не карміла,
Шчасьліўшая ты-бы была!

Каб я каршуном радзіўся,
Я-бы без паноў абыўся:
У паншчыну-б не пагналі,
І ў маскалі не аддалі.

Мне пастушком век ня быці
І ў маскалях трудна жыці,
А я і расьці баюся,
Гдзе-ж я, бедны, абярнуся?

Ой, кажане, кажане!
Што-ж ня сеў ты на мяне?
Каб я большы не падрос
Ды ад бацькавых калёс.

## ГУТАРКА ДАНІЛЫ З СЬЦЯПАНАМ.

Зышоўшысь Даніла сьвятым днём з Сьцяпанам,
Харошай пагодай селі пад парканам,
Ды й ну-ж талкаваці, ды й ну-ж гаварыці,
Што далей з нас будзе, як мы будзем жыці.

Гавораць на сьвеце, у голас талкуюць,
Ад ксяндза, ад жыда усе людзі чуюць,
Што вольнасьць нам, бедным, дасьць цар без адкладу,
Толькі што з панамі не дайдзема ладу.

Чаго адны хочуць, то другім няміла,
Як чорт перад д'яблам, пражэцца іх сіла,
Цар ім патурае, а яны хітруюць,
Змовіўшысь з сабою, цару так талкуюць:

„Пане найясьнейшы, што з гэтага будзе,
Даўшы усім вольнасьць, кажан тое згудзе,
Што мужык бяз пана быць ніяк ня можа,
Паб'юцца, паколюць, сьцеражы Ты, Божа;

Над ім трэба што дзень з кнутам стаць над каркам,
Розгі каб ляжалі возам за хвальваркам,
Гразы як ня будзе ад двара над хамам,
Заб'юцца, паколюць на век вякоў амэн!

Мужык без гарэлкі перабыць ня можа,
П'яны ня уступіць, сьцеражы Ты, Божа,
А як стане біцца, кала яму трэба,
Хоць дзяцём у хаце няма куска хлеба.

А як пана мае, то мужык баіцца,
Хоць кары ня возьме, то хоць надрыжыцца,
Бо знае, што пан іх за усё скарае;
З хама ніц*) ня будзе, як пана ня мае".

От, браце, паны як падлыгаць умеюць,
Прад царом у вочку на нас плесьці сьмеюць,
Ім гэта нясмашна костка ў горле стане,
Як мужык бяз пана вольнасьці дастане.

Што хочуць, то баюць, лгуць, як самі знаюць,
Верыць ім цар сьмела, яны ласку маюць,
А мы, бедны, браце, церпім скрозь няволю,
Праклінаем жыцьце, сваю горку долю.

Праўда, што ня чулі дзяды ні айцове,
Каб над мужыкамі ня былі панове,
Ды цяпер на сьвеце ўсё іначай строяць,
Ужо на сярмягі ды сурдуты крояць.

---

*) Нічога.

Трэснуць яны, лопнуць, ужо іх ня будзе,
Бо ўжо рэчы сталі у цара у людзі:
Каб быў мужык волен, ды цар яго панам,
Каб ня сьмеў ніколі зваць пан яго хамам.

Будзе тое, браце, дажджом, мой Сьцяпане,
Што пан на нас скажа: мой каханы пане.
Мы на іх ня глянем і шапкі ня здымем,
Хоць блізка нас будуць, ня кланяўшысь мінем.

Годзе і ураднік хванабэр'і строіць,
Каўбасы, пячэні на тарэлцы кроіць,
Перастане клікаць стоража, старожкі,
Каб сухіх давалі дрэвак пад трыножкі;

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вады, каб прынесла сьвежае з крыніцы,
Каб міскі і ложкі падала бяленькі,
Саганы і рондлі, як люстра, ясьненькі.

Вычвараць ня будзе за пражу і ніці,
Перастане тоўчы, папіхаць і біці,
Ня будуць ганяці вайты ад паўночы
На прыгон, заліўшы гарэлкаю вочы;

Пакіне нас лаяць за касьбу, гараньне,
За жніво, грабеньне і стагоў складаньне,
Што часам спазьніўся стаці да работы,
Што робіш памалу, як-бы без ахвоты.

А як часам прыдзеш чаго папрасіці,
Нямаш чым гараці, нямаш чым касіці:
Будзь ласкаў, паночку, паратуй ў прыгодзе —
Аж ён крычыць, лае—нямаш канца, годзе.

А каня ці хлеба дастаць вельмі трудна:
Пан сам нездаровы, пані нешта нудна,
Прыдзі другім разам—а тымчасам ў полі
Ня зробіш у пору работы ніколі,

Бо і на прыгоне нямаш чым рабіці,
І ўдома на полі ні на парог выці:
Ідзі, хоць ты трэсьні, не паспагадаюць,
Ніякае ўвагі над намі ня маюць.

Дажджом рабі дома, пагода як блісьне,
Душа а ніводна у хаце ня пісьне,
На прыгон бяз шчоту з сярпом і з касою,
Валэ да гараньня, коні з бараною.

Той—паліць вугольле, той рыбу лавіці,
Таму сянаваці, кусты церабіці,
Той павязе водку, а той муку, збожжа—
Работ загадаюць, сьцеражы Ты, Божа!

Таму сена грабіць, таму стог складаці,
Таму торпы класьці, таму падаваці —
Згінь, прападзі, ліха! Да чорта работы,
Дзіва, што ня стане часам і ахвоты!

Прыдзе восень, зараз: „Дай дзякла!“—ганяюць,
Грыбэ, яйцы, куры толькі адбіраюць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Адсып магазыну, аддай да зярняці,
Хоць бяз куска хлеба аставайся ў хаце,
І чынш і падаткі аддай без адкладу,
На рэкрута, пана—нямаш складкам ладу!

На стойкі, дарогі ганяюць ў нядзелі,
Каб яны у жыцьці пацехі ня мелі!
Чаму на старожу прысьці апазьніўся?
Чаму ты сякеры, рыдля ўзяць забыўся?

Дзе твой мех, . . . . . . . , рэшата і сечка?
За што там такое з войтам была спрэчка?
Броварну старожу адбывай бяз шчоту,
Там і ў дзень і ў ночы ня скончыш работу!

А ў валоўні, як чорт у пекле, таўчыся,
Нямаш там спагадзі, ці плач, ці маліся.
Ці дождж, ці завея, ці мароз найбольшы,
Чым горша надвор'е, то тым прыказ горшы.

Ўставай да работы парою, бяз спрэчкі,
Выцягнуць з-пад лавы, сьцягнуць цябе з печкі:
Ты йдзі малаціці, ты у млын малоці,
Картоплю садзіці, ты ідзі палоці.

Таму быдла пасьвіць, а таму гавечкі,
Ты да коп на варту, ты ідзі да грэчкі,
Ты ступай да коні, а ты за сьвіньнямі,
Малая да качак, больша за гусямі.

Як чорта піхаюць, ўсюды слухаць трэба,
Часта нямаш калі зьесьці куска хлеба,
Днём стравы ніколі цёплай не скаштуеш,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Полудзень кароткі, сапнуць няма часу,
Ад цівуна, войта досьць крыку, галасу;

І, як чорт,ураднік сярдзіты і злосны,
Погляд быстры, строгі і голас даносны,
Як стане посвойму лаяць і крычаці,
То душа і з целам мусіць раставаці;

А на злосьць як трапіш, то пачысьціць зубы,
Схопіш аплявуху, аж кроў пойдзе з губы,
Чупрына ня пэўна, бо падскубе куса,
Паправіць бароду і падскубе вуса.

А што надасьць страху, а што надрыжышся,
Ці плач, ці скач прад ім, ці як хоць маліся,
Ніц то не паможа, чакаць канца мусіш,
Хоць праўда, аднак-жа, языка прыкусіш.

— Зараз каркі скруцяць! гэта ім урвецца,
Хванабэрства згіне, панства іх мінецца.
Няхай дасьць Бог толькі вольнасьці прыждаці,
Будуць паны самі сьлёзкі палыкаці;

На полі, дзе колісь сох было як маку, —
Ня знойдуць загона і ральлі ні знаку, —
Усё ляжа адлогам, лазы будзе воўку,
Зьвяжуць паны скора бяз людзей галоўку;

А па сенажацях ня пойдзеш за лесам,
Бо хто-ж касіць будзе? Хіба ён сам з бесам!
Прыгон як урвецца й талакі ня стане,
Скончыцца адразу іхна панаваньне;

Тады яны хіба, што бяда, пазнаюць,
Бо цяпер ніколі нам не спагадаюць:
Ідзі, толькі, хаме! От і ўся гаворка!
З нашай працы грошы складаюць да ворка [1]).

Дай нам, Божа, толькі скоранька прыждаці,
Каб маглі спакойна пасядзеці ў хаце,
Пана не баяцца і войта загаду,
Было-б у нас болей і дабра і ладу.

Не адзін сказаў-бы: „Мой пане Сьцяпане,
Будзь ласкаў, сягоньня прыдзі на гараньне,
Заплачу, што хочаш, водкай пачастую,
А для тваіх дзетак гасьцінца дарую;

---

[1]) Мяшка.

Калі ласка, заўтра падбяжы з касою,
Жонка, дочкі з серпам, а сын з бараною,
Наўперад і грошы, бо мне раз плаціці,
Бо я цябе знаю, ня ўмееш круціці".

А ось калі ліха, як вужа, прыцісьне,
Не адзін застогне і не адзін пісьне,
Бо годзе над намі зьдзекавацца срога,
Прыдзе і на пана караньне ад Бога.

Яны нас глумілі, плакаць не давалі,
Вінен ці ня вінен, без канца каралі,
А цяпер ім самым тое дастанецца,
Што нам дасюль была, то на іх шчаўпецца.

Няхай дасьць Бог цару нашаму здароўя [1]);
Няхай нашай долі скаштуюць панове;
Няхай яго роду Бог шчасьце гатуе,
Што ён нашу брацьцю вольнасьцю даруе.

А тым паном нашым, што нас вельмі дралі,
Даў-бы Бог, каб тое на сабе дазналі:
Галоднаму сыты спагадаць ня мусіць,
Пакуль бяды гэтай сам ў губе ня ўкусіць.

Вось тагды пазнаюць, па чаму хунт ліха,
Як ваўкі пад лавай, ня улежаць ціха,
Паскрабуць чупрыну, як ня стане хлеба,
Як Бог і цар схоча, мусіць, так і трэба.

Можа-б болей бздырыў [2]) Сьцяпану Даніла,
Але на пагібель войта накруціла,
Як стаў загад строіць, як пачаў крычаці,
Мусілі гаворку сваю перастаці.

## РАЗМОВА ПАНА З МУЖЫКОМ ПАСЬЛЯ ПРЫГОНУ.

— Як маешся, Сьцяпане?
— Аджыў, найясьнейшы пане!
— Чаму твая Дарота
Ня прыходзі до мне на работа?
Сушыць, грабіць пільне трэба,
Дам пенёндзы [3]), дам і хлеба.
— Ўжо панскі хлеб дакучыў,
Як пан нас добра мучыў:
Добра паны гандлявалі,
Слугі на сабак мянялі!

---

[1]) Сялян упеўнілі ў добрай волі цара, і пасьля сьмерці Аляксандра II-га, ад рукі рэволюцыянэраў, яны думалі, што забілі яго паны за вольніцу. [2]) Казаў з развагаю. [3]) Грошы.



Jan Barszczewski

# Стара-шляхоцкія романтыкі.

## Ян Баршчэўскі.

(1790 — 1851).

### АХ ЧЫМ-ЖА ТВАЯ, ДЗЕВАНЬКА, ГАЛОЎКА ЗАНЯТА?

(1809 г.).

Ах чым-жа твая, дзеванька, галоўка занята?
Ці табе не напрыклілася чужая хата?
На каго-ж ты пазіраеш,
Сваё сэрца прыкланяеш?
Ня будзе тут пуці.

* * *

Прывучыла-ж ты двох хлапцоў, як птушак у сеці.
Яны к табе ў дзень і ў ночы рады прыляцеці.
І ты к ім лятаеш,
Панскі двор пабуджаеш
На вялікі сьмех.

* * *

Прывучыла-ж ты лоўчага; ён-жа і стралец,
І дудар быў некалі, і рускі пявец.
А стралец і дудар —
Не вялікі гаспадар;
Будзеш бяз хлеба...

* * *

Палюбіла садоўніка, і гэта ня ў пуць,—
Ды ён слуга гасподзкі, асьцярожна будзь.
Мадамай табе ня быць,
Дзяцей табе ня вучыць, —
Відзь ты ня ўмееш...

---

## З ПОЭМЫ «РАБУНКІ МУЖЫКОЎ».

(1812 г.).

Як пранцуская сіла
З-за Дзьвіны наступіла,
Нам стала карціць,
Штоб парадак прыўраціць.
Аднак, сядзелі ціха.
Аж тут прыносіць ліха
Прანцузаў у наш двор,—
І ну-тка дзелаць здор.
Клеці паразьбівалі,
Паноў нашых загналі,
Нас казалі пазьбіраць
І гарэлку піць і браць.
Прანцузы нас пахвалялі,
Аб нашым краі пыталі
І на мігі нас прасілі,
Каб мы з імі двор лупілі.
І мы доўга там гулялі,
Што хацелі, пілі, бралі...
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
Той браў плацьце на вяроўку,
Чым абшыць жонцы шнуроўку,
Цыны, медзі, колькі мог,
Чым абліць дуду і рог...
Іншы быдла занімаець,
Другі адзеньне хапаець,
Іншы толькі есьць і п'ець,
Другі шабляй куры б'ець.

Калі ужо так гуляюць,
Пачулі: з пушак страляюць,
„Галён! галён!“ [1]) закрычалі
І ўсе з двору высыпалі.
Як прантузы вышлі самі,
Мужыкі былі панамі.
І калі так пагулялі,
Рады сабе укладалі.
Першы Мінка сеў за стол,
Ў куты глядзіць, як сакол,
На крэсьле, гдзе сядзеў пан,
Пуза як барабан.
А ногі як разапнець,
Хоць з калёсамі праедзь.
Помню я тыя векі,
Як жылі паноў прэдкі:
Нас у рэкруты ня бралі.
Ах! што за паны бывалі!
Хоць на лбе валос і нет,
Ды ўжо-ж вусы на ўвесь сьвет!
Два рукавы мелі красных,
Яшчэ два ззаду запасных,
З аднэй палы у тых паноў
Семера-б пашыў штаноў!
А гэты і нас паелі,
І самі ужо згалелі.
Полы сабе паабразалі,
Хвасты ззаду паадсякалі.
Прыдзеш у двор, баішся;
Пакуль к пану зблізжышся,
Доўга галаву скрабеш...
. . . . . . . . . . . . .
Яшчэ-ж гэта не канец,
Палажы-ж на стол яец,
І тут яшчэ страх бярэць
Ждаць, што пан запяець...
Хай мне хоць паб'юць штаны,
Да ўжо-ж ня будудь паны!
Водка крэпка! — мера спора! —
Будзем піць — забудзем гора!...
Пойдзем ад хаты да хаты,
Ці хто голы, ці багаты;
Як нам будзець весяло:
Сабярэцца ўсё сяло!..

---

[1]) Ідзём! ідзём!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цыццы, браццы!—ураднік надходзіць!
А Дзям'ян Грышку—за хахол водзіць.
Відзіць Мінка — што тут худа!..
Абярнуўся: туды, сюды;
Бедны! наўцёкі дзярэць:
А куды відзіць — туды бярэць!

## З ФАНТАСТЫЧНЫХ АПАВЯДАНЬНЯЎ.

Яшчэ за мае маладыя леці быў у нас, помню, пан К. Г. Нядобры пан: хлапцоў жаніў і дзяўчат замуж аддаваў, не ўважаючы ні на згоду, ні на будучае шчасьце. Зьдзекаваўся над людзьмі бяз ніякага жалю: конь і сабака мелі ў яго больш пашаны, як хрысьціянская душа.

Быў у яго слугою Карпа, таксама дрэнны чалавек. Абодва яны прадалі сваю душу чарту.

Вось як гэта дзеілася.

Зьявіўся ў панскім двары, няведама адкуль, нейкі дзіўны чалавек. Пасьля даведаліся, што гэта быў чарнакніжнік: вучыў пана рабіць золата.

У самую поўнач пан, гэты госьць і Карпа ўзялі з хлева чорнага казла і павялі на могільнік. Кажуць, выкапалі яны там з магілы труп, чарнакніжнік увабраўся ў нябожчыкаву вопратку, забіў казла і яго мясам і крывёю рабіў нейкія страшныя ахвяры. Што там дзеілася ў гэтую ноч, бяз страху няможна й спомніць. Казалі, што нейкія страшыдлы хмараю круціліся ў паветры; нейкія зьвяры, быццам ваўкі і дзікія вяпры, бегалі наўкол, а так вылі й скігаталі, што пан і Карпа ад страху самлелі.

Пасьля гэтай жудаснай ночы чарнакніжнік шчэз, і ніхто яго пасьля ня відзіў. Пан быў заўсёды смутны, хоць меў золата і ўсяго даволі. Ен яшчэ пагоршаў, зрабіўся гэткі, што ніхто ня мог яму дагадзіць. І Карпу прагнаў з двара.

Аддалі Карпу за работніка аднаму заможнаму гаспадару. Але ён болей псаваў, чым памагаў. Часта жаліліcь на яго пану. Пан пераганяў яго ад аднаго гаспадара да якога другога, але Карпа нідзе ня мог доўга аставацца. Тады ўпрасіў ён пана даць яму хату і колькі дзесяцін зямлі, кажучы, што на сваёй гаспадарцы будзе болей рупіцца. Згодзіўся пан. Далі Карпе двое коні, некалькі кароў і іншае жывёлы на завод. І вось урэшце задумаў Карпа жаніцца...

У сяле быў сусед Гарасім, чалавек рупны; усяго яму ставала. Меў ён дачку Агапку: надта-ж слаўная была дзяўчына, а здаровая, румяная, як сьпелая ягадка. Бывала, як убярэцца ды пойдзе на кірмаш з істужкаю ў касе, у чырвонай шнуроўцы, дык сьвеціць, як макаў цьвет: усе ня могуць на яе налюбавацца. Кожны любіў з ёй паскакаць, і дудар іграў ёй з найбольшаю ахвотаю.

Спадабаў Агапку й Карпа. І задумаў ён канешня ўзяць яе за сябе. Ведаючы, аднак, што яна ня любіць і бацькі ня хочуць,—ідзець да пана прасіць, каб загадаў Агапцы пайці за яго замуж. Як даведаліся аб тым Агапкіны бацькі, дык зьвярнуліся да аканома і ўсяе воласьці, каб ужо людзі ўпрасілі пана не аддаваць Агапку замуж за Карпу, бо дзяўчына яшчэ зусім маладая, мала паможаць мужыку, ды й Карпава гаспадарка дужа апушчана. Пан на гэты раз паслухаў, але адклаў вясельле да налецьця. Карпе сказалі, каб за гэты час паказаў, што ён зробіць добрага і ці многа зьбярэць грошы.

Карпа, гэты нясумленны і неахвочы да працы чалавек, ідзець тады на раду к Парамону, самаму страшному чараўніку ўва ўсёй акрузе. Просіць таго, каб парадзіў, як-бы гэта найбарджэй дабыць грошы. І дэкляруе, што гатоў на ўсё чыста, хоць-бы й душу чарту прадаць, абы толькі свайго дабіцца.

Парамон дастаў са скрыні нейкія заверчаныя ў паперку зерняткі, даець іх Карпе і кажаць гэтак: „Калі ня маеш чорнага пеўня, дык дастань яго дзе-небудзь, накармі гэтымі зернятамі, і ён пераз колькі дзён зьнясець невялічкае, увелькі з галубінае, яйцо. Насі гэтае яйцо пад левай пахай цэлы месяц, і вылупіцца з яго маленькая яшчарка. Гэтую яшчарку насі з сабою і што дзень кармі малаком на сваёй далоні. Яна будзе расьці шыбка, пакажацца на ёй з абодвух бакоў скураное крыльле, а цераз месяц зьменіцца яна ў лятучага зьмея і будзе ўсё рабіць, што ты ёй скажаш. Начою ў чорнай постаці прынясець табе зьмей жыта, пшаніцы і ўсякага збожжа. Калі прыляціць, шугаючы агнём, гэта знача—прынёс золата і срэбра. Калі хочаш быць багатым, дагаджай зьмею, бо як усердзіш, можа спаліць і тваю хату і ўсю ваколіцу“.

Карпа найхватней зрабіў усё, што яму радзіў Парамон, і вырасьціў нягоднага зьмея. Аднак, людзі даведаліся аб гэтых яго чарах, бо відзілі зьмея, калі позна варочаліся дамоў. І я раз на нашлезе бачыў, як ляцеў гэты цмок, кідаючы ад сябе іскар'е, быццам распаленае зялеза пад молатам у каваля, і над страхою Карпавае хаты рассыпаўся на дробныя часткі і шчэз.

Цераз колькі месяцаў Карпа — ужо багатыр. На кірмашы або сьвятам у карчме ходзіць, узяўшыся ў бокі, задраўшы галаву; усіх мае, здаецца, за нішто; жменяй кідае на стол грошы і кажа падаваць, што толькі прыдзе яму ў дум; усіх частуе і сьмела крычыць, што пан яму—як родны брат, усё для яго зробіць; што Агапка павінна мець за шчасьце, калі зайдзе за яго замуж, бо ён за свае грошы можа купіць жонку, якую захоча.

Чула аб гэтым Агапка і сьлязьмі ўмывалася. Ведала, што яна й бацькі нічога ня зробяць, што ўсё ў панскай волі, а ў пана ніякай літасьці няма.

Але мінае год, і Карпа накупляў ужо ў месьце дарагіх дарункаў пану і прыехаў на прыгожым кані прыпамінаць абяцанку. Паслалі па дзяўчынінага бацьку і загадалі рыхтавацца да вясельля.

Бедны Гарасім з жонкаю плакалі над нядоляю свайго дзіцёнка і прасілі ў Бога апекі. Агапка хавалася з сваім горам, каб яшчэ болей ня смуціць бацькоў. Сабраўшы свае адвабныя касьнікі, якія найбольш любіла, і некалькі трубачак кужэльнага палатна, што сама саткала, пайшла яна ў царкву, павесіла ўсё гэта на абраз Прачыстае Маці і пала ніц, заліваючысь сьлязьмі. Усе там быўшыя не маглі зьдзержацца ад зьлёз.

Прачыталі запаведзі; прыйшла нядзеля. Бярэць Карпа шлюб у царкве з Агапкай... Ён быў вясёлы, стаяў стромка, валасы на галаве—стрыжаныя папанску, на шыі—адвабная хустка, боты блішчаць, вопратка—з тонкага сукна. Калі-б хто ня ведаў, што гэта Карпа, наш брат, то за паўвярсты яшчэ зьняў-бы шапку ды пакланіўся-б. Агапка—зусім ня тое: смутная, зьбялелая, так зьмянілася, як быццам у цяжкіх сухотах, вочы ў сьлёзах. І казалі, што сьвечкі ў абоіх маладых так цёмна гарэлі, што іншыя глядзелі на гэта з вялікім страхам ды шапталі між сабою: „Ня будзе тут шчасьця“. — Па шлюбе Карпа са сватамі і з маладою паехаў да пана, а тады ўжо да Агапкіных бацькоў. Вясельле было—Бог ведае, паякому. Карпа змалку быў у панскім двары, ужо яму звычаі-абычаі нашыя вяскобыя—сьмешныя былі, не падабаліся. Не параяжджаў ён цераз полымя запаленай саломы; не казалі маладым ніякіх арацый, не пяялі вясельных песьняў; ня было навет дудара, і моладзь не магла паскакаць; дык вясельле было ў Гарасіма, як хаўтуры. Зараз адтуль паехалі маладыя са сватамі да свае хаты. Там ужо Карпа кожным учынкам выстаўляўся, што ён не абы-хто, багатыр, і хацеў, каб усе яму падлыгалі.

Гукнуў дудара; быццам які чыноўнік, кінуў яму некалькі белых і загадаў іграць; заплаціў таксама добра й бабам, каб пяялі; з наўмыснай ветласьцю, быццам паніч, прасіў хлапцоў і дзяўчат гуляць. Ня было там шчырасьці, адно што — наедкаў і напіткаў было аж надта; чаркі з гарэлкаю блізка бесьперастанку йшлі з рук у рукі. У хаце шум, музыкі йграюць, а ён хваліцца сваёю дворнаю службаю: якую ласку меў у пана. Агапка-ж сядзела, як забітая; шкода было, глянуўшы на яе.

Надвор'е было, хоць і цёмнае, але супакойнае. На чыстым небе ўжо поўнач. Вясёла гуляюць госьці, угрэўшыся гарэлкаю. І вось, як стаіш, быццам маланка асьвяціла хату і пачуўся нейкі нязвычайны шум за сьцяною. Пацямнела сьвятло ў хаце, змоўклі ўсе, пазіраюць адзін на 'днаго... Карпа пачаў сьмяяцца, казаў, што крэпкая гарэлка нарабіла гэтага дзіва, і загадаў іграць дудару і пяяць песьні. Сярод шуму ды клуму забыліся аб усім.

Адчыняюцца дзьверы: уваходзіць чараўнік Парамон. Аглядае гасьцей бліскучымі вачмі з-пад калматых броваў.

Карпа з ім вітаецца і запрашае за стол на покуць. Госьці расступаюцца, Парамон садзіцца і з гары разглядае ўсіх каля сябе, адкінуўшысь на сьцяну. Карпа падаець яму гарэлкі, закускі. — „А дзе-ж твая Гапуля, маладая гаспадыня? Ці яна дужа занятая, ці

можа не пазнала мяне? Я стары, а яна маладая: яшчэ ёй трэба ўчыцца, як жыць на сьвеце“. Тады Карпа прыводзіць да яго Агапку. Парамон, глянуўшы на яе смутны твар: „Ня смуціся,—кажа,—пажывеш, палюбіш і добра будзе“.

Акім, селянін з аднэй валасьці, падданы пана К. Г., быў некалі ў вялікай злосьці з Парамонам. Падпіўшы, бо за гарэлкаю ня любіў траціць дарма часу, ён прыпомніў тую злосьць, залажыў рукі за пояс, адставіў правую нагу і, стоячы перад Парамонам і гледзячы яму ў вочы, гэтак пачаў:

— А! Кланяюся!

Няўчом котка хвост свой лізала,
Аж яна цябе ў госьці чакала.

Усе глянулі на Акіма. Ня рады былі, што ён, у хмялю, асьмеліўся строіць жарты з Парамонам. Баяліся, каб ня выйшла з гэтага якога ліха, бо ўсе верылі ў Парамонавы чары, што ён можа ня толькі розныя хваробы на людзей наслаць, але, калі захоча, усё вясельле пераверне ў ваўкоў.

Парамон глянуў на яго з усьмешкаю:

— А ты — кажа, — так ідзеш часам туды, дзе беляць палатно, што цябе, такога госьця, ня толькі вартаўнік ня ўпільнуе, але й сабака ня зьнюхае...

— Га! Добра помню, як мяне абвінавацілі, што я ўкраў палатно, — адказаў Акім. — І ты варажыў на рэшата: як сказаў мяне й дудара Грышку, яно пакруцілася, — значыцца, на нас паказала. Аканоміха паверыла тваім чарам, бяз міласьці нас білі, а пасьля даведаліся, што ня было нашай віны, дарма нас мучылі. Нягодныя твае ўчынкі, і ў чарах тваіх няма ніякай праўды.

Тут адгукнуўся й дудар Грышка:

— Га! А як-жа, помню й я: варта было-б за тваю фальш у чарах кіём табе падзякаваць...

Парамон ня мог ужо сьцярпець. Вочы яго заблішчэлі, ён увесь пачырванеў, схапіўся з лавы. Усе спужаліся. Карпа хапаець яго за шыю і просіць, каб дараваў п'яным, бо самі ня помняць, што кажуць. І Агапка ловіць яго за руку, просіць выбачэньня, што ў іх зрабілі яму гэткую прыкрасьць. Акіму й Грышцы кажуць, каб забыліся на тое, што калі было, і пагадзіліся-б з ім.

Чараўнік, троху супакоіўшыся, кажа:

— Добра, я пагаджуся. Я не хачу, каб гульня ў вашай хаце перабілася; хачу, каб яна яшчэ павесялела. Няхай сабе Грышка йграе на дудзе, а Акім гуляе!

І з хітрай усьмешкай дадаў:

— Дык хадзіце: на просьбы гаспадара й маладой гаспадыні вып'ем ад-ін да аднаго па чарцы гарэлкі. Яшчэ пятух не запяяў, цяпер самая пара павесяліцца.

Карпа, Агапка й госьці прысіляюць Акіма й Грышку, каб яны селі за стол з Парамонам. Тыя паслухалі, выпілі па чарцы, зараз — па другой.

— Згода, згода! — крычаць некаторыя госьці, — сталы застаўлены ядою, досьць і напіткаў, пійма, гуляйма, жадаючы маладым багацьця, здароўя і даўгога жыцьця.

Запялі песьню. Грышка надувае свой скураны мех. Моладзь гуляе. Парамон, задумаўшыся, з злым тварам пазіраў то на Акіма, то на дудара; нейкі час была добрая вясёлая гульня. Але раптам Грышка пачынае йграць нейкага шалёнага казака, госьці крычаць і просяць, каб граў „Цярэшку“, пяюць: «Цярэшцы бяда стала». Ён ні на што не глядзіць, ні з кім не згаджаецца і ўсё грае сваё бяз ніякага ладу. Раптам і Акім выбягае на сярэдзіну і пачынае скакаць, як шалёны, хто ведае паякому; дзівуюцца ўсе, гледзячы і не разумеючы, што з імі зрабілася. Просяць аднаго й другога, каб адзін кінуў іграць, а другі гуляць, — нічога не памагае, ніякіх просьбаў ня чуюць, быццам здурнелі абодва. Хочуць яго ўдзержаць; ён мармочучы нешта незразумелае, вырваецца, ізноў скача, і дудар іграе бесьперастанку. Парамон, гледзячы на іх з боку і голасна сьмяючыся: «Не чапайце іх, — кажа, — няхай павесяляцца; другі раз не захочуць з кожным чапацца“. Карпа просіць яго, каб прабачыў і сказаў ім перастаць.

— Хай яшчэ пагуляюць, — адказаў Парамон; — гэта навучыць іх паважаць разумнейшых людзей.

Доўга мучыліся гэтым шалам дудар і Акім. Аж Грышка выпусьціў з рук дуду і заваліўся на зямлю, самлеўшы. Акім пачаў хістацца і пачарнеў увесь, як перад сьмерцю.

Парамон, спагнаўшы злосьць, пашаптаў нешта, даў ім вады, і яны прыйшлі да розуму.

Пасьля вясельля Карпа хутка паставіў другую хату, з вялікімі вокнамі; разьвёў сад. Хата яго была больш падобна да дворнае, чымся да мужыцкае хаты. Ён пасадзіў пад вокнамі такія краскі, што растуць у паноў і з іх няма ніякай карысьці. Агапцы забараніў насіць шнуроўку і на галаве хустку; загадаў прыбірацца ў паркалёвыя сукні, якія носяць шляхцянкі.

Пан у яго бываў у гасьцёх; меў грошы, меў і пашану, але ці-ж у гэтым шчасьце?

Заўсёды быў ён неспакойны. Агапка не магла яму дагадзіць. Яе пацераў, якіх яе навучыла матка, ён цярпець ня мог. А поўначы ўсхопліваўся часам з ложка і ля дзьвярэй або ля вакна гаманіў нязведама з кім; выбягаў вон і прападаў хто ведае дзе, аж пакуль пятухі не пачыналі пяяць.

Меў сяброў, з якімі гарай заліваў трывогу сваей душы. Бывала, па некалькі дзён ня было яго ў даму.

Раз увечары Агапка смутная сядзела адна ў хаце, ждучы яго. Раптам сьвятло, як маланка, асьвяціла сьцены, і ўзноў цёмна. Аж уваходзіць маладзец, дужа хораша ўвабраны, на руках у яго многа залатых пярсьцёнкаў, а падпяразаны шырокім чырвоным паясом.

— Кланяюся маладзіцы, — сказаў ён; — што-ж так сядзіш адна, як сірата якая? Глядзіш мне ў вочы, я табе чужы, — але я цябе часта відзіў і добра знаю. А дзе-ж Карпа, мужык твой?

— Ня ведаю: трэці дзень, як яго няма. Недзе ў знаёмых, а можа паехаў у места...

— Што яму рабіць у месьце? Гуляе сабе, — золата і срэбра маець даволі. А якая-ж з гэтага карысьць? Мог-бы збудаваць такую хату, што ўся-чыста сьвяціла-б золатам і серабром. Жыў-бы лепей, як князь. Ты маладая, прыгожая і разумней за яго, прымі ўсё на сябе. Я табе буду памагаць, і мы сьвет задзівім.

Гаворачы гэтак, сеў к ёй бліжэй.

— Бачыш, што я магу? — сказаў, сыплючы на зямлю золата і гледзячы на яе.

— На грошы я ня галюся; хачу толькі, каб душа была спакойная; і хай апякуецца мною Прачыстая Маці Сірацінская...

Як толькі сказала яна гэтае імя, шугануў ён полымем і раптам зьнік. Агапка нема закрычэла, кінулась за дзьверы і самлела.

Ураньні вярнуўся дамоў Карпа. Як яму сказалі аб тым, што дзеілася, ён доўга, неспакойны, хадзіў па хаце. Тады падыйшоў да жонкі і сказаў:

— Што-ж ты зрабіла? Калі пасеяна, дык трэба й жаць...

— Я ня сеяла, — адказала яна, залiваючысь сьлязьмі; валей памерці, чым зьбіраць гэткую ніву.

Ён кінуўся на яе з кулакамі, але яна ўцякла й схавалася, пакуль злосьць яго не адпусьціла.

Адзін раз увечары сядзеў ён задуманы ў хаце ля вакна; чуваць было, што гаманіў сам з сабою. Агапка просіць яго, каб супакоіўся. Ён толькі адказаў: «Вярнуся заўтра»—стукнуў дзьвярмі і пайшоў няма ведама куды.

Агапка гукнула да сябе суседку-бабу, бо адна баялася начаваць. Толькі задрамала, чуе, што нехта гарачай далоньню даткнуўся да яе рукі; глянула і відзіць: гэты мужчына, што яе надоячы перапалохаў, стаіць, дзіўна апрануўшыся, глядзіць на яе, і вочы яго гарадь, як дзьве сьвечкі; шапачка на галаве і пояс, каторым быў падперазаўшыся, былі чырвоныя, як жар або распаленае зялеза. Яна, спужаўшыся, на сілу рукой магла крануць, каб перакс ьціцца, і ён тутжа зьнік. Пабудзіўшы прыяцелку, Агапка сказала ён аб гэтым страшным зданьні; пагаманілі троху, а як супакоіліся, узноў тое страхацьцё зьявілася перад імі і ўзноў зьнікла на ўспамін імя „Ісус-Марыя“; дык усталі, запалілі сьвятло і маліліся, пакуль пятух не запяяў.

Агапка перад усходам сонца пасылае бабу да сваіх бацькоў, каб расказала аб страхацьцёх і каб прасіла іх даведацца і парадзіць ёй, што мае рабіць у гэткай прыгодзе.

Пайшла пагалоска па ўсёй воласьці аб тым, што зьмей некалькі разоў пужаў Агапку, паказваючыся ёй у розных постацях. Карпа-ж

казаў, што гэта няпраўда, што быццам яго жонка дурная, а можа й чорт яе страшыць за якія грахі.

Надвечар, як у полі кончылася работа, Гарасім са сваёй жонкай пайшлі даведацца дачкі. Агапка, як іх агледзіла ў вакно, з вялікай радасьцяй выбегла сустракаць; уводзіць іх у хату і са сьлязьмі разказвае сваё гора, зьмену у жыцьці яе мужа, зьяўленьне ў пастаці чалавека гэтага зьмея, каторы яму служыць. — „Тож-ба то,—адказаў Гарасім; — калі я, перад тваім яшчэ замужжам, расказваў аканому і іншым людзём, што Карпа выгадаваў сабе зьмея, каторы яго багаціць, сьмяяліся з мяне, казалі: „Дурны мужык“. І калі дайшло да пана, ён сказаў: „Слухай, хаме, калі ня кінеш расказаваць гэтыя байкі, то дастанеш з пяцьсот розак і паў-галавы агалю, як вар'яту“. — Што яны цяпер на гэта скажуць?“

Маці, плачучы, ей кажа: „Хутка збярэм з поля, пойдзем разам да Прачыстае Маці Сірацінскае, намаўляй і яго, каб ішоў і быў там у споведзі. Бог зьмілуецца, а цяпер вось маю з сабою сьвяцонае зельле: будзем ім што вечар курыць хату, і можа дасьць Бог, што гэта ўсё супакоіцца“.

Гэтак яны сядзелі й гаманілі аб тым-сім. А Карпы ўсё ня было. Ужо пацямнела ў хаце, ноч была цёплая, неба чыстае і так ціха ў паветры, што, здавалася, волас не шавяльнуўся-б на галаве. Троху паждаўшы, Агапка разьвяла агонь і кінула сьвяцонае зельле на вугальле. Раптам за сьцяною загудзеў вецер і ў хаце заблішчэла. Усе задрыжэлі. Агапка, спуджаная: „Вось ён!“ — закрычэла. Змоўклі і мовячы пацеры ждалі, што будзе далей. Ля печы стаялі гаршкі; адзін падлятаець у гару, валіцца на зямлю і разьбіваецца на дробныя чарапкі. Гарлачык з путрай, што стаяў на лаўцы, ускачыў на стол, са стала скаціўся на зямлю і разьбіўся на дробныя часткі. Кот упудзіўся і чмыхаючы кінуўся пад лаву. Рознае хатняе пасудзіньне зачало лётаць з аднаго кута ў другі.

Гарасімава жонка зьняла з сябе мядзяны крыжык, пасьвяцоны ў Юхавічах, і ўзлажыла яго на дачку, сказаўшы: „Няхай ён цябе бароніць“. Як сказала гэтак пабожная жанчына, дробныя камні, быццам град, вылятаючы з цёмных кутоў, стукаліся ў сьцяну. І каменьне ў колькі хунтаў вылятала з-за печы. Аднак, ніводзін камень ня ўдарыў бацькоў і дачкі.

Мінула поўнач, запяяў пятух. Гэтае страляньне троху аціхла. Тады Агапка з бацькамі пайшла да іхнае хаты.

Як ужо сонца было высока, прыяжджае Карпа, знаходзіць пустую хату і сустракае адну толькі бабу, якая прыйшла, увідзіўшы гаспадара. Ён пытаецца, у чым справа і дзе жонка? Тая пераказала ўсё, як дзеілася. Карпа спужаўся, крыкнуў: „Яна мяне згубіла!“—і зараз-жа пабег к чараўніку Парамону.

Вестка аб усім гэтым у той-жа дзень разыйшлася па ўсёй ваколіцы.

Пад вечар цікавыя папрыходзілі з усяе воласьці, каб бачыць гэтыя дзівы. Прыйшоў і аканом, а з ім шмат з двара маладых. Яны, ня верачы ў чартоўскую сілу, былі пеўныя, што зловяць якога-небудзь дуроніка, навет некаторыя з іх, ні на што ня гледзячы, адчынілі дзьверы і хацелі ўвайці ў хату; але толькі сталі на парозе, усе, як га, адскокнулі з крыкам. Лятучы камень некаторага з іх так выцяў, што ён на сілу мог прыйці да памяці. Людзі стаялі водаль ад хаты, паглядаючы, а каменьне што раз гусьцей сыпалася адтуль.

Карпа ў адчаі, змяніўшыся ўвесь і як-бы няпрытомны, праклінаў жонку, суседзяў і ўсіх; ен хацеў улезьці ў хату, але яму не дазволілі. Парамон, тут стоячы, нешта шаптаў, але ўжо сваімі чарамі ня мог памагчы.

Але вось і поп прыехаў, памаліўся; калі са сьвяцонай вадой хацеў падыйці да сьцен, раптам уся хата загарэлася і хутка парухалася.

Зьдзіўлены народ, гледзячы на тую помсту нячыстага духа, ціскаў плячмі. І кожны з тых, што там былі, са страхам пакідаў ужо толькі вугальле да галавешкі.

Карпа пасьля пажару няведама дзе падзеўся.

Прайшло некалькі тыдняў. Адзін паляўнічы з выжлам ішоў блізка возера, шукаючы качак; дзень быў троху хмарны і хвалі шумелі каля берагу. Бачыць здалёку: на пяску, ля самае вады, чорнае стада крумкачоў; ён выстраліў, крумкачы паляцелі і схаваліся ў бары. Падыходзіць, бачыць: труп, выкінены вадою,—яшчэ хваля пакрывае пенай. Той-жа час ён расказаў аб гэтым у двары; наказалі ў суд. Трудна было пазнаць, чыё гэта цела, але па вопратцы і пярсьцёнку пазналі, што гэта быў Карпа.

# Аляксандар Рыпінскі.

## Ў АЛЬБОМ А. ДАРЭЎСКАМУ-ВЯРЫЗЕ.

(1860 г.).

Ты-ж сам, суседзька, хацеў,
Штоб і я табе запеў;

Ну, я табе і пяю, —
Прымі песеньку маю.

Можа, гэта ня песьнь? Каша?
Ды ўсёжтакі своя, наша!

## З БАЛЯДЫ „НЯЧЫСЬЦІК“.

(1853 г.).

Часта, братоньку, вядзеш тое-сёе,
А ўсё то марна, а усё пустое.

Таму ўжо сто лет будзе —
Старыя помняць людзі,
Скажаць вам і Апанас:
Жыў быў Мікіта у нас.
На самым канцы сяла—
Там яго хатка была.
Дзяцей ня меў, хоць жанат,
А быў бедзен — не багат.
Багацтва-то усяго
Меў вяпра ён аднаго.
Ды не спажыў і таго:
Ў мясаед яго ня біў,
На продаж, кажуць, карміў,
І так даждаўся паста.
Душа-ж Мікіты праста:
Ён у сяле усім сват,
Суседзям дораг, як брат;
Суседзі яго любілі,
А чым маглі — тым дарылі.
І вот так ён сабе тлеў:
„Іван зрабіў — Іван зьеў!“
Часам, праўда, і упіўся,
Ды з нікім ён не сварыўся,
Толькі-ж на бяду сваю,
Імеў жонку, як зьмяю:
Ці цьвяроза, ці п'яна,
Як ведзьма, была яна!
Каб яе паляруш біў!
Ніхто яе ня любіў.
І муж спакою ня меў:
Ні ён выпіў, ні ён зьеў,
Ні прачнуўся, ані спаў,
Каб чорт яе не наслаў!
Кажу: Мікіта ня жыў,
Пакорны, як цяля, быў,
Што хацела, то рабіў...
Абы ў ласку ей папасьць,
Ішоў, бедны, хоць-бы красьць!
Ды яшчэ-ж ня ў тым канец.
Адкуль ішла пад вянец,
Адтуль, кажу, ўжо ніколі
Царквы ня відзела болей
І, як мне Марта казала,
Чарту душу запісала.
А чорт то быў із чарцей!
Мудрагель нейкі, зладзей:
Так ей ён верна служыў,
Ґдзе ні пайшла, пры ей быў;
Што хацела, то купіў;
Мужыка, як мог, дурыў,
А жоначцы спагадаў,
Усячыну падсуваў,
Пакуль душу не паймаў.
Не адзін шаптаў сусед,
Што ў Мікіты Бога нет.
Яны-то ўжо і згадалі!
Паглядзім, што было далей.
Як мы ўжо тое казалі,
У Мікіты вяпрок быў;
Ён яго, як мог, блюдзіў,
Штоб толькі пост перабыў.
Мікіта наш ня быў ласы,
Жонка-ж любіла кілбасы;
А чорт за жонкай хадзіў!
Як пачаў яе дурыць,
Вот так-так ашаламіў,
Што у пост сьвінку забіла,
Абскрабла і абсмаліла,
Ужо кілбас нарабіла.
Муж пашоў водкі прынесьць
Ад арандаркі цішком,
І хацелі ужо есьць,
Аж тут ня было на чом!
Нячысьцік, знаеш, ня спаў:
Таму ужо так і быць!
Ён іх здумаў скалаціць,—
Пабач, што ім заіграў!
Жонку ў каршзнь — па талерку,
Мікіце — ў зубы бутэльку:
Буль, буль, буль, буль, буль—і вот
Пайшла сівуха у рот!..
Бес-жа рад, што іх паймаў
Так гладка у самы час!

Каб і ня елі кілбас,
Другі загнуў ён кручок:
Цап за мяса, ды й уцёк!
А штоб ня было пазнакі,
Наслаў кошкі і сабакі,
І ўсякаму у куток
Кінуў кілбасы кусок.
Мікіціха ў хату—мах!
Аж тут глянуць ажно страх!
Кошкі мяўкаюць, дзяруцца,
Сабакі сабе грызуцца!
Усе сьцены ну-ж трашчаць!
Лаўкі і сталы — скакаць!
А на печы чорт-прахвост,
Узяўшы у зубы хвост,
Патуль шчокі надымаў,
Аж як на дудзе зайграў,
А пасьля захахатаў,
Прыгнуў на стоўп ды прапаў.
Мікіціха — да мужа!
Чуць не ўхапіўшы нажа:
„Якія-ж чэрці у нас?
„Ні гарэлкі, ні кілбас!
„Хто нашу сьвініну зьеў?
„Гдзе ты гарэлку падзеў?!
„Каб ты скрозь зямлю прапаў,
„Астатні раз пазіраў!..
„Уту, нячыстая твар!
„Паганы башкір! Татар!
„А штоб ты здох! Штоб асьліз!
„Каб ты згарэў! Штоб павіс!“
Мікіта-ж таго ня чуець,
Што яна так гамануець:
Ён-то нямнога і піў,
Ды чорт з панталыку зьбіў:
Кажу, так горка упіўся,
Што і з ног ужо зваліўся,
Абсьлініўся, аббляваўся..
Кінем яго, штоб праспаўся.
Мікіціха не п'яна,
Ды ўжо чортава яна!
Захацела, як ні будзь,
Каб і Бога абмануць!
Бес-жа ад бабы мудрэй:
На ўсё прыдумаў зацей!
(К яму трудна раз папасьць!)
На што-ж было мужа клясьць?...
Бо хто хоча другіх клясьць
І кажа: „Каб ты прапаў!“,—
Можа і сам прапасьць.
А усім такім цяпер
Вот з Мікіціхі прымер!
Яна, чуць тое сказала,
Бач: згарэла і прапала!..
Чорт хатку смалой абліў,
Ўзяў яе ды й запаліў;
Як у пекле, сам пяець, —
Яму і тут усё роўна!
Хата ужо чарцей поўна,
А чарцянят поўна клець!
Скачуць, верцяцца па клеці,
Кажу, як хрышчоны дзеці!
Ўсякі весел ды і рад,
Што іх бацьку пайшло ў лад.
А шатаны-ж іх там знаюць,
Што яны за сілу маюць?
Вот так, як птушкі, лятаюць!
Адзін задумаў скакаць
З-пад лаўкі аж на палаць!
Другі цуп-луп на калок
І тру-ру-ру, як млынок!..
Трэці ходзіць на рагах!
Чарту нішто не ў прамах!
Гэты на агонь дуець,
Агу! занялася клець!...
Той дзьверы падпёр, як дуб,
А той, ўзяўшы кацюбу,
Шмык у хату скрозь трубу!
І Мікіціху за чуб!
Торгаў, сморгаў па палу,
Тады піхель! у смалу...
Вота-ж табе! Ня будзь ласа!
Гдзе-ж цяпер твая кілбаса?
Ўсё прапала ў адну ноч...
І назаўтрае, чуць сьвет,
Мікіціхі ужо нет!
Уся воласьць тут прыйшла,
І нікога не знайшла:
Хатка скрозь зямлю пайшла!..

———



## Ян Чачот.

(1797—1847).

### ДА МІЛЫХ МУЖЫЧКОЎ.

Ды і я-ж вам памагу
Песеньку сьпяваці;
Ды й я-ж міжы вамі ўзрос
Пры бацьку і маці.
І мне Бог на сьвеце даў
Гора гараваці,
Штобы лепш я вас любіў
І ўмеў спагадаці.
Ой, што-ж вы напелі тут,
Ды якога дзіва!
Шкода, што на голас ваш
Старонка драмліва.
Але, як прачхнецца з сна
Гэта дабрадзейка,
Пэўна, будзе слухаць вас
Лепш, як салавейка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Благаслáвіць будзе Бог
Ў каморы, аборы;
І ня будзе такі люд
Бясьсільны, як хворы.
Ой, каб колісь нам дажыць
Да такой паправы,
То-б запеў-бы з вамі я,
Што нам Бог ласкàвы!

## ПОКУЛЬ СОНЦА ЎЗЫДЗЕ...

Покуль сонца ўзыдзе,
Раса выесьць вочы;
Кепска [1]), як акоман
Лаяць, біць ахвочы.

Пане ты наш, пане!
Будзь-жа нам ласкáвы,
Ня дай акамона,
Што асьцёбаць жвавы;

Хто мужычкоў глуміць,
Надвое варожыць;
Грош пану ў кішэню,
А два сабе ўложыць.

## АЙ ЕЙ, ЯКІ ЕН ДОБРЫ ГАСПАДАР!

Ай ей, які ён добры гаспадар!
Восень ўжо прышла, не арат папар;
А ён у карчме сядзіць,
Упіўся, на лаўцы сьпіць.

Ай ей, які ён добры гаспадар!
Дома, на дварэ крык, і плач, і свар;
А ён з паленам ў руцэ
Таго, сяго глуміць, б'е.

Ай ей, які ён добры гаспадар!
Да карчмы занёс увесь Божы дар!
А у хаце голад, ліха,
Толькі, як пашоў, то ціха.

---

[1]) Дрэнна.

## КАБ У КАРЧМЕ НЕ СЯДЗЕЎ...

Каб у карчме не сядзеў,
То-бы чысьценькі хлеб еў;
Ато зробіла карчма,
Што куска хлеба няма.

Каб у карчме не сядзеў,
То-б сярмяжку цэлу меў;
Ато зробіла карчма,
Што ў латах сярмяжка ўся.

Каб у карчме не сядзеў,
То-б валы, кароўкі меў;
Ато зробіла карчма,
Што і воліка няма.

Ой, ня буду-ж ў ёй сядзець,
Буду хлеб, сярмяжку мець;
Валоў, кароў са дзьве пар,
Ды й зноў буду гаспадар!

## ОЙ ТЫ, СУСЕДЗЕ БАГАТЫ!

Ой ты, суседзе багаты!
Сыноў, грошы многа маеш;
Сыноў дзяржыш за пячою,
Грошы у зямлю хаваеш.

Ды павёз бы ты сыночка,
Як бычочка, як ваўчочка,
Гдзе да места ся учыці, [1])
Чаравікі, боты шыці.

Ой, аддаў-бы ты другога
Да каваля, чы сьлясара
Да завёз бы ты трацёга
Да сталяра! чы бандара.

Яны-б рамясло умелі,
Грошы-б твае не ржавелі;
Нашы дзеўкі, маладзічкі
Мелі-б ладны чаравічкі.

## НАШТО НАМ ДЫМ ВЫЯДАЕ ВОЧКІ?

Нашто нам дым выядае вочкі?
Нашто нам дым марае сарочкі?

---

[1]) Вучыцца.

Нашто нам дым дзеткі мілы
Гоніць з дому да магілы?
Ой нашто, нашто?

Нім [1]) гаспадыня хату нагрэе,
Сама пры печы уся скалее;
Дзеткі у кутку скалеюць,
Бледыя, чорны хварэюць;
Ой нашто, нашто?

Ой нашто сядзім мы як у норы,
Ой нашто у хаце, як ў аборы?
Гусі, сьвіньні і цялята—
Нездароўя поўна хата;
Ой нашто, нашто?

Ці ня ёсьць у нас і шкло і гліна?
Чы мы ня можам вывесьць каміна?
І у сьветлае ваконца
Упусьціць мілае сонца?
Чы ня можам, чы?

Чы мы ня можам і для скацінкі,
У сенях цёплай мець прыарынкі;
Чы хлеўчыка, чы каморы,
Ды ня жыць з ёю ў аборы?
Чы ня можам, чы?

Ой можам, можам, толькі ня знаем,
Колькі у хаце заразы маем
Ад ўсялякай нячыстосьці,
Без каміна і сьвятлосьці.
Божа! Дай нам знаць!

## НІХТО ЦЯБЕ, ТАТКА...

Ніхто цябе, татка, пахаваць ня йдзе,
За то, што мы ўвесь век пражылі ў бядзе.
Нечым гарэлкі купляць,
Ніхто ня йдзе хаваць.

О Божа-ж мой! Божа! што цяпер за сьвет!
Там і людзей няма, гдзе гарэлкі нет;
Чы весяляцца, чы смуцяць,
Усё розум ёю муцяць.

---

[1]) Пакуль.

Ой пазаву-ж, Божа, анёлы Твае,
Пазаву-ж я, Божа, сьлёзанькі мае,
Няхай войчаньку схаваюць
І магілу абліваюць.

А вы, людзі, людзі, няхай вам дасьць Бог
Паправіць ваш брыдкі, паганы налог,
Што вы навет без гарылкі
Ня ідзеце й на магілкі.

## ЯК ТО ДОБРА, КАЛІ МУЖЫК...

Як то добра, калі мужык
Трэзвы, гаспадарны!
Для такога ў цэлым року
Жадын [1]) час ня марны!

Сьнягі таюць, ён гародзіць
Кольмі, што зімою
І навазіў, і начасаў
Добраю парою.

Ёсьць у яго і лучына,
І дроў многа клетак;
Будзе чым варыці кашу
Усё лета для дзетак.

Вясна блісьнец, ён гной возіць,
І гарэ, і сее;
Косіць луге, сенажаці,
Нім жыта дасьпее.

Хлеба мае, і ня ходзіць
Вясною па меркі, [2])
Бо зімою ён ня лыкаў
У карчме з кватэркі.

Леткам жонка і дзяўчаты
Жнуць жыта, ярыну;
А ён звозіць, а ён зносіць
Усё ў хараміну.

Папар гарэ, і малоціць,
Зноў сее у полі;

[1]) Ніякі.
[2]) Меркамі называлася збожжа, выдаванае гарцамі па дварох на пракармленьне сялян вясною. Увага Чачота.

І працуе, рад і весел
З мужыцкае долі.

Ніколі ён ня шукае
У карчме вясельля
І не ляжыць так, як хворы,
Ўвесь дзень для пахмельля.

А захочаць пагуляці,
У дом спросіць госьці;
Тады сабе чарку водкі
Вып'е да вашмосьці.

## ПОЛЕ, ПОЛЕ ШЫРОКАЕ...

Поле, поле шырокае,
Неба, неба глыбокае!
Божа Ты наш, вечны Пане!
Прымі ад нас павітаньне!

Уся зямля сонцам зьяе,
З ясным небам размаўляе,
Што ўсё гэта Тваім дарам,
Што Ты сьвета гаспадарам.

З ясным небам і зямлёю,
Чолам мы перад Табою!
З чыстым сэрцам і душою,
Чолам мы перад Табою.

Благаславі Твае дзеткі,
Працу нашу і палеткі;
Благаславі усе людзі,
Няхай усім добра будзе!

(Па выданьню 1844 г.).

# Беларуска-маскоўскія пісьменьнікі.

## Павел Міхайлавіч Шпілеўскі.

(1827 — 1861).

### З „ПАДАРОЖЫ ПА ПАЛЕСЬСІ І БЕЛАРУСКІМ КРАІ“.

(1858 г.).

V.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сонца троху-патроху захадзіла і ўжо хавалася між бярозавых прысад і лесавых соснаў; лёгкі ветрычак-дуронік каўзаўся ў чыстай атмасфэры, выгукаючы ласы нахіл да пяшчоты і вечаровай пагулянкі ў цянёвым гаі, што ля ўскрайку недалёчкага лесу.

Па дарозе мне сустракаліся знаёмыя твары і вопраткі, чулася родная беларуская мова, каторая... шчасьлівы час!.. некалі, у гады маленства і дзяцінства, адбівалася ў вушох маіх, калі добранькая бабуля-нянька байкала мяне фантастычнымі казкамі аб шапачцы-нявідзімцы, аб заклятых князёх і князеўнах, аб Бабе-язе, касьцяной назе...

У гады маленства я й ня думаў, што некалі, гадоў цераз дваццаць, буду давучавацца роднай сваей мове і дзеля таго падарожнічаць па тых самых месцах, каторыя так дарагі для мяне ўспамінамі а шчасьлівай мінуўшчыне...

Зачуўшы даўна знаёмую мне беларускую гутарку, я няўмысьля прыстоіў і, здаецца, удыхаў у сябе чутыя ў паветры гукі мэлёдычнай пявучай мовы; у душу маю так вось і прасіліся водгукі слоў, казаных, па звычаю беларусцаў, нарасьпеў, з працягам...

* * *

Што за відаль! Што за маляўнічая вясковая відаль! Стогадовыя бярозы, распусьціўшыя вецьце ўдоўжкі і ўшыркі і агорнутыя яркай зелянінаю вузорнага лісьця, згодна жмуцца адна да ’днэй абапал дарогі, — так што, едучы шыбка, можна памылкова пабачыць іх, як усьцяж густы лес. Дарога праз увесь час вілаваціцца і губіць свой ланцуг у бясконцых зігзагах заваратак то направа, то налева. А як часта з горкі пад горку! Паваждай гойкнець, і конікі кінуцца ў дол, як слова ў правальле, што тоіцца між дзьвюх высокіх гор. Толькі дзяржыся ды крапіся.

Конікі йзноў вынырнуць з правальля, як тыя духі з-пад зямлі, і занясуць цябе на высокую, войструю горачку, з каторай, то й дзіві, стоць пакоцішся ў роў ці канаву...—„Ня бойся, панок, ня хібім!“—крычыць, аглядаючыся, хлопец. І супакойваешся і ймеш веры ў яго беларускае слова. І ўзноў загледзішся на прыгожую відаль старыннае дарогі... Вось бачым па баках, на горках і курганках параскіданы хаты, нязьлічоныя сялібы, дваркі і фальваркі дробнай шляхты...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Там, у садзе, у кутку, стараваты пан у нанкавым балахоне, з гародніцкім нажом у руках, даглядаець маладзенькія прышчэпкі дуляк. Каля яго стаіць, разьзявіўшы рот, малец з голай галавою і ў дрэнных ботах, не шмараваных з таго дня, як пашыты: гэта яго сын, што прыбыў на вакацыі са школы і апрануты пахатняму. На другім баку сада — тучная, пышная паня, з нечасанымі валасамі, у нейкіх міфолёгічных пантофлях, шэрай даматканай спадніцы і накінутай на расплытыя ад туку плечы чырвонай ціфцікавай хустцы, памагае дзьвюм бяззубым бабам вешаць толькі што папранае плацьце (хусьце). У пасяродку сада, на драўлянай лаўцы, сядзіць шаснаццацёх-гадовая блёндынка і быццам пляцець шкарпэткі, — пляцець, а пруткі ўвесь час валяцца з яе рук. Мамухна казала дрыжонай сваей дачушцы, якая ня дужа даўна вярнулася з менскага ці слуцкага пансіону, каб даглядала за палоўшымі сачавіцу батрачкамі. Ды любая дачухна і ня зірне на работніц: яна сядзіць сабе, раскінуўшыся, і нешта шэпчаць у паветра... Маладзенькай паненачцы спадабаўся нейкі менскі паніч ці сусед-паночак, а можа быць навет і слуцкі канцэлярыста...

## VI.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... раніцаю а сёмай гадзіне я пад'яжджаў пад родны Менск. Во абмінуў я знамяніты романічны Ляхаўскі гай, дзе так любяць пагуліваць менскія алегантны; во праймчаўся міма прыгожага фальварка Горак; вось віднеюцца будынкі казармаў, белакаменная, з харошымі круглымі вежамі турма; вось выглядаюць готычныя шпіцы Петрапаўлаўскага сабору, будынкі Архірэйскага двара, сьцены Бэрнардынскага кляштару; вот прада мною застаўны дом і нарэшце шлагбаум. З будкі выскачыў салдат з зялезным кійком, але, зачуўшы паштовы званок, схаваўся ізноў у сваю перапялёсую каюту. Шлагбаум паднялі,—і вот я ў Менску! Вітаю цябе, роднае места, беларуская зямля! Вітаю вас, любыя, дарагія па ўспамінах месцы! Як даўно ня відзіў я вас! Колькі суму і жалю зазнала мая душа далёка ад вас! Я пабачыў вас не-ткі! І на душы ў мяне адлягло.

VIII.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Да якой ступені, блізка без абы-якой грунтоўнай зьмены, захавалася беларуская мова да цяперашняга часу ў вуснах сёньняшняга народу Меншчыны, г.-ё. старадаўных крывічоў, можна меркаваць з таго, што ёсьць поўнае падабенства старадаўнай мовы, у якой пісаны былі ўмовы, акты й граматы, з моваю жыхароў так званых засьценкаў ці ваколіц.

Насельнікі іх (засьценкаў) маюць жыцьцё сьціплае, патрыярхальнае, займаюцца скатаводзтвам, садаводзтвам і наогул земляробствам; да 1830 году яны мелі свой суд, сваю расправу, урадныя зборы, на якіх дзяды рашалі справы агульных непаразуменьняў і каралі вінаватых, парушаўшых правілы старадаўных пераказаў. Яны між сабою толькі вялі гандаль, мелі сваю нацыянальную вопратку і дзяржалі пры дамох заўсёдных хатніх настаўнікаў (шпэктараў), якія ўзгадоўвалі іхных дзяцей і разам памагалі ім працаваць.

Дык у гэтых засьценках вы й цяпер пачуеце тую славянакрывіцкую мову, у якой пісаны былі дзяржаўныя акты... У ёй яны пішуць пісьмы й заметкі аб гаспадарцы; у гэтай мове знойдзеце вы ў іх пісаныя песенькі, розныя легэнды й казкі.

## ЗАСЬЦЯНКОВЫ ГУБЭРНЕР.

(З „Падарожы“).

Застаўшыся ў засьценку (па дарозе з Барысава ў Ігумень), я пазнаёміўся з засьцянковым губэрнерам, ці шпэктарам.

Прачнуўшыся ўраньні, я быў надта зьдзіўлены гукамі, якія чуліся за сьценкаю майго пакою: букі-аз-ба, ведзі-аз-ва, глаголь-аз-га, — букі-он-бо... і г. д. Я папытаўся ў хурмана, што гэта? Хурман адказаў: „Губэрнер вучыць дзяцей“. Мне дужа захацелася паглядзець на гэтага губэрнера, і дзеля таго я сабраўся быў пайці ў суседні пакой. Аж губэрнер папярэдзіў мяне і сам зьявіўся ка мне.

Гэта быў адзін з нікім неапісаных беларускіх тыпаў, які надта зьдзівіў-бы вас з першага знаёмства з ім.

Губэрнер быў даволі паджылы чалавек, высокага росту, тонкі, як пруток, з даўгімі валасамі на галаве і няголенаю з месяц барадою; на ім быў нейкі сурдут ці вэнгерка, якая ледзь абцягавала яго мізэрнае цела, — з станам (таліяй) блізка што на плячох і вузенькімі й кароценькімі рукавамі. Заместа ботаў на нагах яго былі чаравікі, прывязаныя к нагам вяровачкамі.

Ён адрэкамэндаваўся мне.

З слоў яго я даведаўся, што ён займаецца з сваімі гадунцамі ведамыя гадзіны; другім часам памагаець іх бацьком касіць, гараць, сячы дровы і г. д. Пэнсію дастаець з кожнае сям'і засьценка па адным, а многа—па два рублі ў год, з дадаткам такой-сякой вопраткі.

Вось гэткі губэрнер, бывае, зжываець у засьценку ўвесь свой век, а часам пераходзіць з аднаго засьценка ў другі: гэта залежыць ад яго характару, а троху ад незаможнасьці засьцянкоўцаў, якія ня плацяць па ўмове.

Губэрнер, які жывець у вадным засьценку доўга, робіцца паважанаю асобаю: да яго, як наўчонага чалавека, прыходзяць раіцца; яму даручаюць казаць прамовы на йменінах, на хаўтурах і г. д.; яго прымаюць сябром старыя людзі і іншы раз жэняць яго з дачкою якога беднага шляхціца...

Але й жаніўшыся губэрнер астаецца губэрнерам да самае сьмерці.

## КІРМАШ у НЯСЬВІЖЫ.

(З „Падарожы").

Кажучы аб Нясьвіжы, няможна нічога не сказаць аб знамянітым яго **кірмашы** на **Міхаля**. Гэтак завецца кірмаш дзеля таго, што пачаў адбывацца пры Міхалу Радзівілу і даўней адбываўся на Міхалаўскай гарэ. Цяпер ён бываець пад гэтаю гарою, пачынаецца 26 верасьня і цягнецца два тыдні. Сюды перасяляецца блізка што ўсё места і перакачоўваюць мястовыя купцы і мяшчане з сваімі крамкамі. На працягу вярсты стаўляюцца розныя будкі і робіцца нейкае часовае качэўе. Зьяжджаюцца гандляры й купцы з Пінску, Давыд-Гарадка, Глуска, Мозыра, Менска, Бярэсьця, Вільні, Кіева і Варшавы. Найболей жыды прывозяць красныя тавары, шкло, фарфор, фаянс; пінчукі, мозырцы, давыдгорадцы і наагул паляшукі прывозяць бяз ліку вазоў вяленае ці капчонае рыбы, альнянога семя, шчэці, смалы, воску і вырабленых скур і падошваў. Між імі зьмяшчаюцца маскоўскія (вялікарускія) купцы і татары клецкія й менскія. Тут-жа прымашчаваюцца з сваймі будачкамі так званыя **карабейнікі** (таму, што ходзяць з карабамі) — з абразамі, бісюрам і калёрнымі паясамі. Наагул кірмаш нясьвіскі даволі значны: ён для беларускага краю амаль ня тое самае, што ніжнегародзкі для маскоўскіх губэрняў. На гэты кірмаш зьяжджаецца суседняе і навет дужа далёкае шляхоцтва, таксама **засьцянковыя шляхтуны**... Яны дужа прыкметны на кірмашы: крычаць у балаганах, халяруючы плёскаюць далонямі ў тэатрах, блутаюцца нагамі ў скоках, п'юць рэчыцкія вымаразкі ў карчмах і расхаджваюць па кірмашы з бізункамі, грэбліва паглядаючы на **пасэсарчукоў** (дробныя рандары хвальваркаў), якія сустракаюцца

тут бяз ліку, цэлымі грудамі і зварочуюць увагу на сябе кожнага сваймі даўгімі шарачковымі сурдутамі, з сотняю складачак на стане (таліі), вялізарнымі паркалёвымі каўнерчыкамі, якія закрываюць вушы і тырчаць, быццам рогі, падстрыжанымі вусамі і з месяц нyголенымі падбародкамі.

Ня меней зварочуюць на сябе ўвагу ўсякага й цыганы, што ходзяць з мядзьведзямі, і гожанькія цыганкі, забаўляючыя кірмашовую грамаду рознымі фокусамі й скокамі.

Але цікаўней за ўсіх тут нясьвіскія сяляне й сялянкі, якія адзначаюцца чыстаю вопраткаю й даволі самавітым выглядам. Яны ўжо ня носяць сьвітак і брудных лапцяў, валеных капялюшоў і намётак, а апранаюцца ў нейкія капоты з сіняга сукна і сукеначкі з паркалю ня дужа пстрыкатага; заместа намётак беларускіх, сялянкі носяць на галовах калёрныя хусткі, даволі хораша завязаныя над самым лобам і на патыліцы. А як зграбненькі, прытны і рухлівы яны! Ня меней за іх вёрткі і сяляне нясьвіскія: усё народ ахайны, здаровы, бойкі і разьбітны, але не скандальны і ня дзёрзкі.

---

# Рэволюцыйная і супроць-рэволюцыйная літэратура 60-х гадоў.

## Кастусь Каліноўскі.

(1838—1864).

I.

Беларусы, браты мае родныя! З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і Цябе, дарагі мой Народзе! Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль згінуць за тваю праўду.

Прыймі, Народзе, па шчырасьці маё слова перадсьмертнае, бо яно якбы з таго сьвету толькі для дабра Твайго напісана.

Нямаш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тады ён толькі можа быць у радзе, жыць у дастатках і тагды толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць Неба, бо збагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой цэлы шчыра палюбіць. Але як дзень з ноччу ня ходзяць разам, так і навука праўдзіва ня йдзе разам з няволяй маскоўскай. А пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, адно на пагібель нашу . . . . . . . . . . . . . . .

ваюй, Народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную. Бо я Табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над Табой маскаля ўжо ня будзе!

**Яська з-пад Вільні.**

II.

Беларуска зямелька, галубка мая!
Гдзе-ж ся падзела шчасьце і доля Твая?
Усё прайшло, прайшло—якбы ня бывала,
Адно — страшэнна горыч у грудзях застала.
Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці
Ды й у прадвечнага суду вялеў прападаці,—
То мы прападзём марна, а праўды ня кінем,
Хутчэй Неба і шчасьце, як праўду, абмінем!
Не наракай, Народзе, на сваю бяздолю,
А прыймі цяжкую кару—Прадвечнага волю.
А калі мяне успомніш, шчыра памаліся,
То я з таго сьвету Табе адзавуся.
Бывай здаровы, даражэнькі Народзе!
Жыві у шчасьці, жыві у свабодзе
І часам спамяні пра „Яську“ Твайго.
А калі слова пяройдзе у дзела,
Тады за праўду станавіся сьмела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэшся, Народзе, старасьці свабодна.

## Ўладзіслаў Сыракомля.

### ДОБРЫЯ ВЕСЬЦІ.

Заходзіць сонца пагоднага лета
І веець вецер з заходніх нябёс.
Здароў будзь, вецер! З далёкага сьвета
Добрыя-ж весьці да нас ты прынёс!
  Здаровы-ж будзьце, эй, добрыя весьці!
  Там, на Заходзе, праліваюць кроў,
  Б'юцца для славы, свабоды і чэсьці
  І робяць вольных людзей з мужыкоў!
Гудуць вясёла і песьні і танцы
У добрым жніве на шчасьлівы год.
Годзе вам, годзе, вы, цары-паганцы,
Таптаць з балотам хрышчоны народ!

Годзе вам, годзе у яснай карэце—
Годзе, паночкі, заяжджаць у двор!
Годзе вам, годзе, мужыцкія дзеці,
З хаткі астаткі даваць на пабор!
І панскае дзецка і хамская юха
З аднэй кватэркі папіваюць мёд;
І прысягнулісь на век да абуха
Быць сабе вольны і роўны народ.
Мужык і шляхціц засядзе на лаве,
Каб весьці раду аб сваёй зямлі;
Як трэба думаць аб грамадзкай справе,
На адно месца, як браты, прыйшлі.
А як урадзім вайну на грамадзе:
Бараніць дзеткі, і зямлю, і дом,—
Мужык і шляхціц на каня усьсядзе
Касіць касою, рубіць тапаромц!
Эй, згінець вораг, як Бог нам award
За нашу крыўду, за горкі наш жаль.
Запяём песьню: „Хваліць Цябе, Божа“—
Лягчэй будзе сэрцу, як згінець маскаль.
Зямля ты наша! Зямля ты сьвятая!
Радзі нам збожжа ды судзі пажаць!
Ня прыйдзе вораг з маскоўскага края
Да магазыну наша зерне браць!
Ручыць рукою худоба у хаце;
Паны мужыцкіх сьлёз не забяруць!
Мужык з панамі стаіць за-пан-браце,
Рука за руку, а грудзі за грудзь.
Пяром на карце ды сахой на ніве
Адзін другому роўнасьць засьцярог.
Эй, у свабодзе зажывём шчасьліва,
Мы будзем дзеткі, а наш бацька—Бог!

* * *

Ужо птушкі пяюць ўсюды,
Ужо кветкі зацьвілі...
„Вясна прыдзе“ — кажуць людзі...
Ды скуль прыдзе і калі?

І на штоˑж вясна нам, Божа?
Мы адвыклі ад вясны...
Елкі ў лесе, мох на стрэсе
Зеляненюць заўсягды...

Вільня, 1861 г.

## Франц Блус.

### З „МОВЫ СТАРАВОЙТА" (1862 г.).

**Да рэдактара:**

Вяльможны пане дабрадзею!...
Прашу, прымі мае труды;
Падай мне добрую надзею,
Каб мог служыць імі ўсягды...

Не за зваё, прызнацца, ўзяўся,
Ўжо троху й галава сьвярбіць;
Баюсь, калі-б хто не сьмяяўся,
Ня знаю сам, што і рабіць...

**Да чытаньнікаў:**

З добрым сэрцам я трудзіўся,
Аж лоб ад шчырасьці пацеў,
Пакуліцькі к канцу прыбіўся,
Саўсім, яй-Богу, макам сеў.

... Я ўсяго, прызнацца, бачыў,
Давольна добрага й худога;
Хоць мала ў сьвеце памаячыў,
Ды прымераў відзіў многа.
Дык знаю ўжо, як то прыятна,
Калі хто поўчыць цябе ладна,
Гатоў-бы ўсё яму аддаць.
Вот так для етага-ж узяўся
Я брата меншага паўчыць.
Хоць ён-то мне і напрыкляўся...

Жыў якісь там старавойт,
Ды такей быў дужа бойкі,
Такая вумна галава,
Што разумней ўсяго сяла...

**Мова старавойта.**

Браццы, браццы! падажджыце,
На ўсё ў сьвеце ё свой час;
Ня гукайце, не гаманіце:
Цар не забудзецца пра нас.
Бо царська слова не абы-якое,—
Што толькі скажаць цар каму,
То заўсягды супоўніць тое;
Бо ён і слову цар свайму.

Здаецца-ж чулі, як чыталі,
Што быццам волю нам дадуць;
Ды сроку на два гады паклалі;
Ўжо пеўне будзець што-нібудзь.

Але ці так-жа скора ўхопіш?
Ета ня маленькае дзела:
Пакуль-то яго расшалопіш,
То й пяць гадоў дык пройдзе сьмела.
А тут мы хочам, каб аб дзень,
Яго нам кончыла начальства...

Вот-жа і цар хоча таксама
Нас добра з панамі разьдзяліць,
Каб мужыка адняць ад пана,
Ды каб і пан мог добра жыць.

Цар за то ў нас вінават,
Што вольніцу няскора шлець;
А пан—за то, што ён багат
Ды зямлі дарам не даець.
Паслухайце мае вы рады:
Ці ўсім-жа нам багатым быць?
Ё бедных між нас і багатых,
А ўсім-жа Бог пазволіў жыць.

Дык вот-жа панімайце ета!
Вы мысьліце, што паны
Аж ад сатварэньня сьвета
Усё багатымі былі.
Ой, не! к багацьцю трудная дарога,
Трэба старацца ды служыць,
Працаваць, маліцца Богу
І цярпліва ўсё знасіць.

Віць [1]), ні мы, ні наш бацька, і ні дзед
Етай зямлі ня купілі,
І дакумэнтаў у нас нет,
Што мы яе заслужылі.
Прыгон служылі-ж мы за то,
Што карысьць із яе мелі.
Каб на прыгон ня йшоў ніхто,
То мы-б зямлёю не ўладзелі.

Ну, а што-ж будзе, як дадуць волю?...
Другей бяз хлеба прападзець;
Віць, кожны будзець тады волен
Па месяцу ў каршме сядзець.
Усё роўна, як каня дурнога,
Пусьці ня спутаўшы яго,
То ён пабегаець нямнога,
Скора нападзець свайго.
Ён прама пабяжыць і к воўку,
Або ў балота упадзець;
Скора скруціць сваю галоўку,
Бо дурань скарэй на волі прападзець.

---

[1]) Бо (ад слова: вѣдь).



# Нова-шляхоцкія пісьменьнікі.

## Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

(1807—1884).

### ГАПОН.

(1854 г.).

**Песьня першая.**

Калі ахвота пачата,
Што-ж стаіце, як цялята?
Далей, хлопцы, маладзіцы!
Пачніце ад „мецяліцы".

*З комэдыі-опэры „Сялянка".*

Шум, крык, гоман у карчме,
Кіпіць сельская дружына,
Піва, мёд, гарэлку п'е,
Ажно курыцца чупрына.
Гаспадары за сталом
Громка гутарку вядуць;
А ляндарка з ляндаром [1])
Мёд, гарэлку раздаюць.

---

[1]) Карчмар з жонкаю, узяўшыя ў пана карчму ў ранду.

Хлопцы, дзеўкі, маладзіцы
Ля парога гаманяць,
А старыя чараўніцы
Цішком ля пячы сідзяць.
Ананьня на йскрыпцы йграець
„Лявоніху“, то „бычка“;
Гапон жару паддаваець:
„Заграй, крычыць, „казачка“!“
Аж юкнула Кацярынка,
Так задаў ей кулаком:
„Хадзі, мая ты малінка!“—
Ды й затупаў хадаром.
„Ананія, рэж вясёлы!“—
Крычыць громка наш Гапон,
Ды й, сабраўшы ў сьвітцы полы,
Мэрам хохлік![1]) мэрам ён!
То ў прысядкі выкідаець,
Ажно стогнець пад ім пол,
То галубца падбіваець,
Ажно трасецца хахол.
„Ах! ух! давай жару,
„Давай болі[2]), давай пару!“—
Крычыць Гапон ды й гуляець,
Пад скрыпачку падпяваець:
„Эй чух, Кацярынка!
„Чабоцікі красны;
„Каму блішчаць, каго любяць
„Твае вочкі ясны?
„Эй чух, Кацярынка!
„Твае кудры ўюцца,
„Скачаць, пляшаць мая міла,
„Аж шчочкі трасуцца“.
Трэйчы Гапон прамахнуў,
Бражджаць ножны з вагнівом,
Стаў на месьце — падпрыгнуў,
Ды й затупаў хадыром.
Кацярынка-ж успляснула,
На міленькага зіркнула,
Хваць! спаднічку распусьціла,
Трэйчы запяткам падбіла.
Дробны ножкі выкідаець,
Чаравічкі скрыпяць,
А із вочак аж сіяець,
Быццам іскры ляцяць.

[1]) Як нячысьцік, чорт. [2]) Болей.

Русы коскі падлятаюць,
Касьнікі, як жар, гарацы;
А вось вышай як зайграюць,
Так і возьме прыпяваць:
„Мілы Хартон, мілы Саўка,
„Ды мілейшы-ж мой Гапон:
„Хахол ясны, паяс красны,
„А галасок, кабы [1]) звон!
„Не хачу Саўкі, Хартона,
„Мне жыцьця з імі ня быць,
„Валей маяго Гапона,
З ім ня буду я тужыць“.
Пяець, пляшаць, падбіваець,
Ўсяк вокам за ей брадзець,
Як ластаўка, падплываець,
Ажно хочацца глядзець.
Ананія-ж — воўча юха!
То ўжо нечага маніць!
Ярка рэжа із-за вуха,
Аж скрыпка яго зьвініць.
„Мяцеліцу“ прабірае,
Ёмка, громка, ладны час!
Дробна смыкам падсякае,
Зьвініць рымка, гудзіць бас.
Локаць упёршы у бруха,
Ля кабылкі нос дзяржаў,
Далей сьціхнуў — ды й з-за вуха
На „лявоніху“ падняў.
Схваціў Гапон Кацярынку,
Сьмела к сэрцу прыцягнуў,
Абняўшы рукой за сьпінку,
„Лявоніху“ успрыгнуў.
Угрунь за ім маладзіцы,
Дзеўкі, хлопцы, хто як змог,
Дрыжаць чупрыны, спадніцы,
Суматоха — што крый Бог!
Ад пылу аж пацямнела,
Хохат, лопат, шум ды крык,
Як у гаршку закіпела,
Як на быдла напаў зык.
Той ў прысядкі, той выкідкі,
Чупрыны, як шчэць дрыжаць,
Тая бокам, тая скокам,
Ды й так возьмуць прыпяваць:

[1]) Якбы.

„Ах, калі-ж я у матульці была,
„Як вішанька у садочку цьвіла,
„Папалася злому духу, мужыку,
„Ён высушыў, як ліпінку у духу.
„Наехала повен двор татароў,
„Ды узялі-ж майго мужа у палон,
„Ня жаль-жаж мне, што яго узялі,
„Толькі шкода, што ня крэпка зьвязалі:
„Ён, паганец, уцячэць, уцячэць,
Мне галоўку натаўчэць, натаўчэць.
„Трэба-ж будзе сьцерагчыся, уцякаць,
„З вераб'ямі пад страхою начаваць".
Далей крыкнула Тацяна,
Абняўшы за шыю Яна:
„Пашоў Янка у грыбы,
„Тацяна ў апенкі,
„Спаткаліся, абняліся,
„Як дзеткі маленькі".
А за ею Халімон,
Гудзіць, як царкеўны звон:
„Ой Божа мой, Божа!
„Нашто я радзіўся?
„Састарэўся, як сабака,
„Дасюль не жаніўся".
Перастаў. — Гапка спляснула
Ды й тоненька зацягнула:
„На вуліцы курта брэша,
„А да мяне мілы чэша,
„А ці чэша, ці ня чэша,
„Ды ня дарам курта брэша!"
Вот так пляшуць, прыпяваюць,
Хохат, лопат, крык і зык,
Аж пад строп пыл падмятаюць,
А як рэзаў — рэжа смык!
Аж тут, скрып!.. дзверы суздром
Расчыніліся... трывога!
Бо з войтам сам аканом
Як тут — знайшліся ў парога.
Уся ахвота прыўстала,
На ўсіх страхатня напала:
Ананія-ж — як уцяў!
Пахінуўся напярод,
Па ўсіх струнах запішчаў,—
Так кончыўся карагод.
І Гапону не да танца,
Як аконама, паганца,
Ён угледзіў, так прыстаў,
На ўсё горла закрычаў:

„Ой будзе-ж нам цёпленька, браткі!
„Хто малады, уцякай з хаткі!
„Ня дарам сталі шаптаць,
„Што некрутаў будуць браць.
„Пабірай іх ліхі бес!
„Хто дуж, уцякайма ў лес!"
Тут настала суматоха,
Ўсяк бяжыць, маўляў з агня,
Адзін дзьверы выпірае,
Другі цісьнецца пад стол,
Той церав вакно сягае;
А Гапон хваціў за кол,
Ды й спіной стаўшы у куце,
Як мятлой, усіх мяце.
Вот калі пакурцяў [1]) туча,
Гурмам [2]) мядзьвядзя асадзіць;
А ён са злосьці мармуча,
Як каторага пагладзіць,
Той з болю яўкне, той брэша,
Так Гапон наш колам чэша.
Ён вярцеўся, кабы ўюн,
Сюды і туды кідаўся,
Не жалеў, біў, хто папаўся,
Але і коман цікун!
Глядзь, усякія плахціны,
То кажухі, то пярыны,
На Гапона стаў кідаць.
Ня дзіва-ж было паймаць.
Яго, беднага, зьвязалі
Ды й у калодкі скавалі;
Годзе вадзіць карагод!
Кацярынка-ж пабляднела,
Заплакала, абамлела,
Прышоў на іх чорны год.

---

## Песьня другая.

Над сіратою
Бог з калітою.
*З комэдыі-опэры „Сялянка".*

У вялікім у сяле,
Над дняпроўскай стараною,
На прыгарку у вугле,
Між лесам ды між ракою,

---

[1]) Сабак. [2]) Грудам, кучаю.

Там стаялі дзьве хаціны:
Усьціньні, друга — Грыпіны.
Першай мужык быў Мірон;
Нівесь за якія грэхі
Не дажыў з сына пацехі,
А той сын быў наш Гапон.
Ён, няма чаго казаць!
Горды, сьмелы, зух дзяціна!
За сваіх умеў стаяць,
А прыгожы, як маліна.
Ды і пісьменны-ж быў ён:
На яго са ўсіх старон
Дзеўкі сумаўчком зіркалі,
На ігрышчах прысядалі;
А Гапон ані глядзіць,
Ён пры суджанай дзяўчыне,
Наймілейшай Кацярыне,
Як прысядзе — дык сядзіць.
У ўдавы-жа Агрыпіны,
Апроч дачкі Кацярыны,
Болей ня было сваіх;
Яна з Усьціньняй, кумою,
Жыла, як рука з рукою,
Адна дума была ў іх:
Каб сваіх дзетак сасватаць,
Каб худобку ім прыпратаць, [1]
Каб, як сядуць на сваім,
Яны весела зажылі,
Без патрэбы ня тужылі,
Ня рупелі ні аб чым.
У Грыпіны-ж Кацярына,
Крый Божа! бяды ня знала,
Як у садочку маліна,
Расла, цьвіла, дасьпявала;
На шчочках кроў з малаком!
А вочкі блішчаць агнём,
І семнаццаць ужо лет,
Як прыйшла яна на сьвет.
Ну-ж з сабой кумы сайдуцца,
Тут зараз гадкі пачнуцца:
„Пара, баш [2]), дзяцей жаніць;
„Яно усякі адклад
„Ня вельмі ідзе у лад;
„Пойдам [3]) пані чолам біць:

[1]) Сабраць. [2]) Баш—бач—глядзі. [3]) Пойдзем.

„А там дзейся Божа воля,
„Як прыбяром усё з поля,
„Дзетак к вянцу павядзём“.
Гэтак стары гаманілі,
І напеўне [1]) улажылі,
Ды памяшаў аканом.
Ён — баш ты, сабачы сыну!
Упадабаў Кацярыну,
Ды й ну-ж к беднай падсядаць,
То ластаўкай падплывае,
Красны слоўцы выпускае,
Каб як-небудзь яе ўняць.
А Кацярынка — нябога:
„Бойся, кажа, паніч, Бога!
„Гэта-ж грэх така напасьць;
„Як пажалюся Гапону,
„Ён пеўне такога гону
„Панічу цішком задасьць,
„Што зубоў не пазьбіраеш,
„І ахвоту пацяраеш
„Чужых нявестак глуміць“.
Коман Гапона зьлякаўся [2])
На час адстаў, ды закляўся
Маладых ён пагубіць.
Вот ночка яшчэ цямненька,
Дождждык, як з сітца, прышыць,
А войт даўным-даўнюсенька
Загад пад вакном крычыць:
Хто пойдзе дровы рубаць,
Хто крупы таўчы і драць,
А хто з цэпам малаціць,
Каму брагу калаціць.
А вось і аконам сам
Прыбег к карчме на кані [3]),
„Слухай, крычыць, слухай, хам!
„У карк шэльмаў тых гані!
„Бо як толькі апазьняцца,
„То скажы тым гультаём,
„Што й з здароўем ня відацца,
„Так задам ім нагаём“.
А ўжо нечага маніць:
Доўга будзеш памятаць,
Калі возьмець драць і біць,
То і з зямлі ня устаць.

---

[1]) У Заходняй Беларусі цяпер: напэўна. [2]) Спужаўся. [3]) Шыбка прыскакаў.

А вось бліснулі агні,
Войт стадолу адчыніў,
І аконам на кані
У стадоле — як тут быў:
„Гэй, дабрыдзень, аляндару!
„Што тут новага чуваць?“
—„Уф! Вяльмозны камісару!“
Ды й так яму стаў брахаць:
„Ясны пане, сто-з тут цуць,
„Цы я магу усё знаць,
„Ат!.. ведама — людзі п'юць,
„Каб толькі на доўг даваць.
„Ну!.. як пан мне прыказаў,
„Каб я таго ня цыніў,
„То напавер і ня даў,
„Хоць Гапонцык і прасіў
„Маей Сейны, сто Бог крый!
„А як я не дапусьціў,
„То ён ухваціўсы кій,
„Вельмі брыдка сярдзіт быў.
„Ну!.. Пан ясны, звазай сам,
„Калі хоцаць хто у сваты,
„Цы то дзела будзець нам,
„Цы мы таму вінаваты?
—„Як то ў сваты! то Гапон
„Ужо задумаў жаніцца?“ —
Крыкнуў з сэрцам аканом
І вось як пачаў браніцца: [1])
„Ах ты юха! ах ты пес!
„Ты латруга! знаю я,
„Куды цябе хіне бес;
„Ды пастой, душа мая!..
„Ты тут, войт?“—Войт пакланіўся,
Ды за вухам пачасаў:
„Ды тут, пане!“ — абвясьціўся.
Ось аконам закрычаў...
—„Бяжы, гыцлю, мне сійчас!
„І Гапончыку скажы,
„Каб явіўся сюды ўраз;
„Спраўна-ж, гыцлю!... ну!.. бяжы!..
„А ты, пане аляндару!
„Паднясі-жа мне гарэлкі“.
„Гід! гід! [2]) ясны камісару!“—
Ды й пачаставаў з тарэлкі

---

[1]) Сварыцца. [2]) Добра! добра!

Поўнай шклянкай; — аканом
Выпіў з шклянкі, закусіў,
Аж тут з войтам і Гапон
Цераз парог праступіў;
У пояс ён пакланіўся,
„Нех бэндзе!“ [1]) — громка сказаў,
Крыху ўперад падступіўся,
І, што вяляць, — дажыдаў.
Рыжы вусы аканома
Шчэцьцю уверх паднялісь;
Зіркнуў скоса на Гапона,
Вочы кроўю залілісь,
Губы страшна пакрывіў,
Кнут у жмені аж трашчыць;
Як к Гапону падступіў,
Так і ўзяў яго сушыць.
—„Як ты сьмееш, воўча юха!
„Без двара у сваты слаць?“
І бразнула аплявуха,
Што Гапон ледзь мог устаць.
„Ось — я табе, ўражы сыну!
„Як адвешу сотні дзьве,
„То забудзеш Кацярыну
„Ды забудзеш — і сам гдзе“.
Гапон на бок пашатнуўся, [2])
Твар далоняю закрыў,
Наакола абглянуўся,
Ды за таўкач ухваціў.
—„Каб я Бога не баяўся,
„Паказаў-бы я табе!
„Чаго ты тут прыскяпаўся?
„Думаеш, баюсь цябе!
„Пані за то не сярдзіцца,
„Хоць шлюць сваты без двара,
„І пазваляе жаніцца,
„Як каму на то пара.
А ты! маўляў ваўкалака,
„Зьдзекуешся тут над намі;
„Сьцеражыся-ж ты, сабака!
„Помні, што і мы з зубамі“.
Коман, як ту рэч сумеў,
Да стадолы пабяжаў,
Гапон кончыць не пасьпеў,
Так з карчмы ён цягу даў,

---

[1]) Няхай будзе (пахвалёны Езус Хрыстус)! [2]) Пахіліўся.

Крый Госпад! як ён зьлякаўся,
Ледзь да хаты змог прыбыць,
Ды на ўсіх сьвятых закляўся
Гапона на век згубіць.

Вечарком раз ў двор ідзе,
Яснай пані б'е чалом,
Быццам верны аканом,
Ён такі ляпорт [1]) вядзе:
„Кепска, пані, ў нас чувáць,
„Уся воласьць у трывозе,
„Не адзін будзе ў астрозе;
„Хлопцы сталі бунтаваць".

„Хрысьце Пане найласкаўшы! —
Крыкнула пані прыўстаўшы;
„А то чыста кара неба!
„Бедны люд ратоваць [2]) трэба.

Коман затылак [3]) пачэша
Ды й так далей пані брэша:
„Гапона трэба уняць...
„Нівесь, як ён там пранюхаў,
„Ці ў дварэ можа падслухаў,
„Што некрутаў будуць браць.
„Ён усіх хлапцоў сазваў
„Ды й так вось ім расказаў:
„Бяду, браткі, мы наждалі,
„Некрутаў здаваць казалі;
„Чаго тут добрага ждаць,
„Трэба у лес уцякаць.
„А не — усе сабяромся,
„Хто з колам, хто з абухом,
„І за нішто не дадзёмся,
„Хоць там трэсьні аканом".
„Гэтакі, баш, мой савет, [4])
„Іной, пані, рады нет,
„Трэба Гапона паймаць
„Ды й — першага яго здаць.
„Тагды усе пабаяцца,
„Перастануць бунтавацца".

Пані рукі заламала,
Са страху на ўсё прыстала.
Так Гапон наш кончыў танец,
Ён надзеў казённы ранец
І пашоў цару служыць.

---

[1]) Рапорт, данос. [2]) Ратаваць. [3]) Патыліцу. [4]) Рада.

Кацярынка-ж усьцяж плача,
А коман пры беднай скача,
Вот налёг яе згубіць:
Прыказаў заз̌ваць у двор
Ды й у прачкарню упёр;
Баш! узяла погань моч:
То прыкінецца к ей лісам,
То са злосьці страшным бісам, [1])
Каб як-небудзь яе змоч. [2])
А Кацярынка галосіць,
І, падняўшы к небу рукі,
Яна Бога усьцяж просіць,
Каб акончыў цяжкі мукі.
Так раз яна у садочку,
Ды й у цёмным у куточку,
Горкі сьлёзкі вылівала,
Сваю долю праклінала.
Бог пажалеў сіраціну,—
Трэба-ж у тую гадзіну
Пані па саду гуляць
І бедненькую спаткаць.
—„Што ты, сэрца, цяжка стогнеш,
„Аб чым горкі сьлёзкі роніш,
„Хто пакрыўдзіў, скажы мне?"
Кацярынка-ж бяз трывогі
Яснай пані пуц! у ногі,
Ды й так расказ свой іме:
„Пані наша найясьнейша!
„Маці наша наймілейша!
„Вот крыўда мая така!"
Ну-ж тут праўду ей казаці,
Аканома цукраваці,
Не жалела-ж языка.
У пані вушы павялі,
Аж валасы дыбам сталі,
Як пачула той расказ:
І успляснула рукамі,
І залілася сьлязамі,
Ды й такі дала прыказ.
„Штобы пана аканома
„Ні нагі тут кала дома
„За гадзіну ня было".
Вот ён, далоў нос спусьціўшы
Ды як воўк вушы стуліўшы,
Пакінуў двор і сяло.

---

[1]) Бесам. [2]) Змагчы.

З той-жа пары Кацярына,
Як пакаёва дзяўчына,
Пры пані стала служыць;
Пані яе палюбіла,
Чытаць, пісаць навучыла,
На ксёнжцы [1]) Бога хваліць.

---

## Песьня трэцьцяя.

Хто пад кім яму капае,
Часта сам туды ўпадае.

*З комэдыі-опэры „Сялянка“.*

Ня так скора час праходзіць,
Як казка рэчы выводзіць;
Вот пяты гадок настаў,
Гапон на вайне як служыць,
Кацярынка па ім тужыць,
А аконам цягу даў.
У горадзе Магілеве,
Пры шырокім пры Дняпрэ,
Гудзіць, кабы шэршні ў дрэве,
Кіпіць, якбы у катле.
Там вуліцаю пан гоніць,
Каляска стралой ляціць,
Пад каньмі аж зямля стонець,
„Ахварысь, падзі!“—крычыць.
Тут сустрэнеш каламажку,
Вот конікі! глядзь! кругом
Гладкі — ляцяць у размашку;
Гэта пеўне аканом.
Далі хтось там на драбіне,
Конік, быццам рак, паўзе,
Згадаеш па кіслай міне,
Што пасэсара вязе.
А там хвурманак багата,
Маўляў грыбоў у бару;
Глядзіш! то нашага брата
Вязуць на службу цару.
Кабы галодны сабакі,
Так жыдоўскі лапсардакі
Лезуць к табе саранчой;
Пападзіся-ж ім у когці,
Наўрад патрапіш іх змогці,
Вытрабушаць кішэнь твой.

---

[1]) Па кніжцы.

Вот у каменны палаты
Сходзяцца паны багаты,
Золата на іх кіпіць;
Мужычкоў туды-ж прыводзяць,
І аднадворцы прыходзяць,
Там на службу маюць брыць.
На сярэдзіне сьвятліцы
Стаіць стол, накрыт сукном,
Пры ім, з крыжам у пятліцы,
Падпёршыся кулаком,
Ясны маршалак сядзіць;
Ён, маўляў рабін у школе,
Ці як хвурман у стадоле,
Важна так на ўсіх глядзіць.
Направа пан вельмі срогі,
Вусы, як у быка рогі,
Вот так старчмою стаяць;
Валасы яго сівенькі,
Мундзір на ім галубенькі,
На грудзёх крыжы блішчаць.
А за ім якісь пузаты,
Быццам мядзьведзь, так касматы,
Гэта дохтар мае быць;
Рукі за сабой трымае,
Пальцамі перабірае,
Ды часта ў карман [1]) глядзіць.
З левай стараны маршалка,
Тоненькі, просты, як палка,
На розум, відна, хіцёр!
Ён з падлоб'я паглядаець,
У руцэ пяро трымаець,
Гэта, кажуць, пракурор.
На канцы якісь вайсковы,
Смуклы [2]), відны і здаровы,
Прыгожанькі кавалер!
Часта ён на стойку вокам
Меціць ў раздум'і глыбокім;
То прыёмны ахвіцэр.
Вот з крэсла маршал схваціўся,
Усім ў пояс пакланіўся,
Табакеркай заскрыпеў;
Далі крыкнуў да дазорцы:
„Няхай пачнуць аднадворцы!"—
Ды й зноў на места прысеў.

---

[1]) Кішэнь. [2]) Стромкі,—тонкі і стройны.

Тут ля бакавой раздаўся
Святліцы жалобны стон,
І найпершы паказаўся
Наш знаёмы акамон.
Ях прышла шляхце трывога,
Каб бумагі ўсяк складаў,
Коман, з дапушчэньня Бога,
У аднадворцы папаў,
І вот, маўляў, ня урокам
Кажучы, пагана чэсьць!
Трэба-ж, быццам-бы нарокам,
На вочарадзь яму ўлезьць.
Як вала вядуць на бойку,
Так акамона пад стойку,
Ён-жа не пацягне й ног;
Ды скорчыўся у клубочак,
З дохтара ня зводзіць вочак,
А так стогне, што крый Бог!
Дохтар важна прыступае,
І некрута аглядае,
Зубы, ногі, бакі, стан;
Патуль каля яго тупаў,
Пакуль кругом не ашчупаў,
Вот, маўляў, каня цыган.
Відна, з сабой яны зналісь,
Пярвей, відна, паўстрачалісь:
Дохтар, баш, ганьбу нашоў.
Кажа, ў службу не гадзіцца,
Яму трэба палячыцца,
Ды і меры не дашоў.
А некрут: „Мае паночкі,
„Вы, ясныя сакалочкі!
„Гдзе тут хвораму служыць.
„Вот так коле мне у грудзі,
„Што сухоты, кажуць людзі,
„І ў баку вельмі баліць“.
Кабы варам абліў плечы,
Як пачуў гэтакі рэчы
Наш малады ахвіцэр,
Ён з места свайго самкнуўся,
Пры некруце апынуўся,
Глядзіць, быццам ліхі зьвер.
Пад стойкай яго прастуе,
Струной цягне ды й мацуе;
А ў бараду кулаком
Як парадкам яму суне,
Глядзі! вот саўсім ачуне
Наш няшчасны аканом.

„Нашто людзей, кажа, зводзіць?
„Ён меру навет праходзіць,
„Я бяру на свой адвет:
„Яка тут к чорту хвароба?
„Здаць! — а посьле будзе проба,
„Возьмем яго ў лазарэт“.
Дохтар кішэню пачухаў,
Маршал табакі панюхаў,
Некрут жаласна запеў;
Сударга на акамона
Напала: пазнаў Гапона
Ды й са страху абамлеў.

---

## Песьня чацьвёртая.

Ехала Агатка да вянца,
Сыпала золата з рукаўца;
Хто гэта золата пабярэць.
Гой мяне на вянец павядзець.

*З вясельнай песьні беларускага люду.*

„Начніце варгі [1]) нашы хваліць Панну Сьвенту! [2])
Начніце апавядаць чэсьць Ей непаенту“ [3]).
Гэтак тонкім галасочкам,
У дварэ раз вечарочкам
Кацярынка прыпявае:
Яна у добрай ахвоце
Хваліць Бога пры рабоце,
А пані ей памагае.
Цяпер нашу Кацярыну,
Тую сельскую дзяўчыну,
Хто-б сустрэнуў — не спазнаў;
Панску гаворку сумела [4])
І сукеначку надзела,
Быццам паненка — маўляў!
А хоць яна пакідала
Яркі касьнікі, гарсэт,
Ды ў душы не перастала
Уздыхаць да прошлых лет.
Вот часта яна у сьвяткі
Пабяжыць да сваей маткі,
Да сэрца яе прыляжа,
Роніць слёзкі ды й так кажа:

---

[1]) Вусты. [2]) Панну Сьвятую — Багародзіцу. [3]) Недаступную розуму.
[4]) Наўчылася папольску.

„Родная ты мая маці!
„Пажалей свайго дзіцяці,
„Сьлёзкі яго асушы.
„Гдзе-ж Гапонька наш дзяецца?
„Як беднаму там вядзецца?
„Цяжанька-ж мне на душы.
„Яшчэ-ж каб Усьціньня жыла,
„Яна-б з намі патужыла,
„Утраім было-б лягчэй;
„Ато цёмная магіла
„Яе, родную, пакрыла,—
„Не змагла тугі сваей“.
Вот так, баш, як мы казалі,
Яна з паняй вечарком
Сьвяты песьні запявалі,
Аж лякай убег прытнём
Ды й кажа: „Пані вяльможна!
„Заехаў у двор цяпер
„Якісь важны ахвіцэр,
„І пытаецца, ці можна
„З яснай паняй павідацца,
„З сваей чэсьцю паказацца?“
А пані кажа — прасіць!
Ды й чапец свой падцягнула,
На Кацярынку зіркнула,
Ці няма ў чым пахуліць.
Тут у дзьвярэй паявіўся,
Сюды, туды пакланіўся
Прыгожанькі ахвіцэр;
Красны, відны і здаровы,
З ясным вокам, чарнабровы,
Золатам блішчыць мундзер.
Як глянула Кацярынка,
Здрогнула, маўляў асінка,
Сьлёзкі брызнулі з вачэй;
Ручкі на грудзёх зложыла;
Быццам другі раз ажыла:
Гапон нашоўся пры ей.
Ён гэтак, баш, як стаяў,
Угрунь кінуўся у ногі
Яснай пані, і пачаў
Свае рэчы бяз трывогі:
„Спазнай, панюхна, Гапона,
„Што ласкаю акамона
„Цару ён пашоў служыць;
„Ён на вайне заслужыўся,
„І ахвіцэрства дажыўся,
„Цяпер-жа мае прасіць,

„Каб ты, пані, кабы маці,
„Маўляў сваяму дзіцяці,
„Долю шчасну даравала;
„І, калі згодна ядына,
„Наймілейша Кацярына,
„Зручыць нас не адмаўляла".
Кацярынка-ж як стаяла,
Тут-жа к нагам ёй прыпала,
А так міленька глядзіць!
Што паня і расплылася,
Крэпка з ею абнялася
Ды й ну-ж ім благаславіць.
Хоць Гапон чыноў дажыўся,
Ды ведаў, з каго радзіўся,
Не хацеў прынараўляць
Паном, — а простым звычаем,
Ён мужыцкім абычаем
Здумаў вясельле сыграць.
Вот у ўдавы Агрыпіны
Гаспадароў повен двор,
А наперадзе дружыны
Стаіць важна сват Хвядор;
У руках з гарэлкай пляха,
А чарка тоўста, як вол,
Міргнуў! — і Маланьня-сваха
Абрусом накрыла стол.
Ён пляшку з чаркай паставіў,
Розны закускі дабавіў
Ды й з галавы шапку зьняў;
Агрыпіне пакланіўся,
Водкі да яе напіўся
І такі рэчы пачаў:
„Нех бэндзе Езус Хрыстус пахвалёны!
„Для спасеньня грэшных з Марыі зрадзоны.
„Ня прышлі мы чарадой ад сябе,
„А прыслаў нас Гапон да цябе.
„Ёсьць у цябе Кацярынка-дочка,
„Яна ў маці, як правае вочка;
„Ды й Гапон наш малады,
„Ён Цару верна служыў,
„Хват дзяціна — хоць куды!
„Б'ём мы ўсе чалом вашэці!
„Зазаві яе із клеці,
„Няхай з намі пагуляе
„Ды й гарэлкі папытае".
Тут дзяўчаты, маладзіцы
Кацярынку із сьвятліцы

Чэсна пад-ручкі вядуць,
І такі песьні пяюць:
„Ото-ж табе, Хвёдарка,
„Увядзёнка Кацярынка,
„Калі яе любіш, дай пірог,
„Калі ня любіш, то вон за парог!
„Не хваліся, што ў нас быў,
„Што нашай Кацярынкі ня зьлюбіў".

Хвёдар маладу ўстрачае,
Поўнай чаркай прапівае,
Пірог, сыр кладзе на стол;
Гарэлка ў міску ліецца,
Рублявік на дне бадзецца,
Разгуляўся сват вясёл.

А дзеўкі водку забралі,
Закускі, пірог і сыр,
У істопку пабяжалі,
Галосячы на ўвесь мір;
Уздаволь там пілі, елі,
І гэтакі песьні пелі:

„Мовіла бочачка, у піўніцы стоячы:
„Калі мяне ня вып'еце,
„Сама выкачуся,
„Па двары разальлюся
„Ракой ды крыніцай,
„Сьцюдзёнай вадзіцай.
„Мовіла Кацярынка, у маці седзячы:
„Калі мяне ня выдасі,
„То я сама пайду,
„Па двары памаленьку пабраду,
„За вароты угрунь пабягу".

Тут яны у позну ночку,
Аж да яснага сьвяточку
Пілі, елі ды й гулялі,
Запоіны праваджалі.

А ў суботу вечарком,
За Грыпініным сталом,
Сядзела така дружына:
На пачэсным на куце,
Важна гаворку вядзе
Перша сваха Акуліна.

Дружкі ўправа, возьле сваці,
Дзьве прыгожы маладзіцы,
То Гапоніны сястрыцы,
Хоць не аднэй яны маці.

Ўлева намесьнік сядзіць.
Жадна [1]) на пляшку глядзіць.
Далі сустрэнеш Гапона
Дружкоў, Янку ды Мірона,
На канцы-ж хросны Даніла,
То маладога вазіла.
А сват Хведар, то і дзела!
Гарэлкі ўсцяж падлівае,
Новы закускі стаўляе,
Пірагі, сыр, што прысьпела.
Тут чатыры маладзіцы,
Цягнуць дзяжу із сьвятліцы,
На крыжу яе стаўляюць,
Бел каравай расчыняюць;
Сваха муку ім прыносіць
Ды й благаславеньня просіць:
„Ёсьць тут Бог, ды й матка,
„Радзоныя і суседзі блізкія,
„І дальныя мужы сустрэчныя,
„Бабкі запечныя,
„Дзеткі заплечныя,
„Благаславіце краснай паньне каравай учыніць“.
Каравайкі-ж пры рабоце
Пяюць у добрай ахвоце:
„Благаславіце, людзі!
„Блізкія суседзі,
„Гэтаму дзіцяці
„Каравай замясіць,
„Ручкамі бяленькімі,
„Персьцянямі залаценькімі,
„Песьнямі весяленькімі.
—„Ты ступ, Божа, з неба,
„Як нам цяпер трэба,
„Памагаў расчыніць,
„Памагай замясіць.
„Ня стой, Божа, за дзьвярмі,
„Ды йдзі, Божа, ў хату,
„Ды сядзь, Божа, на куце,
„Ды дай долю маладзе!“
—„Я у хату не пайду,
„Я за дзьвярмі пастаю,
„Маладзе долю перашлю.“
—„Зьбірайся, родзе!
„Ды к беленькаму караваю,
„Старыя бабы ля парадку,

---

[1]) Прагавіта.

„Маладыя маладзіцы песьні пецы,
„Удалыя малайцы каравай печ“.
Ды каб усё расказаці,
Які парадак у хаце,
Як змовіны адбылі,
Ды й каравай адпяклі,
Як хлопцы, дзеўкі скакалі
„Лявоніху“, то „бычка“,
„Мяцеліцу“, „казачка“,
Як маладую саджалі
На пасад — казка така,
Што ня стала-б языка.
Вот прышла нядзелька красна,
Засьвяціла зара ясна,
Гапон наш мундзір надзеў;
Шчыра уздыхнуў да Бога,
Сеў на каня варанога
Ды й к маладой паляцеў.
А дружбы, Янка з Міронам,
Віхрам садзяць за Гапонам:
Сьледам хлопцаў грамада
Ляціць, песьні запяваець,
Вецер сьвіткі разьвяваець,
Ну! прыгожа чарада!
На канцы вазком Даніла
Гудзіць, колькі зможа сіла:
Канём музыку вязе;
Ананія-ж прыпяваець,
Ёмка смыкам падсякаець,
Не заўважыў, што трасе.
Як заехала дружына,
З хаты вышла Агрыпіна,
Надзеўшы кажух наўзнак;
Чарку Гапону падносіць,
У святліцу зайці просіць,
І рэчы выводзіць так:
„Зяценька!
„П'ю на цябе поўным кубкам,
„Добрым здароўем,
„Што мысьлю сабе,
„То і табе“.
Гапон чарку бярэ ў рукі,
Двойчы выліў за сябе,
А трэці раз для вырукі
Белы рублявік кладзе.
Грыпіна чарку прымае,
У сьвятліцу запрашае.

Дзеўкі-ж карагодам ходзяць,
Жалобны песьні заводзяць:
„Хто у полі паціхоньку гукаець?
„Там Кацярынка свайго таткі шукаець,
„Хоць шукаець, ня шукаець—ня знайдзець...
„Ой далёка ёй татачка, далёка!
„Ў сырой зямлі, ў жоўтым пяску глыбока.
„Ды зрабілі добры людзі вечны дом,
„Без дзьвярэй, без аконачка, бяз сонца,
„Не прамоўлю, дзіцятка, ні слоўца“.
Тут настала частаваньне
Ды й падаркаў раздаваньне,—
Сотню паясоў, маўляў!
Свата ручніком зьвязалі,
Баклагу у рукі клалі,
Каб гарэлкі больш дастаў.
Лубку з жытам падстаўляюць,
Маладу на ёй саджаюць,
Як каралеўну на ўрад;
Яна-жа усцяж галосіць,
Кругом паклоны разносіць
Ды й зноў сядзе на пасад.
Дзеўкі-ж, хлопцы, п'юць, гуляюць,
Пад скрыпачку падпяваюць:
„Скочыла Кацярынка з лаўкі далоўкі,
„Скланілася мамачцы нізка у ножкі,
„Норкамі зямлю парыла,
„Сьлёзкамі ножкі памыла.
„Карыся, Кацярынка, старому,
„Кланяйся і маладому,
„З паклонаў галоўка не баліць,
„Стары і малы благаславіць“.
Як баш, нявесту прыбралі,
Да двара так паскакалі
Яснай пані чолам біць,
На вясельле папрасіць.
А пані — ня пані, маці!
Маўляў роднаму дзіцяці,
Прыгожы пасаг дала,
Радасну сьлёзку ўраніла,
Маладым благаславіла,
Сама к вянцу павяла.
Ксёндз маладых спатыкае,
На ўсё жыцьце іх злучае;
А як скончыўся абрад,
Скрыпіцелі загудзелі,
Дружкі вясёла запелі,
Ды й вярнуліся назад.

Паню на кут запрасілі,
Пры ей ксяндза пасадзілі,
Сват парадкам пачаў чэсьць:
Піва, мёд ракой ліліся,
Каўбасы з салам нашліся,
Ўздаволь было піць і есьць.
Дзеўкі, хлопцы, маладзіцы,
Цэлу ночку па сьвятліцы,
Бадзяліся, хто як змог:
Як у гаршку там кіпела,
Ад пылу аж пацямнела,
Суматоха, — што крый Бог!
Я на тым вясельлі быў,
Піва, мёд, гарэлку піў,
У роце здаволь было,
Аж па барадзе цякло.

---

## З „ВЕЧАРНІЦ".

(1855 г.).

### ВЕЧАРНІЦА ДРУГАЯ.

Стаўроўскія дзяды.

**Песьня першая.**

На другім тыдні прышла серада,
Вот к Ананію сельска грамада
Зноў сабралася, абсела сьвятліцу;
Гдзе-ж весялей правесьць вечарніцу,
Як не ў старога?—Дзед на казкі гад!
З ахвотай слухаць кожан яго рад.
Ўсяк дзеля бяседы кішэню патрос;
А Халімон—з Данілавай хаты,
Дзяцюк прыгожы, вясёлы, багаты,
Ад Мордкі пляху гарэлкі прынёс.
Вот не раўнуючы, як, баш, прааццы
Сваіх дзядоў, бацькоў шанавалі,
Так і Ананію ац сэрца кахалі,
Цэлая валасьць—маладыя, стары.
Дзядок плёў лапці, седзячы ў куце́,
Рад што з грамадкай вечар правядзе;
Гаспадароў радасна страчае,
А малых дзетак ён благаслаўляе.
Смольнай лучыны згатаваў Пятрок,
Засьвяціў ярка ў хаце лучнічок;

А як апошні гаспадар прышоў,
Усе заселі; на старца [1] глядзяць,
Чакаюць жадна, што пачне казаць;
Дзед вокам мутным дакола павёў,
Перахрысьціўся, малітву сказаў
Ды й такі рэчы гаварыць пачаў.
„Суседы дабрыя—дзеткі дарагія!
„Дзякуй-жа вам, што убогу хату
„Вы не забылі; каб зато багату
„Бог паслаў вам долю, дзетачкі мілыя.
„Пакуль-жа пачну казачкі ілгаць,
„Помніце, дзеткі!—ды й на прышлы час,
„Усяка дзела ад Бога пачаць,
„Так ксёндз дабродзей здаўна вучыў нас.“
Тут дзед старэнькі голас свой падняў
Ды й—„Ах, мой Божа! веру“—засьпяваў,
А стары, малы калены згібалі,
Пець сьвяту песьню дзеду памагалі.
Кончылась хвала Боска. Тут дзяўчаты
З белай кудзелькай заселі ў круг хаты,
А гаспадары, хлопцы, хто гдзе змог,
Той на калодзе, той заняў парог;
Усе замоўклі—сказаў-бы памлелі,
Вярцёны толькі кругом загудзелі.
—„Іздаўніх-даўна, некалькі сот лет,
Яшчэ разумным ня быў так наш сьвет,
Як цяпер, дзеткі. Праведнага Бога
Ня ўсе хвалілі; было людзей многа,
Што ня ў хрышчонай веры пражывалі,
Нячыстай сіле паклон аддавалі.
Вот у Лагойску, над Гайнай ракой,
Быў вельмі крэпкі замак крывічан,
Там малады княжыў князь Грамабой;
Добры, адважны, шчыры быў то пан.
Не прапускаў кепства [2] ён нікому,
Гатоў, бывала, хоць аканому
Засьпяваць праўдай; мужычкам быў рад,
Не жалеў хлеба, солі для грамад.
Там-жа недалёка у воласьці жыла
Мужыцка сямейка: гаспадар Даніла,
Яго з першай жонкі дачка Кацярына,
Расла, як тычынка, цьвіла, як каліна:
Бывала, вочкам як на цябе гляне,
Нехацяя сэрца тваяго дастане:

---

[1]) Старога. [2]) Нядобрых учынкаў.

Серабрысты голас, як у салавейка,
А гаспадарная, быццам муравейка,
Ціха, як авечка—прыгожа, як краска;
Зато-ж мачыха яе, Параска,
Была, як гадзюка, злая, што крый Божа!
Бывала, ад сьвету як возьме брахаць
Ды й на Кацярынку стане вымышляць,
Хоць на сьмерць заплачся—нішто не паможа.
У бабы доч Мархва, як маці, сярдзіта,
Брыдка, маўляў ведзьма, горка, як асіна;
Ня раз бедненькая наша Кацярына,
Пакрыўджана Мархвай, з яе ласкі біта,
Уздыхне ад сэрца, сьлёзкамі заплача,
А злая дзяўчына з радасьці аж скача.
Бывала калісьці, у даўні гады,
Прааццы нашы Стаўроўскі дзяды
Грамадой вялікай важна паміналі,
Мёртвых дзядоў, бацькаў к сталу прызывалі.
Ды і Даніліна, баш, заўсёды хата
Стаўроўскія дзяды што год памінае;
Як прыдзе, бывала, Зялёнае сьвята,
Сваякоў магільных бяседай страчае.
Раз Стаўроўска сьвята людзям засьвяціла,
Не адна цяжэнька паднялась магіла,
Мёртвыя душачкі узялі кружыць
Па белым сьвеце, а ведзьмы старыя,
Вот маўляў зьвер люты—ваўкалакі злыя,
Ну-ж бедным людзям худобку глуміць.
З зарой Кацярынка у той дзень устала,
Беленькае лічка ў ручаю скупала,
І з сіненькіх вочак стала слёзкі ліць,
Благатварыцеля ад сэрца прасіць,
Каб даў Ён спасеньне матачцы радной,
Душачцы грэшнай вечны упакой.
Мархва-ж з палаці ня хоча устаць,
Гляне на хату, ну ж матцы брахаць:
„Маці, а маці, палядзь!—Кацярына
„Нішто ня робіць: чакае у сваты,
„Яшчэ дасюль не замяла хаты.“
Крычыць Параска: „Гультайка дзяўчына!
„Бяры мятлу! ідзі двор мяці!
„Досіць бяз дзела у кутку стаяці!
„Каб было чыста у запечку, хаце,
„Зараз мне, дочка паганска, ляці!“
Тут Кацярынка ручкі закасала,
Сьвятліцу і двор чысьценька прыбрала,
А пасьля з бабай сталі печ тапіць,
Важну бяседу для дзядоў варыць;

Мархва-ж з гультайства праспала дзянёк;
Аж вось у хаце блiснуў аганёк.
Дубовы стол Кася [1] накрывае,
Данiла пляху гарэлкi стаўляе;
Выглянуў, асьлi госьцi ня iдуць?
Найпершы Казьляр [2] туды паявiўся,
Гаспадару ў пояс паклянiўся,
За iм—Гусьляр [3], там свае брадуць.
Ксёндз няхрышчоны несьвяту грамнiцу
Яркiм агнём запалiў,
К сьцяне яе прыляпiў,
Блiснула полымя на цэлу сьвятлiцу.
З Гусьляром яны малiтву пачалi,
Дзядоў Данiлiных жыцьцё памiналi,
А як кончылi, душачкi сустрэлi,
Згасiлi сьвечку ды й за стол заселi.
Гаспадар чарку ў гору падымае,
Пакуль скаштаваў, крыху на стол зьлiў;
Такi абычай iз-даўня там быў;
Пасьля да ксяндза душком прапiвае.
Ксёндз—да Гусьляра з такiм жа абрадам,
Гусьляр—да Параскi: баш, сядзелi радам;
Пакуль жа у круг чарку абнясьлi,
Абрусок да нiткi гарэлкай зьлiлi.
Са стравамi мiскi Кацярынка зносiць,
Данiла частуе, гасьцей важна просiць,
Усяк на талерку глiняну бярэ,
А пакуль есьць возьме, першу лыжку лье
У мiскi, што там-жа пасярод стаялi,
Каб душачкi з iмi разам спажывалi.
Боршч з саланiнай на стол паявiўся,
Кiсла верашчака за iм з каўбасой,
Грэцкiмi блiнамi абрусок пакрыўся,
А далей крупнiк з парасём стралой
Ляцеў у талеркi: вячэра сьвятая!
Бадзялася тут-жа лямешка густая,
Панцак, ягляная са скваркамi каша,
То яда мужыцка!—то пацеха наша!
Вот на лыжцы Касi прысеў матылёчак,
Дробненькiя сьлёзкi брызнулi iз вочак;
То матачкi яе душачка сьвятая,
Так думала Кася, мiла паглядае,
Не страпяне лыжкай, каб матылёк еў;
Ён пасядзеў крыху,—далей паляцеў.

---

[1]) Кася — ласкавае: Кацярына. [2]) Духоўная асоба ў паганскi час беларускiх пляменьняў. [3]) Гусьляр—музыкант на гусьлях.

Пад канец вячэры малады Гусьляр,
Шапнуў дабрадзею; вот устаў Казьляр,
Лыжкай зачарпнуў ён усялякай стравы
Ды й пад стол падкінуў, ня дзеля забавы,
А што, баш, абычай здаўня такі стаў;
Як кончыўся абрад, ён прабарматаў.
„Стаўры, Гаўры—гам!
„Прыхадзіце к нам.“
У сянях быццам штосьці зашумела [1]),
Маўляў цьма варонаў туды наляцела:
А пасьля, здаецца, сабакі брахалі:
Са страху валосы усім дыбам сталі.
Ускочыла Мархва, хапае лапату,
А Кася, узяўшы місу верашчакі,
Сьмела ідзе к дзверам, адчыняе хату,
Аж вось два вялікі увашлі сабакі.
Мархва дзеля страху лапатаю грозіць,
Каб выгналі ліхіх, усіх гасьцей просіць,
Кася-ж не баіцца міску ім паставіць
Ды й да верашчакі лямешкі дабавіць,
Кожнага за шыю сьмела абнімае;
Брытан [2]) міла гляне ды й хвастом віляе.
Асвоілась Мархва, да Касі прыстала:
„Што, баш, за ахвота на цябе напала
„Так брыдкіх сабак у хату пускаць
„Ды й яшчэ стравай іх прынараўляць?“
Ня слухала-ж Кася, сабак частавала
Ды й крутой лямешкі усьцяж дабаўляла.
Як брытаны паядалі,
Касі ножкі палізалі,
Пасьля яны страпянуліcь
Ды й за дзьвярмі апынулісь,
Толькі зямля, гдзе стаяла
Кацярынка, заблішчала.
Нагнулася дзеўка, з зямлі падымае
Дзьве цацкі блішчасты, як сонца лучы,
Бяруць цацкі госьці, усякі пытае,
Што гэта за дзіва?—Казьляр, глядзючы
На Касін падарак ад дзіўных сабак,
Падумае крыху ды й раскажа так:

---

[1]) З беларускай міфолёгіі: у Краснапоі, над ракою Дрысаю, панаваў князь Бой. У яго былі два сабакі, каторыя яму вельмі верна служылі. Калі яны ад старасьці здохлі, князь казаў сьвяціць іх памяць і на гэта назначыў адзін дзень —перад Сёмухай. Сабакі гэтыя называліся адзін Стаўры, другі—Гаўры; стуль-то і на Дзядах клічуць: „Стаўры, Гаўры—гам! прыхадзіце к нам!“

[2]) Парода вялікіх вартаўніцкіх сабак.

„Залатая цацка—гэта абраз Лады [1]),
Яе аб дабытак валасной грамады [2])
Прасіце, дзеткі. А друга—крыж Панскі, [3])
Дарага памятка веры хрысьцьянскай.
Хто з вас абраз Лады спытае насіць,
Таму у раскошы, шчасьці век свой жыць;
А каб не прагневаць вам, дзетачкі, неба,
Другую памятку ў агні спаліць трэба.
А тыя-ж сабакі—гаспадара Боя,
Што калісьці княжыў ён у Краснапоя;
За ўсякі прыслугі, каторых дазнаў
Ад Стаўра і Гаўра, сваіх брытаноў,
Ён верным падданым грамату паслаў
Сустрачаць бяседай Стаўроўскіх дзядоў;
Дзень на то назначыў, каб іх памінаць,
Калі-б Стаўра, Гаўра на хаўтуры зваць.
Вот бачыце, дзеткі! як мы іх заклялі,
Зараз паявіліс, вячэры спыталі,
І прыгожай дочцы вашай, Кацярынцы,
За добрае сэрца прынясьлі гасьцінца.
Завісьць бярэ Мархву, злосна, вокам стрыжа,
Аж тут абазьвецца маць яе, Параска:
„За што-ж Кацярынцы мае быць та ласка?"
Бярэ абраз Лады, на шнурочак ніжа,
Ды й прыбрала дочку, радасна глядзіць,
А Мархва аж скача: золатам блішчыць.
—„Кацярынка-ж, маці, няхай прыбярэцца
У жалезну цацку" — так Мархва пяе,
А пасьля у голас яна засьмяецца
Ды й крыжык жалезны ад маткі бярэ,
Рукою нячыстай на шнурок чапляе,
На беленьку шыйку Касі завяшае;
Рада Кацярынка, крыжычак цалуець,
А Даніла госьці вячэрай частуець.
Вось яны пад'елі, ад стала адсталі,
Памаліліс Богу ды й гэтак казалі:
„Сьвятыя дзяды! папілі, паелі,
„Ідзіце-ж к сабе, каб дамоў пасьпелі".
Ды і нам, дзетачкі, пара адпачыць,
Напіцца гарэлкі, крыху закусіць.
Тут дзеда на кут саджаюць,
Чаркай к яму прапіваюць,
Ды й заселі грамадой:
Мятуць! вот быццам мятлой.
Каўбасы, сала, што на стол паклалі,
Дочыста зьелі, памінай, як звалі.

---

1) Багіня дабра і характва. 2) Усяе валасьці. 3) Божы.

## Песьня другая.

Вот на Лагойскім замку Грамабой
Ледзь пачаў княжыць, а ужо як свой,
Як родны бацька быў ён для чалядзі,
Любілі яго у цэлай грамадзе.
    Коратка дзяржаў ён радных паноў,
    Не папушчаў ў крыўду бедных мужычкоў,
    Ды што і казаць! бывала, як гляне,
    На аканома ці на камісара,
    Усяляку праўду з-пад ногця дастане:
    Кожан баяўся такога мацара.
Да зьвера ахвотнік вялікі ён быў,
Часьценька са стрэльбай да лесу хадзіў;
Возьме, баш, гарэлкі, талакна кусок,
Дзесятак яечак, сыр, хлеба ламок,
Раненька устане, ад сьветлай зары
Ходзіць ён па лесе да цёмнай пары.
    Віт, князь літоўскі, раз к яму праслаў
    Сваіх пасланцаў, каб, баш, помач даў
    Процію паганскай сілы ваяваць;
    Князь Грамабой пашоў памагаць
    Сваяку Віту аж да самай Оршы,
    Кінуўсь на паганцаў, — моланьні скоршы,
    Усіх пабіў іх, вярнуўся да хаты,
    Прывёз з сабою дабычы багаты.
Усенька грамада добрых крывічан,
Ці то мужычок быў, ці вялікі пан,
Сваяго князя радасна страчае,
Дарожку яму каўром высьцілае.
    Князь Віт, углядзеўшы, як яго кахалі,
    Маўляў родненькага бацьку спатыкалі,
    Радасну сьлёзку кулаком абцёр
    Ды й такі з князем завёў ён гавор:
„Трэба, міленькі, табе ажаніцца,
„Кабы на старасьць дзетачак дажыцца,
„Хто-жа па табе мае панаваць,
„Каму грамадку таку адказаць?“
    Паны, што з імі на вайну хадзілі,
    Князеву гаворку зараз падхапілі,
    Ды й рукі яго цалуючы, ногі,
    Такія рэчы кажуць бяз трывогі:
„Дарагенькі наш князёчак!
„Родны бацячка, паночак!
„Паслухай дзетак сваіх просьбы шчэры, [1])
„Выбяры жонку—якой хош манеры:

---

1) Шчырыя.

„Ці можную каралеўну,
„Ці багатую князеўну,
„Ці маладую шляхцянку,
„Ці прыгожую хлапянку:
„Мы яе будзем, як матку, кахаць,
„Як цябе, князю, станем шанаваць".
Князь аж расплакаўся, з Вітам ён абняўся
Ды й скора жаніцца грамадзе закляўся.
Цэлы год з панамі ён сваімі радзіў,
У якія царствы сватоў, баш, паслаць,
Гдзе жонкі прыгожай яму пашукаць?
Аж стары пан радны бараду пагладзіў
Ды й кажа: „Князёчак ты наш дарагі!
Касьцельнага трэба радзіцца слугі;
Няхай ён малітву сваю прачытае,
Няхай, баш, нябесных багоў папытае,
Яку пашлюць раду — каб сказаць ён мог".
А тады, дзетачкі, было багоў многа,
Усякі куточак меў сваяго бога,
Вот не раўнуючы, што бацька — то бог!
Тут ксёндз старшы Апанас,
Абкурыў ладанам сьцены у касьцеле
Ды й просіць Бога, каб зладзіў вясельле
Добраму князю ды у добры час.
Раз князёк каханы шоў на паляваньне,
Вельмі умарыўся, пад дрэвам прыстане,
Ногі абамлелі, ён крыху прылёг,
Вочы, баш, прыжмурыў, вот сон яго змог.
Тут яму прысьнілась, быццам дзед старэнькі,
Ледзь пацягне ногі, як галуб сівенькі,
Вядзець пад-ручку маладую дзеву,
А так прыгожу, маўляў каралеву!
Валасы русы у стручочкі ўюцца,
Краскі на шчочках, як з крыніцы б'юцца,
А сінім вочкам, дзетачкі, як гляне,
Нехаця сэрца тваяго дастане;
Кветачкамі сьвеціць яе андарак,
Гарсэцік чырвоны, як у гаршку рак,
Дробненькія ножкі, бач малай дзяўчонкі,
Як лебедзеў пушык — белыя ручонкі:
Сваявольны вецер касьнік разьвявае,
На грудках жалезны крыжычак мігае.
Дзядок што раз бліжай з паненкай падходзіць,
Дзівіцца князёчак, воч з яе ня зводзіць,
Сэрца закіпела, розум пацяраў,
Ад душы прыгожу дзеўку пакахаў.
Ціхім галасочкам старэнькі дзед кажа;
„Така воля неба, слухай яе, княжа!

„Вот для цябе жонка! знайдзеш яе ўраз,
„Толькі людзям сваім разашлі указ,
„Каб та на замковы явілась дзядзінец,
„Каторай пес Стаўры даравaў гасьцінец“.
Кончыў дзядок мовіць і вось, як стаяў,
Ён з краснаю дзевай бяз весьці прапаў.
Князь-жа Грамабой зараз разбудзіўся,
Ўспомніў сон гэты, вочы працірае,
Ды й кругом сябе жадна паглядае,
Потым уздыхнуў ён: „Божа, дай, каб збыўся
„Гэтакі сон мілы. Ды што тут чакаць!
„Трэба яе зараз усюды шукаць“.
З зямлі схапянуўся, ціханька паброў
З салодкаю думай князёк наш дамоў;
Прыходзіць да хаты, із лапцей разуўся,
Анучы разьвесіў, радных паноў зве,[1])
А як, баш, прышлі, індыком надуўся
Ды й кажа: „Пішыце указ грамадзе!
„Каб красную панну, ня панну — дар Божы!
„Катора падарак ад Стаўра прыгожы
„На шыі хавае, зараз адшукалі,
„На замковай гарэ паклон ей аддалі;
„Няхай сюды вядуць, бо Стаўроўска дзева
„Будзе мая жонка — ваша каралева!“
Радныя паны жыва указ шлюць,
Вось што будзе далей, моўчкам яны ждуць.
Грамада указ той вясёла прымае,
Па ўсім царстве дзевы Стаўроўскай шукае.
Як-жа весьць такая кругом разьняслася,
На тры пальцы ўгору Мархва паднялася!
—„Годзе, кажа, дома сядзець, родна маці!
„Засьвяціла шчасьце тваяму дзіцяці:
„Я маю падарак, я—Стаўроўска дзева!
„Буду жонкай князя, буду каралева!
„Вядзі мяне, маці, на замкову гору
„Ды пакажы мяне княжынаму двору,
„У мяне, баш, абраз Лады залаценькі,
„Маім будзе мужам князёк дарагенькі!“
Тут яна нядзельну сукенку ўзлажыла,
Залатым абразкам Лады засьвяціла,
Маць сваю Параску пад-руку ўзяла,
На замкову гору раненька пашла.
Паны б'юць паклонам, чэсна спатыкаюць,
Да Стаўроўскай дзевы князя прызываюць;
Выбежаў князь скоры, глядзіць: „Што за дзіва!
„Адкуль тут прыгнала зьвязда нешчасьліва

[1]) Пакарочанае: заве.

Гэтаку брыдоту?“ — злосна такі рэчы
Пан кажа ды й Мархву хапае за плечы;
Швырне яе далоў з замковай гары...
У сыру зямельку сашла без пары.
З таго-ж часу гара Паненскай завецца,
Дух Мархвы там часта па начах бадзецца.
Князь паноў ганяе, крычыць, што крый Божа,
Ахвота, бяседы — нішто не паможа.
„Адшукайце панны Стаўроўскай ураз!
„Крыжычак жалезны — то яе прымета,
„То Стаўра падарак. Хоць вы з таго сьвета
„Вядзіце на замак! такі мой прыказ.“
Ад беленькай зары радныя паночкі
Шукаюць дзяўчыны аж да познай ночкі;
Бядовае дзела! пашлі у разгон.
Пачуў весьць такую Гусьляр маладзенькі,
Успомніў ён Касін крыжычак маленькі:
Бяжыць да Данілы, аддае паклон
Ды й Касі гаворыць: „Ты – Стаўроўска дзева!
„Ты—князева жонка, наша каралева!
„Ты носіш падарак Стаўра на грудзі!
„Прыбярыся чэсна у нядзельну шату, [1])
„Гарсэт узьдзень красны, спадніцу багату,
„Ды на замак княжын з Данілам ідзі!“
Спужалася Кася, сьлёзкамі заплача,
А стары Даніла з радасьці аж скача!
Дочку ён пад-ручкі на замак вядзе.
Угледзілі паны, паклонам страчаюць,
Аб такой навіне князю дакладаюць;
Грамабой ня верыць, няпеўна ідзе.
Вот пабачыў Касю, вочы заблішчэлі,
З радасьці калены пад ім абамлелі,
Наяве сон князю праўдай засьвяціў;
Апомніўся, кажа: „Ты—Стаўроўска дзева!
Ты—для мяне жонка, крывічан царэва!
З табою шчасьлівы, век-бы ня тужыў!“
Боязна на пана Кася паглядае;
Палюбіла... сэрца за ім прамаўляе;
Хоць сорамна, ды, баш, да вянца ідзе
З радаснай душою, а князь ледзь ня скача,
Завідна-ж Параска са злосьці аж плача,
Вясёла бяседа—цэлай грамадзе.
А стары Даніла на вясельлі дочкі,
Закасаўшы полы, ўзяўшыся пад-бочкі,
Дуе «лявоніху», аж хахлом трасе!
Вот была пацеха! Сем дзён там гулялі,

[1]) Дарагія ўборы.

Здаволь пілі, елі, дасыта скакалі,
Не жалелі лапцяў — так казка нясе.
І я на вясельлі, дзетачкі, тым быў,
Піва, мёд, гарэлкі — дасыта папіў,
Хоць можа у роце нішто ня было,
Зато па бародзе уздаволь цякло.
Далі мне кабылку, дзеткі, смаляную,
Пугу з пастарнаку, із капусты збрую:
Еду сабе, еду, аж блізка дарогі
Агні заблішчэлі; тут я бяз трывогі
Папусьціў кабылку, к агню пад'яжджаю,
Там пасецца быдла, я пугу кідаю;
Ну-ж пры агні грэцца, з пастухамі брэдзіць,
Вот загаварыўся, ды й ня мог дагледзіць,
Што мая кабылка пры агні стапілась,
Пугу, цэлу збрую скацінка паела;
Як, маўляў, прыгода такая злучылась,
Вось патужыў крыху, гледзячы то дзела,
Ды й паброў да хаты. І вы, дзеткі, йдзіце,
Каб ціхі сон дзеду даў Бог, папрасіце.

---

## ВЯСНА, ГОЛАД, ПЕРАПАЛА...

(1860 г.).

Вясна, голад, перапала,—
А ні солі, а ні круп,
І скаціне корму мала,
І самому—а ні ў зуб.

На палацях дохнуць дзеці,
Жонка тры дні здуру п'ець,
І даўно парожна ў клеці,
І парожная асець.

Каліта ляжыць пад лаўкай,
А пры ёй парожны гляк, —
Ад Каляд мы з кумам Саўкай
Пацяралі ў губе смак.

Але гора ўжо з паў-гора;
Цыц, нябога, трошкі цыц!
Вось нам вольнасьць дадуць скора,
І, як птушкі, будзем жыць.

К чорту, жонка, ласа баба!
Бяры чорт і каліту,
А папусьці вожкі слаба
І дай волю хамуту.

Будзем роўныя з панамі,
Самі будзем, як паны,
І гарэлку піць жбанамі
І гуляць так, як яны.

Перастануць нашым братам,
Як скацінай таргаваць,
Напускацца ліхім матам,
Скуру з ног да карка драць.

Хоць галодна, хоць халодна,
Холад, голад нiпачом!
Вот каб толькі нам свабодна,
На свабодзе аджывём.

Вось панам ня дужа лоўка,
Самім трэба працаваць:
Пабаліць ня раз ґалоўка,
Калі прыдзецца араць.

Не адзін-то напацеець
І заскачаць драпака,
Бо сам толькі есьць умееець
Ды драць скуру з мужыка.

Як-бы быў якой скацінай,
Або горшы ад яго:
Білі пугай ды дубінай,
А цяпер, брат — ого, го!

Мужык будзе не скацінай.
Ня раз скажаць пан з паноў:
„Пане Грышка, пане Міна!
Як-жа, васпан, ці здароў?“

---

# ПІНСКАЯ ШЛЯХТА.

(1866 г.).

## АСОБЫ:

**Кручкоў** — станавы прыстаў.
**Пісулькін** — яго пісарчук.

| | |
|---|---|
| **Ціхон Пратасавіцкі.** | Пінская ваколічная шляхта. |
| **Акуліна**—яго жонка. | |
| **Марыся** — іх дачка. | |
| **Іван Цюхай-Ліпскі.** | |
| **Грышка** — яго сын. | |
| **Цімох Альпенскі.** | |
| **Базыль Статкевіч.** | |
| **Харытон Куторга.** | |

Дзесяць іншых асоб.
Дзесяцкі.

Рэч адбываецца ў ваколіцы О..., паміж балотаў, у глушы Пінскага павету. Сцэна паказвае шляхоцкую ваколіцу. Гаспадарскія будынкі разьдзелены садамі. З боку сцэны — хата заможнага гаспадара; пры ёй — лаўка.

## ЗЬЯВА І-я.

**Марыся** (седзячы на лаўцы, прадзе і прыпявае):

№ 1.

Цяжка жыці мне, дзяўчаці,
З міленькім ў разлуцы, —
Лае бацька, лае маці,
Што сэрцайка ў скуцы.
Годзе сядзець над прасьніцай, —
Я хачу быць маладзіцай.
Маці кажа: век малоды,
Ой, ты яшчэ мала!
А сама ўжо ў гэты годы
Бацьку пакахала.
Годзе сядзець над прасьніцай, —
Я хачу быць маладзіцай!

Ой, так! Няхай ганіць бацька, няхай лае маці, а я люблю Грышку і любіць яго век буду. Ой, бедныя-ж нашы галованькі!.. Што гэта за дур напаў на бацькоў? П'яныя завяліся ды пабі-

ліся з сабою за шляхецтва, а мы з Грышкам праз тое гаруем і ныем. Яго бацька падаў на майго ў суд скаргу[1]), і сягоньня прыедзе ў ваколіцу найяснейшая карона[2]) на прасоку[3]). У ім цэлае наша спасеньне. Як прыедзе, дык мы з Грышкам паклонімся яму ў пояс ды будзем прасіць ды маліць, каб ён пагодзіў нашых бацькоў ды каб яны дазволілі нам пажаніцца. А ён такі сярдзіты, не дапускай Ты, Госпад! Як наставіць адзін вус угору, а другі ўніз ды крыкне: па найясьнейшаму ўказу! — бацькі спалохаюцца ды зладзяць нам вясельле... Ды што гэта зрабілася Грышку? (Грышка паціху паказваецца з-за дрэва, крадучыся да Марысі). Баюся, каб не паўставалі бацькі, — нельга было б пабачыцца з ім. (Устае і, пахаджаючы па сцэне, гаворыць): Ой, Грышка, Грышка! Ты штось цяпер зрабіўся вельмі лянівы. Табе, пэўна, сэрца цяпер так ужо ня ные па мне... Як прыдзе, дык пакажуся перад ім сярдзітаю.

ЗЬЯВА II-ая.

**Грышка і Марыся.**

**Марыся.** Ах, Грышка, нядобры! Як ты спалохаў мяне, — гневаюся ня жартам!..

**Грышка.** Гневаешся? Няпраўда! А чаму-ж ты на мяне так міленька пазіраеш?

**Марыся.** Так, са злосьці!.. Нягодны, дзе ты забаўляўся? Гэта-ж зараз прыдуць бацькі, а мы так многа маем з табою перагаварыць.

**Грышка.** Выбачай, мілая Марыся,—чуць золак, я зьезьдзіў ужо да места, кінуўся ў ногі асэсару і прасіў, каб ён узяў нас пад сваю апеку.

**Марыся.** Што яго прасіць з голымі рукамі? Трэба было завезьці які гасьцінчык.

**Грышка.** Дык я-ж завёз яму двух зайцоў, тры пары цецярукоў ды кадобчык мёду. Ён усё прыняў ласкава і сказаў, што сёння-ж прыедзе на разборку справы майго бацькі з тваім. Ой, наварылі бацькі сабе кашы, будзе што есьці! Ён вельмі сярдзіты, бо адзін вус калом угору стаў. Будзе вазьня!

**Марыся.** Дай Бог, каб гэта каша нам зубоў не папрышчыла!

**Грышка.** Ён дакляраваў зрабіць нам вясельле. На Богу ды на ім — уся наша надзея.

---

[1]) Пажаліўся. [2]) Даўней асэсараў, або засядацеляў, а потым станавых прыставоў — дзеля таго, што першыя выбіраліся падчас шляхоцкіх выбараў, а другія назначаліся урадам, — пінская шляхта вялічала н а й я с ь н е й ш а й к а р о н а й. [3]) Сьледзтва.

№ 2. Дуэт. [1])

Паклаўшы надзеі на Бога,
Чаго-ж гаравадь?
Прысяглі любіцца да гроба,—
Дык будзем-жа ждаць.
Хоча няшчасная доля
На век разлучыці, —
А Бог скажа: „Мая воля
Ім з сабою жыці!“
Не памогуць злы языкі,
Ні бацькоў старожа,—
Ён-жа такі пан вялікі,
Што хоча, то зможа!

ЗЬЯВА III-ая.

**Тыя самыя, Ціхон Пратасавіцкі** і яго жонка **Куліна**.

**Ціхон**. Хрэн табе ў вочы, — жонка, а жонка! Хадзі ды паўзірайся, як дачка твая з Грышкам Цюхайчыкам галубіцца.

**Куліна**. (За сцэнай). Хто? Дачка? Бойся Бога, ды яна-ж яшчэ малая! (Уваходзіць).

**Ціхон**. Які чорт малая! Хрэн табе ў вочы, — хадзі палюбуйся!

**Марыся**. Якая-ж я малая, калі мне на Спаса скончыцца семнаццаць год?!

**Куліна**. Маўчы ты, хітрая лісіца! Бачыш ты, як яна скора палічыла гады!

**Ціхон**. Ах ты, чортаў сыну,—хрэн табе ў вочы! Ня годзе таго, што бацька да жывога мяне пакрыўдзіў, назваўшы ня шляхціцам, дык яшчэ сынок дачку нам баламуціць.

**Грышка**. Дык я-ж яе люблю і хачу з ёю жаніцца...

**Ціхон**. Ось я цябе так пажаню, як твайго бацьку! Жонка, а жонка! Дай мятлу, — хрэн табе ў вочы!

**Грышка**. Што хочаце, тое рабіце, а ўсе-такі Марыся будзе мая! (Да Марысі): Бывай здарова! (Выходзячы, спатыкаецца з Куторгай і зьбівае таго з ног. Марыся ўцякае ў хату).

ЗЬЯВА IV-ая.

**Тыя-ж і Куторга.**

**Куторга**. Ах ты, паганец! (Устаючы). Татарын ты няхрышчоны! Вот зьбіў мяне, як швэдаў Хадкевіч пад Кіргольмам. Па-

[1]) Пяюць удваіх.

чакай-жа, я-ж табе не дарую гэтай штукі,—не цяпер, то ў чацьвер. (Вітаецца). Дзень добры, пане Пратасавіцкі! Здарова, пані Пратасавіцкая! (Цалуе яе ў руку). Відно, відно, — дзякуй Богу! Здаровы, як рыжкі баровы.... А я к вам з вялікаю навінаю. Ня ведаеце? Толькі што пан асэсар прыехаў, а такі сярдзіты,—не дапускай, Госпад! Як ліхі татарын. Як толькі ўехаў у ваколіцу ды стаў каля Бэркі, дык зараз і закрычаў: дзесяцкіх, соцкіх! Сабраць усю шляхту да Ціхона Пратасавіцкага ды каб Іван Цюхай-Ліпскі прышоў з сынам туды-ж.

**Ціхон**. Хрэн яму ў вочы,—будзе бяда, будзе! Гэты сабака, Ліпскі, падаў на мяне ў суд, што я яго адлупцаваў, дык вот і асэсара прыслалі. Ну абдзярэ, як ліпку!

**Куторга**. Вот дзіва, — на тое ён і асэсар! Заўваж толькі —у яго й рукі даўжэй, як у другіх людзей. Ты ведаеш яго прыказку: чырвонае-белае ўсё перадзелае.

№ 3.

Гдзе унадзіцца юрыста,
Вымяце хату да-чыста.
Такіх дзіваў нагаворыць,
Так многа кручкоў натворыць,
Што, пачасаўшы затылак,
Не рассупоніш памылак.
Не дасі, — цябе замучыць.
Добра стара казка вучыць:
Дзярэ каза ў лесе лозу,
Воўк дзярэ у лесе козу,
А воўка — мужык Іван,
А Івана — ясны пан,
Пана ўжо дзярэ юрыста,
А юрысту—д'яблаў трыста!

**Ціхон**. Хрэн табе ў вочы! Добра табе прастарэкаваць, калі няма на шыі бяды. Ось скажы лепш, што рабіць? Пане Куторга, ты-ж такі пісьменны чалавек, — можаш падаць разумную раду.

**Куторга**. А прымеце-ж чэсна маіх сватоў да вашай Марысі?

**Куліна**. Бойся Бога, пане Куторга, — яна-ж яшчэ маладзенькая! Гэта-ж дзіця горкае.

**Куторга**. Дык чаго-ж чакаць! Гэта, кажуць, кепскі тавар: мый ды чашы, потым сьпяшы,—заплаці каму, каб вывез з даму.

**Ціхон**. Добра, пане Куторга, — бяры сабе дачку, і пасаг дам, толькі зрабі ласку: выцягні з бяды.

**Куторга**. Як чорта з балота.

**Куліна**. Парадзь, пане Куторга, — ты-ж такі чалавек бывалы і па судох цягаўся.

**Куторга**. Ну, я гатоў вам саслужыць дружбу, — толькі як ваша дачка захімэрычыцца ды адцураецца ад мяне, то што тагды? Вы-ж ведаеце прыказку: даганяючы не нацалавацца.

**Ціхон**. Ратуй, ратуй, пане Куторга! Марысю ты ладом угамоніш, — чалавек ты разумны. Як падпусьціш лёстачак, як падплывеш селезьнем, дык яна і расплывецца.

**Куторга**. То ведаеце што, пане Пратасавіцкі? Як прыдзе к вам асэсар, то стаўляйце мяне ў сьведкі; хоць я і. ня бачыў, але буду сьведчыць, што ён цябе біў, а ты толькі бараніўся. Ня жаль для Марысі скрывіць душою. Толькі-ж, пані Пратасавіцкая, прышліце сюды Марысю, каб я мог з ёю пагаварыць ды ўгаманіць дурную, бач, каб ня цуралася разумнага чалавека.

**Куліна**. Памагайце толькі майму Ціхону, а ўжо Марыся будзе ваша; я ёй сама ладом напілую вушы... Пойдзем, Ціхон, прыгатуемся, каб пагаспадарску прыняць найясьнейшую карону. А ты, пане Куторга, пачакай, — зараз прышлю Марысю. (Выходзіць з Ціхонам).

### ЗЬЯВА V-ая.

**Куторга** (адзін).

**Куторга**. Ну, хвала Богу, бацькоў удалося атуманіць! Цяпер трэба пайці ў галаву па розум, каб дзеўку амарочыць. Прынадны, бач, кусочак! (Цалуе пальцы, як-бы смакуючы). Тварык — як сонейка яснае, шчочкі — як малінкі красныя, губкі — моў тыя каралі, а як засьмяецца срэбным галасочкам ды вышчырыцць зубкі — то здаецца, бачыш два пэрловыя шнурочкі. Ды і пасаг мае гаспадарскі: адна ў бацькоў, а старыя грошы асьмінаю мерыць; у гумне поўна, у хаце дастатак і абора багата. Добра гутарка кажа: калі абора цячэ, гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, гаспадар з хаты ўцячэ. Дык няхай-жа дзень у дзень блінамі гасьцей прымае. Праўда, век ня сходжы: я ўжо шосты дзесятак дажываю, а яна — семнаццаты гадок. Будзе клопату нямала, — о-ей! Ня раз пачашу патыліцу... Дык што-ж рабіць? Ня я першы, ня я апошні, — дурных дзядоў нямала на Божым сьвеце.

№ 4.

Хто на старасьць парыскуе,
Той хоць часам бяду чуе.
А пры маладзенькай жонцы,
Пры руплівай гаспадыньцы
Быць філёзофам — то значыць:
Ня бач, што ня трэба бачыць.

Тагды табе — жыцьце небам:
Ўсялякім тваім патрэбам
Жонка рада цагадзіці;
Стане крэпка ця любіці.
Скажа: муж мой, хоць старэнькі,
Ды разумны і міленькі!

Так, так! У цяперашнім разумным веку хочаш спакойна жыць? Будзь філёзофам: бачыш — ня бачыш, чуеш — ня чуеш, — ба, ба, бы! Ды вось і Марыся ідзе сюды. Якая красачка! А ну, Куторга, падпусьці ей лёстачак...

### ЗЬЯВА VI-ая.

**Марыся і Куторга.**

**Куторга.** (Салодка пасьмяхаючысь, заляцаецца). Дабрыдзень, панна Мар'яна!

**Марыся.** (Саромліва). Дабрыдзень, пан Куторга!

**Куторга.** А як панна Мар'яна прыгожа выглядае, які сьвежы тварык, моў рожачка толькі што з пучка! З якой нецярпячкай я ждаў шчасьлівага мамэнту, каб пацалаваць беленькую ручку панны. (Падыходзіць з камічнай зграбнасьцю і цалуе руку Марысі. Тая, адступіўшы назад, абцірае руку хвартушком). Панна Мар'яна! Вы ня чуеце, вы ня ведаеце, як вас крэпка люблю, як па вас ныю.

**№ 5. Романс.**[1])

Рвецца маё сэрца да красьненькай розы,
Быццам пры калёсах атоса із лозы.
Па паньне Мар'яне душа ўся сумуе,
Быццам-бы зязюля жалосна кукуе.

Як ня бачу панны, жыцьце мне — магіла,
Галоўцы цяжэнька, уцякае сіла.
Ой, высах я, высах, як лапаць у печы!
Горка-ж мая доля, хто мяне улечы?

Як цетраў ў лясочку жаласна балбоча,
Так маё сардэнька да панны сакоча.
Ні верашчака, каўбасы, дзялянка, —
Нішто не смакуе без цябе, каханка.

Дам табе я зэгар вялікі, як рэпа,
Няхай ён пры сэрцы крэпка тваім клепа
Ды напамінае, як цяжка я ною
І ні ў дзень, ні ў ночы ня маю спакою...

---

[1]) Параўнаваць з польска-беларускімі вершамі 18-га веку.

**Марыся.** (Перабіваючы). А ведаеце ад чаго гэта, пане Куторга? Ад старасьці! Ды ты ўжо нямала пажыў, — пара аб дзяўчатых перастаць думаць, а маліцца Богу, каб даў спасеньне.

**Куторга.** (У гневе). Стары, стяры!!

№ 6. Дуэт.

Кажаш, што я ладам стары,—
Але — відны, але яры!
Буду крэпка ця любіці,
Век табе верай служыці.

Малады-ж — часта няшчэры,
Ня шукай ў ім добрай веры:
Пры табе – табе клянецца,
А з другой — з цябе сьмяецца.

**Марыся.**

Ды што мне з мужа старога?!
Я хачу майго мілога,
Бо стары, заміж гуляці,
Будзе кашляць і стагнаці.

Грышка мой—хлапец матарны,
Малады, відны ды гарны.
Глядзь! Аж душа к яму ірвецца
І сэрцайка мацней б'ецца.

**Куторга.** Але Грышка твой няшчэры,
Ня шукай ў ім добрай веры!
Пры табе табе клянецца,
А з другой з цябе сьмяецца.

(Пад час сьпеву ўваходзіць станавы з. Пісулькіным і хаваюцца па бакох, каб падслухаць іх размову).

**Куторга.** Бач, сабака Грышка! Ён клешчам упіўся табе ў сэрца, ды нічога з таго ня будзе. Бацька твой дакляраваў мне тваю руку за тое, што я буду сьведкам проціў Цюхая-Ліпскага. Найясьнейшая карона прыехаў на прасоку па жалабе Цюхая на твайго бацьку, што ён яго пабіў; і калі ты пойдзеш за мяне, дык я гатоў і душою пакрывіць, ды паказаць на сьледзтве, што бацька твой ня біў Цюхая; а калі мае ня ў лад, то я з сваім назад. Заспрачайся толькі, дык я зараз буду сьведкам проціў твайго бацькі. Уехаў твой родны ў нерат — ні ў зад ні ў перад. Папаўся юрысту ў кіпці, — высьсе ён яго, як вупыр непамысную дзяўчыну. А калі-б яму і ўдалося перапрасіць найясьнейшую карону, то не канец яшчэ бядзе. Ведаеш, што кажуць людзі: чорт бяду перабудзе — адна згіне, дзесяць будзе. Справа ў суд як пойдзе, дык так дапякуць юрысты, моў баравіку на вугольлях, — адцураецца і сваіх.

**Марыся.** Дарма ты мяне палохаеш! Мы з Грышкаш паклонімся ў пояс найясьнейшай кароне, дык ён пагодзіць нашых бацькоў, а табе за крывое паказаньне дасьць харошую гонку.

**Куторга.** Што?! Ты думаеш я баюся асэсара? Ды я такой задам яму пары, што ён не згадае, дзе ўюны зімуюць. Я чалавек бывалы, маю розум і патраплю ладом яго вывесьці ў поле, як зайчыка пад хартоў.

## ЗЬЯВА VII-ая.

**Тыя самыя, Кручкоў і Пісулькін.**

(Кручкоў падыходзіць ціха к Куторзе і б'ець яго па плячу; Пісулькін-жа з камічнаю ухваткаю падыходзіць да Марысі, каторая сарамліва і баючыся кланяецца).

**Кручкоў.** Дык ты мяне думаеш вывясьці ў поле? Хочаш навучыць, дзе ўюны зімуюць! Пачакай-жа, галубчык! Я ж цябе навучу, куды няправых сьведкаў садзяць! Гэй, дзесяцкі!

**Куторга.** (Спуджаны). Ваша благароднае сіяцельства! Найясьнейшая карона! Ды я-ж толькі сабе жартаваў,—вот страшыў дурное дзяўчатка, каб яна прызволіла пайці за мяне замуж. Бацькі блаславуляюць, а яна казырыцца,—дык я вось так здуру сказаў ёй.

**Кручкоў.** Здуру хочаш крыва прысягнуць? А знаеш, чым гэта пахне? Па ўказу ўсяміласьцівейшага цара Пятра Вялікага 1779 года аўгуста 10-га і па Статуту Літоўскаму разьдзела 3-ага параграфа 375-га гэта ўгалоўнае праступленьне, Сібірам пахне. Сібір, Сібір, галубчык! Гэй, дзесяцкі! (Дзесяцкі ўваходзіць). Пасадзі гэтага малайца ў асобную сьвятліцу, ды глядзі, каб ён ня бачыўся ні з кім, а, барані Божа, з гаспадаром не згаварыўся.

**Куторга.** (Выходзячы з дзесяцкім). Наясьнейшая карона! Бойцеся Бога, ня губіце беднага чалавека! Мала што язык малоў, — добра прыказка кажа: млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе. Выбачайце майму дуру!

**Кручкоў.** Якому дуру? Ты-ж чалавек бывалы й нядаўна хваліўся сваім розумам.

**Куторга.** (З баковых дзьвярэй). Які тут у чорта розум, калі так неасьцярожна папаўся ў бяду, як швэд пад Палтавай! (Выходзіць з дзесяцкім).

## ЗЬЯВА VIII-ая.

**Тыя самыя,** апрача **Куторгі.**

**Кручкоў.** Ну, пане Пісулькін, — пакінь, ваша, заляцаньне, а бярыся за дзела. Тут, брат, нам харошае жніво!.. Гэй, дзесяцкі! (Гой уваходзіць). Пастаў тут пасярэдзіне стол ды накрый яго судовым сукном. (Дзесяцкі выпаўняе прыказаньне). Харошая пагода, можна й на дварэ папрацаваць. Садзіся, пане Пісулькін,

ды прыбяры бумагі. (Пісулькін важна садзіцца, вымае корак (заткальца) з чарнільніцы, разьбірае паперы і іншыя падае станавому, каторы садзіцца таксама пры стале, задам к Пісулькіну, а потым гаворыць да Марысі). Ну, Марыся, хадзі сюды бліжэй ды кажы мне шчырую праўду, — ты-ж бачыш, што ў мяне вусы не натапыраны, дык я і не сярдзіты, — кажы, любіш ты Грышку Ліпскага?

**Марыся**. (Саромяючыся і перабіраючы хвартушок). Ну дык што?..

**Кручкоў**. За што-ж ты яго палюбіла?

**Марыся**. Сама ня ведаю, — вот так штось прыпаў к сэрцу. Ды як-жа яго ня любіць, калі ён малады, прыгожы хлопец, а сэрца ў яго залатое.

**Кручкоў**. Дык хош за яго замуж выйці?

**Марыся**. (З сарамлівасьцю). Але, хочу... калі за яго не пайду, то ўжо век мне, беднай, гараваці дзеўкай. Найясьнейшая карона! Зьлітуйцеся над намі ды стварыце наша шчасьце! (Кланяецца яму).

**Кручкоў**. Чаго-ж ты хочаш ад мяне?

**Марыся**. Найяснейшая карона! Скончце дзела няшчаснае між нашымі бацькамі не па судоваму, а па хрысьціянскаму абычаю: пагадзіце іх з сабою, — няхай больш ня індычацца, ды прымусьце, каб яны нас з Грышкам злучылі. Найясьнейшая карона! (Кланяецца яшчэ ніжэй і жаласьліва кажа далей). Ты-ж такі, хоць чалавек судовы, чыноўны, ды, пэўна, верыш у Бога,—дык дзеля ласкі Божай сатвары ты нам ласку, зладзь нашае шчасьце, а мы век будзем за цябе, тваіх дзетак і ўнучкаў Бога прасіць.

**Кручкоў**. Но, но, мілая, будзь спакойна! Я хоць чалавек, як кажаш, судовы, але ўсё зраблю па-хрысьціянску ды яшчэ на тваім вясельлі паскачу... Гэй, дзесяцкі! (Той уваходзіць). А чы сабралася шляхта з ваколіцы?

**Дзесяцкі**. Усе сабраліся, хто з курыцаю, хто з кадобчыкам мёду, а хто з сушанаю рыбай. Чакаюць, што ваша міласьць ім прыкажа.

**Кручкоў**. Добра! Няхай усё аддадуць хурману ды спакуйце там добранька ў возе... Ты пакліч сюды Ціхона Пратасавіцкага з жонкаю. А Цюхай-Ліпскі з сынам ёсьць?

**Дзесяцкі**. Цюхай, апроч мёду й рыбы, прыцяг дзесяць вянкоў сушаных баравікоў, а сын яго — капу ражынкаў ўюноў.

**Кручкоў**. Добра, добра! Усё ўпакаваць асьцярожна! Ды кліч усіх сюды!

(Дзесяцкі выходзіць. Кручкоў строіць фурыозную фізыяномію: адзін вус ставіць угору, другі ўніз. З глыбіны сцэны выходзіць шляхта, баіцца, кланяецца нізка і хаваючыся адзін за другога. З ба-

ковых дзьвярэй выходзіць Ціхон Пратасавіцкі з жонкаю. Марыся зыходзіцца ў глыбі сцэны з Грышкам і ціха шэпчуцца паміж сабою).

### ЗЬЯВА IX-ая.

**Тыя самыя і Ціхон Пратасавіцкі, яго жонка, Цюхай-Ліпскі,** яго сын **Грышка, Цімох Альпенскі, Базыль Статкевіч** і інш. шляхта.

**Ціхон.** Жонка, а жонка! Будзе бяда! Паглядзі, як у найясьнейшай кароны вус адзін уніз, а другі ўгору задраўся? Ідзі ты наперад ды пакланіся яму, хрэн яму ў вочы.

**Куліна.** Што ты мяне пасылаеш! Ты сам навар ыў піва, сам і папівай здароў,—я баюся.

**Ціхон.** Ты — жанчына, хрэн табе ў вочы, — ён-жа цябе ня зьесьць! Азьмі гэтыя грошы,— тут іх пяць дзесятак, — пакланіся ў ногі ды палажы на стол; ён-жа юрыста, не адчураецца грошай,—тагды і дзела пойдзе, як па салу.

**Куліна.** Ну, што рабіць, — папытаю. (Яна боязна падыходзіць, кладзе грошы на стол, пасьля кланяецца станавому нізка). Найясьнейшая карона...

**Кручкоў.** Тише! (Куліна са страху адыходзіцца ад стала ды хаваецца за мужа; Кручкоў, трымаючы паперу, устае ды не пазіраючы на шляхту гаворыць): По указу Пинскаго земскаго суда отъ 23-го мая сего года за № 2312 прибылъ я въ околицу для разслѣдованія уголовнаго дѣла о побояхъ, нанесенныхъ Тихономъ Протосавитскимъ Ивану Тюхаю-Липскому... Ліпскі, маеш сьведкаў?

**Ліпскі.** Маю, найясьнейшая карона.

**Кручкоў.** Пусть выступятъ впередъ! (Трое шляхтаў выходзяць наперад). Пратасавіцкі, за што ты яго біў?

**Ціхон.** Дык ён-жа назваў мяне мужыком, — хрэн яму ў вочы.

**Кручкоў.** Маеш сьведкаў?

**Ціхон.** Маю Куторгу.

**Кручкоў.** Яго ня можна ставіць,—ён пад судом. (Абярнуўшыся да сьведкаў Ліпскага). Вы бачылі, як Пратасавіцкі біў Ліпскага?

**3-ы сьведкі.** (Боязна кланяючыся). Бачылі, найясьнейшая карона!

**Кручкоў.** (Абярнуўшыся да іншай шляхты): А вы бачылі?

**Усе іншыя.** Не, ня бачылі, найясьнейшая карона!

**Кручкоў.** Ну, дык добра! Сьледзтва кончана, цяпер будзе суд, а наўперад: по указу всемилостивѣшей государыни Елисаветы Петровны 49-го апрѣля 1893-го года и всемилостивѣйшей Екатерины Великой отъ 23-го сентября 1903-го года, а равно-

мѣрно въ смыслѣ Статута Литовскаго раздѣла 8-го, параграфа 193-го, коимъ назначается въ пользу суда отъ тяжущихся гривны. Обжалованный Протосавитскій имѣетъ заразъ-же уплатить пошлинъ 20, прогонныхъ 16 и на канцелярію 10 рублевъ. Жалующійся Липскій въ половинѣ того, сьведкі, каторыя бачылі драку, а не баранілі,—па 9 рублёў, а вся прочая шляхта, што ня бачыла дракі, за тое, што ня бачыла, — па 3-ры рублі. Плаціце! (Садзіцца на месцы ды піша; шляхта шэпчацца паміж сабою, пасьля выбраны ўсімі зборшчык, Ціхон Альпенскі, падыходзіць да Пратасавіцкага, Ліпскага і іншае шляхты, зьбірае грошы і, злажыўшы іх у вадзін мяшок, падносіць, баючыся, да станавога ды кладзе на стол).

**Ціхон**. (Адлічыўшы зборшчыку грошы, калі той пашоў зьбіраць ад другіх). Э... глядзі ты! Як ён на бяду нашу ўсе ўказы й законы, як рэпу, грызе і не заікнецца,—хрэн яму ў вочы!

**Куліна**. Чаго тут дзівіцца? Відаць, судовы чалавек, дык ён на тым і зубы згрыз,—такая, бач, парода.

**Кручкоў**. (Як Альпенскі палажыў на стол грошы). А ўсё?

**Альпенскі**. Да капеячкі, найясьнейшая карона!

**Кручкоў**. Ладна, ідзі! Зараз будзе дэкрэт.

**Ціхон**. Ух, Госпадзі! Што гэта будзе,—хрэн яму ў вочы?!

**Куліна**. А што будзе? Вядома, юрыста,— абдзярэ ўсіх дачыста ды й паедзе з Богам да хаты.

**Ціхон**. Хрэн табе ў вочы, — каб прынаймні шкура была цэла, ато як дабярэцца да яе, будзе нячысты інтэрас!

**Кручкоў**. (Устае і выходзіць з папераю на сярэдзіну сцэны). Слухайце з увагаю!.. (Усе кланяюцца). Буду чытаць дэкрэт. (Ізноў кланяюцца). По указу его императорскаго величества, во временномъ присутствіи, въ комплектѣ, составленномъ изъ участковаго засѣдателя и его письмоводителя, слушали дѣло, коего обстоятельства слѣдующія: Иванъ Тюхай-Липскій назвалъ Тихона Протосавицкаго мужикомъ; тотъ за такую обиду побилъ Липскаго, на что сей послѣдній представилъ и свидѣтелей. Разслѣдовавъ таковое дѣло, временное присутствіе, сообразно указу всемилостивѣйшаго государя Петра Великаго, въ 1688 г. марта 69-го дня послѣдовавшаго, и примѣняясь къ Статуту Литовскому раздѣла 5-го параграфа 18-го,—опредѣлило: а) Тихону Протосавицкому, какъ уголовному преступнику, назначается 1-е) 25 лозъ на голой землѣ безъ дывана [1]) и 2-е) штрафа 25 руб. въ пользу временнаго присутствія. б) Ивану Тюхаю-Липскому, какъ нанесшему личное оскорбленіе Протосавитскому, назначается 1-е) 15 лозъ на дыванѣ и 2-е) 15 руб. штрафа въ пользу временнаго присутствія; в) свидѣтелямъ, которые видѣли драку и не разняли деруцихся, 1-е) по

---

[1]) Бяз дывана—бяз посьцілкі. У даўнейшыя часы, калі каралі шляхціца розгамі, палажыўшы яго на голай зямлі, бяз дывана, — лічылася для яго вялікай зьнявагаю.

10 лозъ на дыванѣ и по 10 руб. штрафа въ пользу временнаго присутствія; д) всей прочей шляхтѣ, которая не видѣла драки, за то, что не видѣла, а тѣмъ самымъ не могла и разнять дерущихся, назначается 1-е) по 5 лозъ на дыванѣ и по 5 руб. штрафа въ пользу того-же присутствія. Напослѣдокъ: г) примѣняясь къ указу ея величества Анны Іоанновны 1764 г. октября 45-го числа, за не гербовую бумагу, употребленную и имѣющуюся по сему дѣлу, — Протосавитскій 5, Липскій 3, свидѣтели по 2, а все прочіе по 1 рублю уплотятъ... Кончено! Цяпер зборшчык няхай зьбірае грошы, пасьля-жа прымемся за лазу. (Падыходзіць да столу і ўглыбляецца ў паперы).

**Ціхон.** У...у...у... бацьке мае родныя! Хрэн яму ў вочы,—25 лоз ды яшчэ й не на дыване, а на голай зямлі! Даў-бы сто рублёў, каб дыван падаслалі. (Кручкоў нібы-то ўглыбляецца ў чытанне папераў; зборшчык зьбірае грошы, пачынаючы ад Пратасавіцкага, каторы, аддаўшы зборшчыку грошы, падкрадваецца к Пісулькіну, адклікае таго ў бок і савае 25-руб. бумажку).

**Ціхон.** Дабрадзею, ратуй няшчаснага ды навучы, як ад лазы збавіцца!

**Пісулькін.** (У бок, разглядаючы бумажку). Харашо быць пісьмавадзіцелем у разумнага чалавека, маляваныя госьцікі! (Паказваючы на бумажку). Самі ў карман лезуць, ня нада й рук выцягіваць. (Да Ціхона). Ня ведаю, што рабіць! Ён сам баіцца, каб, зрабіўшы вам палёгку, перад судом не адказваць. Але папробуйце. (Тут падыходзяць другія шляхты і слухаюць яго рады). Зложыце яму добры гасьцінчык, а вось паквапіцца? Пагаварыце з сабою і зложыце, а я, тымчасам, папрабую ўгаманіць яго. (Падыходзіць да Кручкова і шэпча, той злосна адказвае).

**Кручкоў.** Не магу, не магу! Знаеш, по всемилостивѣйшему указу нашаго государя 1881 года сентября 75-го дня какой вялікі адказ за поблажку сторонамъ въ уголовномъ преступленіи!? Ня толькі пасаду магу страціць, но і лічнасьць подвергнется опасности.

**Ціхон.** Жонка, а жонка,—хрэн табе ў вочы! Прынясі шкураны мяшок, што ляжыць у кубле з грэчкаю; там ёсьць сто рублёў, трэба выкупіць шкуру. Ох, даражэй яна каштаваць будзе,—хрэн ёй у вочы!

**Куліна.** Што? Нацярушыў бяды, а цяпер расплачывайся. (Выходзіць ды праз мінуту варочаецца з мяшком).

**Грышка.** (Да бацькі). А ну, бацька, рассупонь свой мяшок ды вынь якіх рублёў з 50,—можа і тваю пашануюць шкуру. (Да іншае шляхты). І вы разварушыцеся: каторыя бачылі драку—па дзесяць, а каторыя ня бачылі—па пяць рублёў,—зложыце ў кучу ды паднясіце найясьнейшай кароне. Дык ён зжаліцца над вамі і дзела кончыць, вось як яны, людзі судовыя, умеюць: і воўк

будзе сыты і козы цэлы. (Шляхта зьбірае грошы, пасьля, зложаныя ў адзін мяшок, аддаюць Грышку, падпіхаючы яго да станавога і ўгавараваючы, каб ён асьмеліўся аддаць іх Кручкову і прасіць дараваць ім).

**Ліпскі**. Ідзі ты, сынку,— палажы на стол ды прасі і малі, каб ён памілаваў нашу шкуру ды скасаваў строгі свой дэкрэт.

**Грышка**. Бачыце, бацька, як нядобра, што вы зводзіцеся з суседамі. Добра, я асьмелюся падыйці, толькі каб вы пагадзіліся з Ціхонам ды каб паслалі ад мяне сватоў к яго дачцы Марысі.

**Ліпскі**. Д'ябал яго бяры! Няхай толькі ўладзіцца дзела, а я не адкажуся. Ідзі прасі! (Грышка з аднаго, а Пратасавіцкі з другога боку боязьліва падыходзяць да стала, пры каторым Кручкоў нібы-та ўглыблёны ў чытаньне папераў, ды кладуць мяшок з грашыма; Грышка, дужа кашлянуўшы, кланяецца нізка станавому ды гаворыць).

**Грышка**. Найясьнейшая карона! Мы — ад веку пінская шляхта і ты шляхціц. Ня глумі-ж, ня пэцкай у балоце шляхецкай, братняе табе, крыві! Скасуй срогі твой дэкрэт, на сорам нашай ваколіцы пісаны,—паміры майго бацьку з Ціхонам, сатвары маё і Марысі шчасьце, а мы ўсе, цэлаю ваколіцай, век за цябе будзем Бога прасіць і век табе дзякаваць!

**Пісулькін**. И я вас прошу, ваше благородіе, — пусть подадутъ мировую, и концы въ воду.

**Кручкоў**. (Да Пісулькіна, але голасна). Хорошо! Для васъ это сдѣлаю, приму грѣхъ и отвѣтъ на себя... Ціхон Пратасавіцкі і Цюхай-Ліпскі! Падыдзіце сюды бліжэй. (Тыя падыходзяць, за імі Грышка і Марыся). Абніміцеся і пацалуйцеся на згоду, — ну, што-ж? (Марыся свайго бацьку, а Грышка свайго папіхаюць, каторыя потым абнімаюцца й цалуюцца з сабою). Ціхон! На згоду, каб быў крупнік! [1])

**Ціхон**. Гатовы, найясьнейшая карона! Схадзіце, жонка й Марыся, ды прынясіце,—хрэн вам у вочы. (Куліна й Марыся ідуць у хату).

**Кручкоў**. Вы думаеце, што мне міла зьняважаць кроў шляхецкую? Я-ж сам шляхціц, вам родны, але што-ж рабіць? Служба—ня дружба. Законы, міленькія, законы! Годзячы вас, бяду на сябе бяру; толькі пад такою кандыцыяй, каб Ціхон з Ліпскім навек з сабою памірыліся ды каб я з-за вас ня ўлез у нерат. Канечне трэбую, каб тут-жа пры мне дзетак сваіх зручылі, а там і павянчалі. (Тут Куліна і Марыся ўносяць дзьве міскі гарачага крупніку ды ставяць на стол з кубкамі). Ну што, Ціхон, — аддасі за Грышку сваю Марысю?

---

[1]) Крупнікам завецца пітво, прыгатаванае на агню з гарэлкі і патакі з рознымі прыправамі.

**Куліна.** (Ставячы). Гарачая, ой, гарачая, найясьнейшая карона!

**Кручкоў.** Вот я тут зараз цэлую справу кончу. Налівайце кубкі! (Куліна з Ціхонам наліваюць, падаюць Кручкову, Пісулькіну і ўсім іншым). Грышка, любіш ты Марысю? Хочаш з ёю да шлюбу?

**Грышка.** Ой, хочу, вельмі хочу! Найясьнейшая карона! Бог мяне пакарай, калі я ня дам ёй шчасьця адружыўшыся.

**Кручкоў.** А ты, Марыся, любіш Грышку? Хочаш з ім век дзяліць шчасьце і гора? (Марыся, засароміўшыся, паварочваецца тварам да сьцяны ды дзёрпаець яе пальцам). Ну, што? Чаго маўчыш?

**Марыся.** А ўжо-ж, калі маўчу...

**Кручкоў.** Дык—хочу? Ладна! Любіш ты Грышку?

**Марыся.** (Сарамліва). Але...

**Кручкоў.** Крэпка яго любіш?

№ 7. Романс.

**Марыся.**

Найясьнейшая карона!
Трудна мне бяз Грышкі жыці.
Ніяка земская прапона
Ня ў сілах нас разлучыці!
Сэрца маё — яго меньне,
Яго любоў — мая сіла.
Без яго мне сьмерць — спасеньне,
Без яго мне сьвет — магіла.
Няхай бацьке лаюць, мучаць,
Ні з кім другім ня зручуся.
Калі з ім мяне разлучаць,
Я ў Прыпяці утаплюся.

**Кручкоў.** Ну, калі так крэпка яго мілуеш, дык ужо няма чаго раздумваць. Панове бацькі! Трэба іх злучыць, а то новае ўгалоўнае дзела зваліцца на вашы галавы. Пане Ліпскі, чы прымаеш, ваша, мяне за свата для свайго сына?

**Ліпскі.** Ды ўжо-ж, найясьнейшая карона! Задумалі дзела то й канчайце яго з Богам,—я рад буду блаславіць.

**Кручкоў.** Дайце сюды ручнік! (Падаюць, а ён закідае яго сабе на плячо). Ну, вот я і сват! Што, панове Пратасавіцкія,— аддаеце вашу дачку за Грышку?

**Ціхон.** Такога свата трудна ня ўважыць. Хадзі, жонка, хадзі, пане Ліпскі,—хрэн табе ў вочы! Паблаславім дзяцей, а там потым адгуляем вясельле. На пасаг дам два гарцы грошай і шляхецкую худобу, а па сьмерці-ж нашай—самі ўсё забяруць.

**Куліна.** Ды й на выправу не пашкадуем, — яна-ж у нас ядыначка: што маем, тое ўсё яе, каб толькі Бог даў ім шчасную долю... (Бацькі сходзяцца і злучаюць маладым рукі).

**Кручкоў.** Вот так добра! Цяпер, панове бацькі, падпішыце міравую і зложыце міравых пошлін па тры капейкі. (Тыя падпісваюцца трымя крыжыкамі, Пісулькін за іх расьпісуецца).

**Альпенскі.** (У бок). Ня быў-бы судовы чалавек! Пабраў рублі ды яшчэ па капейкі сягае. У іх ужо такая натура: без капеяк і чверцяў, як бяз солі ў страве, ніяк не абойдуцца; капейкі й чверці — да скарбу, а рублі — сабе.

**Кручкоў.** Дзесяцкі! (Той уваходзіць). Прывядзі сюды Куторгу! (Дзесяцкі выходзіць). Ну, што-ж, — наліўайце ізноў кубкі ды вып'ем за здароўе маладой пары.

**Усе.** (Падымаючы ўгору кубкі). Будзьце здаровы, маладыя! Дай Бог вам век з сабою шчасьліва пражываць!

### ЗЬЯВА АПОШНЯЯ.

**Тыя самыя і Куторга.**

**Куторга.** (Кланяецца ўсім). Дзякуй, дзякуй, панове грамада! Буду старацца ўшчасьлівіць Марысю.

**Кручкоў.** Маўчы, стары хрэн, не аб табе тут ідзе дзела! Бяры кубак ды выпі за здароўе маладых — Грышкі Ліпскага з Марысяю, і падзякуй Богу, што так лёгка вырабіўся ад суда.

**Куторга.** Дык гэта ня я малады? Не за маё пілі здароўе?

**Кручкоў.** Пакінь, стары, думаць аб жаніцьбе, а заматай сабе на вус, каб крэпка дзяржаць язык за зубамі.

**Куторга.** Ой, найясьнейшая карона! Буду сабе часта браць на розум філёзофскую прыказку: на тое Бог даў людзям язык, каб умець маўчаць. (П'е з кубка).

**Кручкоў.** Дзесяцкі! (Той уваходзіць). Коні гатовы?

**Дзесяцкі.** Запрагаюць, найясьнейшая карона! (Выходзіць).

**Кручкоў.** Ну, панове шляхта-брацьця! Я вам родны, я вам брат, дык на пращчаньне вып'ем яшчэ па кубку крупніку, засьпяваем нашу родную песьню ды паскачам на заручынах. Пане Куторга, у цябе яшчэ ня вельмі курыцца чупрына, — ты вядзі пункты, а мы пакруцімся, прыпяваючы.

**Усе.** Віват, наш брат, найясьнейшая карона!

№ 8.

**Хор.** Эй-чух! чумандра,
Чумандрыха весяла!

**Куторга.** Нашы Пінскі вакаліцы —
Жыцьце хоць цару, царыцы!

Ўсяго досыць — прызірніся:
Еж, пі, хоць расьпеража́ся.

**Хор.** Эй-чух! чумандра,
Чумандрыха весяла!

**Куторга.** Ёсьць гарэлка, луста хліба,
Уюны й сушона рыба.
Чаго-ж болей людзям трэба?
Пінчуку тут даў Бог неба!

**Хор.** Эй-чух! чумандра,
Чумандрыха весяла!

**Куторга.** Як зьбяром дабро дачыста,
Завязём на торг да міста,
Тагды квартаю—чырвонцы,
Гарцам мерым—карбавонцы.

**Хор.** Эй-чух! чумандра,
Чумандрыха весяла!

**Куторга.** Дзяўчаты нашы, як лані,
Харашэйшы, як ясны пані.
Зіркне катора — маспане! —
Сэрца з-пад жабра дастане.

**Хор.** Эй-чух! чумандра,
Чумандрыха весяла!

(Чуваць звонікі. Шляхта, ап'янелая, хістаецца па сцэне без парадку; гутарка агульная, бяз сэнсу; Куторга пасярэдзіне сцэны раняе кубак і засыпае; Кручкоў бярэ ў бок Альпенскага і кажа яму):

**Кручкоў.** Ведаеш, што на цябе казаў Статкевіч?

**Альпенскі.** А што?

**Кручкоў.** Ён казаў, што ты ня шляхціц.

**Альпенскі.** Што? Ён мяне так зьняважае? Вось я-ж яму пакажу маё шляхецтва.

**Кручкоў.** Ня пры мне,—як паеду, тагды з ім расправішся! (Адыходзіцца, бярэ ў бок Статкевіча). Знаеш? Цябе Альпенскі аблаяў мужыком.

**Статкевіч.** Ён сьмеў назваць мяне мужыком?! Мне сам Юры Кабылінскі падпісаў грамату, — дык я-ж на шкуры яго выпішу сваё шляхецтва! (Шугаецца да Альпенскага і пачынаюць біцца).

**Ліпскі.** Найясьнейшая карона! Шляхта папілася і завялася біцца. Бойцеся Бога, раздыміце, а то і з вас штраф будзе належаць!

**Кручкоў.** Не ка мне, не ка мне, — няхай у суд падаюць, тагды прыеду на сьледзтва! Бывайце здаровы! (Выходзяць з Пісулькіным).

**Ціхон.** Віват, найясьнейшая карона!!..

**Усе.** (Апроч тых, што б'юцца). Віват, найясьнейшая карона!..

(Заслона апускаецца, пакідаючы на перадзе сцэны Куторгу; той прачынаецца).

**Куторга.** Што? Ужо разышліся? А там чутна й бойка! Добра прыказка кажа: пінска шляхта як нап'ецца, то напэўна падзярэцца. (Да публікі). Ды вы ўжо, найясьнейшыя панове, спаць хочаце? А што? Ня праўда! Дык:

№ 9.

Найясьнейшая публіка!
Прашу цябе: ня дзівіся,
Бяда гэта невяліка,
Што мы крыху папіліся.

Няхай шчасная разьвязка
Пінскай шляхце ад вас будзе,—
Дайце „браво“, калі ласка,
Ды і з Богам, добры людзі!

---



## Вінцэсь Каратынскі.

### ЎСТАВАЙМА, БРАЦЦЫ!..

Ўставайма, брацццы, за дзела, за дзела!
З поўначы певень залопаў крылом.
Ну-жа, каб жыва работа пасьпела, —
Выслаць гасьцінец жаўценькім пяском!

Дружна, грамада, ў сардэчнай ахвоце,
Духам насілкі на плечы узьдзень!
Ох, толькі ноччу няспорна ў рабоце!
Узыдзі нам, соўнейка, прывядзі нам дзень!

Едуць к нам, едуць дарагія госьці—
Зямель шырокіх моцны гаспадар.
Верныя служкі пры яго мілосьці,
Дабра і шчасьця за ім доўгі шар.

Як хадзіў Пан Бог па земскай дарозе,
Кожын слаў сьвіту ды зялёну віць.
Што-ж разасьцелем мы сваёй ўспамозе?
Узыдзі нам, соўнейка, скажы, што рабіць!

Гдзе яго прымем? Чорная сьвятліца,
Залатых тканак ня судзіў нам Бог.
Што наймілейша — то матка-зямліца,
Жоўты пясочак на яе палёх.

Цябе-ж на плечах, зямля дарагая,
Велькаму госьцю пад ножкі нясу.
Ох, ды расою пясок прамакае!
Узыдзі нам, соўнейка, падбяры расу!

Зара-зарыца бяжыць ужо з неба,
Любачкі-зьвёзды бліснулі жывей.
З Богам, браточкі, канчайма, што трэба!
Лёгка на сэрцы і вачам сьвятлей.

Зарыца кажа: „Вы—Божыя дзеткі“;
Зьвёзды міргаюць: „Братам стане пан“...
Вот туман цёмны рынуў на палеткі.
Узыдзі нам, соўнейка, разгані туман!

Божае сонца бліснула на галі,
Дзяньку вялела гуляць на дварэ;
Шле да нас птушкі, каб пецъ памагалі,
Туман прагнала, расу падбярэ.

І наша сонца да нас прыбывае,
Дабро і шчасьце расьсявае ён...
Здароў будзь, велькі гаспадару края!
Здароў будзь, соўнейка! Паклон, о паклон!

1858 г.

## ТУГА НА ЧУЖОЙ СТАРАНЕ.

(1864 г.).

Ой саколка, ой галубка!
Ня пытайся — не,
Што мне тошна, мая любка,
Ў гэтай старане...

Я-ж зямліцу меў радную,
Быў слабодзен сам!
Ох, ці днюю, ці начую, —
Я ўсё там ды там!

Там гукнеш ў сардэчным краю —
Разьлягнецца сьвет.
Тут гукаю, прамаўляю —
Адгалоску нет...

Там палосы сенажаці
Красны, як нідзе;
Статуць птушкі прыпяваці,
Ў сэрцы аж гудзе.

* * *

Там дзяўчаткі на вячоркі
Словейкам радным
Кажуць казкі, прыгаворкі,
Душа ліпнець к ім.

Там дзяўчаты, маладзіцы —
Красен цьвет-тымян;
Глянеш толькі ім ў ачыцы,
Як ад мёду п'ян.

Там, як птушка на свабодзе,
Я быў жыць прывык;
Ня пытаўся: „Мала? годзе?“
Быў вясёл і дзік.

Як дубочак маладзенькі,
Гібкі — проста віць,
З воч маланка вылятае,
Кроў агнём кіпіць!

* * *

Ах, цяпер-жа, ой палеткі
Роднага сяла,
Не пазналі-б тае кветкі,
Што там зацьвіла!

Паглядаю праз ваконца —
Чоран цэлы сьвет;
Усім людзям сьвеціць сонца,
Мне прасьвету нет.

Бо за мною, прада мною
Поўна Божых сёл, —
Ўсе ў грамадзе ды з раднёю,
Я адзін, як кол.

Адарвалі сірацїну ад сваей зямлі!
Даўшы розум, харамїну,
Шчасьця не далі...

* * *

Я ня сьмею прытуліцца
Ні к яму, ні к ёй:
Харамїна — чужаніца,
Розум — вораг мой.

Ад зарыцы да зарыцы
Туга кроў мне п'ець,
Пяюць хлопцы, маладзіцы, —
Я — ня ўмею пець...

Бо пры люлі родна маці
Мне ня пела дум;
Ў чыстым полі, для дзіцяці,
Граў мне ветру шум.

З шчаняткамі зьбегаў поле
Мілай стараны, —
Ня судзіла горка доля
Жыці, як яны.

* * *

Ой, ня будзе над радную,
Ды ня будзе нам,
Ці я днюю, ці начую, —
Там! Ой там! Ой там!..

Саколачка, галубачка!
Хочаш мне памоч?
Дай маё мне, дай сялочка, —
Туга пойдзе проч...

## Ў АЛЬБОМ А. ДАРЭЎСКАМУ-ВЯРЫЗЕ.

(1858 г.).

І зямля тут твая,
І народ — як сям'я;
Ён з табою з вякоў —
Адно цела і кроў;
Хоць няма каліты,
Ды гамоніць, як ты.
Роўна з песьні твае,
Думка думку снуе,
І ня то — абы з рук:
Чалавек, ня пінчук!
. . . . . . . . . . . . . . .
Ну, здароў будзь, дудар!
Цяпер песьні нам сей,
То і ўзыйдуць жывей,
То і пусьцяць пышы, —
Будзе хлеб для душы!

## З „ГУТАРКІ СТАРОГА ДЗЕДА“.

(1861 г.).

Эй скажэце, добры людзі,
Што ужо на сьвеце будзе,
Ці то так судзіў Боз з намі
Гінуць век пад маскалямі?

Як пачалі ваяваці,
Магазыны сталі браці:
У абоз вязьці ўсё збожжа,
А народ — хоць гінь, нябожа.

І аддаўшы ўсё із хаты,
Сталі браці у салдаты,
Кідай жонку, дзеткі ў дому,
Едзь ў калодцы да прыёму.

Там лоб голяць і муштруюць,
Б'юць, і ломяць, і катуюць,
Глодзяць[1]), глумяць, як скаціну
На зарэз, бяз дай прычыну.

А як войска непатрэба,
Дык салдат шукай сам хлеба!
Шле дамоў, хаця ня знае,
Ці каторы дом свой мае.

Толькі кажуць: не хавайся,
Зараз на прыказ стаўляйся,
Нясьці боты, стрычцца, брыцца,
Хоць ня маеш чым пражыцца.

Людзі лепш даўней тут жылі,
І другіх дабра вучылі,
А чужы, чаго ня знае,
То й на ліха навучае.

Дзе жандар званкамі зьвягне,
То усіх ў вастрогі цягне,
Ці убогі, ці багаты —
Ад работы цягнуць з хаты.

Ўсе чыноўнікі збыткуюць,
Абдзіраюць і катуюць,
Глумяць, крыўдзяць, разьбіваюць,
Жаліцца не пазваляюць.

Але-ж, братке, ня тужэце,
Лепш у Бога папрасеце
Міласэрдзьдзя, каб Ён скора
Пераменіў наша гора!

Бо пара ўжо наступае,
Што свабода заглядае,
А як гэта тое будзе —
За вум бярыцеся, людзі.

Памятайце тую пору,
Як прыдзе да прыгавору,
Каб часамі ня змыліцца,
На век векаў ня згубіцца.

А гарэлку кіньце піці,
Каб розуму ня здурыці:
Як трэ слова вам сказаці, —
Долю добру выбіраці!

Бо хоць яны круцяць, муцяць,
Народ просты баламуцяць:
Што маскаль мае даць волю,
Палягчыці нашу долю.

Ой, ня верце таму, людзі,
Бо ніц [2]) з гэтага ня будзе —
Каб ён так хацеў зрабіці,
То даўно-б мусіла быці...

[1]) Мораць голадам. [2]) Нічога.



## Арцём Дарэўскі-Вярыга.

### АДАМУ КІРКОРУ.

Адаська, родны Адаська!
Як мы цешымся з цябе!
Душа твая зусім наська,
А горнеш усіх к сабе.

Мурашачка працавіта,
Хвала, брат, сіле тваей!
Як нашы у пуню жыта,
Кладзеш усё у музэй! [1])

Будзь здароў! Няхай-жа пільна
Так усе робяць свае;
Няхай помняць край і Вільня,
Стараньні гэта чые.

## З альбому А. Дарэўскага-Вярыгі.

### I.

Беларускі дудару!
Радасна таму гаспадару,
К каторому на парог
Зашлець цябе Госпад Бог.

---

[1]) Музэй пры Публічнай Бібліятэцы ў Вільні.

Бо ты, мілы дударэнька,
Так іграеш харашэнька,
Што душа аж расплывецца,
Што аж сэрца затрасецца,
А ад радасьці сьляза пальлецца...

1858 г., лістапад,
Менск.

**Н. Караткевіч.**

II.

Слоўна з неба Божы дар,
Панаддзьвінскі дудар,
Завярнуў у маю хату,
Як-бы к куму або свату...

1858 г., 13 лістапада.
Магілеў.

**Т. . . . . кі.**

III.

**К дудару Арцему ад наддзьвінскага мужыка.**

Што табе, дудар, прысьпела
Сьмелы песьні завадзіць?
Ці то лёгкае, брат, дзела
Нашу брацьцю прасьвяціць?

Крыкнуць на цябе паноўя,
Што ты шкоднік і місьцюк,
Страціш голас і здароўе
І дуду упусьціш з рук.

І абмыешся сьлязамі,
І падумаеш няраз:
„Божай ласкі нет над намі
І нет праўды сярод нас“.

Ты мяне, аднак, ня слухай,
Мала што я завяду! —
Цэлай грудзьдзяй дуй і дмухай
У жалейку і ў дуду!

Не гнявіся за абмылку,
Што зачаць я не пасьмеў:
Калі Бог табе даў сілку —
Дуй, як дуў, — пяі, як пеў!

Грудзяй цэлай гудзі сьмела,
На увесь мужыцкі сьвет, —
Што пасееш, будзець цэла;
Будзець некалі і цьвет...

То-то радасьць, радасьць будзець,
Калі Бог за мужыкоў
Ды вянок табе прысудзіць
З белых рож і васількоў!

Белы рожы — то за гэта,
Што ты совесьць беліш нам,
Што нас вывеў ад Яхвэта,
Хоць наш бацька, вучуць, хам.

Васількі — то, брат, нябёсы,
Адкуль кожны Божы дар,
Адкуль сонца, дожджык, росы,
Адкуль мы і ты, дудар.

Так, мой мілы брат Арцёмка,
Бог цябе благаславі!
Іграй шчыра, пяі громка
І жыві нам ды жыві!

23 марца 1859 г.,
Віцебск.

Я. Вуль.

## Аляксандар Ельскі.

(1834—1916).

### З ВЕРША «В. ДУНІНУ-МАРЦІНКЕВІЧУ».

Здароў, Вінцэсь, айцец „Гапона“!
Табе паклон ад Гэлікона
За „Вечарніцы“, й за „Дудара“,
І за „Навума“—сяла гаспадара.

Бо твае песьні гладкі і лоўкі —
Яны гамоняць нам да галоўкі
І сэрцу кажуць скакаць пад час,
Калі ты ўзьлезеш на наш Парнас.

Маўчыш цяпер, а чаму так?...
Няўжо-ж у цябе мысьлі брак?
Няўжо-ж гутарку мог ты забыць?
Няўжо-ж ня хочаш гаманіць?

Эй! — разгукайся толькі ўзноў,
Ды пацеш-жа мужычкоў,
Ім трэба песенькі сваей!
Дык ты-ж, Вінцэсь, ты ім запей...

... сумленны дзед,
Наш стары лірнік і поэт,
Слаўцо із сэрца я кладу,
Ды толькі нам зайграй: ду-ду!

Бо ўжо вельмі сумна стала,
Як твая песьня замаўчала.
Брокгауз ў Ліпску выдрукуець
І грошам цябе пачастуець...

Паслухай толькі братняй рады
І ня бойся жаднай [1]) зрады.
Бо ты сядзіш у Люцыне,
Ў сваёй хаце пры каміне,

І ня ведаеш, што можна, —
Толькі з толкам, асьцярожна...
Будзь здароў-жа, пане браце,
Зычу: хай у тваёй хаце

Ляжыць бохан на стале
Ды ў мяшочку у цябе
Няхай будзе поўна грошы,
Сэрцам будзь нам ўсё харошы!

Кабы статачак ручыўся,
Каб ты ніўкаю разжыўся,
Каб зубатыя ваўкі
Не паелі жарабкі,

Пчолкі каб давалі мёду,
Каб да сотага ты году
Весела, здарова жыў,
А па сьмерці піва піў...

Замосьце,
27 чэрвеня 1872 г.

## Фэлікс Тапчэўскі.

### З ВЕРШУ „ВЕЧАРЫНКА“.

... Быць яны там угарэлі, так і ходзяць хамянём,
Загудзелі, заскрыпелі, аж смычкі бурчаць ваднём.
Музыкант, што йграў у скрыпку, упёр локцем у жывот,
Узваліў нос на кабылку і разінуў дужа рот;

[1]) Ніякай.

Як прыўдарыць з усей сілы, толькі пыл са струн ідзець,
Пасінелі на ём жылы і пот каплямі цячэць.
Пасьля неяк засмурыжыць, бздрынкнець пальцам па струнах,
Бараду уверх падымець, а смычком тым мах ды мах.

Трубач рэдка, але ёмка раз-па-разу заравець,
Сьціхнець троху, пасьля лоўка усім тахту задаець.
Разам йскрыпкі падхвацілі і басэтля завяла,
Усіх як ёсьць аглушылі, тут пацеха і пашла.

Пачаў першы ў акулярах пан парадак завадзіць,
А за ім усе у парах сталі мазурку хадзіць.
Кожны рукі растапырыць і ляціць—вот як арол,
Ляпнець нагой ды падкінець, скрабянець падошвай пол.

Стук ды топ напераменку, разам верць, як на шрубе,
Абоймець за стан паненку ды й шавыр! каля сябе,
Раз ды два кругом абкруціць, ахваціўшы яе стан,
Посьле фурт! крыху адпусьціць ды й пашлі ізноў у тан.

Толькі пырхаюць іх полкі, валяць, знай, на переавал,
А паненкі дрыб-дрыб толькі, мусіць, шаг іх троху мал.
Як у корні, паніч смаліць, яна—ў прысьцяжцы ідзець,
Сам шырока ногі ставіць, тая дробненька сячэць.

Як замлеюць ужо ногі, ідуць цішай раз-параз,
Разам верць! сайдуць з дарогі, к крэслам падайдуць якраз;
Шлёп! абое разам селі, сталі моўчакам сядзець;
Замарыліс, упацелі, пара клубам з іх ідзець.

Тут паненка распусьціла у руках індычы хвост,
Памахала, пакруціла і ўраніла на памост.
Паніч крута схамянуўся, брык! падскочыў, цап! азяў,
Напярод дугой сагнуўся ды й паненцы тыц! падаў.

Тады яна кіў галоўкай, і паніч ей кіў назад,
Шапярнулі са два слоўкі, шлёп! і сеў з ей тут у рад.
Як драбочак аддыхнулі, пашлі кадрылі скакаць,
Крэслы троху адпіхнулі і дай парамі стаяць;

Ходзяць неяк, мітусяцца то назад, то напярод,
Хваць папарна абнімацца ды круцель, як калаўрот.
Пакуль шэсьць кален ламаліс, яшчэ дукрыў што-нібудзь,
Посьле разам памяшаліс, не паняў ніяк, што йдуць...

Лепельшчына, 188* г.

# Народная літэратура невядомага аўторства.

## Прачыстая сярод ночы.

Прачыстая сярод ночы
Пусьцілася са ўсей мочы,
Плачучы, на гроб Хрыстоў,
На Галгофу, між кустоў.

Пазьдзірала вельмі ногі,
Бо баялась сінагогі,
І наткнулась на Хрыста,
Ён яе спрасіў спраста:

Што-ж ты, мая маці, плачаш?
Яваскрэс, сама ты бачыш,
. . . . . . . . . . . . . . . .

Хоць жаўнерам далі плату,
Штоб брахалі там Пілату,
Што іх змог найкрэпкі сон,
І Хрыста хтось вынес вон.

А я многа меў работы
Пад час сьвятыя суботы,
Пакуль пекла пагасіў
І Адама ўваскрасіў.

Як пачула злая сіла,
Што самую сьмерць скасіла,
Пабяжалі к Аарону —
Спраўку вывесьць па закочу,

Ці прыйшоў Мэсіі час,
Штоб ад пекла ўсіх ён спас?
Аарон ачкі надзеў
І ў Быбліі паглядзеў,

Ня уцерпіў, засьмяяўся,
Куцы зараз дагадаўся,
Бяжыць на пякельну браму,—
Аж ідзець Хрыстос к Адаму

І к архіву скора — шась!
Аж пякельня затраслась.
Куцы зашатаўся з ляку,
Трудна стала небараку;

Прад Хрыстом ні мёртв, ні жыў,
А Хрыстос яго спрасіў:
„Гдзе старэнька баба Ева,
Што грызнула плод ад дрэва?“

Куцы качаргу узяў,
Ў печы крэпка памяшаў.
Ева вылезла із печы,
Абгарэлі вельмі плечы,

А за ёю і Адам,
Аж Хрыстос зьдзівіўся сам:
Ўвесь пабіт і пакалот,
З голаду запаў жывот!

Горка, горка зарыдаў
І на Еву паглядаў.
Ўзяў яго Хрыстос за рукі,
Расказаў пра свае мукі,

Адпусьціў абоіх ў рай,
Штоб забылі гэты край.
Тут Адам із пекла драла,
Ева на ўсі жылы брала:

На бягу дагнала Лота,
Аж крывава пена з рота,
Як ён чыніць ў райскі сад,
Не агляжаясь назад.

Ной старэнькі спатыкаўся
І да раю прама драўся.
Слаўны багатыр Самсон,
Што быў вельмі лас на сон

І што здаўся на пакусу,
Крыкнуў Навіну Ісусу,
Штоб ён сонца прыдзяржаў,
Пакуль вечар не настаў.

Праведныя душы выйшлі;
Ілія на конях ў дышле,
Алісею даў жупан,
Расступіўся Іярдан.

Сталі райскія вароты
Насьцеж ў дзень новай суботы.
Тут прамудры Саламон
Зазваніў у райскі звон.

Ўсі сабраліся па звону,
Па заслугам, па закону,
Пасадзілі ўсіх за стол,
Тут і Божы быў прастол.

Сам Бог яйцамі златымі
Пахрыстосаваўсь са ўсімі,
Разгавеўся сьвяты мір,
І пачаўся вечны пір.

Новае падалі піва;
Тут Давыд, усім на дзіва,
Прывударыў ў гусьлі так,
Што ня ўцерпілі ніяк.

Сара ў тую-ж гадзіну
Прэж ўсіх выйшла на сарадзіну,
З Аўраамам ў танец шла,
Ўсіх на ногі падняла.

Ісаак, працёршы вока,
Стаў з Равекай Сары збоку,
Якаў кінуў свой кастыль,
Стаў пры іх, ўзяўшы Рахіль.

Тут прыдаў Іуда жару,
Ўзяўшы пад-ручку Фамару!
Тут прыпомніла Эсфір,
Красен з гусьлямі Псалтыр;

Тут ударылі ў тымпаны,
Ўва ўсе струны і арганы,
Аж да алтаровых рог,
Штобы быў праслаўлен Бог.

Тут і бабкі, тут і ўнучкі —
Ўсе пабраліся за ручкі,
Пайшлі ў вечны карагод,
Слава Богу ў род і род!

## З „Гутаркі Паўлюка“.

„Дзякуй Богу, што прыждалі,
Што піць водку перасталі,
Прысягнулі, закляліся,
На век з водкай рассталіся.
Дай нам, Божа, век дажыці,
Па гарэлцы ня тужыці.
Няхай толькі Бог нам годзіць,
Пашню ў полі добра родзіць.
Каб голаду не цярпелі,
Дабра, хлеба ў волю мелі;
Без гарэлкі жывуць людзі,
І з нас кожны перабудзе.
Няхай яна на квас скісьне,
Па ёй ніхто з нас ня пісьне...
Да п’яніцы зойдзеш ў хату,—
Ўсяка ступень мае страту,
Хата падпёрта, крывая,
Ў дождж, як сіта, працякае.

Плачуць голыя, бяз хлеба, дзеці,
Аж цяжка на іх глядзеці.
Ні ў чым нямаш там парадку,
Бо сын лае сваю матку,
Гоніць з хаты бацьку, дзеці —
Нямашака дзе падзеці...
Бо гарэлка падгравае,
І на штукі паджыгае.
А праспаўшысь нездаровы,
Сам сябе караць гатовы;
Ён сам добра тое знае,
Што за свой грош ліха мае.
Хоць і каецца, шкадуе,—
Як уп'ецца, ўзноў ня чуе...
Іншы п'яніца гаворыць:
Чалавека грошы морацць,
Хто ўсё грошы сабірае,
Толькі душу пагубляе.
Ён за грошы цап! рукамі,
А чорт яго цап! з грашамі.
Ухопіць і не пакіне,
Навек душа ў пекле згіне.
А я, чым душу губіць,
Лепей буду водку піць.
*) І як-жа нашаму брату ня піць:
Як чорны вол, нядзелю працуе,
Што і плеч сваіх ня чуе;
Прыдзе сьвята —трэба сапачыць
Ды й душу сваю ажывіць.
Ну й зойдзець к якому Бэрку
І вып'ець з гора кватэрку.
А як выпіў чарку-дзьве,
Дык і закружыла ў галаве...
На тое Бог сьвята даў,
Каб чалавек рызыку паказаў.
Грошай няма, хамут застаў...*)
Адна толькі рэч нас вяжа, —
Хто разумны, няхай скажа:
Чаму гэтак цяпер стала,
Многа людзей перастала
Піць гарэлку без адкладу,
А на сьвеце нямаш ладу?
Ксёндз сварыцца, навучае,
Просіць, грозіць, выклінае.
Аднакава-ж, тэй навукі
Не прыстаюць паном гукі...

*—*) Магчыма, што гэтыя радкі занесены ў „Гутарку Паўлюка“ з іншай гутаркі.

*) Пан карчмы новыя стаўляе,
З бравароў гарэлку дастаўляе...*)
Хоць і пан цьвярозых любіць,
А ўсё-ж водкай людзей губіць.
Хоць ксядзы нам піць бароняць,
Паны водку, аднак, гоняць.
Трудна-ж гэтак нам зрабіці:
Быць цьвярозым, — водку піці...

## З „Гутаркі Кузьмы з Апанасам".

Кузьма, сядзеўшы з Апанасам,
Яму гаворыць добрым часам:
—„Мінулісь даўныя гады,
Як жылі нашы дзяды.
Багатшае было сяло,
Як мудрых паноў ня было:
Усе тады лепей гулялі,
Дзесятнікі нас не ганялі,
Ураднікі так не каралі."
—„Цыц, брат, сказаў Апанас;
Цяперашні наш лепей час.
Цяпер тужыць нам нет а чом:
На аднэй мілі сем карчом.
А хочучы павесяліцца,
Ня трэба далей валачыцца,
Цяпер што толькі ступіў,
Каб грошы, ўсё-б гарэлку піў!
Гарэлкі вып'еш,—як ад перцу,
Па жылам пойдзець і па сэрцу."
Кузьма за гэта ў злосьць ўступіў,
Чуць Апанаса не пабіў:
—„Што ты мне тут баўтаеш?
Тагды у нас бывала сьвята,
Калі мяцецца было хата...
А гэта што цяпер за дзіва?
Гарэлку гоняць, вараць піва!
Цяпер вясельле ці гуляць,
У пана трэба запытаць;
Даўней было — дроў прадасі,
Гарэлку п'еш, пірог ясі.
Цяпер пан пруцік запраціў,
Хіба украдкам хто схваціў.

*—*) Гл. вынаску на стр. 180.

Ато сядзі цяпер бяз солі,—
Сеч лесу не даюць нам волі.
Бывала хату прадасі,
Дык добра вып'еш і зьясі.
Цяпер-жа печ штоб пратапіць,
Лазіну трэба церабіць...

## З „Казаньня“.

Вот цяпер які люд стаў:
Хіцер, зол, няўдал, лукаў!
Сябе любяць ўсяго болі,
Па сваёй ідуць ўсе волі.
Над скарынкай хлеба млеюць,
Даць галоднаму жалеюць;
Гоняць беднага з двара,
Хоць якая будзь пара...
Хто бяз грошы і бяз хлеба,
Тых людзей і нам ня трэба.
А калі ды хто багат,—
Кожнаму і сват і брат.
І пан цягнець за багатым,
Калі судзіць брата з братам.
Багач скрыўдзіў, ён і праў;
Бедны скрыўджан—і прапаў,
Выйграць справу яму трудна.
Нуднаму усюдых нудна!
К спраўніку ён не даб'еццa,
Толькі шыі дастаеццa.
К сэклетару бяз прыносу
Не патыкай бедны носу.
Было-б то над чудам чуда,
Каб бядняк праў выйшаў з суда.
Хто абодраны і нагі,
Таму ніякой увагі,
А адзетага багата
Маець пан за пана-брата.
Хоць і ён крутнёй разжыўся,
Добра сьлёз людзкіх напіўся,
Ды чэсьць ад усіх яму,
Калі прыдзець ён к каму.
А бядняк душой будзь чэсьцен,
Ён і злодзей і бязчэсьцен.
Свой свайго у нас бывала
Не дапусьціць а ні мала

Да зьнявагі, ды крыві,
Хоць ты вока яму рві.
А цяпер і між сваімі
Горшы, чым-ся між чужымі.
Няма ладу, няма міру,
Кожны сабе глядзіць к віру.
Няма двара, няма хаткі,
Каб было бяз жаднай звадкі.
Згоды між бацькоў няма,
Гневаюцца задарма.
Дзеці з бацькіна прыкладу
Між сабой ня маюць ладу:
Нападаець брат на брата,
Родным брацьцям цесна хата.
Гоняць сэрца, гоняць злосьць,
Грыжа, як ў сабак за косьць.
Сястра сястры—клятбы досіць,—
Каб прапала, Бога просіць!
Дзеці часта бацьку лаюць,
Клянуць матку, зьневажаюць.
А убраўшыся у сілу,
Гоняць бацьку у магілу.
Самі смашна жруць і п'юць,
Яму поліўку даюць.
Шкода ім для бацькі хлеба,
Як-бы есьць яму ня трэба.
Бацьку свайго за абедам
Называюць дармаедам.
А другі такі ёсьць шэльма,
Што, свае заліўшы бельма,
І рукам сваім дасьць волю,
На сваю ня помніць долю.
Свайго бацьку пхаець з хаты. —
Ёсьць-жа сын такі пракляты!

Ўсёгды завісьць маець голы,
Што ў суседа хлеб і пчолы.
А вот сквапны: свайго досіць,
А чужую траву косіць,
Чужыя снапы бярэць
І цераз мяжу гарэць;
Хоць свайго аж надта маець,
А чужое ўсё хапаець.
Збожжа маець хоць ў запасе,
Ды ня вызваліць ён ў часе.
А пазычыць, то на тое
Квапіць квоты ўзяць удвое.

Сьвет увесь ён, каб прымеў,
Ён к сабе саскрэсьці-б меў.
Дзіва-ж, што зладзейскі вочы
Лезуць красьці ў клець уночы!
Многа, што на праўду плююць,
Кулаком пад нос тым суюць,
Хто па праўдзе скажаць ім;
Не заві яго ліхім,
Не кажы, што ён сваволіць,—
Праўда, кажуць, вочы колець!
Не па праўдзе прысягаюць,
Не па праўдзе выцягаець
У беднага аканом
Быццам праўду бізуном.
Не па праўдзе бедных гоняць,
Й не па праўдзе суд свой клоняць.
Запытайся праўды ў судзе,
Паглядзім, што з таго будзе!
Многа ёсьць такіх на сьвеце,
Што па злосьці ліха плеце
Язычком сваім паганым,
Сваіх брацьцяў перад панам
Уядаець нізашто,
Каб ды самаму за то
Ласку заслужыць у пана.
Пан паслухаець сатàна,
Зьдзярэць сьпіну аж да пят,
Хоць-бы хто й невінават.
Або ў некруты нябогу,
Або ў цяжкую налогу,
Або ў дальны трудны пуць
Злыя людзі упякуць.
Ох, наш брат ёсьць і такі,
Што ў яго і нраў ліхі.
На таргу прадасьць воз сена,
А што ўзяў, ў карчме ўсё села.
Ўдвору з п'янымі вачамі,
Вернець з голымі рукамі,
А ўдварэ за тое-ж зельле,
Трэба ўзяцца за пахмельле.
Колькі трэба, намалоціць,
У карчомку ўсё валочыць;
Рэшту, калі будзець што,
На гарэлку прэць і то.
Там ён днюець і начуець.
Там дадуць яму і есьці,

З голаду-ж ўдварэ[1]) мруць дзеці
Прыдзець ўдвору дужа п'ян,
Ды і норавам паган:
Жонка ці зачнець сварыцца,
Ён кідаецца к ёй біцца.
Усіх разгоніць да 'днаго,
Каму дзела да яго?
Перад ім і пан ня пан.
Сам сабе ён пан, як п'ян.
Хто такога зьдзержаць мусіць?
Калі хто чаго укусіць,
Не пакінець да магілы.
Пакуль жывы, пійце жылы.
Сьпіўшысь, двара[2]) ня пільнуець,
Гдзе начуець, а дзе днюець,
П'ець, пакуль зубы сатнець
Ці на холадзе засьнець.
Адмарозіць рукі-ногі,
Тады вечны ён убогі.
Пойдзець прасіць пагарэлым,
Быццам ў агні абгарэлым,
Тоіць, што цераз сваволю
Гэтаку нажыў нядолю.
Недалужны небарак —
Дражнець па дварах сабак.
Абвандруець усе сёлы,
Босы, ка́лека і голы...
Хто пабожан, дасьць убогу,
Зжаліўшысь к яму, нябогу,
А ён, што ў дзень сабярэць,
Ў карчму на гарэлку прэць,—
Пакуль з холаду, калекі,
Пад плятнём засьнець навекі.

## З гутаркі „Гэй, каб нам быць весялей“.

Гэй, каб нам быць весялей!
Гэй, каб нам быць пасьмялей!
Пойдзем, браццы, ў кабачок,
Вып'ем гарэлкі кручок.
Водка крэпка, мера спора,
Будзем піць, забудзем гора;
Браццы, як у добры год,
Завядзём тут карагод.

Пойдзем ад хаты да хаты,
Ці галыш хто, ці багаты;
Калі будзець весяло,
К нам зьбярэцца ўсё сяло.[3])
Карп, як па калядзе з мехам,
Грошай альбо збожжа з мехам
Сабярэць, так будзець лад;
Будзем піць гарэлку ў рад.

[1]) Удварэ, ўдвору — дома, дамоў. [2]) Свайго дому. [3]) Параўнаваць з „Рабункамі мужыкоў“ Я. Баршчэўскага.

Пілі бацькі і дзяды,
І мы ступім ў іх сьляды:
Яны гора не знавалі,
Гарэлку добра сьцябалі.
Чалом, Грышка! Чалом, Дзёма!
Чалом, Кузьма! Заві Пахома!
Чаго ящчэ будзем чакаць?
Пара гарэлку піць, скакаць.
Памаўчы лепш, не варыся,
З намі йдзі скакаць, Марыся!
Замаўчы й ты, Сялівон!
Не замоўчыш, пойдзеш вон!
Дзядзька сядзіць, піпку курыць;
П'ець гарэлку, вачмі жмурыць,

А дзядзіна не ўважаець,
Цалком чарачкі глытаець.
Саўка скачаць, пішаць, пышаць,
Умарыўся, ледва дышаць.
Барыс — строгі целялёг,
Ўпіўшыся, пад лаўку лёг.
На ліха вось тут аканом
Ўляцеў, награнуў з бізуном.

. . . . . . . . . . . . . . .

Рассыпаліся ўсе нашы розна,
Куды папала, куды можна.
Адзін схаваўся быў пад стол,—
Яго аконам за хахол.

## З гутаркі „У паноў ніхто бяз спросу"...

У паноў ніхто бяз спросу
Не паткнець ў бяседу носу,
А наш брат — зусім прасьцяк,
Ў карчму сьмела лезець ўсяк.
Наш такі мужыцкі нораў:
І бяз зову і бяз спораў,
Пачуў — ґраюць ці пяюць,
Ці пабачыў, а дзе п'юць,—
Паняволі туды ногі
Знайдуць хоць і тры дарогі.
Асабліва у Каляды
Пабяседаваць мы рады,
Нам тагды слабодны час,
Не няволяць паны нас.
У паноў свая бяседа!
Кажын любіць у суседа
Пацягнуць і пагуляць.
І наш брат на тую-ж стаць:
Тым сьмялей, калі ў кішэні
Грошы ў каго зазьвінелі,
Як калядны прыдуць сьвяткі,
Разам ўсі бацькі і маткі
Брадуць ў корчму на банкет,
І дзятва за імі ўсьлед.
Сабяруцца маладзіцы,
Хлопцы і красны дзявіцы,
Малады увесь народ —
На ігрышча ў карагод.

Пазавуць сюды Архіпку;
Маладзец—ў сваю ён скрыпку!
На ўсі жываты бярэць,
Весялухі ўсё дзярэць!
Ці на йгрышчы, ці вясельле,
Хоць-то, праўда, ён з пахмельля
Ня выходзіць, ўсёгды кер,
Ды ўжо-ж і на скрыпку зьвер.
Пазаймём услоны, лаўкі;
Троху тут і не бяз даўкі.
А дзяўчаты і хлапцы,
Удалыя малайцы,
Розныя выводзяць скокі,
Хто ў прысядку, а хто ў бокі.
Тут-то ёсьць на што глядзець!
Тута іншы маладзец
Розныя, як-бы з навукі,
Выкідаець ў танцах штукі...
То прысядзець, то падпрыгнець,
То вачамі ён падмігнець,
То верціцца, як турок,
Маргелку схіліў на бок.
То прысьвісьнець, то прытопнець,
То пад лад ў далоні хлопнець,
То штуркнець пад бок каму,
Не мяшалі штоб яму...
Старыкі-ж сабе мы—тут
Сядзем з бабамі на кут,

Між сабою станем зюкаць
І пад рад гарэлку клюкаць.
Ці Лявон, ці не Лявон,
З раду ў нас ніхто ня вон!
Нікому мы не даруем,
Папіваем і старуем, —
Без гархухі ня той лад,
Ўсяк на йгрышчы выпіць рад.
Наша складка небагата:
Ўдоваль па кварце на брата.
Хто паважна тут сядзіць,
За лучынай хто глядзіць,
Хто пяець, хто піпку курыць,
Казкі кажаць, а хто дурыць,
Альбо кашалі пляцець
На суседзі, — як жывець.
Кажнаму тут ёсьць работа,
Кажнаму свая ахота...

## З „Маладзіковай гутаркі".

Сеў на прызьбе каля хаты
І думаю: каб быў багаты,
Узяў-бы Паўлюкову Крыстыну
Або Пятрукову Ярыну.

Але дзе мне да іх!
Калі выракліcь сваіх,
Высока галовы носяць,
Нічые ласкі ня просяць...

Ото буду мець матулю,
Як вазьму Яські Ганулю.
Ня бойсь! Гэта для мяне будзе прыгожа,
Дзеўка працавіта ды й цьвіце, як рожа.

# Народніцкая пара.

## З повесьці Я. Р. Брайцава „Багачы“.

(1889 г.).

Сярод гоману з усіх бакоў і ад крыку самаго старшыны, ганяўшага нейкіх людзей за нядоімку пану, Сьцяпан доўга ня мог абдумацца і троху забыўся на сваю справу, дзеля якой прыйшоў у валасьць.

— Старшына, Мікітавіч! Трэба некаторыя рашэньні да спаўненьня прывесьці! Вось хаця абсячы... — загаварыў пісар, выскачыўшы з валасной камэры.

— А хто ж там... хм... хм... — працадзіў старшына з насьмешкаю.

— Ды во, хоць-бы першаму... Івану Лабзаку з дзярэўні Тарані — 19 розак, Карнею Халімонаваму з Жарноўкі 19 розак, Івану Лапуцаку з той-жа дзярэўні — 15 розак...

— А! — перабіў старшына; — гэта што ў Янкеля бяросту ня выдралі?

— Ага, ага!.. пакуль гэтых, а там яшчэ... Ну, Мікітавіч, жыва-а-а! — закончыў пісар і ўзноў схаваўся за дзьвярмі камэры.

— Гэй вы, старасты, чулі? Даставілі вінаватых? — сказаў старшына, аглядаючы груд людзей.

— Чулі! — адгукнуліся два галасы, і два старасты з мэдалямі на грудзёх марудна выступілі з груду.

— Ёсьць? прыставілі? — пераспытаўся старшына.

— Ёсьць, а як-жа! мы загады спаўняем, як мае быць.

— А гукніце-ка мне валаснога стоража! — важна загадаў старшына.

Адзін староста кінуўся ў сенцы. Зараз у канцэлярыю ўвайшоў сторож: невялічкі, але ёмка складзены дзядок, з за-

ўсёднаю ўсьмешкаю на высахлых вустах і з маршчынаватым дробненькім абліччам.

— Ну, Харытон, тут адпрасаваць добранька трэба... цэлую тройку... А там, можа, Госпад і яшчэ пашлець! Ды ведаеш, Харытон, добранька трэба падкалупіць таго.. у навуку іншым-малым; хай ведаюць, як супроць закона хадзіць! — настаўляў старшына свайго стоража.

— Я... я... пастараюся, Мікітавіч! — закулдаячыў дзядок.

— Добра, знаем цябе! Хоць і стары, а ў гэтых штуках малайца за пояс заткнеш! Не дарма-ж каторы год у нас, дык справа знаёмая, — пахваліў старшына і неяк няпрыгожа ашчэрыўся.

Старасты кінуліся спаўняць загад свайго начальніка і зараз вінаватых аддзялілі ад груду людзей і завялі ў сенцы.

Сьцяпанава сэрца балюча сьціснулася, як глядзеў на гэтую расправу.

— Ну, да мяне яшчэ далёка — думаў ён; — я ні ў чым невінават.

Абсечаныя бедакі, заплаканыя, з ускалмачанымі валасамі і здурнелымі вачмі, пачалі былі кланяцца ў ногі старшыне, тады абы-каму з мужыкоў, бліжэй стаяўшых, і самаму сторажу, секшаму іх, прычым дэкляравалі паставіць гарэлкі, „колькі хоця“, але дзеля каго іменна паставіць, трудна было зразумець, бо й самі дэкляраваўшыя хіба што не разумелі, аб чым казалі. Яны многа-б яшчэ „надзівачылі“, каб старшына не загадаў вытурыць іх у карак на двор, каб і „пах іх ня пах“! Ачуняўшы ўжо на панадворку, бедакі сталі голасна клясьці і жадаць усякага паскудзтва пакрыўдзіўшым іх.

— Вось яшчэ, старшына, тройку знараджай! — ізноў пачуўся з канцэлярыі голас пісара.

— А каго ды каго?

— Восіпу Хралянку з сяла Лоз — 15 розак, Яхіму Капусьце з таго-ж сяла—19 розак і Кастусю Пімянку з дзярэўні Аглабель—10 розак...

Старшына загадаў старастам ізноў вывесьці ў сенцы „тройку“.

— Во пашло! Матачка мая родная! У Харытона, пеўна, рукі забаляць.

— Не, брат, на што-што, а на гэтую працу ў чалавека рукі не забаляць. Яшчэ горш, кажуць, заздрасьць бярэць.

— Глядзі, глядзі! лазоўцаў і аглаблёўца павялі! . Ну, лазоўцам ад лазы ня будзець вялікай бяды—у лазе вырасьлі, а вось аглаблёўцу дык добрыя аглоблі загнуць, ха, ха, ха! — сьмяяліся ў грудзе людзей.

— Гэй, ты! Сьцяпан! ці як цябе завуць, чуеш, ці што? — крыкнула раптам Сьцяпану колькі галасоў.

— Сьцяпан, Сьцяпан, цябе старшына гукаець!

Сьцяпан насілу ўстоіў на нагах, так дужа тыхала яго сэрца...

---

Нейкі туман забыцьця і адурэньня стоўпіўся ў яго галаве... Быццам хто ўдарыў яго абухам па цемю... Прадпісаньне было прачытана, але ён нічога ня чуў і тым больш не разумеў. Здавалася, яго пакінула на час здольнасьць думаць і пачуваць.

— Ну, ну... сакалок!.. ха, ха, ха! Хадзі-тка ў сенцы, папару... да-душы папару... Як слова ў лазьні таго... ха, ха, ха! — засьмяяўся нехта, торгаючы Сьцяпана за рукаў сьвіты. Ён азірнуўся. Харытон, усьмяхаючыся ўсім сваім дробненькім абліччам, цягнуў яго за рукаў. Дзіўным здаўся выгляд старэнькага Сьцяпану, і як удзержаўся ад удара па гэтым дробненькім абліччу, ён пасьля й сам дзівіўся.

Мабыць, нічога не разумеў Сьцяпан, калі яго вывелі ў сенцы і паклалі плашмя на зямлю...

— Спускай, спускай болей! Ды што вы не дзяржыцё, га? Бярыце ўчацьвярых, ато-ж ён першы раз і на вольным хлебе жыў, сіл сабраў, дык яшчэ таго... вырвацца можаць!.. — распараджаўся старшына.

— Раз! — раздаўся аднатонны голас стоража.

— Ай! — памім волі айкнуў Сьцяпан.

— Дужэй, Харытон! — крыкнуў старшына.

— Пятнаццаць! — скончыў стораж і адышоўся з розкамі. Сьцяпана пусьцілі. Ён прыстоіў і без патрэбы, тупым поглядам, абвадзіў стаяўшую грамаду людзей. Тады, заравеўшы на ўсю сілу, сярод агульнага рогату, кінуўся вон...

Цяпер Сьцяпан не памыкаўся ні давіцца, ні тапіцца, хаця тут ня было яму ні перашкод, ні труду... Можа быць, астатняя акалічнасьць, ці-тое фізычная магчымасьць зрабіць гэта, удзержала яго ад замаху на сваё жыцьцё...

— Божачка! Ды што-ж гэта такое? — заліваўся сьлязьмі Сьцяпан, чуючы, як страшэнна баляць абсечаныя месцы. Ды й да чаго-ж гэта я-ткі дажыў, га? А як-жа я каму на вочы пакажуся? — крычэў ён, з жахам хапаючысь абедзьвюмі рукамі за галаву. — Ну, куды я цяпер пайду? — ужо недалёчка ад сваей хаты, аглядаючыся па бакох, плакаў Сьцяпан: — а колькі гоману будзець ды ганьбы! А сораму аднаго колькі! Э-эх! Пайду хоць да Іцкі!.. гінуць, дык гінуць!.. — махнуў ёй рукою і пайшоў у карчму...



## Францішак Багушэвіч.

(1840 — 1900).

### ХРЭСЬБІНЫ МАЦЮКА.

Калісь, як у нас казакі-то стаялі,  
У Шнюрах за горкай раз мяне спаткалі.  
Сказаў: „Пахвалёны!“ — а яны сьмяюцца,  
Адзін штось сьпявае, іншы дзьме на дудцы,  
А старшы скіпеўся: „Ты што за адзін?“  
Думаю: хто-ж я? — ужо-ж Юркаў сын!  
— „Тутэйшы, кажу я, свой чалавек:  
„Сын бацькі свайго, а бацька дзяцей,  
„Тут і радзіўся, тут і жыву век;  
„Юркам зваць бацьку, а я дык Мацей.  
„Вун гдзе і хата, і выган, і сад;  
„Там жнець мая жонка, а тут гарэць брат!“  
Ён кіпіць горай, пытаючы лае,  
Крычыць, і б'ецца, і у твар штурхае.  
— „Ды хто ты, ды хто ты — ці рускі, ці не?“  
Я дай круціцца туды і сюды,  
Думаю: што-ж сказаць яму мне?  
— „Я не нашу, кажу, барады“.

— „Да ты, ён кажа мне, веры якой?
„Ці ты праваслаўны, ці ты паляк?“
— „А дайце-ж, паночку, кажу, мне пакой,
„Ды я-ж тутэйшы, — як казаў, дык так!..“
Як сьцебане пракляты мяне, —
Аж у вачох чырвона здалося!
Каб я-ж у чым-кольвек, у якой віне,
Ато і ня ведаць, скуль узялося?
Я кажу гэтак: „Калі-ж ужо так,
„Што васпан б'ешся бяз дай прычыны,
„То, мусіць, і праўда, што я паляк,
„І буду паляк я ад гэтай гадзіны!“
Ну і далі-ж мне добра на знак:
Цягнулі б'ючы аж у Жамаслаў,
Каб помніў крэпка, што я паляк,
Каб і вам гэта здарэньне сказаў!
Тое прайшлося, пайшлі й казакі,
Калі пад восень завуць нас у збор:
— „Прыехаў, кажуць, начальнік такі!
„Сам князь Хаванскі: ідзіце у двор!“
Трэба ўсё кідаць (хоць сьвятам было),
Народам, як макам, ўвесь двор заліло:
Князь у палетах, вясёлы такі!
— „Эх, кажа, рабяты! — вы дуракі!
„Што ў рускай зямлі, ды й каталікі!
„Ну, цар вас прыймае у сваю веру;
„Дасьць зямлі многа!.. Вы на паперу
„Тут падпішыце, а поп пасьвеньце, —
„Будзе ўсё добра, усюды пашэньце.
„Ну, браццы, вып'ем па чарцы усе;
„Бацюшка крыж і крапідла нясе!“
Мы-ж толькі зірк! адзін на другога,
Маўчым, трасёмся, ня кажам нічога.
Ён-жа Мірона за плечы узяў,
Вядзець да стала, гарэлкі падаў:
— „Пій на здароўе і гэтак пішы:
„Вот сабраліся дзьве тысяч душы,
„Рускую веру хочам прыняць,
„Каб каталіцкай ні ведаць, ні знаць“.
Мірон папярхнуўся, як хуста, зьбялеў,
Глянуў на ўсіх, на мяне паглядзеў:
— „Як, кажа, людзі, так, кажа, і я,
„Спытайце, кажа, вун Мацяя,
„Як ён ды скажа перавярнуцца,
„Дык усе вёскі на яго здадуцца“.
Цягнуць мяне да таго князя,
А тут аж мурашка за скурай лазе.

— „Ну што, маладзец, нап'ёмся водкі?“
Даець мне грошы, такі салодкі:
Усё гавора, радзе, пытае,
Жонку цалуе, дзяцей гайдае.
— „Ну што-ж, надумаўся, ці ўжо гатоў?“
— „Надумаўсь, кажу: каб сто катоў
„Дралі мне скуру, пяклі на агню,
„Я веры сваей-тыкі не зьмяню!“
Іх! закіпеў тут той князь, аж зароў,
Аж вылупіў вочы, счырванеў, як кроў...
— „Розаг падайце, нагаек, сто лоз!
„Ён з веры сьмяецца мне тут-жа пад нос!“
Хапілі мяне якісьць гайдукі,
І розаг падалі чатыры пукі.
І б'юць — не баліць, хоць за сэрца бярэ;
За што-ж ён, пракляты, мне скуру дзярэ?
Як крыкну я гэта: „Эй, бійце-ж мацней,
„Мацнейшы ад веры вашай Мацей!“
Вот так-то хрысьцілі мяне казакі
З тутэйшага ды ў палякі!

## КАЛЫХАНКА.

Люлі, сынок, люлі-люлі!
Усе курачкі паснулі,
Ой паснулі і курчаткі
Пад крыламі свае маткі.
А ты чаго ня сьпіш, сынку,
Як-бы чуў ліху гадзінку?
Можа будзеш калі панам
Ці вялікім капітанам,
А як матка прыйдзе ў госьці,
Ой-то будзе ёй радосьці!
Сядзе матка ў кут на лаве,
Сын хлеб-соль прад ей паставе,
Ручкі, ножкі пацалуе,
Памілуе, пажалуе;
Пачастуе мядком сытным,
Блінком мякінькім, падсітным,
Піражочкам і з начынкай,
Верашчакай, гарачынкай...
Люлі, сынок, люлі-люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі.
От-то будзе рада матка,—
Хоць і простая салдатка,
А усякі шапку здыме,
Як дазнаецца аб сыне.
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі...
Можа будзеш калі панам
Ці вялікім капітанам:
Людцаў Божых будзеш біці;
Цяжка будзе ў сьвеце жыці,
Будуць клясьці, як ліхога,
Прасіць сьмертухны ад Бога.
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі...
Тагды матка прыдзе ў госьці,—
Сын выкіне стары косьці,
Жабруючы пойдзе ў вёску,
Будзе прасіць Матку Боску,
Каб забыцца ей аб сыне,
Каб ня ведаць, дзе ён згіне.
Люлі, сынок, люлі, люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі...
Ой ня будзь ты лепей панам,
Ні вялікім капітанам,
Будзь, чым матанька радзіла,
Каб у госьці не хадзіла,

Каб век з табой векавала,
Гаравала, працавала...
Люлі, сынок, люлі, люлі,

Усе курачкі паснулі,
Ой паснулі і курчаткі
Пад крыламі свае маткі...

## ХМАРКІ.

Хмаркі цёмныя, мае братанькі!
Вецер гоне вас без дарожанькі,
І нідзе-ж для вас няма хатанькі...
Адпачынеце аж у Божанькі!
Гдзе радзіліся, гдзе-ж вы, хмарачкі?
Гдзе „тутэйшымі“ называліся?
Ляціцё усё, так як ярачкі...
Хоць-бы трошкі гдзе затрымаліся!
Зямлі родненькай, знаць, няма у вас,
Ні уголачка, ні прытулачку:
А тут вецер дзьме горшы раз-у-раз,
Ляціцё-жа вы без ратуначку!
Лятучы, сьлязой зямлю росіце,
Аж шумяць лісткі, зелянее лес;
Уміраючы, жыцьце носіце,
Усяму жыцьцё, сабе толькі крэс! [1]

## МАЯ ХАТКА.

Бедна-ж мая хатка, расьселася з краю,
Між пяскоў, каменьняў, ля самага гаю,
Ля самага бору, на беражку лесу:
Ніхто тут ня трапе, хоць-бы з інтарэсу;
Як няма гарэлкі, няма куска хлеба, —
Дык які-ж інтэрас, каму сюды трэба?
Ды хоць няма хлеба, жабраваць ня буду,
Пражыву як-кольвек ад працы, ад труду.

Кепска-ж мая хатка, падваліна згніла,
І дымна і зімна, а мне яна міла;
Ня буду мяняцца хоць-бы і на замкі, —
Калок свой мілейшы, як чужыя клямкі.
На страсе мох вырас, на імху бярозка, —
Мільшая мне хатка, як чужая вёска...

Сваталі-ж мне ў прыймы у новую хату,
На зямлю раджайну і дзеўку багату;
Буду жыць, казалі, як які пасэсар,
Езьдзіць парай коні, як сам пан асэсар;

[1]) Канец, пакон.

Ды мне даражэйшы вугал гэты гнілы,
Камень пры дарозе, пясок ля магілы,
Як чужое поле, як дом мураваны! —
Не аддам за сурдут каптан свой падраны.

Клікалі-ж у госьці і клічуць суседзі; —
Не пайду, ня трэба,—бо, кажуць, заедзі
Ад чужога хлеба драсны абсядаюць,
Што чужога прагнуць, то сваё кідаюць.
Я ня кіну хаты, хоць вы мяне рэжце,
Не пайду да вас я, хіба у арэшце.
А хоць сілай навет адарвалі-б з дому,
Калісьці вярнуўся-б, як мядзьведзь да лому.
Заваліцца й хата, зарастуць пакосы,
Усё-б я вярнуўся, хоць голы ды босы!
Насек-бы бярвеньняў, нацягаў-бы моху,
Зноў-бы склеціў хату як-кольвек патроху,
Зрабіў-бы камору, выкаваў-бы жорны, —
Усё-ж свой хлеб еў-бы, хоць-бы сабе чорны!
Ну дык-жа адстаньце, на што я вам трэба:
Ці каб ваш хлеб есьці, ці рабіць вам хлеба?

## АХВЯРА.

Маліся-ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі ня быў:
Не жадаў-бы чужога,
Сваё дзела як трэба рабіў.
Каб прад меншым я носу ня драў,
А прад большым ня корчыў сьпіны,
Каб грэх свой прад сабой я пазнаў,
У другіх каб ня відзеў віны;
Чужых жон, каб ня вёў да граху,
А сваю, каб як трэба любіў,
Каб мне дзеці былі у слуху,
Каб я бацькам для іх век дажыў.
Каб людзей прызнаваў за братоў,
А багацтва сваё меў за іх,
Каб за край быў умерці гатоў,
Каб ня прагнуў айчызны чужых.
Каб я Бога свайго не акпіў,
Каб ня здрадзіў за грошы свой люд,
Каб свайго я дабра не прапіў,
І нізашта ня меў чужы труд.
Каб падвойчы мне грошы ня браць
За праданы кусочак ральлі,
Каб сваю мне зямельку араць
І умерці на ей хоць калі.
Дык прасі-ж ты у Бога, малі,
Каб я панам ніколі ня быў!

## МАЯ ДУДКА.

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!
Ой! то будзе граньне,
Як на павітаньне
І як на вясельле,—
Нядоўга тыкеле[1]).
Скора скончу песьні...
Покі дудка трэсьне,
Ці паглохнуць людзі,
Ці высахнуць грудзі,
Сілы надарвуцца
На радаснай дудцы
І выцякуць сьлёзы
На сухія лозы...
Выйдзе душа парай,
Падымецца хмарай,
Туманом па рэчцы,
Расой разьліецца,
Каласочкі зросе,
Каб жыта ўдалося,
А хлеб зьядуць людзі,
І зноў сьляза будзе.
Ну дык грай-жа, дудка!
Каб-жа была чутка,
Каб аж вушы драла;
Каб ты так іграла,
Каб зямля скакала!
Зайграй так вясёла,
Каб усе у кола,
Узяўшыся ў бокі,
Ды пайшлі у скокі,
Як віхор у полю —
Аж выючы з болю,
Каб аж рагаталі,
А усё скакалі...
Каб скакалі горы,
Як хваля на моры,
Як паны на балі,
Каб вот як скакалі!
Каб аж пыл курыўся,
Каб сьвет заваліўся,
Ды усё круціўся,—
Як ў нашага брата
У п'янага хата...
   Га! чаму-ж ня іграеш?
Хіба ты ня знаеш,
Ня ведаеш хіба,
Што, як тая рыба,
Так вот я, здаецца,
Сорак гадоў б'юся,—
Ніяк не зьвярнуся,
Ніяк не натраплю
Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што, як хто нап'ецца,
Дык вольным стаецца.
Грай, вясёла-ж грай
Або долю дай!..
. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . .
Енчыш бязумоўку!
Не, ня будзе толку!
Кіну-ж дудку тую,
А зраблю другую.
   Цяпер зраблю дудку
Ад жалю, ад смутку,
Га, зраблю-ж другую,
Жалейку смутную, —
Ды каб так зайграла,
Каб зямля стагнала,
Вот каб як іграла:
Каб слязьмі прабрала,
Каб аж было жутка,
Вось то мая дудка!..
Вось зрабіў такую!
Дай-жа папрабую...
   Ну дык грай-жа, грай-жа,
Усё спамінай-жа...
Што дзень і што ночы
Плач, як мае вочы,
Над народу доляй.

[1]) Толькі.

І плач што раз болей.
Плач так да астатка,
Галасі, як матка,
Хаваючы дзеці,
Дзень, другі і трэці.
Іграй сьлёзным тонам
Над народу сконам!
Каб ты так іграла,
Каб немарасьць брала.

Як сьлязы ня стане,
Заціхне іграньне.
Кінь наўкола вокам,
Дык крывавым сокам,
Не сьлязой заплачаш,
Як усё абачыш.
Як крыві ня стане,—
Тагды кончу граньне!

## НЯ ЧУРАЙСЯ.

Ня чурайся мяне, панічок,
Што далонь пакрываюць мазолі;
Мазоль — працавітых значок,
Не заразіць цябе ён ніколі.
То мэдаль за труды і за мукі.
Не хвароба якая з заразы.
Ня стыдайся падаць ты мне руку,
Бо на гэтай руцэ няма сказы! [1])
Эй, сьмялей адкрывай галаву.
Я паклон мой табе да зямлі;
Я тваей галавы не сарву
І маей вы-б, паны, не ўзялі.
Ня ўцякай ад маей ты сярмягі, —
Мне ня стыдна у ей а нічуць.
Вот твой храк я ня меў-бы адвагі,
Чортаў храк, на сябе апрануць.
На кашулю глядзіш крывым вокам,
Што у хаце мне бабы пашылі,
Прапацела яна маім сокам, —
Цэлы тыдзень яе не памылі...
А твая-ж? як той сьнег, як папер,
І пацеў—хто і ткаў і бяліў,
І хто шыў і хто праў... а цяпер
Ты той пот на сябе узваліў.
У кашулі тэй мне было-б стыдна,
Што ня сам на яе гараваў,
Хоць бялейша яна — не завідна —
Не вазьму, каб ты мне дараваў.
А кінь вокам на хату маю:
І цячэ, і гніе, і крывая,
У сярэдзіне гной, і стаіць на гнаю,
І дзіўлюся я сам — як трывае?

---

[1]) Заганы, чаго-небудзь нядобрага.

Ня дзівіся, панок, як жыву, —
Мне ніхто не памог будаваць.
Хоць лянівым у сьвеце слыву,
А магу сьвет карміць-гадаваць.
Ты-ж пазнаў, што у кніжках стаіць;
А там розуму шмат ад вякоў
І ўсё можаш па кніжках рабіць;
А гдзе-ж кніжка для нас, мужыкоў?
Гдзе-ж нам розуму столькі набраць? —
Знаем толькі загон ды саху,
І жывём, каб касіць ды араць,
Ды жывём мы у божым страху.
Каб умеў кіраваць я пяром, —
Я-бы кніжку счыркаў, як папар,
І аб тым, як мы сеем, аром,
І як косім, і жнём божы дар.
Можа-б ты прачытаў той грызмол
І да працы набраў-бы ахвоты,
Шанаваў-бы мужыцкі мазоль,
Ня чураўся-б мужыцкай бядоты,
І падаў-бы руку мне, сьляпому,
І давёў-бы мяне да дарогі:
Ня блудзіў-бы і я сярод лому
І калючак, што раняць мне ногі!

## КЕПСКА БУДЗЕ.

Як я толькі нарадзіўся —
Бацька сказаў: „Кепска будзе!“
Ну дык-жаж не памыліўся:
Зьдзекавалісь Бог і людзі.
А чым кепска? — бо у марцы
Я радзіўся — (пост праўдзівы,
Цяжкі месяц ў гаспадарцы.
Як пражыў хто — будзе жывы).
Пераеўся хлеб да крыхткі,
Бульбы толькі як пасеяць,
І прыварку а ні лыжкі,
І скаціна, — хоць разьвеяць;
Ні саломкі, ня то сена!
Хоць-бы на раз для скаціны;
А тут дроў а ні палена,
А тут яшчэ нарадзіны!
Трэба-ж бабе бохан хлеба
І гарэлкі-ж трэба пляшку,
Яшчэ-ж хрысьціць хлопца трэба...
Вот і думай, як сярмяжку
Нясьці жыду пад заставу,
Ці прадаць каня, кароўку.
— „Сеў, казаў ён, я на лаву,
„Ўзяўся за галоўку,
„І заплакаў, аж заліўся,
„Так як бацьку пахаваўшы...
„Кепска зрабіў, што радзіўся,
„Кепска будзе, сьвет пазнаўшы!“
Ці-то слова йшло урокам,
Што казаў у кепскім часе,
Ці хто кінуў такім вокам?..
Ну і доля-ж удалася!
І збылося-ж бацькі слова!
Вот у тыдзень вязуць, гэта,
Хрысьціць мяне да Макрова
Кумоў двое і кабета.
У Аборках мост сарвала...
А я-ж быў — чуць жывы, слабы;

Рада ў раду, на тым стала,
Што ахрысьцяць з вады бабы.
З Бярэзіны жменю вады
Кума сама зачарпнула,
Паматала сюды — туды,
Трэйчы на мяне лінула.
—„Вось і хрэст увесь тут, кажа,
„І ксёндз хрысьціць гэтаксама,
„Толькі яшчэ чымсь памажа,
„А хлапцу ўсё роўна — яма!
„Хоць-бы жывым ды давезьці,
„Каб дарогай не сканала, —
„Скажуць, кепска вязла гдзесьці
„Або туга спавівала!..“
Гэтак мяне пахрысьціўшы,
Вязуць назад ўжо до маткі.
Вочы добра пазаліўшы,
Ледзьве унясьлі да хаткі.
Закусіўшы тут, як трэба,
Пакумаліся і квіта!
Баба ўзяла бохан хлеба,
Пляшку водкі, торбу жыта;
Разыйшліся і паснулі.
Матка-ж мяне калыхае:
„Люлі, шэпча, сынок, люлі“...
А як зваць? — сама ня знае.
Вот назаўтра спазараньня
Бяжыць матка да кумошкі
Ды пытае, як празваньне
Далі сыну? Лёну трошкі
Тут прынесла пры здарэньні,
Трошкі сала, круп са жменю...
А кума-ж была праворна:
Хоць што збрэша, не запнецца;
Круце сабе ў сенях жорны,
Трэба-ж салгаць! куды-ж дзецца?
—„Імя, кажа, твайму сыну
„Ксёндз хацеў даць па кантычцы,
„Думаў ён, можа, з гадзіну;
„Узяў кніжку, як стаў рыцца,
„Дык даў потым з календарка!“
Матка прутчэй з хаты ў сені,
Як-бы цівун гнаў па карку,
Усё шэпча то іменьне:
—„Аліндарка, Аліндарка!“
Прыляцеўшы так да дому,
За калыску узялася
І зрадзела, як сьвятому,
Што аж сьлёзмі залілася.
І калыша, і галосе;
Надта імя ўпадабала;
Надта добрае здалося,
Што такога і ня знала!
Вось і клікаць мяне сталі
Скаліндаркам, Аліндаркам...
Ну, як зналі, так і звалі.
Але вось што з гаспадаркай?
— Найперш конь здох, таго-ж лета
І цялушка, як лань пала...
Матка-ж, ведама, кабета,
Затужыла і запала,
Гадкоў со тры пацягнула,
У марцы й ручанькі згарнула,
(А ўсё ў марцы, трэба-ж гэта!
А разумная была кабета!).
З таго гора бацька бедны
Стаў маркотны, як магіла.
Было сядзе такі бледны:
„Што-ж ты гэта нарабіла?“—
Гэтак скажа і заплача.
(Хто-ж пачуе, хто убача?).
Потым дай памалу сватаць;
Трэба-ж, ведама, жаніцца,
Каб было каму палатаць,
Каб было у што зьмяніцца,
А так усё памарнела:
Куры, гусі, навет сьвіньні.
І сьвіньня дзяцей паела,
І карова марне гіне...
У восень давай шукаць пары:
Ды ніводная ня хоча,
Аднэй бедны, другой стары,
Трецьця, чорт зна, што тароча:
—„Аддай, кажа, Аліндарку
„Куды-кольвек, хоць на людзі,
„Сядзь на нашу гаспадарку!
„Тагды выйду, добра будзе!“
Бацька кідаўсь са тры тыдні,
Яшчэ горай зажурыўся,
Прадаў сякі-такі злыдні,
Разлайдачыўся, расьпіўся
І умёр так пад гародам,
Ушчаміўшы ў плот галоўку.
Шапку знайшлі аж за бродам

І у шапцы залатоўку.
А назаўтра прывёў соцкі
Асэсара, паноў трое.
Труп той зрэзалі на клёцкі...
(А у марцы-ж было й тое!).
Мяне цётка, у апеку
Узяўшы, трошкі падрасьціла
Ды якомусь чалавеку,
Як за сына, адпусьціла.
Незадоўга зьмёрла цётка:
Я стаў круглая сіротка.
Ці гдзе днюю, ці начую,
А ўсё бяду сваю чую!
Пастухі зьбяруцца ў гаю,
Пяюць песьні ля бярозы,
А мне чагось, сам ня знаю,
Смутна, цяжка, цякуць сьлёзы.
Рос я гэтак за вачыма,
Ужо трэйчы спавядаўся,
Калі зімой да вайчыма
Ды ураднік заблукаўся.
Я сяджу сабе на печы,
Пляту лапці, ўю аборы,
Ён паказуе праз плечы:
—„Што та?сын твой,кажа,хворы?“
—„То ня сын!—айчым мой кажа:
„Узяў сіротку. Дзякуй Богу,
„Добры ўдаўся: позна ляжа,
„Рана ўстане і адлогу
„Не запусьце... спагадлівы!
„Маю сына, хоць ня родны.
„Ажаню, як буду жывы.
„Будзе Богу й людзям годны!“
—„А лет сколькі? — той пытае.
—„Двадцаць, кажа, мусіць мае!“
—„А звацца як?“—„Ды Каліндарка!“
Раднік піша усё шпарка:
Як радзіўся, гдзе хрысьціўся...
Пісаў, пісаў ды й паехаў!
Бацькі яго угасьцілі,
Далі торбачку гарэхаў...
Пасьля таго, так ня далей,
Як у тыдзень, і асэсар
Шусьць у хату (і з мэдаляй).
—„А гдзе, кажа, той пасэсар,
„Твой Ліндарка, ці як звецца,
„Што хаваецца з някрутства,[1]
„Пляцець лапцікі на печцы?..
„Ашуканства, баламутства!“...

. . . . . . . . . . . . . .

А я-ж ехаць меў па дровы.
Бацька клікнуў, іду ў хату...
А асэсар той — здаровы!..
Лясь! мне ў морду, потым тату.
Я-ж узяў яго за грудзі
І піхнуў ілбом у дзьверы.
Ён як раўкне: „Гэй, вы, людзі,
„Тут разбой. Прыміце меры!..
„Тут рыштант, брадзяга скрыты!..
„Вось і лоб каліcь быў брыты!..
„Вяжы усіх, нараджайся.“...
Мяне лясь!—„Ты хто? сазнайся!“
—„Скаліндар, кажу, сірота...“
Пацягнулі па дарозе,
Завязалі і вароты,
Мы-ж спынуліся ў вастрозе...

. . . . . . . . . . . . . .

Астрог, браццы, паглядзеўшы
Мімаходам, выглядае
І нічога: шак [2]) ня еўшы
І ў астрозе ня бывае.
Але лепшы ў хаце голад,
У дарозе велькі холад,
Найцяжэйша праца ў полі,
Як у тэй астрожнай долі!
Відзеў птушку я у клетцы,
Як галоўкай поты-б'ецца,
Аж скрыдэлкам затрапоча
І сканае... жыць ня хоча!..
Раз лісіцу, адкапаўшы,
Прывязалі мы да кола:
Стала-ж грызьці што папаўшы,
Сабе бруха распарола,
Растрыбушылась на часьці,
Каб ня жыць так, хоць прапасьці!..
Нашто — гадзіну, мядзянку,
Пусьці ў шклянае начыньне, —
Сама сябе беспрастанку
Будзе жаліць, пакуль згіне!..
Як ужо-ж скаціна тая
Або гадзіна праклята,
І та цану волі знае,

[1]) Ад рэкруцкай павіннасьці. [2]) Усё-ж.

Што-ж для нашага-то брата,
Меўшы розум нескацінны,
Як знаць волю мы павінны?..
А ў вастрозе-ж няма волі,
Ні ў чым няма і ніколі!
У зялезе тыя дзьверы,
Пры дзьвярох стаяць жаўнеры,
А народ усё сярдзіты,
Так як-бы яшчэ ня сыты
Людзкіх сьлёзаў, мукі, енку,—
Не гавораць памаленьку,
А ўсё зыкам, а ўсё з лайкай,
А ўсё з боем, ўсё з нагайкай!
. . . . . . . . . . . . . .
У дзядзінец нас як пхнулі,
Дзьвярмі тымі як грукнулі,
Дык і сьвет мне тым закрыўся,
Як-бы у труну забіўся...
Зараз старшы ўзяў за плечы,
Хляснуў тройчы, так!. бяз рэчы,
Ключы кінуў: „У халодну!“ —
І аблаяў матку родну.
Нас піхнулі, як у яму,
Ў цёмну хату чварагранну,
Далі хлеба, вады меру
І запёрлі — як за веру
У цямніцах калісь гэта
Замыкаліся ад сьвета.
Цёмна, зімна!.. прытуліцца
Няма куды! А каганец,
Як-бы губка, толькі тліцца...
Засьпявалі мы ражанец:
Пяём, плачам, аж галосім,
Божай ласкі, Праўды просім!
Ў такім енку са сьлязамі
І паснулі мы ў тэй яме!
Абудзіўся я з зьдзіўленьня:
Глядзяць ў шчэлачку праменьня!
Я падумаў: ласка-ж Божа
І сюды пралезьці можа?
Аглядаюся вакола,
Як-бы шукаў і тут Бога.
Мне зрабілася вясёла,
Не баюся я нікога,
Зноў ражанец: „Бог уцечка!“ —
Бляю сабе, як авечка, —
Калі бразьць ключом у дзьверы,
І крычыць хтось: „Гэй! вы, зьверы,
Вы, бунтоўнікі, паскуды,
Выбірайцеся адсюды!
Тут важнейшым трэба сесьці,
Вас у вобшчу здадзём гдзесьці!“
Павялі нас аж на гору...
Па якомусь калідору...
Дзьверы! дзьверы! ў дзьверах
І у кожнай-жа хвігурка [дзюрка,
Як-бы тая-ж выглядае!
Гдзе ні глянеш, усё-ж тая:
Блішчаць вочы, твар, як гліна,
І абросшы, як скаціна!..
У турме, як у тым гробе,
Ішлі, ішлі гэтак з гоні.
А смурод такі, што з воні
Мне аж дух у грудзях сьпёрла,
Як-бы цісне хто за горла.
Тут нам хату паказалі,
Упусьцілі, разьвязалі,
Вады далі, трохі хлеба
І запёрлі зноў, як трэба.
Тут народу шмат сядзела,
Глянуў я—душа самлела!
Як падушкі у іх твары!
Ў хаце пуста, толькі нары.
Ляжаць усе, з нас рагочуць,
Навет месца даць ня хочуць.
„Давай, кажа, хоць на пляшку!—
А ня даўшы, дык парашку
Цёнгле [1]) ты выносіць мусіш,
А ўжо хлеба—дык ня ўкусіш!
Мы табе наб'ём аскому,
Пакуль вернешся да дому!“
Я спалохаўся, баюся,
„Войча наш“ кажу, малюся...
Бог даў спомніць: залатоўка
Гдзесь была ў кашулі ўшыта,
Што дала калісь жыдоўка,
Як падвёз у млын ёй жыта;
Прэндка [2]) сарваў тую лату,
Кінуў злоты той на хату...
І ня ўгледзіў, як хапілі,
Толькі відзеў, водку пілі.
Тагды сталі нас пытацца,

---

[1]) Заўсёды [2]) Шыбка.

Ці застаўся хто у хатцы?
Адкуль? за што пасадзілі?
Іншы вуча, на пытаньне
Даць якое паказаньне:
„Кажы, кажуць, знаць ня знаю,
„Чый я ёсьць, з якога краю.
„Малым быўшы, сьляпых водзіў;
„А падросшы і сам бродзіў;
„Ня прыпісаны да сказкі,
„І так жыву з Божай ласкі.
„Бог мой бацька, зямля матка:
„Знаць ня знаю!—уся гадка!“
Так да марца сядзім ціха,
Ня чуваць дабра, ні ліха.
А у марцы шлюць бумагу,
Каб даставілі брадзягу,
Супрацiўніка уласьці,
Улажэньня першай часьці,
Што мянуецца „Ліндорам“
Ды йшчэ б'ецца з асэсорам.
Ды каб быў ў ланцуг закуты,
На нагах каб былі путы,
Правважацелі каб срогі,
Каб ня сходзілі з дарогі,
А каб проста да начала...
І ці мала там пісала?!

. . . . . . . . . . . . . .

Вот назаўтра рана, рана
Нам адзежка наша дана;
Паскідалі мы сярмягі,
Салдат узяў дзьве бумагі,
Нас зьвязалі і — ў дарогу!..
Я падумаў: „Дзякуй Богу!
Хоць нас сонечка сагрэе!
Вецерчык на нас павее!
Можа, дождмык срыбрны змоча!
Можа птушка засьвяргоча!
Аж заплакаў я зрадеўшы!
От, здаецца-б, і ня еўшы
Быў-бы сыты на свабодзе,
Як той кролік у гародзе!
Тут, здаецца, і сканаў-бы,
За свабоду жыцьце-б даў-бы!

. . . . . . . . . . . . . .

Жаўручочкі Бога хваляць,
А пастушкі агонь паляць,
А і сонечка прыгрэла,
Аж мне ў душы паясьнела.
Да палудня ішлі гэтак;
Пры дарозе шмат і кветак;
То пралескі, то сасонкі
Выгравае Божа сонка!
Так пад вечар ў месцы сталі,
У халоднай начавалі, —
Было розна. Заўтра зраньня,
Якраз у дзень Зьвяставаньня,
Клічуць мяне да дапросу,
(Задаваць-то ужо часу!).
Той судзебнік маладзенькі,
Такі быстры, хоць маленькі:
Ўсё пытаецца ды піша,
І нагой усё калыша.
Як спытаўся мяне, хто я?
Я і спомніў сабе тое,
Як вучыў там той з астрогу:
„Знаць ня знаю я нічога!“
І старога тут клікнулі,
Папыталіся, раскулі
І да дому павярнулі.
А мне кажа: „Ты, брадзяжка,
„Сакрыў званьне, будзе цяжка:
„Сорак розаг, потым роты!
„Скажы лепей—адкуль, хто ты?“
А ўсё піша, піша, піша
І нагой усё калыша.
Пісаў, пісаў, даў другому
І сам пайшоў кудысь з дому.
Мяне зноў-жа да астрогу.
Толькі цяпер, дзякуй Богу!
Адзінокі я застаўся.
Айчым плакаў, як жагнаўся:
—„Помні, кажа, мяне, сыну,
„А я, хіба што сам згіну,
„А цябе вярну да вёскі,
„Хіба-б ужо гнеў быў Боскі
„Або-б Праўда гдзесьці зьмёрла!—
„Выйму цябе ім із горла!
„Бог паможа проці сілы,
„Праўда выйдзе як з магілы!“
Сказаў гэта, пакланіўся
Ды ізноў сьлязьмі заліўся.
І мне стала ў вочах цьмяна,
Зашчымела ў сэрцы рана,
Як-бы штосьці адарвала,

Сам ня знаю, што мне стала...
Калі гляну, ачунеўшы, —
Я ў шпіталі, захварэўшы...
Галава мая абрыта,
Твар вадой ці чым абліта,
А піць хочацца... здаецца,
Рэчку-б выпіў, каб пры рэчцы!
Так я праляжаў тры тыдні,
Прадаў усе свае злыдні,
Надта есьці стаў памногу
І паправіўсь, дзякуй Богу!...
Я-ж тут ляжу і ні рэчы,
Што там стары гаспадара,
А ён торбу ўзяў на плечы,
Па начальству просьбы жара!
Трэйчы Вільню, сем раз Ліду
Ён адведаў. Трэба-ж ведаць, —
Прысягнуў, пакуль ня выйду,
Навет дома не абедаць!
Раздабыў усе паперы,
Запісаў мяне у сказку...
Што і бацька-б, можа, шчэры
Не зрабіў такую ласку.
Так у восень, ў замарозкі,
Прывялі мяне да вёскі,
Пазьбіралі шмат суседаў!...
Кожны гаварыў, што ведаў:
Як я тут, калі радзіўся,
Як і бацька мой жаніўся...
Паказалі усё-чыста,
І што імя мне „Каліста“,
Што завуць мяне „Ліндарка“
Так, на сьмех, што чыста гол,
Як ліндар, што на хальварку:
Ўвесь маёнтак: — ён ды вол.
Асэсар быў ужо новы,
Чалавечак так, нічога,
Якісь ціхі, нездаровы
І цярплівы... хваліць Бога!
Пасьля таго праз паўгоду,
Ў марцы-ж, мяне на свабоду,
Дзякуй Богу! адпусьцілі
У той дзень, як і хрысьцілі.

## БЫЎ У ЧЫСЦЫ.[1]

Раз у дзень задушны, якраз а паўночы,
Іду я да дому... а цёмна і ўюга!..
Не! каб заліўшы саўсім ужо вочы,
Але так, у меру падвыпіўшы туга.
Іду і мяркую, ці-то цяпер шчасьце,
Як паноў ня стала, ці то была доля?
І лічу на пальцах: паншчыны дванасьце,
А гадоў да трыццаць, як настала воля...
Там быў аконам, камісар і цівун,
Намесьнік, лясьнічы, хмістрыня, паны.
І кожны меў права узяць за бізун,
І кожны меў права да нашай сьпіны...
А цяпер?.. Ой штосьці кепска выходзе,
Цяпер ці ня болей настала паноў?!
Ня надта свабодна у гэтай свабодзе,
І давай я лічыць паноў новых йзноў:
Стараста, соцкі, пісар, старшына,
Пасрэднік, ураднік, асэсар і суд,
Зьезд міравы, прысуцтвы і сход...

[1] Па каталіцкай веры ёсьць рай, пекла і для меншых грэшнікаў—чысьцец; пасьля пякельных цярпеньняў у чысцы можна перайці ў рай.

Аж паднялася са страху чупрына,
Аж пальцаў ня стала на ўвесь гэты шчот,
А пальцамі-ж трэба карміць гэты люд!..
Іду... калі шусьць, як маланкай спаліць,
Стаіць, так якраз, што умёр, аканом.
Прыгледжуся: — ён — тыкі ён — і стаіць,
І стрыжаны-ж вус, і стаіць з бізуном...
Схудаўшыся толькі: скура ды косьць.
А белы ўвесь-чыста, белы, як сьнег,
Толькі на сэрцы плямачкі ёсьць.
І плямкі на пальцах — мусіць, то грэх?!..
„Браціку, кажа, браце Мацей!
„Ратуй маю грэшную душу
„З чысца, з рук подлых чарцей,
„Або на векі загінуць я мушу!
„Дваццаць пяць лет, што у чысцы я пёкся,
„Усе грахі выбыў, усіх-жа адрокся,
„Толькі на сэрцы вот грэх, як смала,
„Прыліп да мяне і ня змыты.
„То за жонку тваю: саграшыў, як жыла,
„За цябе, што нявінна быў біты.
„Ох, ідзі ты са мной, зачарпнуўшы вады,
„Аж да чысцу таго, аж на дне...
„І палій ты вадой мне на сэрца, Мацей,
„Буду Бога маліць за цябе, за дзяцей!“
Я заплакаў з жалю, але думаю: досьць
Нацярпеўся і ён, бо лазіць што жывы,
Гэтак ссох ад агню — толькі скура ды косьць.
Пайду ў чысьцец я той, пагляджу на дзівы!
І дзівы-ж, браце мой, у тым чысцы, але!
Чэрці кормяць смалой і гатуюць ў смале,
І цягаюць, і рвуць, запрагаюць у воз,
Кручком цягнуць кішкі і зубамі за нос;
Вочы колюць ражном, пазурамі рвуць твар,
Скрабуць скуру нажом, як на боты тавар.
І каго-ж тут няма? — тут і пан, і жабрак,
Гэнарал і салдат, аканом і мужык.
А што баб і дзявок — сказаць так, —
Ўтрое больш, як мужчын, ёсьць на лік.
Хто за што, а як баб, дык найбольш за язык.
Языкі-ж даўжыні — так як добры ручнік.
Іх і паляць смалой, і нажамі скрабуць,
І ніяк да-бяла прапаліць не магуць.
Надта шмат маладых, што дурылі мужоў;
Чараўніц, а і зводняў старых...
Тут я шмат і знаёмых знайшоў.
Але так не чапаў ужо іх.

З мужыкоў тут ня надта, каб шмат,
А ўсё больш дык багатых паноў,
На зямлі адцярпеўшы, наш брат
На той сьвет, як па масле, пайшоў!
А паном дык і трудна цярпець
Бяз прывычкі, дык стогнуць, аж страх!
Глянеш, пан, як, здаецца, мядзьведзь,
А чорт дышлам запрог і трах-тарарах,
Бічам б'е, ражном пора у тыл,
Морду круце на бок і за кудлы трасе;
Стук і крык, аж віхор круце пыл,
Так пан чортавы воз той нясе.
Там паны і мурують, гаруць,
Вымятаюць, і сьвіньні пасуць,
А смалу, дык як мёд, там жаруць,
А каменьне, як горы, нясуць,
Усё ў пекле каб дно як зрабіць;
А ўсё толку нямаш іх работы нігдзе;
Тут яны робяць ўсё, абы збыць,
І там ім гэтак работа ідзе.
Я-ж то думаў, ксяндзоў тут няма,
Калі зірк! аж і ксёндз тут сядзіць:
Чорт яго аблажыў грашыма,
Запаліў у грашох тых, і ксёндз так гарыць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Станавы, старшына й тыя тут.
Тым дык чорт усё грошы зьбярэ,
Скруце цьвёрды круцель, або жмут
Ды у горла запрэ і даўбешкай пярэ,
Каласірам, ці чым там паліў
І жмут той у горле агнём запаліў...
Але-ж і ёсьць там народу, аж цьма!
І роду ўсякага, і стану, і веку,
Хто ня жыў на зямлі, таго тут няма;
Няхай Бог сьцеражэ там быць чалавеку!
Ледзь я прайшоў аж у тую кануру,
Гдзе аконам Бізунскі цярпіць.
Чорт і яго запрагае у фуру.
Спацеўшы бедны, а енча: „Дай піць!“
Я брызнуў крапідлам на твар,
Ён аж зрадзеў, як дзіця,
Як хапіўся рукой за той каламар,
Што узяў я з вадой яму для піцьця,
Дык высахла зараз вада аж да дна;
Ён стаў такі сьветлы, як гэты дымок,
Стаў нікнуць, засталася пара адна,
І зьнік так, як нікне на сонцы аблок...

Ня помню, як выйшаў я з чысцу таго,
Прашнуўся у хаце, на печы, аж днём.
Усе кругом плачуць, ня ведаць чаго,
А паліць мяне ды так, як агнём!
Трашчыць галава, баляць усе косьці,
І надта вады зажадалася піць.
Напіўся і зноў упаў я у млосьці!..
От давялося-ж у чысцы мне быць.

## ДУРНЫ МУЖЫК, ЯК ВАРОНА.

Ўвесь сьвет кажа, б'ець у звоны:
„Дурны мужык, як варона“.
Гэта-тыкі справядліва:
Ён дурнейшы ад вароны,
І ня дзіва — было-б дзіва,
Каб мужык ды быў вучоны.

Дык крычыце-ж, бійце ў звоны:
Дурны мужык, як варона!

Да навукі ён ня браўся,
Закасіўся, загараўся;
Дурнем умрэ, як радзіўся,
Сам сабой дурным зрабіўся,
Ведама, мужык — хамула, —
Ад навукі адвярнула!

Дык крычыце-ж, бійце ў звоны:
Дурны мужык, як варона!

Ці-ж ня дурань мужык гэта:
Гарэ, сее усё лета,
А як прыйдуцца дажынкі,
Няма збожжа ні асьмінкі,
А даждаўшы на Каляды,
Мужыкі мякінцы рады.

Дык крычыце-ж, бійце ў звоны:
Дурны мужык, як варона!

Усю зіму возам цягне
Да вагзалу рожна збожжа.
Ногі зьмерзнуць, сам засьмягне,
А на хлеб кажух залoжа,
Каб дажыць як да крапівы,
Абы ў поле выйшаў жывы.

Дык крычыце-ж, бійце ў звоны:
Дурны мужык, як варона!

Ад Пятра і да Якуба
Ён касой махаў ад раньня.
Наклаў стагоў, людзям — люба,
У хаце-ж сена — а ні званьня.
Равець з голаду скаціна,
Хоць, кінь, бяжы за вачыма!

Дык крычыце-ж, бійце ў звоны:
Дурны мужык, як варона!

Глядзі, касьцёл аж да неба,
Воласьць бляхамі пакрыта!
Срэбрам скрые, калі трэба,
Бо за гэта яго біта,
А сам жывець ў мокрай яме,
Дзьверы заткнуў анучамі!

Дык крычыце-ж, бійце ў звоны:
Дурны мужык, як варона!

З камаровы нос сякерку
Сьцісьне, кракне, замахае, —
Зробіць пушчу, як талерку,
Сьвет дравамі закідае!
А у хаце зварыць страву—
Пашчапае стару лаву!

Дык крычыце-ж, бійце ў звоны:
Дурны мужык, як варона!

Глядзі, горы паразрыты,
А чыгункай сьвет абвіты:
Усё з мужыцкай цяжкай працы,
Усе едуць у палацы;
У мужыка-ж няма білета!
Ці-ж ня дурань мужык гэта?

Дык крычыце-ж, бійце ў звоны:
Дурны мужык, як варона!

## БОГ НЯРОЎНА ДЗЕЛІЦЬ.

Бог сіроты любіць, але долі не дае (прыказка).

Чым-то дзеецца на сьвеце,
Што няроўна дзеліць Бог?
Адзін ходзіць у саеце,
У золаце з плеч да ног,
А другому, каб прыкрыцца
Хоць анучай, — велькі труд;
Увесь, як рэшата, сьвіціцца,
Адны латы, адзін бруд!

Адзін мае хатаў многа,
А вялікіх, — касьцёл моў;
Увясьці-б туды хоць Бога,
І той-бы з іх не пайшоў.

У другога ў сьцяне дзюры,
Вецер ходзе, дым і сьнег;
Тут карова, сьвіньні, куры...
Тут пакута, тут і грэх!
Гэты едзе у вагоне, —
Цёпла, мякка, толькі жыць!
А ляціць, як віхар гоне,
А ён сабе толькі сьпіць!
Той ў мяцеліцу, ў марозе,
Што аж вон яму прэ дух,
Паўзе з клункам па дарозе,
У сьнягу увесь па брух!
Гэты хлеба і ня знае,
Толькі мяса ды пірог,
І сабакам выкідае
Усё тое, што ня змог,
А той хлеб жуе з мякінкай,
Хлёпча квас ды лебяду,
Разам жывець і есьць з свінкай,
З канём разам п'ець ваду!
Аднаму дзесяткі-служкі
Зарабляюць сотні сот;
Рукі ў яго, як падушкі,
Як кісель, дрыжыць жывот!
Другі-ж сам аж на дзесятак
Працуючы, лье свой пот,
А высахшы, як аплатак,
Цянюсенькі, як той кнот.

## ДУМКА.

Чагось мне маркотна, на плач забірае;
Мусіць, душа чуе якоесьці гора,
Ці штосьці зрабілась... што? А хто яго знае:
Ці град жыта выб'е, ці згіне абора,
Ці ўраднік згнявіцца, пагоне падводу,
Ці знойдуць у лесе крадзену калоду?
Ці можа ўмрэ сын той, што маскалём служыць,
Ці той, што ў 'Мэрыку падаўся ды тужыць?..
Так цяжка, здаецца, граху-б не баяўся,
Ці ў пятлю палез-бы, ці ў ваду схаваўся!
Летась мне было так — і валы прапалі,
Сьвіньні бульбу зьелі, гарод пакапалі,
Нябошчыца матка чыста-захварэла,
І дзядзькава хата з комінам згарэла;
Сукна не звалілі — хадзіў без сярмягі,
А тут і бяз хлеба... прападаў ад смагі!
Хоць-бы скарэй стала, што ўжо стацца мусі,
Каб так не цягнула за сэрца, як ліна;
Бедаваць ня перша, я і не баюся;
Няхай усё згіне, дык душа-ж ня гліна!
Тагды-б ужо ведаў, як і ратавацца,
Ці там ад няшчасьця, ці з людзкой напасьці,
Ці сядзець у хаце, ці куды падацца,
Ці, зложыўшы рукі, на векі прапасьці!...

Ды што-ж мне да тога, чаго мне журыцца?
У мяне ня будзе, — знайдуць людзі хлеба:
На бяду мне плюнуць, Богу памаліцца,
Да слушнага часу дажыву, як трэба!

Вунь стаіць бярозка, тут ля самай хаткі,
Косы папусьціла... плача, кажуць людзі,
А мне так здаецца, што ёй а ні гадкі:
Што было — ня помніць, ня ўзнае, што будзе.
А можа-ж і помніць, як то я калісьці,
Быўшы малым хлопцам, лазіў, калыхаўся;
Яна была гібка, болей было лісьця...
І я ўжо ня мог-бы, як тады сьпінаўся.
Чаго-ж мне маркотна? ты скажы, бярозка?
Маўчыш, як нямая, і сама смутная!..
Мусіць-такі праўда — гэта яе сьлёзка,
Што кажуць другія — капля расяная.
Мне жаль і бярозкі, чаго-ж яна плача,
Калі ужо долі не пераінача?
Ня тужы, бярозка, сьвет з намі ня згіне,
Вецер, як павее, шышачкі раскіне,
Хоць-бы ты засохла, — вырасьце вас болей...
Перастанем плакаць мы над сваёй доляй!
Якась яно будзе, дажывём да дошкі,
Хоць лепей, хоць горай, абы ня так трошкі!
Шышачкі раскіне, як пораскідала
Маіх шэсьць сыночкаў — здаецца, ці мала?
Усе разыйшліся! — Адзін у наборы,
Адзін пайшоў ўпрочкі за Чорныя моры,
Адзін за Дунаем саўсім асяліўся,
Адзін у Сыбіры — з старшынёй пабіўся,
Пяты па пісарстве гдзесь у Патарбурку.
Кінулі у хаце вот крывога Юрку!..
Ну, ды рана-позна, тыкі мне здаецца,
Кожны занудзіцца, да дому прыб'ецца...

## ПРАЎДА.

Ой цяжка, цяжка!
Не сярмяжка цяжка,
Але з гэтай доляй...
А ўсё што раз болей.

Ох, цяжкая-ж доля! От так-бы, здаецца,
Скрозь зямлю прапаў-бы ці ў сьлёзы-б разьліўся!
Ці мне жыць на сьвеце, ці мне куды дзецца?
Ой Божа-ж мой, Божа, нашто-ж я радзіўся?
Ой нашто-ж мне дана тая мая мова,
Як я ня умею сказаць тое слова,
Каб яго, то слова, ды праўдай назвалі;
Каб і разыйшлося то слова па сьвеце,
Як праменьне сонца цёплага у леце,
Каб на тое слова ды людцы зрадзелі,
Так як тыя дзеткі на сьвятой нядзелі;

Каб жа тое слова ды людцоў зьяднала,
Каб на тое слова ворагаў ня стала,
Каб людцы прызналі братоў ды братамі —
Дзяліліся-б доляй і хлеба шматамі;
А без таго слова я—нямы калека!
Хоць-бы занямець мне і да канца века!
Ой нашто ж мне вочкі, ой нашто-ж мне ясны?!
Каб глядзеў, які я ад усіх няшчасны?
Каб душа балела, гледзячы на долю,
Каб сэрца шчымела і рвалася з болю?
Каб было чым плакаць і у дзень і ў ночы?!
Ой Божа ж мой, Божа, вазьмі-ж мае вочы!
Нашто-ж тыя вушы, як ня чуць нічога
Ні ад людцаў добрых ні з неба ад Бога?
Ой ці не на тое-ж, каб чуць людзку лайку
Ды тую плакучу дудку-самаграйку,
Нашую жалейку, што енча ня йграе, —
Хоць як выйгравай ты, а яна смутная?
Ой ці не на гэта-ж, каб чуць, як зьвякаюць
Ланцугі на людцах, што з хат уцякаюць?
Ня зьдзекуйся-ж, Божа, нада мной, над імі:
Парабі усіх нас, як камень, глухімі!
Вазьмі усе змыслы, покі прыйдзе Праўда,
Бо жыць без яе нам не вяліка наўда!
Прасіў Бога ласкі: „Адвярні ты, Божа,
Злую нашу долю на сухія пушчы,
Адвярні на камень ці на бездарожжа,
На вялікі ройсты, на пяскі сыпушчы,
Ды каб не зазнала ніводна стварэньне
Гэтай долі нашай да веку скачнэньня!“
Не пачуў Ён енку, ня увідзеў мукі,
Крыж уеўся ў плечы, ланцугі у рукі!
Прасіў я суседзяў са мной падзяліцца,
Памагчы крыж несьці, як „з Богам ня біцца“.
Асьмяялі людзі мяне, як дурнога,
Там, казалі, Праўда, тут тыкеле сіла!
Даўней, кажуць, Праўда па сьвеце хадзіла,
Жабруючы-ж зьмёрла, а людцы схавалі,
Каменем накрылі, зямлю пааралі,
Каб ні чуць, ні ведаць аб ёй а ні весьці,
Ды цяпер і кажуць: „Праўда ў небе гдзесьці!“
Ды пашлі-ж Ты, Божа, Праўду сваю тую
З неба на зямельку, сьлязьмі залітую!
Пасылаў Ты Сына, Яго не пазналі:
Мучылі за Праўду, сілай паканалі,
Пашлі-ж цяпер Духа, ды пашлі бяз цела,
Каб уся зямелька адну Праўду мела!



## Ян Няслухоўскі.

(1851—1897).

* * *

Ня я пяю — народ Божы
Даў мне ў песьні лад прыгожы,
Бо на сэрцы маю путы
І з народам імі скуты.
З ім я зьліўся з добрай волі,
Чы-то ў долі, чы ў нядолі;
Чы гдзе гора абзавецца,
Як асіна, грудзь трасецца.
Чы пра радасьць чую весьці,
Усё ў грудзь хаваю гдзесьці.
Мне гаворыць вёска, хата,
Мне гаворыць сэрца брата.
Рад зьбіраю, што пачую,
У грудзі сваёй нашу я, —
Аж як траўка на кургане,
Яно ўзыйдзе — песьняй стане.

## ШТО ПТУШКІ КАЗАЛІ.

Ноч ня спаўшы за гулянкай
На вясельлі, сваты —
Пілiп Окунь з Бычком Янкай
Валаклісь да хаты.
А было-ж гэта у маі,
На усходзе сонца:
Салавейка сьвістаў ў гаі
Голасна бяз конца.
І зязюлі абзывались,
І птушачкі малы,
Шчабечучы, залівались
Дзеля Божай хвалы.
Блішчыць ў яснай пазалоце
Зоранька чырвона,
Закрычалі на балоце
Драчы ды варона.
Буркнуў Пілiп, зубы сьцяўшы,
У гутарцы з Янам:
—„Ня прыкраўшы, ня прылгаўшы,
„Ніхто ня быў панам.
„Саўсім дурань салавейка,
„Брэша, сын сабачы!
„Дай!.. дай!.. песьня та—капейка!
„Лепшы говар драчы:
„—Дзяры!.. бяры!.. будзеш есьці
„І мёд піці збанам;
„У худобе і у чэсьці
„Хутка станеш панам!“
— „Гэта—праўда!.. Ось, аднача,
„Слухай наастатку,
„Што варона нам закрача
„На ўсё гэта, братку?..
„Во!.. чы чуеш?.. ўжо сказалі,
„Сеўшы у крыніцы:
„Кралі!.. кралі!.. кралі!.. кралі!..
„Ды й... на — шыбяніцы!“

## КАРШУН.

Быў ясны дзень, гарачы дзень,
І была ціха, хоць сей мак.
Скаціна зьбілася у цень,
За ёй пастух праміж сабак.

А лес лістком не калыхне,
У гушчы птушкі селі спаць,
І рыбкі ў рэчачцы на дне,
Пад куст хаваючысь, стаяць.
Духота некая вісіць,
Нявольны сон усіх бярэ,
І толькі каня просіць „піць!“—
Кружась над лесам угарэ.
Я ў поле вышаў. Божа мой!
Красуе жытні колас ўжэ.
Рукой абцёршы летні зной,
Я сеў на камень пры мяжэ.
Любуюсь жыткам. Із-пад ног
Паднялась птушка да гары,
А тут каршун, а каб ён здох!
Хоп! гэту птушку ў кіпцюры...
Панёс!..
Што гэта мне за знак?
Такую думку думаў я,
Адкуль узяўся гэты птак?
Ой бедна-ж птушачка мая!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## ШТО ДУМАЕ ЯНКА, ВЯЗУЧЫ ДРОВЫ Ў ГОРАД.

От і сьвята, от Каляды,
На марозе скрыпяць санкі...
Усе на сьвеце сьвятку рады,
Усюды песьні і гулянкі.
Скачуць хлопцы і дзяўчата,
А гарэлкі п'юць чы мала?!
Адно слова — ўсюды сьвята.
Ну! кабыла, чаго стала?!
Чаго стала?!.. скажаш — цяжка,
Ды й ня надта-ж ты і сыта.
А мне-ж лёгка?.. глядзь, сярмяжка
Стара... рвана... ветрам шыта...
Стаў крапчэй мароз ка сьвяту,
Ось і зорка заблiскала.
Хоць скарэй-бы мне у хату.
Ну! кабыла! чаго стала?!
Дроў у месьце многа трэба,
І цана-ж на іх сярдзіта,
Прадам дровы — куплю жыта.
От і лезу з цяжкім возам,

Як бяда у карк пагнала
Такім ліхам ды й марозам!..
Ну, кабыла, чаго стала?!
Адагрэцца-б у карчомцы,
На дарогу стукнуць чарку...
Дык я вінен грошы Шлёмцы,
Каб ня даў часам па карку!
Ой ты, доля!.. ў гэту пору
Як мяне ды ты прабрала!..
Ну, кабыла! Ну, на гору!
Каб ты здохла, чаго стала?!

## СІВЕР.

Эй ты, сівер,—ня дзьмі!.. не патрэбен ты нам,
Ад палудня цяплу з табой ходу няма!
Хоць-бы раз без цябе зарунець-бы палям,
Хоць-бы раз у свой час адышла-бы зіма!
Ўстрапянуўся бы дух ў чалавечай грудзі,
Ды й забылі-бы мы мора смутку ды й сьлёз.
Сьціхні, сівер, хоць раз, па лясох ня гудзі,
На далёк акіан убяжы ты, мароз!..

## РОДНАЙ СТАРОНЦЫ.

Ты нам раскінулась лесам, балотамі,
Выдмай пяшчанаю [1]), неураджайнаю,
Маці зямліца! І умалотамі
Хлеба над мерку ня даш [2]) звычайную.
А сын твой, беднай адзет сярмягай,
З лыка пляцёныя лапці абуўшы,
Едзе драбінамі ці калымагаю,
Канём, што цягне, як бы заснуўшы.
Ўсё ў табе бедна. Часта заплача
Мужык-араты, дзеля злой долі
Цяжка працуючы. Ён-жа, аднача,
З табой расстацца ня жджэ ніколі.
І няпрыглядную хату з пажыткамі,
І поле скупое, выган бяз пашы
Мы, апрануўшыся старымі сьвіткамі,
Любім і цэнім — бо яны нашы.
Дасьць Бог, крывавым потам аратаму
Здабрыць пяшчану зямліцу здарыцца,
Жыць добра сытаму, хоць небагатаму,—

---

[1]) Адкуль вецер дзьмець пяскамі. [2]) Не дасі.

І дзеля сьвята чарка нам зварыцца.
Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
Прагляне ясна над нашай ніваю,
І будуць жыці дзеткі патомныя
Добраю доляй — доляй шчасьліваю.

## Адам Гурыновіч.

(1869 — 1894).

### ДА МАЦЕЯ БУРАЧКА (Ф. Багушэвіча)

Дзякуй табе, браце Бурачок Мацею,
За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею,
Што між братоў нашых знаходзяцца людзі
З кахаючым сэрцам і баляшчай грудзяй.
Дзякуй табе, браце, і за тыя словы,
Што ўспомнілі звукі нашай роднай мовы.
Бяры, браце, дудку, наладзь і жалейку,
Няхай песьнь смутная ідзець у калейку
І будзіць у сэрцах мысьль аб лепшай долі,
Якой мы ня зналі дагэтуль ніколі.

## Альгерд Абуховіч.

(1840 — 1905).

### ВАЎКАЛАК.

Чараўніца уракла, —
Быў я колісь ваўкалакам:
Бегаў чортам ўздоўж сяла,
І к гавядам поўзаў ракам,
І людзкую знаў гаворку,
І з сабакамі знадворку
Гаварыць я спосаб меў.
За гумном раз ціха сеў, —
Ажно Лыска прыляцеў.
Як на панскай службе стаў,
Па прыязьні ён мне кажа:
— „Кінь ты, куме, жыцьцё ўража:
„Цяпер марна прападаеш,
„А ты-ж — ўсякі спосаб знаеш:
„Майму пану стань служыць,
„Табе добра будзе жыць“.
— „Ах ты, дурню, думаў я: —
„Мне вярнуцца да сяла?
„З сваім панам і з сялом
„Задушыся ты калом!
„Хоць галодзен — я свабодзен,
„Гдзе мне цягне — там бягу, —
„На свабодзе прападу,
„А ў няволю — не пайду!
„Буду вольным ваўкалакам, —
„Ты-ж — на прывязі сабакам“.

## СТАРШЫНА.

Хоць які кірунак дай,
Адно тое, братка, знай,
Што крутнёю ўсё пакруціш
І найлепша збаламуціш.

---

Льва-манарха воук прасіў,
Каб вайтом яго зрабіў, —
Бо авечкі у няладзе
Шкодзяць вельмі ў панскім садзе,
Ды і самі прападаюць,
Бо як жыці, бач, ня знаюць.
І ліса за ім прасіла
(Яе жонка льва любіла).
Воўк з лісіцаю зьвязаўся
І, як можна, так стараўся:
Дзе прасілі, дзе ўздыхнулі,
Дзе гасьцінца падаткнулі;
Каб дабіцца да мэдалі,—
І плацілі, і прасілі, і стагналі...
Леў гаворыць: „Ходзяць толкі,
Што авец зьядаюць воўкі".
І сазваць сказаў народ
На зьвярыны вальны сход,
Распытаць усіх зьвярат:
— Воўк ці добры, ці ён гад?
Чыны важны ўсе прышлі,
Ўсё начальства тут было,
Ды прычыны не знайшлі,
Зла аб воўку ня чутно:
Пад судом ён, бач, ня быў,
І з начальствам добра жыў,—
Дык мэдаль вайта надзеў
Воўк на ўвесь авечы хлеў.
— А авечкі што-ж сказалі?
— Іх на сход зусім ня звалі!
А сьпісана ў пратаколе,
Што „авечкам дана воля".

## З МЭМУАРАЎ.

### І. Успаміны Кіева.

Радзіўся я 25 ліпня (дзень сьв. Якуба) 1840 году. Прынялі мяне з жалем: быў я калекі. Думалі, што або зараз памру, як брат майго бацькі, каторы меў гэтае самае калецтва, або буду ідыотам, як Гэнрык Быкоўскі з Русаковіч, таксама трывустны. Тымчасам я гадаваўся, і пастанавілі аддаць мяне ў гімназію ў Слуцак. Але і мне самому не хацелася і бацьком маім таксама не хацелася аддаваць калекага хлопца на кпінкі і зьдзекі равесьнікаў; трэба было зрабіць сьпярша апэрацыю, каторай тагачасныя дактары на Беларусі неяк баяліся. Слылі тады, як апэратары: Пірогаў, Кажанеўскі і Караваеў. Гэты апошні быў прафэсарам кіеўскага унівэрсытэту, а да Кіева было і найбліжзй і найлягчэй дабрацца. Пачалі выбірацца ў Кіеў да Караваева, а ў гэтым часе разышлася чутка, што царыца, жонка Мікалая І, занядужала на вочы, што маюць рабіць ей апэрацыю і што Караваева на вясну паклікалі ў Пецярбург. Дык едзем перад вясной, але ўжо коламі, па чарнігаўскіх растопах. Дарога ішла на Лоеў і Чарнігаў. Запрагалі ў адну карэту шэсьцера каней; у каламажку, што ішла ззаду з нашай службай, запрэжана было пяцера каней. Мы нідзе не загразьлі, але бачылі карэты, цягну-

тыя некалькімі парамі валоў, і то на паштовым тракце (шосы яшчэ ня было). На Дзясьне, пад Чарнігавам разьлітай на 10 вёрст, сарвалася бура, і паром наш занясло на нейкі бязьлюдны груд, дзе і прышлося нам начаваць. У Браварох узьехалі мы на шосу і пасьля сталі над разьлітым Днепрам. Мост тады яшчэ будаваўся; перабіраліся паромам... (было гэта ў 1852 г.). У канцы канцоў прыехалі на Ліпкі, туды, дзе сягоньня палац, а тады былі нейкія быццам „мінэральныя воды“ і гасьцініца. Доўга прагледалі нашы пашпарты, перш чым упусьцілі нас у некалькі саўсім неэлеганцкіх сьвятлічак.

У гасьцініцы „мінэральных вод“ менш было шыку, чым цяпер у Лейбіхі ў Слуцку, толькі гасьцініца прытыкала да Царскага саду, у каторым дзіўныя алеі вялі на бераг Днепру. Відокі там так дзіўныя, што хоць пасьля я бачыў сьвету [1]), аднача відокі Кіева і яго харавство назаўсёды асталіся у мяне ў памяці. Першы раз бачыў я там тэатр. Быў ён на Падоле, мураваны, брудны, цесны і цёмны. Ігралі дзьве нейкія штукі: польскую і расейскую; здаецца, што ў абедзьвюх было мардабойства, і памятаю, што ў расейскай былі нейкія брыдкія словы. Рух на Крашчаціку, сколькі памятаю, ня быў большы, як у Слуцку на Мастовай вуліцы ў торговы дзень. У Царскім садзе публікі зьбіралася многа, пагода служыла ды й вясна там пачынаецца раней, як у нас.

Міла было-б спамінаць тыя патрыярхальныя часы праўдзівага дастатку і, на свой спосаб, выгоды, каб ня дзьве асаблівасьці тых часоў: прагавітая, падозрывая ўласьць (паліцыя і жандармэрыя) і пастаянны на ўсе бакі сьвіст розаг. Навет з успамінамі гэтай падарожы лучацца розгі: за тры дні перад выездам зрабіўся ў нас „судны дзень“, выйшлі на яў нейкія плёткі. Некалькі асоб высеклі, між іншымі—таварыша падарожы, маладога лякая Яся. Дастаў ён каля 30 розаг; хоць я дужа яго жалеў, але ня важыўся дапытавацца, за што, бо і сам у страшнай грозе быў трыманы. Людзі, аднак-жа, з гэтым асвоіліся так, што гэта было тэмай кпінак і прыпінак. Ясь, напрыклад, казаў, што яму „мух ганялі“, а сьляды таго „ганяньня мух“ прывёз навет дамоў з Кіева, і кіеўскі „незабуд“ трываў цэлы месяц. Казаў ён, што зараз па экзэкуцыі загадалі яму трымаць за ногі Магдалену, каторая ўвесь час, як яе білі, плакала. Што да Магдалены гэтай, то я пэвен, што там яе віны ніякай ня было, але была гэткая прычына: жыў у нашым баку п. Пушчык, абывацель, расеец, экс-дзекабрыст, скінуты з палкоўніка гвардыі ў салдаты (значыць, мучанік ідэі, сын свабоды). Гэты Пушчык казаў апасьля ў салёне вось як аб гэтай экзэкуцыі: „Дагледзіў я, што з нейкага часу да кавы даюць мне замест сьмятанкі—малако, і то што раз радзейшае. Доўгі

[1]) Аўтор аб'ездзіў блізу ўсе старонкі Заходняе Эўропы і даўгі час жыў там.

час ня прыбраўся я сказаць аб гэтым, але раз у начы ня мог я спаць: боль раны (з тых часоў, як быў салдатам) страшэнна мне дакучала, а раніцай заместа сьмятанкі дастаю сівое малачко. Гэта мяне зазлавала. Дык, нічога ня кажучы, кажу лякаём склікаць усю бабскую службу ў кантору. Кантора побач стайні. Дзяўчаты на зазыў хлапцоў вясёла папрыбягалі, і тут пачалася расправа. Фурманы Сьцёпка і Тодар як адлічылі кожнай па 50, то ўсё наладзілася, — хоць, можа, азадкі спухлі, але малако патлусьцела". Пан Пушчык казаў з гуморам, і гэта ў той час трапляла ўсім да пераконаньня.

## II. Палажэньне сялян.

Сьвятой сваей павіннасьцю лічу апісаць палажэньне сялян, каторае ў першым разьдзеле зачапіў, навет неспадзявана для сябе. Пасьля таго, як мы вярнуліся з Кіева, да канца лета былі мы яшчэ дома, г. зн. у Калатычах. Перад пачаткам школьнага году пераехала мая матка разам са мною ў Слуцак на пастаяннае жыцьцё, а бацька паехаў ў улюблёнае сваё Грабова, у Мазырскі павет. Стасункі [1]) з воласьцю былі ўжо напярэдадні волі лепшыя; лагоднымі [2]) іх назваць няможна (за цара Мікалая лагоднасьці ня было), а толькі былі быццам патрыярхальныя. У Грабове было некалькі сялян-гаспадароў, людзей шанаваных і справядлівых, каторыя былі ў зажыласьці з самым панам [3]),—то гэтым стрымлівалася крыху страшэнная самаволя намесьнікаў. У Калатычах-жа застаўся неаграніченым уладаром Кароль Булгак, з мясцовых сялян, чалавек малады, але злога характара,—і бяздольнікі завылі.

Пад канец зімы зьяўляюцца пасланцы ад Кялатыцкіх сялян, молячы ў маткі маей ратунку. Першай прыбыла маладая, гожая дзяўчына, Куліна, каторую розгамі прымушалі да любові; ей пазволілі астацца ў Слуцку і знайшлі службу, а другія дасталі на рукі нешта кшталтам [4]) „жалезных лістоў", каб ніхто ня сьмеў і пальцам крануць аж да прыезду пані. Апрача гэтага, нарочны пасланец завёз ліст да майго бацькі, у каторым паведамлялася, што на Вялікдзень прыедзем у Калатычы.

Тут скажу, што я першы раз бачыў уплыў духа надхадзячай волі: заместа адпору са стараны бацькі, наступіла яго поўная згода парабіць уступкі сялянам. Запрасілі на нараду мясцовага параха, уніяцкага ксяндза Андраеўскага, улажылі нешта кшталтам канстытуцыі, і з гэтага часу быт нашым падданых на вачах пачаў папраўляцца. Бог даў падрад некалькі ураджайных гадоў, так што даходы ўтрое павялічыліся, новую прыкупілі вёску (Запольле), і тысяча „душ" людзей мелі працаваць на хлеб для

[1]) Адносіны. [2]) Добрымі, ласкавымі. [3]) Жылі пры пану. [4]) Падобна.

маладога Ольдзі [1]), каторы сягоньня, пішучы гэтыя ўспаміны, павінен прызнацца, што ня мае а ні „буднага хлеба“, а ні страхі над галавой, а ні нічога, апрача колькіх сваіх прыяцеляў: talis est mutatio rerum! [2])

Растучы, я разьвіваўся, а перада мной што раз харашэй рассьцілаўся сьвет: насталі часы, аб каторых можна сказаць, што людзей нікчэмных яны ня бачылі. Ня стала-бы паветра для подлых інстынктаў. Няхай цяперашняе пакаленьне заздросьціць, што я на гэта глядзеў сваімі вачмі. Чэсьць тагачаснай кіеўскай моладзежы, каторая была дэмакратычнай і „хлопаманскай“.

## VI. [3]) „Граф Бандынэлі“.

Я падпісваюся на маіх беларускіх творах: „Граф Бандынэлі“. Гэта — прозьвішча маей бабкі, апошняй з гэтага роду, каторы выдаў такую знамянітасьць, як папеж Аляксандар III. Бачыў я на plafon [4]) у салі „Трохсот“ у палацы дожаў сцэну: цэсар прымушан пасьці ў ногі папежу. Папеж стаўляе адну нагу на сагнутым карку цэсара і кажа: „Super aspidem et basiliscum ambulabo et conculcabo draconem et bowem“ [5]). Расшалелы ў сваім паніжэньні дэспот кажа: „Пакараюся Пятру, а не табе“. А тады Аляксандар III, граф Бандынэлі, становіцца абедзьвюмі нагамі на яго імпэратарскай сьпіне і зычным кажа голасам: „Et Petri, et mihi [6]). З роду Бандынэліх быў слаўны тварэц «Laocoona». У італьянскай бацькаўшчыне слыў гэты магнацкі род і прыбыў у Польшчу, як амбасадар [7]) неапалітанскі, за Яна III. Гэты амбасадар неапалітанскі, уміраючы ў Варшаве, пакінуў сына, майго прашчура. Аляксандар гр. Бандынэлі, дзядзька маей бабкі, бачучы род свой угасаючым, усынавіў род Абуховічаў.

## VIII. Дзьве сьмерці (3 мая 1894 г.).

Зваліліся дзьве навіны, як гром з яснага неба, аб дзьвёх сьмерцях: п. п. Адам Перасьвет-Солтан і Марка Вузлоўскі ўчора разьвіталіся са сьветам. Абодва ў ваколіцах Слуцка пражылі свой век. Адам радзіўся ў першай чверці XIX сталецьця, вучыўся ў слуцкай гімназіі. У гімназіяльныя часы хоць быстратой лішне не выдзяляўся, але меў нахіл да літэратуры. Пробаваў пісаць вершы, але сустрэціўшыся з вострай крытыкай на свае польскія „трэны“ [8]), перакінуўся да пісаньня сатыры ў беларускай мове, што — трэба прызнаць — яму ўдавалася рабіць даволі гладка; аднак-жа, з гэтым крыўся і, чытаючы свае творы, выдаваў за чужыя, перапісаныя ім...

---

[1]) Ласкавае: Ольгэрд. [2]) Такая ёсьць зьмена рэчаў (спраў). [3]) Выпіскі з разьдзелу 3—4—5-га, як ніжэй яшчэ і з іншых, не зьмяшчаюцца дзеля недахвату месца ў кніжцы. [4]) Пляфон, малюнак на столі. [5]) Наступаю на асьпіда і базіліска і тапчу дракона і вала. [6]) І Пятру і мне. [7]) Пасланьнік. [9]) Жаласныя песьні, нараканьні, лямэнты.

## X. Літэратурнае апраўданьне.

Праглядаючы мае вершы, Францішь Багушэвіч зрабіў увагу, што ў мяне ня ўсюды бываюць уласьцівыя [1]) беларускай мове акцэнты [2]). На гэта я яму адпісаў:

> У гаворцы ёсьць ружніца [3])
> Між маею і Тваей:
> Маей—пушчы, Птыч [4]) граніца,
> Ты — Панарскі [5]) салавей!..

Гэта значыць: у Беларусі ёсьць многа асобных дыялектаў-гутарак, і ў гаворцы між Магілевам, Мозырам і Гродняй бывае вялікая розьніца ня толькі ў акцэнтах, але ёсьць і многа цікавых провінцыяналізмаў. От, напрыклад, некалькі нашых палеска беларускіх провінцыяналізмаў, — ручаюся, што іх у віленска-гродзенскай беларускай мове або саўсім ня ўжываюць, або ўжываюць рэдка. Нашчадзь — патомства, будучае пакаленьне; нішком — ціхачом, пакрыёму, хаваючыся; плён — расток, малады белы карэньчык пры зярне; і шмат іншых.

Мне перш за ўсё ідзе аб тое, каб высказаць, што я хачу, каб пачулі мысль маю і каб словы карэнныя беларускія пры помачы нашай літэратуры атрымалі як найшырэйшае абывацельства, і дзеля гэтага я не сьцясьняю свайго дыялекту, ужываючы словы і звароты агульна-беларускія. Гэтак паступаючы, я кладу ў літэратуру свой прыродны дыялект беларускай мовы, даючы найлепшае з яго. У канцы невядома яшчэ, каторы дыялект беларускі пераможа. У Францыі — сьпярша дыялект провінцыі Langeu d'Oc меў перавагу ў французскай літэратуры, а пазьней Langeu d'Oni — цяперашняя француншчына. Гэта трэба памятаць і нашым літэратарам і пурызмам [6]) не забаўляцца!

## XI. Спас 20/VII 1904.

... Было гэта каля 1825 году, часы былі добрыя, і п. Кароль [7]), „Нарулёнкам“ празываны ад дзеда майго, добра ўладзіўшы свае маянтковыя справы, хацеў выкупіць ад маршалка Піліпа Абуховіча Карцэвічы, адвечную Абуховічаўскую маетнасьць, каб толькі дзед мой гэту маетнасьць ад яго прыняў і прыпаручыў яму справу належачага нам спадку [8]) па Бандынэліх і зацьверджаньня графскага тытулу. Тут нахлынулі важнейшыя здарэньні: выбухнула паўстаньне. На Беларусі азбраіваліся і па дварох муштраваліся. Нехта непатрэбны падгледзіў

---

[1]) Належныя, прызвычаеныя (ад слова: ўласнасьць). [2]) Націскі ў словах. [3]) Розьніца. [4]) Прыток Прыпяці з левага боку. [5]) Панарскія горы каля Вільні. [6]) Пурызм — кірунак да выкіданьня з сваей мовы занесеных у яе чужых слоў, зьвязаны з варожасьцю да гэтых слоў. [7]) Кароль Нэрэзыуш — аб ім кажацца ў нязьмешчанай тут частцы разьдзелу. [8]) Насьледзтва.

гэтыя прыгатаўленьні і даў данос. Прыказана было арыштаваць майго дзеда, што прышлося рабіць аружнай рукой, бо люднасьць станула адпорна, забарыкадавалася ў дварэ, з прыроды даволі недаступным, і пачалася страляніна. Забітых ня было, але з абедзьвюх старон некалькі душ ранена. П. Кароль скланіў тады дзеда на капітуляцыю, бо ўтрымацца доўга нельга было, а з глаўнага[1]) пляцу надыйшлі непамысныя весткі. ... (Дзед) хоць жыў яшчэ гады чатыры, але свабоды ўжо ня бачыў.

Роля парлямэнтара не прашла п. Каролю на суха: казак сьперазаў яго чатыры разы нагайкай...

У гэтым часе сталася нейкая таёмная справа, аб пачатках каторай магу толькі дадумавацца, і дзеля гэтага буду гаварыць толькі аб скутках[2]) яе.

Быў нейкі чалавек, бацька мой з нейкай трывогай называў яго „Пяровіч", а Нэрэзыуш: „Пёрка, каторага я здаў у рэкруты", але гэнае пёрка, відаць, было ўстрэмлена ў нейкае балючае месца, бо п. Кароль не будаваў свайго палацу ў Зарэччы датуль, пакуль не даведаўся, што Пёркі ўжо няма на сьвеце. Сяляне яго вельмі ждалі, нейкія надзеі загараліся ў іх пры спамінах аб ім, але ўсё гэта пакрыта было таёмнасьцю. Пяровіч, уцёкшы з салдатаў, укрываўся. Казаў заўсёды, што памсьціцца на панох. Каля Солетнік часьцей паяўляўся—і там ён загінуў. Расказваюць: утапілі яго па загаду майго дзядзькі. Быў гэта чалавек нязвычайны, калі будучы банітам[3]), вынятым з-пад права, праз 20 гадоў трымаў у гразе нямаль цэлы павет. І хоць паходзіў з сялян, але быў чалавекам вельмі адукаваным, уроды гожай, мілы і красамоўны. Захаваньне між сялянамі меў нязвычайнае. Насіўся з нейкімі рэформатарскімі плянамі і для сваей справы яднаў прыхільнікаў між сялянамі толькі. Па сьмерці Пяровіча яго рэформатарскімі плянамі зацікавілася жандармэрыя, было сьледзтва. Сяляне адчапіліся нічога-няведаньнем, шляхта ня рада ішла на гутаркі аб сваім ворагу. Сьледзтва скончылася зданьнем у салдаты двох нічым ня вінных сялян. Расказвалі сяляне ў вялікай тайніцы аб нейкіх „граматах", недзе перахоўваных у вучняў Пяровіча. За год 10 — 15 справа гэта саўсім заглохла.

## XII. Дзяды.

У восені народ наш сьвяткуе паганскае яшчэ сьвята Дзядоў. Хрысьціянізм заўсёды шанаваў гэтае сьвята, каторае ўлівала народу веру ў бяссьмерце душы. Вёскі, не зважаючы на непагадзь, пануючую ў гэтым часе, маюць сьвяточны выгляд. Сьцены ў гаспадах вымыты да-бела, каб душы дзядоў маглі з уцехай прыбліжацца да вокан і ўглядацца радасна на бяседуючых сваіх

[1]) Штабу. [2]) Рэзультатах. [3]) Выгнанцам, ссыльным.

нашчадкаў [1]). Мысьлі кружацца і налятаюць, як чалавек аб гэтым падумае: можа гэтаксама налятаюць і кружацца наўкол духі дарагіх нашых нябожчыкаў? De Chataubriand [2]) заклінае цені каралёў францускіх, каб не падхадзілі да занячышчанай магілы у S-t Denis і каб не заглядалі ў змарнаваную бацькаўшчыну. Загадавае каралю засягаць [3]) муравы вясковых магілак.

Сягнуўшы мысьлю, сколькі-ж гэта бачыцца сяліб, сягоньня [4]) апаганеных, сколькі-ж гэта дзядоў ня мае па што заглядаць у дамовыя вогнішчы!? Сколькі-ж гэта дзядоў не пазнала б сваей нашчадзі на тэй зямлі, дзе спачываюць іх косьці!

Я, дзеля пашанаваньня сягоньняшнягэ вечару Дзядоў, выйшаў на мост, каб падумаць аб памершай радзіне і прыяцелях. Я саўсім спакоен, нішто маіх думак ня трывожыць. Няхай-жа думкі мае будуць трызнай хаўтурнай дзядоўскай [5]) маім антэнатам [6]).



Аляксандар Раманавіч Пшчолка.

## КАНІЦЕЛЬ.

Я, панічок, ужо 25 гадкоў, суджуся-важдаюся, шукаю праўды па сьвеце... Божа мой! Здароўе маё прапала, ножкі мае ня ходзяць, трэці год, як асьлепла... па старцах стыдаюся хадзіць...

---

[1]) Патомкаў. [2]) Шатобрыян—вядомы францускі романіста. [3]) Троху ўзяць, захапіць. [4]) У час аўтора. [5]) Спраўлянай у дзень Дзядоў. [6]) Продкам.

Вот віджу сьцежачку троху-троху, віджу, што чалавек ідзець, а які чалавек — не пазнаю... За што суджуся? — За зямельку, мой дарагі панічок!

Во й табе мой сказ аб маім судзе. Жыў мой нябожчыкдзед [1]) на надзелку, і вот заманіў яго Панас, мой сбратдзетны браценьнік, у валаскую [2]) і на сябе зямлю запісаў... Перапісаў, значыцца... на Панаса: што вот ты ўвавекі, Панас, ня зямлі сядзі... А браценьнік мой, Панас, саўсім з другой валаской,—з Замоськай... І засталася я, з двумя сынамі і трымя дачкамі, без зямелькі. Плачу. Адна ў хатцы, як мой дзед памёр. І гадаваліся мае сынкі без зямлі... і вырасьлі патрошку... і пачалі мы за зямельку цягацца, і вот цягаемся па сьвеце... У Панаса ёсь дасткі: дзьве кароўкі, авечкі, тое-сёе, а мы—галякі, нам некуды кінуцца, з пустымі рукамі плоха [3]) судзіцца... Ну, прыдзем у валаскую, паплачам, пакланяемся... Ды што плачам возьмеш?! І судзьдзі, і пісар і ўва ўніманьне не бяруць: ідзі, баба, дамоў, табе няма зямлі. Так жалабы гадоў 7—8 пісалі, а валасьць іх касавала...

Напыталіся мы з сынам, з Міколай, што ў уезьдзе ёсь расправа і на пісара і на судзьдзяў... Сабралі мы, панічок, тры рублі, паплакалі, памаліліся Богу, і пашлі чалавека шукаць, штоб працёр нам вочкі, як праўды ў уезьдзе пашукаць. Напісаў Янкель прашэньне, і мы пашлі патроху ў уезд. Падалі. Уезд узяў на р а з ь б і р а ц і е. А тут наехаў новы пісар—чорны. А ў таго пісара знакомы с і к л і т а р. Панас і завёў з ім знакомства і пачаў цягаць масла, яец, парасят. А мой Мікалай хацеў падыйці, ды не адважыўся. Мы людзі бедныя: сабралі трошку гасьцінца, ды не дабіліся і не адважыліся. Куды-ж! За багатымі і не дастукацца! Во і пацягнулася наша дзела. Мы ў уезд, а сіклітару пісар чырк: так і так, бабіна дзела спушчай! Сіклітар і пішаць у валаскую: бабінай зямлі нет! Мы і плачам. А Панас ужо гадуець падсьвінка і нясець пісару. — Схадзі ты, Міколка,—кажу я сынку: — можа падступішся... Палажу я ў карзінку дзесятак яечак... — Падыйдзі хоць к пісарысе. Пойдзець Мікола, аддасьць дзянёк і не пасьмеець падыйці. Пакуль-ні-пакуль увідзіць пісарыху і аддасьць карзіначку. А пісарыха... Я скажу пану... Ня бось, скажу...

А дзела цягніся-вядзіся, і ўсё ў Панасаву руку. Пойдзем мы ізноў к Янкелю: так і так, кажам, пішы яшчэ ў уезд. Напішаць —пададзім. А пісар чорны: чырк сіклітару, а сіклітар чырк у валаскую: бабінай зямлі нет, баба з зямлі далоў. Божа мой, Божа! Так і цягаліся гадоў дзесяць. Жмець пісар у Панасаву руку, а мы і жывём без зямлі...

І расказалі добрыя людзі, што ў губэрні праўды даб'ёмся. І напісалі прашэньне. Праўда, губэрня ня больш за году думала

[1]) Так называюць старыя жанчыны сваіх мужоў. [2]) Валасьць. [3]) Цяжка, трудна.

і чыркнула ў уезд: паламайце Панасавы правы — Панасу зямлі нет, Панас з другой валаской. Аб'явілі нам тую бумагу. Слава Божаньку! думаем: усё пярэйдзець дзела к нам! — Аж пісар з Панасам талкуй-талкуй і скруцілі мазгамі так: што, значыцца, бабы Сімохі Кандратавай у равізіі нет, і губэрня, значыцца, памылілася, і сьвіснулі тую бумагу ў уезд, а ўезд у губэрню, губэрня ізноў пішаць: бабінай зямлі нет! Заплакалі мы з Міколай... Што тут рабіць? І во тады, панічок, узялі 12 кофій [1]) з валаской і ўзноў жарылі ў губэрню. А губэрня ізноў ў уезд, а ўезд на разабраціе у валаскі суд. Тады ўзяў мой Мікола ўсе тыя 12 кофій і падыйшоў к члену: так і так, вашародзіе, зьдзелайце Боскую міласьць, вазьміце кофіі на разабраціе! Праўда, член узяў. Ждалі мы, ждалі, — ня чуць нічога. Пашоў Мікола ў уезд. А там і член. Так і так, кажаць, вашародзіе, нашчот зямлі. — Разьбяру, кажаць, напішуць, кажаць, з валаской... Табе надзеляць ад усяе дзярэўні па кусочку, а ў Панаса зямлі нельга атабраць.

Во тады, панічок, мы і прыгавар сталі прасіць саставіць. Бійся-бійся, угаварылі дзеравенцаў, штоб, значыцца, на мяне і на Міколу перавесьці. І дзеравенцы сагласіліся. Панасава дзела прапала. А Панас цяперака круціць, муціць. І хочаць як-ніяк мой прыгавар скасаваць і нас без зямлі заставіць... А мы важдаемся ўжо 25-ы гадок.

Ножкі я згубіла, вочкі я згубіла, састарылася зусім, ні есьцькі, ні піцькі не магу, а зямелькі ўсё няма... Таму з галітой трудна дастукацца!!

## „У ЦІЯТРЫ“.

Сяджу я, браткі, у тым самым ціятры, аж зараз адзін у скрыпку — пісь, другі падняў трубу — прагудзеў, трэці павешаў рагавень — зарухаў. Кожны наладзіў для парадку свой штрумэнт. Слухаю я: нязграбна, трубяць, ды ня тым трахтам. Скуголяць, аж нялоўка слухаць. Той-жа, што сядзіць пасярэдкі, меціў, меціў ды як маханець пугаўём, а тыя, што з бакоў, кожны з свайго штрумэнта як сьцебануць, як раўкнуць, як сыпнуць! Во, браткі, каго паслухаць!.. Ого-го! Гэта ня жарты!.. Панасавы цынбалы? — Цьфу! Нічога ты, Хвядос, няварты пасьля таго!.. І Пятрусёва скрыпка і блізка не падходзіць! Крый, Божа! Калі-б усе цынбалы сабраць, і самаго Язэпа, і Маркаву дуду, і Зьмітраковых мальцаў у рад паставіць, і Сідару пугаўё ў рукі — і то ні блізка! Барані, Бо-о-ог! Таму — ні трубы, ні басэтлі, ні паўдзежкі... Якія трубы? Што дым ідзець? — Цьфу! Ату табе, Мікіта, ату, балота! Што ты відзеў? Нічога ты ня відзеў!

---

[1]) Копій.

Ты відзеў толькі балота, дзярэўню ды сьвіньней!.. Труба гэта блі-скуча, як самавар, з найлепшага масяндзовага матарыялу. Адна равець, другая храпіць. Ву-ву-ву! — во як.

Ізноў-жа дудкі, наўродзе жалеек, тыя больш вярха, ціль-ціль-ціль, гдзе пісьнець, гдзе сьвісьнець! Басэтля-ж здорава гу-дзіць, ды і работы з ёю даволі. Жарты — ён чэшаць смыкам, аж лоб трэць. Здаровая махіна, досыць працы! Ну і так, з дра-бязы, у скрыпку драбняку падсыпаюць даволі, валяць у вадну руку і ўсе па кніжках глядзяць. А той пугаўём, ведай, махаець і туды, і сюды, проста пад нос бліжэйшым падступаець. Жа-рылі, жарылі, тады сталі, а жалейкі і скрыпкі давай самі па сабе розныя штукі вывадзіць. Вводзяць, скуголяць. І труба да іх патроху прыстала. Я-ж думаю, вось табе й раз! Зьвялі на быкі... Аж зараз той самы пугаўём як махнуў к таму, што на канцы сядзіць, а той размахнуўся балдавешкай ды як дасьць па паў-дзежку, а паўдзежак — лоп, лоп, лоп!.. Аж проста ў пяткі ко-лець. Пад канец-жа як разыйшліся, як сыпнулі — барджэй, барджэй, ён пугаўём жарыў, жарыў і—бац! Сталі ўсе й стаяць...

Паны ці былі? Ды так што ўсе паны. З нашых, з мужы-коў, ня відаць. І я дастукаўся затое, што Сымонавы капоты на-дзеў і ў Трэхіма ботаў дастаў. Ня ўсякага й пусьцяць. Дзе я ся-дзеў? Уверсе. А ўнізе — паны, на зямлі, знацца, на сьценах паны. Як — на сьценах! А так, калі, прыкладам, прыбіць да сьценак кошыкі і ў кошыкі наторкаць розных паноў, а ў сьцяне зрабіць вокны, а ў вокнах дзьверы, а цераз дзьверы ход. Дык вось ты, прыкладам, сядзіш у кошыку, а захацеў вон, ад-чыніў — валі, куды хочаш... Табе сьмех, балота ты!.. Толькі ўнізе паны найбольш з мужчын, сьпераду з лысых болі, тады з вайсковых, з вураднікаў, з прыставоў, а на сьценах паны з па-нятамі і з жонкамі. Але ўвабраны ўсё, воўк іх еж, — лоўка. Праўда, танкаваты троху з бакоў, але нічога. Усё болі ў чыр-воным, а рукі голы, як вось калі дзяжу месяць бабы, і так каля шыі не зашпілена, на галаве валасы памялом, а самі фуфырацца, сьмяюцца, вачмі во гэтак, а тыя, адзаду што стаяць, — у іхнае вуха нешта шэпчуць. Там-жа на кошыку скрыначкі ад табакі: з тых скрыначак пані патроху бяруць і памалу каштуюць у пры-куску.

Тады што было? Тады, як сыгралі троху, кожны пайшоў аддыхнуць, і я драбануў. Усё болей каля боку дзяржу і ўсё віджу. Паны лупяць у харчэўню і зараз за гарэлку. Праўда, сьцябаюць лоўка. Толькі ня так, як у нас: у нас болей проста з горла ды ў горла. А там кілішкі, як журавель, і закуска, і рыжы чалавек каля іх бегаець. Я, гэта, выняў цыбук, хацеў па-курыць... Аж нейкі курносы кажаць мне: „А ты што?“ — „Я, кажу, з гарладзёркі“. А ён мне кажаць: „Падальшы, падальшы!“ Я тады каля сьцяны, ды ў дзьверы, ды ня ў тыя. Заблудзіўся.

Во, каб цябе! Праўда, рыжы падышоў, паглядзеў на мае дакумэнты, ды мяне за руку, ды за плячо, ды на лесьвіцу: „Калі, кажаць, ты з гарладзёркі, дык і сядзі на гарладзёрцы“. — „Я, кажу, заблудзіўся троху“. — „Ідзі, кажаць, пакуль, па шыі не палучыў“. Але ўсёткі, відаць, з благародных: і гаворыць ласкава, і ня штурхаець. Я вышэй, вышэй, бокам і трапіў на свой трахт ды на свае дываны.

Гляджу на бакі, уверх, уніз. Аж разам той самы пугаўём—шарах! А тыя—хто ў трубы, хто ў скрыпкі... Тады, браткі, і сьцяна паднялася. Дадушы-ж, паднялася! Сьцяна такая намалёваная, з конямі. Гляджу я. Божухна Ты мой! Выскачыла многа ўсякага люду, але не ад тутэйшых паноў, і давай пяяць. Расьпінаюцца, крычаць, гойкаюць, бегаюць, скачуць—усё во гэтак падскокам. Тады к ім выскачыў нехта белы, у балахоне. Бегаець, скуголіць і рукой во гэтак паказаваець. Ізноў якая-то баба ці-то маладзіца да іх падскочыла. Пішчыць, плачаць, аж за сэрца хапаець. І Бог ведаець, якое што тут зачыналася, аж уваччу замітусілася. Нічога не гавораць, а плачуць, гойкаюць, за горла хапаюць, рукі ўверх падымаюць. Во так болей: го-го, го-го, гі-гі-і! Зайцоў зганяюць? Не-е! Гэта не балота! Я сам сьпярша думаў, што, знацца, гоняць каго, аж не-е. Яны так між сабою. Пакрычаць, пойдуць адзін к аднаму, абнімуцца, цалуюцца і ўзноў разойдуцца. Тады белы, што ў балахоне, падышоў к таму, што з пугаўём, і пачаў крычаць: крычыць адзін, аж голас трасецца, і руку к яму цягнець, пугу, мусіць, хоча схапіць; а той, ведай сваю справу—жарыць, а той тонкі каля басетлі працуець. Гляджу я: сьцяна валіцца, валіцца!—і закрыла таго, што ў белым. А паны давай крычаць, б'юць у далоні, дзяруць горла, аж вочы вон. Найболей з гарладзёркі, нагамі навет стукаюць. І тыя, што ў кошыках, плёскалі, але патроху... Усякі на ўсю сілу крычыць: брысь, брысь, брысь! А другога нічога не разабраў. Крычалі, пакуль белы цераз дзірку галаву не прасунуў. Прасунуўся і кланяецца. Во гэтак. Ён-жа пайшоў к сабе, а яны ізноў крычаць; так крычаць, асабліва з гарладзёркі, што аж вочы на лоб. У мяне аж у вушох затрышчэла. Думаю сабе: пайду прачухаюся на холадзе. І пайшоў, каля сьценкі збачыўшыся, ды на лесьвіцу, ды па лесьвіцы, ды к дзьвярам, ды к другім (тут я ізноў лысых увідзеў: мусіць к гарэлцы пайшлі) ды к трэцім, ды за дзьверы. Гляджу, аж Сымон і Трахім мяне ждуць, піпкі паляць. — „Хадзі, кажуць, дамоў, бо Мэндаль запрэць кватэру. Заўтра, кажуць, рана трэба на машыну“.—„Во, каб вы выхварылі! Яшчэ, кажу, прыстаўленьне будзець!“ А яны: „Мае боты, мае капоты, трэба на машыну“...

А што робіць? Як не мае, знацца, боты, ды не мае капоты, ды й ад кумпанства не аставацца, дык я й драбануў з імі на кватэру, а тады і дамоў.

Дык вось якая справа, а ня тое што Панасавы цынбалы... Цьфу!

# ЯНКАВА ЖАЛЬБА.

## ДЗЕЯНЬНЕ I.

Канцэлярыя воласьці. За сталом пісар. З правага боку ад яго, на тапчане — судзьдзі. З левага боку ад пісара, на ломаным крэсьле — старшына. За старшыною — два старасты. Сяляне стаяць за краткаю, што адгараджаець стол ад усяе канцэляры. Ад стала налева — бакоўка, у якой на сховах грошы і адбываюцца прыватныя нарады валаснога начальства. Пры бакоўцы — «цёмная», у якой адбываюць кару штрафаваныя і паняволеныя па загаду старшыны ці пісара.

**1-ы судзьдзя.** Ці ёсьць, браткі, у каго агня — закурыць?

**2-і судзьдзя.** А вун у Лявона піпка не пагасла.

**3-і судзьдзя.** Ці многа сяньня судоў, браткі?

**1-ы судзьдзя** (закураваючы ў Лявона). Ня ведаю. З трыццатню, мусіць, будзе... Ці там многа, паночак, засталося?

**Пісар** (лістаючы кнігу валасных судоў і пускаючы хмары табачнага дыму). Ды нямнога ўжо—судоў 25, ня больш.

**1-ы судзьдзя.** Ці, панок, будзеш кароўку купляць к лету?

**Пісар.** А што? Можа ў цябе ёсьць прадажная?

**1-ы судзьдзя.** Ды я для пана...

**Стораж** (падходзячы да пісара). Паня казала, каб пан суды не цягнуў, бо скора пан Калдуноўскі прыедзець.

**Пісар.** Зараз. Скажы, каб без мяне гуляць не пачыналі. (Да сялян). Ну, цяпер жалаба Івана Цімахвеевага. Ты жалішся, што брат твой, Пахом, цябе і дзяцей пабіў, самавольна заняў тваю хату, адабраў хлеб, адагнаў зямлі паў-надзела, і што табе рады ад яго няма. Раскажы вось сваю жалабу судзьдзям.

**Янка** (кланяючыся). Вось, паны судзьдзі, і пан барын [1]), і пан старшына! Уся дзярэўня відзела, як мой брат Пахом аддзяліўся яшчэ пры нябожчыку-бацьку і пайшоў на ранду. Пяць гадоў жыў на рандзе... Завёў скацінкі... А я жыву сабе асобна й нічагусенькі... Хатку паставіў, дзетак гадую... А дзеткі мае слабыя... Жонку што год па знахарах важу — зусім зьвялася, зжылася баба ніўвашто...

**Старшына** (да 2-га судзьдзі). Твая Дарка купіла падцёлка ў Зьмітрачыхі?

**2-і судзьдзя.** Не-е! Куды-ы! Зьмітрачыха даражыцца... і приступу няма.

---

1) Зваротак да пісара.

**Пісар.** Купі ў мяне, судзьдзя, цялушку... Во цялушка! Глядзі-ка, як важна ходзіць па двару. (Усе ўстаюць і нахіляюць галовы да вакна. Чуецца: „О-о-о!").

**Янка.** Кх... кх... Дзеткі мае слабыя... а старэйшая саўсім сьляпая... І Бог ведаець, ці будзець калі відзець... Я сам слабы на ногі. Вы самі, паночкі, відзіце, якое маё падыханьне ёсьць на сьвеце... А брат мой Пахом...

**Старшына** (перадражніваючы). Што там табе ўсё брат ды брат. Здаецца, ён і чалавек, як чалавек, а ты толькі дурыш дарма.

**Янка.** Можа ён старшыне й добры, а мне дык зусім жыцьця няма, — таму ў яго сіла... І сваіх дзетак у мяне поўная хатка... Семерка дзетак... Дробных, як бульба. Сёмы гадок сядзіць сьляпая—ні з места. Сам я працую да крывавага поту... Мае во гэтыя рукі за ўсё адказуюць... А брат шэсьць гадоў жыў на фальварках. Хацеў маёнтак зажыць. Наш бацька, нябожчык, падзяліў нас роўна: мне на пяць душ дзьве трацьцінкі зямелькі, а яму на дзьве душы — адна трацьцінка. І яму было бяз крыўды, і мне было бяз крыўды, таму бацька наш, як і вы ведаеце, па справядлівасьці жыў, людзей ня крыўдзіў... Ён-жа сам тады не хацеў жыць сумесна. Пайду, кажаць, на ранду, а цяпер...

**Старшына.** А вун, здаецца, і пан Калдуноўскі паехаў...

(Пісар нахіляецца ў вакно і ківаець галавою Калдуноўскаму).

**Янка.** Цяпер, паночкі, што ён са мною зрабіў!.. Ён мяне з гаспадаркі зсадзіў... Зсадзіў да шчэнту... Зарэзаў...

**Пахом** (з грамады). Чым я цябе зсадзіў?

**Янка.** Чым зсадзіў? Усім відаць, чым зсадзіў. Я к старшыне разоў дзесяць хадзіў жаліцца...

**Старшына.** Калі ты ка мне хадзіў?

**Пісар** (да старшыны). Пастой. (Да Янкі). Чаго ты тут чмурыш бяз толку? Ты жалішся, што брат цябе пабіў, дзяцей тваіх выганяець з хаты, б'ець гаршкі, а ты хіба яго ня б'еш? Пахом Цімахвееў! Біў ён цябе?

**Пахом** (выціскаючыся з грамады). Паны судзьдзі, пан барын, і пан старшына! Каб мне скрозь зямлю праваліцца, калі я біў яго!.. Няхай яму тое ў грудзі!.. што ён на мяне кажаць... Я толькі замахнуўся, а ён мяне во па гэтым месьце (паказвае на сьпіну) — як ляпнуў... як ляпнуў... а я—брык, паночкі, аб зямлю ды чэрапам аб карыта... Проста аб карыта...

**Янка** (у вялікім абурэньні). Паночкі! Во жонка мая— зусім хворая, а ён і яе,—ня толькі што мяне... як хопіць... і дзяцёнка...

**Жонка Янкава** (праціскаваючыся з грамады і абціраючы рукавом сарочкі сьлёзы). Я, паночкі, падыйшла к дзяцёнку, што ў люльцы ляжыць, а Пахом мяне ў грудзі, я ўстала, паднялася, а ён мяне кулаком па носе, ну я й залілася крывёю... А дзяцёнак перапудзіўся і цяпер саўсім як няжывы... (Плачаць).

**Пісар**. Маўчы, маўчы, цябе ня пытаюць!

**Янка**. Паночкі! Во яшчэ Пілімоніха ёсьць, што відзела, як ён мне галаву рашчапіў... Я-ж яе ў сьведкі пісаў... Яна пасьведчыць...

**Пісар** (лістаючы кнігу). Пілімоніха, Мар'я! Што ты ведаеш у гэтай справе?

**Пілімоніха** (жэстыкулюючы). Паночкі мае! Я — баба зусім простая... Я папросту скажу. Як я толькі ўстала і спаднічку не пасьпела накінуць—чую, крычаць... Крык, зык, як якое што... Я цераз парог, ды на двор, ды каля хлявоў во к гэтаму самаму Янку... А там, браткі... во гэты самы Пахом во гэтага самага Янку лупіць бязьменам па галаве, а жонку яго адштурхаваець... Куды Янку супроць Пахома!..

**3-і судзьдзя**. Во трашчыць баба!

**1-ы судзьдзя**. Трашчыць, як трашчотка...

**Пілімоніха**. Тады я, паночкі, як закрычу: ай, браткі, чалавек чалавека да сьмерці б'ець!! Тады Сымон выскачыў...

**Пісар**. Ну, добра... Пажджы. (Пішаць. Паўза).

**Пілімоніха**. Тады я, паночкі...

**Пісар** (пішаць). Маўчы.

**Янка**. Ды як я яго буду біць, паночкі! Вы паглядзіце, які я ёсьць чалавек на сьвеце! Мае ногі й рукі паслабелі... (Хліпаець). Як-бы я...

**Пісар**. Маўчы. Усё разьбяруць судзьдзі. Усё будзе відаць. Плакам не паможаш...

**Пілімоніха** (завязаваючы хустку). Дай Бог, каб я да сваіх дзетак..

**Пісар**. Маўчы! (Пішаць). Пахом Цімахвееў! Ці няма ў цябе сьведкаў?

**Пахом** (падумаўшы). А во — Мірон, паночак! Мірона запытай.

**Пісар** (падміргаваючы Мірону). Ну, што ты ведаеш, Мірон?

**Мірон**. Іду я, браткі, па вуліцы... і чую (Скрабець патыліцу)...

**3-і судзьдзя**. Але Янкава справа зацягнулася...

**1-ы судзьдзя**. А зацягнулася, аж вочы зьліпаюцца... Ну, кажы, кажы, Мірон... што там на вуліцы...

**Мірон.** І чую, паночкі, крычаць у Янкі. Я—пад вакно. Гляджу, а там бунтацыя! Садзяць адзін аднаго пад бакі і пад уздушша... А тады й паваліліся... Паваліліся, ляжаць...

**Голас з грамады.** А ці быў-жа ты дома тады, як у іх бойка была?

**Пісар** (с т р о д к а). Маўчы, дурань, калі цябе ня пытаюць! Паглядзі, стараста, хто там гамоніць... (С т а р а с т а х а в а е ц ц а ў г р а м а д з е).

Д в о е з с я л я н в ы х о д з я ц ь з к а н ц э л я р ы і с а с л о в а м і: „Відаць, і ў чацьвёрты раз Янкіна жальба ляпнець.“

**Мірон.** А тады Янка Пахома бязьменам па баку... па баку... па сьпіне...

**Голас з грамады** (н а с ь м е ш л і в а). Іш ты!

**Янка.** Хто-ж скажаць, браткі, калі я каго пабіў!? Калі ты гэта відзеў, Мірон? Дай Бог мне во на гэтым месьце праваліцца, калі я хоць-бы каго зачапіў...

**Пісар** (п і ш а ц ь). Маўчы! ты ўжо ўсё сказаў. Дакучыў, як горкая рэдзька.

**Янка.** Як усё? Мая жальба яшчэ не разьбіралася... Няхай судзьдзі... сьведак дапытаюць...

**Старшына** (с т у к а ю ч ы п а с т о л е). Табе сказана маўчаць! Ня чуў, што пан казаў?

**Сторож** (п а д х о д з я ч ы д а с т о л у). Паночак! Паня казала, каб пан кідаў суды: пан Калдуноўскі прыехаў, — жджэць у карты гуляць...

П і с а р з а к р ы в а е ц ь к н і г у і с ь п е ш н а в ы х о д з і ц ь, с т а р ш ы н а з а ч ы н я е ц ц а ў б а к о ў ц ы.

## ДЗЕЯНЬНЕ II.

**Янка** (д а с у д з ь д з я ў, я к і я з а п а л і в а ю ц ь а д з і н у в а д н а г о п і п к і). Якая гэта праўда на сьвеце, паны судзьдзі!? Калі за мяне ні пан пісар ні пан старшына ня цягнець, то й паміраць трэба? Вы-ж ведаеце, браткі, што я ўжо пяць гадоў жыву адзін, — б'юся адзін... Брат мой самаўпраўна аддзяліўся і цяпер капаець мяне з гаспадаркі... І мяне забіваець...

**2-і судзьдзя.** Па-добраму, яжэлі так, як па справядлівасьці, — Пахому трэба было-б усыпаць... таму—ня крыўдзі, яжэлі дужэйшы... па сумленьню, браткі...

**1-ы судзьдзя.** Што ты, Лявонавіч, кажаш? Каб-то ён добры быў-бы чалавек, і бяз бойкі, бяз гоману паміраўся-б... і на суд не хадзіў-бы...

**3-і судзьдзя.** Гэтую справу бяз пана не разьбярэш, таму тут пан з губэрні паперу меў... Пан прыдзець, тады відней будзець... Мы ў паперах ня 'дукованы.

**Янка**. Але што там—пан!.. Пан ды пан... Пан з старшынною за яго. Усе людцы гэта ведаюць... Чаго да мяне брат прыцураўся? Ды калі-б прыцураўся і сваю гаспадарку прынёс, ато прышоў з пустымі рукамі, заняў пол, дзетак маіх вон гоніць, мяне б'ець, жонку б'ець, гаршкі б'ець, а падаць сьняданьне альбо вячэру — ён-жа першы ля столу з дзяцьмі... Другі год такое жыцьцё! Рату-уна-чку няма! Браткі мае! Ратуйце ад сьмерці-і-і! (Плачаць).

**1-ы судзьдзя**. Ды што там талкаваць? Разьбярэцца, як пан прыдзець!.. Пан на гэта 'дукован.

**Янка**. Ды што-ж, калі пан прыдзець? Хіба лягчэй мне пры пану?.. Лявонавіч, ты-ж усёткі відзіш, якое куды што ідзець... І якое маё жыцьцё... Бульбу Пахом выкапаў... Тады мала яму гэтага... пашоў у клець і выграб муку і занёс да Бэркі, а сабе ключ узяў... Я—к старшыне жаліцца: вы сабе, кажаць, біцеся, калі дзяліцца з ім ня хочаш... Тады я... у восень падаў жалабу... Суд пацягнуў за яго, за Пахома, знацца... Я ўзяў кофію — ды ў прысуцтва. Прысуцтва сьпісалася з валаскою і на! прысудзіла тое самае разабраць валаскім судом... Тады я папрасіў напісаць і махнуў прашэньне ў губэрню... Губэрня думала з паўгода і прысылаець па маёй жалабе паперу, што, знацца, адмяніць што якое было раней... і Пахому, знацца, трацьціна, а мне дзьве трацьцінкі на 8 душ па маіх сілах... Але хоць і губэрня напісала і падпісалася, а ён мяне ўсеткі зжываець, таму ў яго болей сілы-ы-ы... (Плачаць). Стараста прыдзець, быццам выганіць яго, а сам толькі шэпчацца, што, знацца, енчы яго, енчы яго, мяне, знацца, тады ён і трацьціну аддасьць... Ты яго, кажаць, цісьні, як ніхто ня відзіць...

**2-і судзьдзя**. Памойму, знацца, трэба было-б Пахома ці сьцебануць, ці пад арэшту... Таму супроць закона і непаслухмянства...

**1-ы судзьдзя** (зяваючы). Ну, Лявонавіч, ты-б усіх ці пад арэшту, ці ў работу, ці абсячы... а трэба справу глядзець па праўдзе, па кнігах, па 'дукацыі... 'Дукацыя — перш-наперш...

**3-і судзьдзя** (закураваючы). Пойдзем, браткі, пакуль адпачнём... Таму бяз пана толку няма...

**1-ы судзьдзя**. Пойдзем. Аднак і старшына там.

Выходзяць у бакоўку, і цераз нейкі час адтуль чуецца голас старшыны: „Пі на мой адказ!“ Сяляне гамоняць цішком. Янка стаіць ля краткі з пахіленай галавою і часта ўздыхаець.

**1-ы мужык** з грамады. Пакуль перап'юць—аддыха ад працы, ад турбацыі...

**2-і мужык**. Добрая аддыха,—дай, Божа, перапіць у кумпанстве... на чужы кошт.

**3-і мужык.** Схадзі-тка, Зьмітрок, паглядзі—піва ці гарэлку...

**Зьмітрок** (падходзіць і доўга глядзіць у шчэлку скрозь дзьверы, тады цягнець паветра носам). Гарэлку, здаецца...

**Пісар** (убягаючы ў канцэлярыю і шыбка скіраваўшыся на сваё месца). Ты чаго тут, Зьмітрок? Што-о? Што табе трэба? (Адпіхаець яго за краткі). Ступай к чартам, дурань!.. Дзе судзьдзі?

**Голас** (з-за дзьвярэй бакоўкі). Мы тут, паночак!

**Пісар.** Ну досыць вам там бібікі біць... Ступайце на места!

Судзьдзі выходзяць адзін за 'дным, усьмяхаючысь і вясёла паглядаючы на сялян.

**І-ы судзьдзя.** Ну што, панок, будзець з Янкавай справаю?

**Янка.** Пан барын і паны судзьдзі! Няўжо-ж я і ў чацьвёрты раз застануся бяз усякага ўсяго... Што брат за мяне багацей і да людзей больш доступу маець, а мая справа бедная і ўсё куды ні пойдзеш...

**Пісар.** Маўчы! Дакучылі даўно ўжо твае байкі. Без цябе ведаюць, што рабіць. На тое закон ёсьць. Ты во толькі й прывык жаліцца. У цябе другой работы няма! Іншыя людзі ідуць кожны па сваёй справе, а ты ў воласьць. Проста жыцьця ад цябе няма...

**Янка** (кланяючыся). Паночак! Ды вось жа на людзёх зроблена мне такое... усе... Усе людцы відзелі... Пахом прыехаў учора і ўзараў тую самую маю ніўку, дзе я ў суботу гарох пасеяў... Хіба гэта не разбойства?

**Пахом.** Я гараў? Калі?

**Янка.** Учора. Вб й Панкрат, і Дзёмка, і Міхалка, і Банадысь відзелі...

**2-і судзьдзя.** Што-ж ты робіш, Пахом? Хіба-ж можна на той самай ніве другі раз сеяць?

**Пахом.** Ды мальска што ён кажаць... Во Грыгор відзеў, хто гараў... тую ніўку, ці я ці ён...

**Грыгор.** Што я відзеу? Я відзеў, што Янка сам на той ніўцы ўчора гараў...

**Пахом.** Во што!

**Янка** (з газардам). Што-ж ты кажаш, Грыгор? А ці ведаеш ты, дзе наша ярына?

**Грыгор** (маўчыць). Пад раку ваша ярына...

**Янка** (расшпіляець каўнер сярмягі і жэстыкулюець). Вось, паны судзьдзі, наша ярына ідзець пад гай, і Грыгор за яго (паказваець на Пахома) цягнець... Усі за яго цягнуць...

**Пісар** (пішаць). Маўчы!

**Старшына.** Як мне, Янаўка, здаецца, ты сам больш усюдых вінават... Замест таго, каб табе жыць, як людцы... мірна, ціха, пабожаму, па хрысьціянскаму спаўненьню, ты ідзеш насупроць, на брата, цэлы дзень вантажышся, і сам ня жывеш, і людзём жыцьця ад цябе няма... Штоб аддаць брату трацьцінку, падзяліцца, як людцы дзеляцца, а ты яго енчыш... І ўсіх за нос цягаеш... І пану дакука і мне дакука... З валаской дамоў, з дому ў валаскую... Як раз у бацьку ўрадзіўся... Тож першы бунтаўнік быў... З Банадысёвага роду...

**Пісарыха** (адчыняючы дзьверы ў канцэлярыю). Старшына! ідзі-тка памажы сторажу загнаць цялушку.

Старшына шыбка выбягаець і цераз нейкі час варочаецца з словамі: „Во цялушка! Дай Бо-ожа! Найлепшая жывёлка!“

Пісар радзіцца цішком з судзьдзямі. 2-і судзьдзя часта махаець рукамі і ад часу да часу пярэчыць: „Не па закону!“.

**Пісар** (дапісаваючы пастанову). Іван Цімахвееў! Мірыцца з братам не жадаеш?

**Янка.** Паночкі! Ды я й рад-бы памірыцца!! Ды на чым жа мне мірыцца?.. Няхай-жа брат аддасьць маю хатку... Няхай пусьціць маіх дзетак на печку пагрэцца... Няхай...

**Пісар.** Маўчы! (Чытаець пастанову суда). „Выслухаўшы паказы Мірона Ігнатавага, каторы паказаў, што Іван Цімахвееў часта б'ець свайго брата Пахома..., каторы па законнаму палажэньню павінен валадаць палавінай часьці зямлі надзельнай, выпадаючай яму пасьля сьмерці іхнага бацькі, Цімахвея Панкратавага, і не бяручы пад увагу паказы гэнай Матроны Хвілімонавай, каторая, вачавідна, па сабраных спраўках знаходзіцца ў радні з вышэймененым Іванам Цімахвеевым, а таксама ўглядаючы са слоў Грыгорыя Цярэньцьевага, што ён сумысна парушаець валаданьні і межы вышэймененага брата яго, Пахома Цімахвеевага, каторы, вачавідна, і не выяжджаў у той дзень на гараньне, а быў у хаце, а таксама бяручы на ўвагу несупакойны абраз жыцьця вышэйменнага пазыўніка, Івана Цімахвеевага, і яго дзёрзкае захаваньне ў адносінах да свайго роднага брата, ня гледзячы на добрыя рады і ўгаворы тутэйшага старшыны, Падкухціка, і старасты, які не аднакроць зьяўляўся да яго ў хату, а таксама і паўсёднае вымаганьне яго судовага разбору і турбацыю валаснай управы, каторая дзеля яго і яго спраў прымушана бывае кідаць пільнейшыя справы воласьці, а таксама ўглядаючы з яго жыцьцёвага абраза вялікую нядоімку за зямлёю з прычыны паўсёдных судоў і боек з братам і зводу яго з маемасьці пасьля таго, — валасны суд пастанавіў: селяніна Івана Цімахвеевага ізноў сагнаць у вадну сям'ю з братам яго, Пахомам, і для падзелу іхнай маемасьці і іншых патрэб ся-

мейных зьявіцца на месца самой справы старасьце Сідараўскай грамады, а за несупакойнае сужыцьце яго з братам і частае парушэньне супакою воласьці ўзяць яго пад арэшт пры воласьці на адны суткі часу".

**Янка** (у вялікім абурэньні выступаець наўперад). Які-ж гэта суд? Мала што брат пісару паднясець альбо старшыне паставіць...

**Пісар** (крычыць). Маўчы, дурань!.. Цяпер разьбірацца будзець справа Вікеньція...

**Янка.** Браткі мае! Гэта чысты разбой!.. Мне дайце кофію... Я жалабу да губэрні!.. Мне губэрня дасьць парадак!.. Яна не паглядзіць вам у зубы...

**Пісар.** Маўчы!.. Цяпер выхадзі—Вікеньці Васільлеў!

**Янка.** Што брат занёс пісару цялё й масла...

**Пісар.** Сторaж! Вядзі гэтага дурня ў цёмную! От, быдлё!

**Янка** (жэстыкулюючы і адпіхаючыся ад стоража). За што мяне ў цёмную? Чым я каго пакрыўдзіў? У мяне сьведкі ёсьць, што брат мяне забіў!.. Што я капейкі за душою ня маю, каб вам вочы заліць... Бельмы старшыновы... і старaставы...

**Старшына.** Бяры яго з другога боку (Хапаець яго за плечы, Янка валіцца).

**Янка** (асіпшым голасам). Я ня ведаю... хіба... што ты цэлыя ночы... п'еш кроў хрысьціянскую... што брат для пісара і карову і каня прадаў...

**Пісар** (памагаючы цягнуць). Цягніце яго, подлага!

1902 г.

## З АПАВЯДАНЬНЯ «МІКІТАВЫ ХАЎТУРЫ».

### I.

У Мікіты з леташняга году стала ўдушша. За сахой ён ня мог ужо хадзіць, хоць і не стары быў па гадох: меў троху болей за шэсьцьдзесят. Кашаль яго зусім надарваў і прымусіў залезьці на печ. Тут дзедава жыцьцё пацякло дужа нудна: няцікавае падыханьне — ляжаць цэлую восень, цэлую зіму бяз усякага ўсяго.

А як прыйшла вясна, ды прыляцелі птушачкі, ды павеяла цёплае надвор'е, ды як сталі снудзіць сыны калёсы, сохі, бароны, — выйшаў дзед на прызбу. І так яму сумна зрабілася, што ён нікому непатрэбны, убогі, гулявы чалавек... Дзед рад сонейку, рад-бы век з ім не расставацца, ды кашаль ад ранішняга ветру яшчэ люцей к горлу падступаець, і ён ціха пляцецца ў хату і караскаецца на печ.

А неўдаўзе перад Купальлем дзеду так грудзі сьцяла і горла залажыла, што нечым стала й дыхаць. Дзед схіляў галаву з контура і кашляў без канца на ўсю хату.

Сыны яго, Янка ды Сымон, надта былі занятыя працаю, часу ня мелі аб дзеду клапаціцца. Ды-ткі праўду казаць, дзе можна раду знайці ад старасьці альбо ад старога кашлю? Гэта старасьвецкая хвароба. Адлежыцца на печы—хваліць Бога, не адлежыцца—з Богам ня біцца. Зельля хадзіў Сымон прасіць у бальніцы, а дзеда не вазіў. Фэльчар, праўда, бяз ніякай спрэчкі даў парашок і сказаў: „Хай стары ня есьць кіслага й чорнага хлеба... Хай твая баба варыць яму крупеню з мясам і даець хоць троху малака“. Дзед парашкі выпіў з вадою, а без капусты і бяз хлеба ня мог абыцца: якія-ж дастаткі ў хаце, каб пірагі ці крупеню з мясам есьці? А малака таго — хіба дзяцём па кухлічку.

Нявестка, жонка Сымонава, часта дзеда лаяла, што ён ні-то здаровы, ні-то хворы, ні-то чмурыць. Хлеба яму накраі, капусты налі, вады паднясі, з печы памажы лезьці, лапці пасушы, анучы памый — нялюбы клопат старога даглядаць. Іншае што, каб сьвякрова жыва была, — яна-б і даглядала. Але ня столькі таго й клопату, як зьвягі: нявестка языком больш звадзіла дзеда, як помачы давала.

У дзеда засталася пасьля нябожчыцы жонкі дачка Маланка. Вялікую ўцеху рабіла дзеду яе ласкавае слова, асабліва калі яна ўссаджавала к дзеду на печ маленькага дзедавага выхаванца, унука Цімошку. Хлопчык, пачуўшы, як дзядуля стогнець, садзіўся яму на калені і прытуляўся да грудзей

— Дзеткі мае любыя... відаць, сьмерць мая недалёка...—казаў дзед, галубячы ўнука.

— Татачка, маё золата...—хліпала Маланка, цалуючы дзеда. —Ты не памрэш... Кашаль? А ты не кашляй, грудзей ня рві... Во цяпер Купальле блізенька, я табе красачак нарву... Ну, выпі вадзіцы... і кашаль адпусьціць...

— Дзед! — казаў Цімошка, зьлязаючы далоў з печы,—мы з табою каня павядзём паіць. А тады запрагай калёскі—на кірмаш паедзем.

— Ах, дзетачка маё роднае, расьці на здароўе, а я ўжо аджыў сваё... Ах, як цяжанька... З таткам паедзеш... Татка Цімошку на кані павязець...

Пачулі сыны, што дзеду папраўкі няма, пайшлі прасіць Янчыху, каб зельля дала. Янчыха прыслала вады: „сем раз глынуць, сем раз папырскаць,—рукою зьнімець“. Але дзеду зельле рады не дало; перад вечарам зусім стаў слаба дыхаць і шэптам прасіў, каб прывязьлі бацюшку для споведзі.

З трудам удалося зьняць Мікіту з печы. Цяпер толькі сям'я яго ўвідзела, што дзедава сьмерць за плячмі, і неяк раптам усім жудасна стала. „Здаецца і ня ў прыцямку было... працы многа, хапаліся гараць, — думалася кожнаму, — спадзяваліся... цёпла

станець, сам паправіцца... Трэба-ж было-б к дохтару яшчэ звазіць"...

А дзядуля пасьля споведзі і душу выпусьціў, ня прыждаўшы доктара. Усе адразу прыціхлі, з нявераю пазіраючы адзін на аднаго, і раптам завылі й загаласілі на розныя галасы. Сьмерць нарабіла перапалоху ў хаце. Пабеглі людзей зваць абмываць дзеда, адсунулі стол з кута, разаслалі сяньнік на лаўцы, дасталі вопратку, што хавалі на дзедаву сьмерць. Абмылі дзеда, надзелі яму белую сарочку, белы балахон, зачасалі валасы й бараду, запалілі грамнічную сьвечку перад абразамі...

А сонца, схіляючысь да заходу, забегла касулькамі ў Мікітаву хату і скаўзанулась па твары мерцьвяца. Ляжыць дзед, ня міргнець вокам, сашчапіўшы на грудзёх свае загарэлыя мазольныя рукі.

Бабы абступілі дзеда, і хата перапоўнілася сумным, балючым выцьцём. Выцьцё гэтае расчуліла й мужчын і хлапцоў, яны прыхінуліся ля печкі, пахілілі галовы і ціха плакалі, абціраючы сьлёзы рукавамі сваіх сярмяг.

Маланка прыціскалася да дзедавых грудзей, цалавала яго рукі й выла:

Татачка, маё золата,
Татачка, мая зязюлечка,
Што-ж ты з Маланкай ня гукаеш,
Куды-ж ты адлятаеш,
З кім ты мяне пакідаеш?..

## II.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Што й казаць, хадзяйлівы быў чалавек, — гаварыў Янка Равун, перадаючы чарку Базылю Сапялю. — Ніхто, бывала, раней на поле ня выедзець... Пачнеш, бывала, гараць, думаеш: во, хвала Богу, сяньня ўсіх абганю,—глядзіш—з-за гары паказаваецца вараны конь, а за ім валіць Мікіта... Ну, сустрэнемся, паздароўкаемся, хвалім надвор'е. А ен: „Хваліць Госпада Бога, лянок ужо пасеяў"... Калі-ж ты пасьпеў? — „Ды во, кажаць, адвячоркам заскачыў... Што-ж, кажаць, кідаць, — трэба канчыць работу. Ну і пахаў, пакуль зара за лесам не схавалася"...

— Да працы найлепшы быў чалавек, — згаджаецца і Мартын Капец. — Раз мы стаім побач на лагу: ён на сваім шнурку, я на сваім. Точым косы, зюкаем [1]) аб надвор'і, аб кірмашы, аб грыбох, аб новым пісары. А Мікіта й кажаць: „Пойдзем у перагонкі" [2]) — Што ты, кажу, уздумаў старыя косьці ламаць? —Ды во, кажаць, спомнілася, як быў малады... — Сталі мы поплеч.

---

[1]) Гамонім. [2]) Навыперадкі.

Разанулі, размахнуліся... Каса ў мяне гудзіць-зьвініць, здаецца, за вярсту адыйшоў, аж Мікіта тут пад ногі падступаець...

— Ды йдзіце вы, бабы, годзе вам плакаць, — умаўляў тымчасам баб Сымон... — Адцягні ты, Янка, Маланку... Ідзіце, бабы, выпійце... Ну-ну, ня плачце, ня выймайце вы ў мяне душы, — казаў ён са сьлязьмі ў вачох... — Гора мне з вамі!

А дзяк у лад агульнаму клуму й гоману, перачытаваў старонку за старонкай псалтыру. Яго аднастайнае, хаўтурнае, з расьпевам чытаньне гучэла асабліва рэзка па хаце ў тыя перарыўныя часіны, калі ўсе раптам сьцішаліся. Голас яго зусім не падходзіў пад агульны настрой: „Вскую любіце суеты і ішчэце лжы... Возверзі на Господа печаль твою.[1])

— Ды ты, Сідар, ня піў, здаецца? — прыставаў тымчасам Сымон да Сідара, які не гаманіў з усімі разам і сядзеў на палу ля печы.

— Господі, Господь наш, яко чудно імя Твое по всей землі...

— Я ўжо піў адну, а болей — не, не! — аднекаваўся Сідар.

Сымон паставіў пляшку на вакно. Усе спачатку дружна гаманілі, галасы іх зусім глушылі псалтырны напеў, але неўзабаве адзін па адным пачалі выхадзіць дамоў, і цераз больш-менш даўгаватыя перапынкі часу былі ўжо такія моўчкі, калі голас дзяка і траскатаньне запечных цвыркуноў моцна разьлягаліся па хаце. Ды во йзноў нехта перарвець маўчаніну, спомніць, як даўней жылі пры панох, як даўней многа было рыбы й ракаў, як карчмарам добра жылося, як гарэлку патаённа курылі, як даўней коній кралі і як-бы ладна было, каб ня было зусім ні зладзеяў, ні разбойства, ні гандляроў, каб людзі не забываліся на сьмерць і на Бога, — і моўчкі ўзноў панууюць, а каля печы нехта пазяхаець.

— А я так думаю, — казаў Базыль Капцявы, — што яжэлі чалавек жывець, то й паміраць надыбе... Надыбе на Бога не забывацца... Тут жывеш на зямлі, тут рыешся, думаеш, векзавешны будзеш панам, а тут на! табе — сьмертухна! Бывай здаровенька тады ўсё, адказавай і хамуты, і бароны, і якое што іншае мазалём сваім дабыў... А затое, што зямля табе і неба табе... Во што!

Усе згаджаліся з ягонымі думкамі, ніхто ня сьпіраўся, а старыя дужа ўздыхалі, цялі сябе ў грудзі і паўторавалі: „Ах, Божухна Ты наш міласьцівы! Ах, грэшныя мы людзі на сьвеце!“

— Мікітава хоць-бы жыцьцё... Чалавек трудзіўся, енчыўся... а во напала ўдушша... Рады няма!

Прапяялі пятухі. Людцы хрысьцяцца і многія, пазяхаючы, выходзяць. Пасярод хаты ўжо пуста. Мужчыны сядзяць на лаўках, панурыўшы галовы. У кожнага невясёлыя думкі. Сьмерць

[1]) Намарна любіце жыцьцёвы клопат і шукаеце падману... Да Бога зьвяр ні тугу тваю...

як слова падыйшла да кожнага. А Мікіта ляжыць зусім пакойна, з тою-ж пячаткаю няверы на твары... Ён усё, здаецца, думаець аб нечым, нешта хоча пераказаць сваім хатнім, сваёй Маланцы, як быццам аднаго толькі слова ня маець... Во дайце яму гэнае слова, уздумайце, пачніце толькі яго вымаўляць, і ён усё пераважаць... Ляжыць Мікіта са сваёю труднай думай на чале, і сьвяча васкавая, самадзелкавая, над галавой у яго міргаець, патрошку трашчыць, а закапцелы аблік сьвятога Міколы аглядаець усіх людцаў.

— Божэ, Божэ мой, вскую оставіл мя... далечэ от спасенія моего словеса...— разносяцца ўжо валадарныя гукі дзякоўскага чытаньня, і пад яго тужлівасьць яшчэ ніжэй схіляюцца галовы зморaных цяжкою дзеннаю прыпарнаю працаю сялян.

— А што, браткі, пара ўжо й труну пачынаць рабіць? — спытаўся Сымон.

— Ды што-ж? Трэба прыймацца, — адгукаецца колькі чалавек.

Мужчыны ўзьняліся з лавак і сталі распранаць армякі, скідаць насовы, лепей падпяразваліся і вешалі шапкі на крукі.

Тодар прынёс з надвор'я тыніну і зьмерыў нябожчыка. Янка палез на вышкі і стаў скідаць адтуль дошкі. Мужчыны адзін за адным выйшлі ў сенцы і панясьлі дошкі ў істопку, куды Сымон да гэтага часу прынёс тры пляшкі гарэлкі. Мужчыны пераксьціліся, выпілі па чарцы і застучэлі сякерамі, астружкамі, зазьвінелі пілямі...

— Слаўныя дошкі Мікіце трапіліся! У гэтакай труне адлежыцца ён, аж бакі забаляць,—жартаваў Базыль Капцявы.

III.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сымон пабег па хатах прасіць яму капаць. Ахвотнікаў не знайшлося: мусіў бегчы ў поле—многія выехалі ні сьвет ні зара ляды церабіць. Доўга Сымон упрашаў Самуся і Кубышку зрабіць Боскую міласьць — пастарацца на дзедавы косьці ямку. Суседзі мулілісь, часалі патыліцы, жалілісь на тое, што работы па горла ў прыпарны час, але Сымон не пакідаў прасіць, кажучы, што ў яго толькі на іх і надзея, што Кандрат і Пятрок пойдуць на зборку ў воласьць, што Банадысь адзін над зямлёю б'ецца (сыны яго на заработках у Мітаве), што Хвядос і рад памагчы гору, але руку пасек, што Сапрон таксама не адмаўляецца, але прыдзець на падмогу пасьля сьняданьня. Суседзі паслухалі. Яны вярнуліся дамоў, адпраглі коні, знайшлі грацоўкі[1]), зьнялі мерку з Мікіты і пайшлі на могільнік. На дарогу ім далі на хаўтурах чатыры пляшкі гарэлкі.

1) Лапаты.

— Суседзі мае любыя, — казаў, як выходзілі яны, Сымон: панатужцеся... час позны... трэба дзеда з паўдня-б хаваць... А прыдзець Сапрон на падмогу, прынясець яшчэ гарэлачкі... Трэба-ж добрым людцам і падкрапіцца, работа нялёгкая...

— Ды ўжо ня будзем марудзіць... Не ляжаць-жа Мікіце цэлы дзень бяз усякага ўсяго... Аддыхнуў за свой век, на печы лежачы,—сьмяяліся суседзі.

IV.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У хаце, як прыехаў бецюшка, выцьцё паднялося. Мікіта ляжаў ужо ў труне. Труну паставілі на зэдліку ля лаўкі. Бабы абступілі яе з усіх бакоў. Прычытаваньні зьліваліся ў жаласны, маркотны скогат...

Мужчыны ад раньня й начы пасьпелі значна падбадрыць і падкрапіць сябе гарэлкаю. Тыя, што майстравалі труну, стаялі цяпер ля печы й даволі клумна гутарылі аб тым, што на сьвеце ёсьць многа ўсяго ўсякага. Базыль Капцявы даводзіў свайму супярэчніку, Мартыну Капцу, што ён многа людзей пахаваў на сваім веку, і не такіх, як Мікіта, што ён усяго ўсякага перавідзеў, што ён знаець усе парадкі, што ён і па пісьменнай часьці можаць расьпісацца, што ён і не такі тутун курыў, што ён заслужыў на чарку гарэлкі, што ён... Але Мартын спыніў яго, паказаўшы на вакно, з якога відаць было, што прыехаў бацюшка, і пара, знацца, усякую гавэнду скончыць.

— Ды я што?.. Я нічога... Я сваю работу знаю... — гарачыўся Базыль. — Я цэлую ноч працаваў... Мікіце дамавіну пастроіў. Прынамся ёсьць дзе расьцягнуцца... Пастроіў дом на векі! Будзець век... векаваць і нас спамінаць!

— Адвядзіце баб ад труны!—сказаў бацюшка, паказваючы на груд плаканьніц. Мужчыны з дапамогаю Йванавіча (д з я к а) сталі адцягваць баб. З трудам адставалі заплаканыя твары ад мерцьвяца. Бабы зьдзержавалі сьлёзы, што каціліся градам. Сунятае выцьцё патроху стала перахадзіць у ціхі плак і ўздыханьні.

Пачаўся провад.

Бабы зашапталі малітвы, абціраючы сьлёзы рукавамі і зьміраючы сваіх дзяцей.

Мужчыны таксама шапталі малітвы, пільна хрысьціліся і дужа ўздыхалі.

— Ах, Божа наш міласьцівы!.. Ах, грахі нашы цяжкія!... Ах, Матка наша, Царыца Нябесна! — чулася ў розных кутох хаты.

Ды во запяялі „П р і і д і т е   п о с л е д н е е   ц э л о в а н і е“, і бабы ўзноў абступілі Мікіту. Цяпер жаль стаў найвялікшы. Здавалася, усё гора, якое сабралася ў душы беднага чалавека, ха-

палася вырвацца на сьвет. Жалобныя гукі перапоўнілі хату і хваляю пераліваліся з яе ў сенцы, на двор, на вуліцу, за ток. Ахопленыя гэтымі сьлёзнымі гукамі, і мужчыны ніяк не маглі не заплакаць. Дзеці равелі на руках у сваіх матак. І ўвесь гэты сумны скогат зусім заглушыў галасы бацюшкі й дзяка ў астатніх праводных маленьнях.

Асабліва адзначаўся голас нявесткі:

А куды-ж, дзядуля, сабраўся,
А з кім-жа ты нас пакідаеш,
А дзе-ж будзеш ночку начаваць,
А хто-ж табе пасьцельку пасьцеліць,
А хто дзядульку накорміць,
А хто дзядульку абагрэець,
А хто з дзядулькай пагукаець,
А хто дзядульку прызабавіць?
Хто-ж цябе будзець там сустрачаці,
Хто цябе будзець даглядаці,
Хто табе будзець піць даваці,
Хто табе пасьцельку будзець папраўляці?
Дзядульку ў зямлю закапаюць,
Дзядульку крышкаю зачыняць,
Дзядулька вочак не адчыніць,
Дзядулька ручак не падымець,
Зямля дзядульку прыцісьнець...

Маланка зусім надарваным голасам выгукала:

Татулечка мой родненькі,
Татулечка, маё золата,
Татулечка — мая зязюлечка,
Згукай-жа Маланцы хоць славечка,
Адчыні вочкі хоць трошачку,
Пажалей Маланку наастатачак...
Божухна мой, Божанька!
Я-ж буду плакаці-гараваці,
Што майго татулькі ня відаці...
Калі-ж цябе ў госьці дажыдаці,
Якой дарожкай сустрачаці?

— Ну, даволі, даволі вам плакаць... Даволі душу ірваць... Богу маліцеся, а ня плачце,—умаўляў бацюшка.—Пращчайцеся і закрывайце труну. Пусьціце рабятак... Ну, пращайцеся, рабяткі, з дзедам! Падхадзіце, мужчыны! Іванавіч, адхіні баб!.. Ну во, так... Нясіце века! [1])

[1]) Крышку ад труны.

V.

Дарога на могільнік ішла па кургану, цераз яравое поле. Здалёку за даўгім шнуром лагоў цякла рэчка. Нівы былі ў самай сіле. Аўсы, гарохі, ячмяні на сьвятле заходзячага сонейка глядзелі радасна. Жаўранкі лілі сваё: цюр-люр-лю! бесьперастанку. Зязюлька за рэчкаю цьвярдзіла сваё спрадвечнае: ку-ку!

Ціха плятуцца людцы за труною. Чуюцца цяжкія ўздыханьні. Вочы працоўнага люду радуюцца ласцы Боскай, — радуюцца буйному росту ярыны, ды разам з тым і маркота сьціскаець грудзі пры думцы, што сьмерць за плячмі.

За папарам пачынаецца сасновы бор, у якім і ёсьць кладзішча [1]). Векавыя сосны прынялі пад свой засень груд крыжоў. Тут спрадвеку-вечнага ляжаць дзяды-прадзеды Мікітавы. Сюды сыйшлася уся сіла сялянская, каторая сотні гадоў пахала-ўрабляла зямельку. Адны крыжы ледзьва ўжо дзяржацца на сваіх камлях, другія не пасьпелі яшчэ пачарнець. А во пад гэтай старою сасною — усьцяж сьвежыя курганкі, у якіх закапаны дзеткі, скошаныя ў тую зіму шкарлятынай. А гэта грамадка крыжоў, большых, меншых і серадовых — гэта магілы Нікіпара і яго сям'і: за адзін месяц выправіла сюды гарачка бацьку і яго пяцёх сыноў.

Ля магілы старога Грыгора, над каторым сыны яго паставілі вялікі чырвоны крыж з абразом Спаса, — і выкапалі яму Мікіце. Што-ж? Жыў Мікіта з Грыгорам у дружбе. Ніхто ня помніць, каб яны за што вадзіліся. Грыгор Мікіту паважаў за чалавека неблагога, сваім чарадом і Мікіта любіў Грыгора за яго шчырую душу. І калі жывучы ня вадзілісь, дык у магіле—і патым-таго.

— Сабраліся старыя ў дружбу, — заўважалі прынёсшыя труну: — ну й паляжаць у дружбе...

А Маланка гаманіла з бацькам на астатняе разьвітаньне:

Маё золата, татачка,
Мая рыбачка, татачка,
Сонейка маё яснае!
Адчыніце мне труначку,
Дайце мне татульку пацалаваць,
Дайце мне на татульку паглядзець,
Татулька ў лесе застанецца,
Татулька зямелькай засыплецца...

---

[1]) Могільнік.

# Мар'я Мікалаеўна Косіч.

## З РАСКАЗУ „НА ПЕРАСЯЛЕНЬНЕ!"

(1903 г.).

Мы ў сваім сяле век свой векавалі, — ну, такой нуды, як нам у Сібіры, нашы дзяды й прадзеды не зазналі.

Наша-ж то сяло стаіць пры рацэ, а за рэчкай — луг, а там усё — дубравы... Ёсьць у тых дубравах равы глыбакія, горы высакія, ляды шыракія.

Лецечкам сьвятым чаго ў нас няма? У нашым гаёчку грыб, арэх і жолуд; усякая ягада: і суніца [1]) і брусьніца, касьцяніца і чарніца, і рабіна і каліна, — усяго ёсьць там! Чорна ягада смародыня — і тая расьце па лугам. А што па вясьне [2]), як пачне лес раскідацца, усе лужкі-даліны траўкай ураджацца, какалуша [3]) па лесе распушчацца! Божухна мой мілы, во як там прыгожа! Такія дзіковінкі, як там у Расусе [4]), ня знайдзеш ніўдзе у цэлай акрузе.

У нас крэпка [5]) душна улетку ня бывае. А што там узімку, як мароз прыцісьне, — унясеш у хатку сухенькіх дравец, вытапіш ляжанку, тады наша хатка—цёплая, як матка. Сядзіш сабе—люба! Псканьні прадзеш, а шчэ, калі трапіцца, й песьню завядзеш. Праўда, што бывала хлеба небагацька — ета ня ў дзіковінку. Хоць галадавалі, ды не памiралі! Там у нас і так бывала: у каго хлеба не хватала, паедзе на „паньскае", нарубае дроў, воз лык накладзе, у горад адвязе, — і хлебца прыпасе. Можна было жыць: што Бога гнявіць!

## З БАЙКІ.

Раскажу вам, браццы, штуку пра рака, лебедзя і шчуку. Як яны вазіць на лінію каменьне падлякліся [6]), наклалі воз і ўсі трое у яго ўпрагліся. Кожны цягне сваім трахтам: лебедзь прэ у паднябесьсе, а рак ня хоча так,—ён кажа: то ня ў лад, трэба —назад. Ну, шчука на сваім стаіць! Вадой, кажа, дастаўка легшы. Тапталісь доўга кала воза, аднача паміж іх ніхто там раду не знайшоў... А воз яшчэ й пасюль вязуць; на лініі яшчэ й цяперацька таго каменьня ждуць!

---

Во так-то, браццы, й мы! Мы, чаб, самы ня зналі, што ў класе ўсю Піліпаўку малцы калелі, а ў вучыцелькі ўвесь мясаед зубы балелі. Вякала яна, бядняга, вякала... І к старасьце ха-

---

[1]) Пазёмкі. [2]) Аб вясьне, вясною. [3]) Какалуша—калакалуша —чаромха. [4]) Назоў сяла. [5]) Надта. [6]) Дагаварыліся, умовіліся.

дзіла, дамоў малцоў прагнаць гразіла, ніхто ёй радачкі ня даў і жодны [1]) свайго дзела пілнаваў. Ну што-ж састоіць жоднаму двару воз дроў прывезьць? Трыццаць двароў — трыццаць вазоў. Дык не-ж! Ніхто ня хоча палцам шавалнуць...

---

Калі-б хто добры, ато й бабы туды-ж! Загадалі мост [2]) у школе мыць. У ваднэй палец баліць, у той дзіця малое, той некалі [3]), а тая й зусім схавалася ад соцкага у клець: скажы, кажа, дзіцятачка, што матка далёка ў полі лён бярэць. Гляджу, аж тая, што палец болны, на рэчку плацьце праць нясе. Ага! На сваё дзела вы дасужы, а школу мыць нядужы [4])...

## Восіп Данілавіч Арлоўскі.

### З „БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ РАСКАЗАЎ“.

* * *

Нудныя мае вершы і прозы, —
Я ня крычу: браціе, віват!
А кажу, што сьвет чакаюць сьлёзы, —
Ці-ж я гэтаму вінават?
Гэта яшчэ ня ёсьць ліха,
А самае ліха ўперадзі;
Да таго зробіцца няціха,
Што хоць ты на сьвет не глядзі!

* * *

Старыя ад маладых уцякаюць,
А маладыя за імі бягуць усьлед;
Адны і другія толькі мільгаюць;
Сягоньня молад, а заўтра — дзед.
Кожны ў госьці прышоў, —
Ды і госьці тут трудныя!
Што-ж ён добрае знайшоў?
Мы усе тут бядныя!

* * *

Цары цытадэлі украпляюць
Яшчэ на сотню тысяч лет
І больш запасаў ваенных скапляюць:
„А! яшчэ пастаіць сьвет“.

---

[1]) Кожны, усякі. [2]) Падлогу. [3]) Няма часу. [4]) Гаворка Мглінскага, Суражскага і інш. беларускіх паветаў Чарнігаўшчыны.

А гэта і ў галаву ня прыходзіць,—
Або-ж народ ужо сьлеп? —
Зато ўсё ужо на нет сходзіць!
Здаецца, відзіць ужо й кеп [1])...

* * *

Паглядзі, пане чытацель,
Што на зямлі тварыцца!
Відзь мы тут — дачасны абітацель,
А за што-ж нам сварыцца?
Жудасна усё гэта бачыць, —
Да чаго, казаў той, даходзіць!
Хто скачаць, а хто плачаць,
А хто поўзаець, а ня ходзіць...

* * *

Ня ўжо-ж вы гэтага ня бачаце,
Што мы стаім ля парога?
А вы яшчэ толькі кулдаячаце [2]),
А ня просіце вы Бога?
Бог скора сатрэць усё ў прах,
І багатыроў чакаюць сьлёзы,
Бо вялікі настанець страх
Ад бяды вялікай дозы!

* * *

Не асудзі мяне, Грышка,
І не асудзі, Тарас:
Я гэтаму не вінават, брацішка, —
Тут многа ёсьць і пра вас.
Можа, каму будзець і не па гумору,
Але душа мая не вінавата;
Я тут пісаў усё без разбору,
Не шчадзіў я і роднага брата.

## БЕДНАСЬЦЬ І БАГАЦЬЦЕ.

I.

Скажы ты мне, брат Баўтрук,
Адкуль гэта залежыць беднасьць і багацтва?
Ці гэта ўжо ёсьць ад Божых рук,
Ці гэта хто якога брацтва?

[1]) Дурны. [2]) Ляпечаце.

Іншы гаруець і працуець,
І б'ецца ён, як рыба аб лёд, —
А ўсё ён багацьця ня чуець
І п'ець палын, а ня мёд.
Іншы есьць, п'ець і ляжыць,
І ўвесь у раскошы аплываець,
А к яму доля так і бяжыць,
І ніякой бяды ён ня дбаець.

II.

Вось іншы моліцца дзень і ноч,
І для ўсіх ён дабрак,
А на яго усякая немач,
І век цэлы ён батрак.
А хто, як мядзьведзь, равець
І нікога ён ня любіць,
То Бог багацтва яму даець!
А можа Бог яго губіць?!

III.

Ці відзіш ты, Кандрат,
Што нам няможна жыць?
Глядзі-ж ты, мой брат,
Што бяда за бядой бяжыць!
Гэта-ж за тры дзесяціны зямлі
Да пятнаццаці рублей плаціць,
А сваей няма чым карміць сям'і,
А толькі ім трэба гаціць.
Аднаго каня і аднэй каровы,
Як хочаш сабе, гадуй.
Вот і будзь ты вясёл і здаровы,—
Толькі дзень і ноч бядуй.

IV.

А што-ж, брат Мікіта,
Нас усе дзяруць;
Нам жыць ужо — квіта,
З нас пасьледняе бяруць.
А заарандуй у пана зямлі кусок,
Дык ён скуру з цябе зьдзярэць,
Ты яму не адплацішся за пясок,
Ён пасьледняга каня забярэць.
Ён не паглядзіць на гэта,
Хоць ты перад ім і галасі,
Што нядобрае было лета,
А ты арэнду яму нясі.

Я знаю і такіх многа,
Што да міліёна дзесяцін,
І толькі на яго аднога!
Ці ён-жа і ў Бога гаспадзін?!
А ці гэта-ж нам няможна падзяліцца,
Каб мы добрыя былі?
І ня трэба нам было-б давіцца,
І усе-бы спакойна жылі.
І ніхто-бы ня скітаўся
Бяз усякага прытулку,
А кажынны-бы за дзела узяўся
І ня крычаў-бы ратунку.

V.

Госпадзі, ураджай дай!
А што ўрадзілася на зямлі,
То памешчыку усё аддай,
А тваёй ня трэба сям'і...
А хто-ж можаць ім сьлязу абцерці:
Цар зямны ці Нябесны?
А не, то лепей ужо памерці,
Бо для бедных сьвет цесны!
Няўжо ты думаеш жыць
Сто тысяч лет?
Міліёны павінны тужыць,
А я—то ўжо, верна, нет?
І няўжо так павінна быць
Да сканчэньня міра?
І ня будзем бліжняга любіць,
Што ня йграець ліра?
І цяпер хто п'ець віно і бір [1]),
А каму—бед вялікія дозы;
У каго грандыозны пір,
А многія п'юць сьлёзы.
Хоць-жа я ужо і старык,
І ужо я нямножка сьлеп, —
На кладзішча павязець мяне шасьцярык!
Ды і паставяць у склеп.
Папоў або ксяндзоў
Будзець пяць або шэсьць
І вялікі званоў зоў,—
Мне і па сьмерці будзець чэсьць.
Коні будуць жалобаю пакрыты,
Як павязуць мяне на пагост,

---

[1]) Піва.

Гроб будзець злотам увесь аббіты,
І не адзін скажуць тост.
А грошы хаця і астаюцца,
То ня дам беднаму зброду,
Хай сабе з мяне сьмяюцца,
Лепей кіну іх у воду.

VI.

Ці відзеў ты на ўсім сьвеце,
Каб беднаму хто памог?
Гэта ўжо у мяне на прымеце:
Калі і паможаць, то... адзін Бог!
Другі хоць сабе і багач —
На словах літасьць маець,
А перад ім галасі сабе і плач,
А ён аб табе і ня дбаець.
Ён перад табой па табе бядуець,
Што ты саўсім бедны,
А глядзі, чым ён цябе ратуець:
На! рубель табе медны...
— „Я, кажаць, сваю маю заботу!
А за сьвядчэньне ў цябе ці ёсьць?“
— „Ды я выламаў яго з плоту!“
І ці гэта-ж ня злосьць?
У мяне засьвядчэньне, або білет —
Дубовая ў руках палка;
Я сам ужо старых лет,
А хаджу так і змалка!

VII.

І ці гэта Бог нас дапусьціў,
Што мы так ходзім?
Не, гэта—той, хто нас апусьціў,
Што мы і прытулку не знаходзім.
Мая гутарка, здаецца, к месту, —
Як-жаж мне і маўчаць:
Паглядзі на мужчыну або на нявесту, —
Аджа-ж і яны крычаць!
Крычаць ды яшчэ аж і плачуць,
Што аж кроў ліецца руччом,
І ўсе гэта ужо бачуць, —
Ды і гэта ніпачом!
А, Божа наш мілы,
Якая наша злая доля,
Што на Русі усе хілы, —
А калі-ж будзець воля?

Усе—роўна як сьпяць
І ня могуць прачнуцца!
А ўсе людзі з нас кпяць,
Што ня можам аглянуцца...
Няўжо мы тады прабудзімся,
Як сонца узойдзець?
Гэта-ж мы і есьці забудземся,
А слабы і ў магілу сойдзець!

VIII.

Няўжо-ж і мы павінны таго дзяржацца,
Чаго дзяржаліся нашы прэдкі?
А ці не пара нам за свае навукі ўзяцца,
Каб і мы былі меткі?
Самая большая беднасьць,
Калі чалавек дурань;
І гдзе-ж можаць быць еднасьць,
Калі ў аднаго дом, а ў другога курань?

## „ХУХРАКІ“ і „ЗБРОД“.

I.

А ці мы па йгрышчах не гайсалі,
Як былі мы дзяцюкамі?
А ці мы з табою не плясалі?
А цяпер мы ужо хухракамі!
Так бывала мы з табою пляшам,
Пад скрыпку або пад дуду,
Ды яшчэ аж і рукамі машам,
А цяпер пазналі мы бяду.

II.

Мы з табой ужо старыкі,
Нас задратуюць і куры,
Нам з табой насіць чацьвярыкі,
А гдзе-ж нам насіць пуры[1])?
Усё, сусед, прайшло
Мільгом, як майскі дзень;
А што к нам цяпер прышло,
То гэта для нас — цень!

---

[1]) 24 гарцы.

III.

Што-ж рабіць, брат Касян?
Відаць, Богу так угодна,
Што Бог робіць нам ізьян, —
Бо народ стаў жыць модна.
    Ня дзіва, што Бог нас караець,
    Калі ўжо і наш брат, мужык,
    І той: „Бога нетуці!“ — увяраець...
    Каб табе адсох язык!

IV.

Бог і цар даў нам свабоду,
А маладзёж цаніць яе ня ўмееabsorbing, —
Ты відзіш, сколькі стала з броду?
Вот нас і Бог ужо не жалеець.
    Маладзёж ня знаець ні Бога ні людзей, —
    Матку кулаком, а бацьку за грудзі!
    Ты чуеш, што робіць Хвадзей?
    Вот якія цяпер людзі!

V.

Як быў прыгон ды паны,
Дык мужык знаў саху, цэп і касу,
Не насіў ён на выпуску штаны, —
А цяпер ён — як шыш у лясу!
    Рабіць нічога ня хочаць,
    Ды каб смачна нажрацца,
    Па вуліцы ходзіць ды рагочаць,
    Ды каб прыгожа убрацца.
Калі грошы троху агадаець,
Дык гайдачкі ў горад,
А там у басякі пападаець,
Ды вошы ад'ядуць і ворат.
    А тады ўжо ходзіць ды галосіць —
    (Ён думаў бацьку угразіць!) —
    Заразы у дом наносіць
    Ды усю сям'ю заразіць.
Па этапу яго прывядуць,
А бацька заплаці за яго грошы,
Ато ў валасьці за яго аддадуць, —
Вот твой і сынок харошы!

VI.

Табе хочацца, каб насіць
Хутру і панскія камашы, —

Не, трэба Бога прасіць,
Каб Ён даў хлеба і кашы.
Я насіў каліту і шабалтас,
Толькі што ня мог у дуду іграць;
А цяпер Хведар і Пратас:
„Я, кажаць, не магу араць!"
Усе сталі, як панічы,
І вучацца піць гарбату;
Не, ня ўсім нам есьць калачы,
А трэба любіць саху, тапор і лапату.

VII.

Ні бацькі ні маткі ўжо ня слухаець,
Мяне бярэць ужо за грудзі, —
Ці гэта-ж з яго ўжо будуць людзі?
Ды старым дураком называець,
Бо ўжо на сілу надзею маець;
Як у гэтай школе пабыў,
Дык і на работу ўжо забыў.
У лапці ўжо ня хочаць абувацца,
Ды каб смачна нажрацца.
У кішэнь рукі кладзець
Ды ўжо і грошы патроху крадзець.
Да паўдня сабе сьпіць,
А ўстаўшы ідзець гарэлку піць.
А тады ўжо ходзіць ды сьвішчаць
Ды на бацьку вочы тарышчыць.
„Я, кажаць, цяпер ня панскі, а вольны
І розум маю ужо поўны!"

VIII.

Назаві яго: Мікіта,
Дык ён не адклікаецца, —
„Я, кажаць, ня Мікіта".
А я кажу: а хто-ж ты?!
А ён кажаць: „Я — Нікіт, а ня Мікіта!"

IX.

Нядобра, што нетуці на іх пана!
Перастаў-бы ён па вуліцы хадзіць ды сьвістаць
І перастаў-бы ён гарэлачку лыкаць,
А пашоў-бы ён касіць, дровы сеч і араць,—
А ня было-б яму часу гігікаць.

Не захацеў-бы ён у будні дзень боты надзяваць
Ды мылам рукі мыць па самыя локці,
А пашоў-бы ён старожку і варту адбываць
І скора-бы ён папаўся-б аканому ў когці.
Насіў-бы ён, юха, тое, што прыгожа мужыку:
Старую каліту і шабалтас,
Ды яшчэ рад-бы ён быў і аднаму гузіку, —
Так, як бывала і ў нас.
Гэта, бывала, рэдка ў каторага пры каліце
Пяток медных гузікаў сядзіць,
А ён носіць яе сьпераду, пры жываце,
А шабалтас сабе збоку вісіць.
А цяпер распусьціліся яны — ах, Божа наш!
Уся маладзёж пашла сваім торам:
Саўка, Паўлюк, Хведар і Кандраш,
І прапаў у іх увесь сорам.
Парасло на іх суччa, як на лазе,
Нетуці каму яго ацерабіць...
А ці гэта-ж яны жывуць у гразе?
Зато яны ня знаюць, як трэба жыць!
Каб яны гадаваліся, як і мы, у цьвіку
Ды спытывалі бярозавай кашы,
То яны пакорны былі-б усякаму чалавеку
І былі-б добрыя дзеці нашы.
Тады і сонца весялей хадзіла,
Як сьвятая розга хадзіла;
І ня было тады такой псоты,
А кажынны глядзеў сваей работы...

X.

Табе трэба такую жонку,
Каб умела таўчы і малоць, —
Вазьмі сабе лепей Фронку,
То будзець жаць і палоць.
Фронка можаць кросны ткаць,
І умеець есьці варыць,
Ён ня ўчыцца і хусты праць,
І ня будзець журыць.
Ёй злучалася на вяку
І дзяжу ня раз мясіць,
Ёй ня грозна быць і на таку,
А хоць сабе і касіць.
Не бяры той, што танцуець,
А каб за гаспадаркай глядзела,
Вазьмі тую, што працуець
І абы-што адзела.

Каб умела сшыць кашулю
І умела лапці сплесьць, —
Гэта, сын, табе, а не татулю, —
І каб магла сена грэсьць.
Худа, сын, з такімі жанамі,
Што а ні цюк да работы, —
А спадніцы з кружавамі...
Ды гэта проста сухоты!

XI.

Быў я ў Рызе і у Мітаве —
На кірпічным заводзе,
А усё я — ў бурлацкай справе,
Ды не на сваёй свабодзе.
Быў у Піцеры і ў Кранштаце, —
І там я папытаў!
А усё не пры варштаце,
А ў чарнарабочыя папаў.
Я хацеў у прыказчыкі або у палавыя,
Ды туды бяз грошы не папасьць...
Але там такія дзяцюкі ўдалыя!
Ды і басякоў-жа там прапасьць...
Няўжо-ж мне на год дагаварыцца
У хадзяіна ў сяле служыць?
Ды баюся, каб не разарыцца,
Што у хадзяіна цяжка жыць.
Трэба рана устаць малаціць,
А днём прыбяры скот, —
Там дым твар і шыю закапціць
І усё цела пераесьць пот!

## СЬВЕТ ПЕРАМЯНІЎСЯ.

I.

Дадушы, брат Апанас,
Жаль, што нябожчыкаў нашых нет,
Яны не пазналі-бы цяпер нас
І сказалі-бы: гэта ня той ужо сьвет.

II.

Аж жудка стала глядзець,
Што лес, камень і горы не ўстаялі!
А народ яшчэ стаў больш гардзець, —
Ды зьвярэй і птушак паразганялі.

Улякнулася зямля і неба,
Што пеклы па зямлі і вадзе гуляюць;
То ўжо прапасьць нам усім трэба,
Што рыбу і ракаў ганяюць.
Зямлі многа зажыраюць
Ды вакзалы муруюць, —
Грошы, як у пекла, шваргаюць,
А бедныя гаруюць.

III.

На юбілеуш ксяндзы казалі,
Што будзець езьдзіць агняная печ, —
Вот і дротам увесь сьвет перавязалі
Ды й на слупы лес сталі сеч.
І цацярука ўжо ня чуваць,
Як бывала ён балбочаць, —
Гдзе-ж яму сесьць або начаваць?
Ды яшчэ і шум галоўку марочыць.
Хоць-бы і ў балота забіўся,
Дык і там машыны гарлаюць;
Ці не антыхрыст гэта нарадзіўся, —
Што дужа-ж яны нас пугаюць!

IV.

Машыны паелі ўвесь лес,
Што нетуці з чаго паставіць і хаты,
А дровы прадаюць ужо на вес, —
Вот і будзь, Апанас, багаты.
Ня трэба і пятуху нас будзіць,
Хто хворы і хто здаровы, —
Ад машын толькі зямля гудзіць,
Што аж трасуцца чаровы.

V.

Ужо многа каторыя рэкі
Саўсім ужо ўсохлі,
Рыбка і бедныя ракі
У іх да сьмерці падохлі.
І людзям стаў век кароткі,
А дзіва, што рэкі й азёры ўсыхаюць.
Ты відзіш: народ дзярэць глоткі,
А да Бога ня ўздыхаюць.
Даўней-жа гэтага ня было,
Каб у маладых зубы выпадалі,
А цяпер нас да таго давяло,
Каб і маладымі сябе ня відалі.

Хоць цяпер народ і красівей,
Не такі, як у старыя годы,
Ды яны жылі шчасьлівей,
А цяпер адны нязгоды.

VI.

Не адзін ужо й астралом
Кажаць: больш людзей, як зьвёзд на небе,
І кажаць, што будзець на нас пералом, —
Тады ня трэба думаць і а хлебе!

VII.

Загрузілі Амур і Сыбір
І павідзілі Уральскіх гор і Сахалін;
Ды і там для нас цесен мір
І няма вясёлых далін!

VIII.

Ад машын клімâт перамяніўся,
Я гэта добра дазнаў,
Ён не стаіць там, дзе радзіўся,
Я гэта верна сказаў.
Каб машыны прыстанавіць,
То і воздух на сваё бы месца стаў,
Раён яго ізноў усынавіць, —
І ён на родзіне-бы стаў!
Куды дзяваўся сьнег і мароз?
І дзе прапаў густы туман?
Цяпер сібірак і маларос —
Адзін шум і адзін гаман!
І ня так нас ужо страшчаюць
Пошасьці, чума і халера, —
Машыны паветра ачышчаюць!
Хоць ня будзець мне і вера...

## ЧАРТАЎНЯ.

I.

Бывала, толькі быў і страх,
Што былі вупыры ды чараўнікі,
Дык іх палілі на кастрах,
Ды й прападалі ад Божай рукі.

Даўней нябожчыкі з магіл хадзілі,
Ды яшчэ і русалкі гарцавалі,
П'янага мужыка па балоту вадзілі,
Ды і чараўнікі працавалі.

## II.

Дзёмкаў сынок быў жосткі і на ўсё цікавы,
Аж і папаў ён на сваю судзьбу!
І ці гэта-ж яго занёс туды ня лукавы,
Што ён папаў к бесам на свадзьбу?
Чуець ён ноччу, што ў таку іграюць, басуюць,
А ён і давай к варотам падхадзіць, —
Аж там чэрці па таку танцуюць!..
І чаго-ж яму было туды хадзіць?
Глядзіць ён у шчэлку, разьвесіўшы свае грыбы,
І відзіць, што там гараць чорныя сьвечкі...
Аж старшы чорт вылез із трубы,
А памошнік яму вылез із печкі...
Да бяды яму было недалёка, —
І ці гэта-ж ён быў ня кеп?! —
Чорт увідзеў ды й торк! яму пальцам у вока,
Дык ён і асьлеп.
Цяпер торбы на сьпіне носіць
Ды па сёлах дражніць сабак,
Куска хлеба у людзей просіць
Ды ў нос піхаець табак.

## III.

Якая тут немач?
І адкуль накасалася ліха,
Што усякую ноч
Конь не стаіць ціха?
Што ноч у хлеве стукатня,
Што аж трасуцца сьцены, —
Чыста замучыла майго каня,
Што не абабрацца пены.
На сьпіне вылезла шэрсьць, —
Аж на ім езьдзіць хляўнік [1])!
Ці гэта-ж каню майму чэсьць? —
Але я ў гэта ўнік!
Годзе табе, канёк мой, гараваць,
Я табе магу памоч:
Пашоў я у хлеў пільнаваць
І сеў там на ўсю ноч.

---

[1]) Нячыстая сіла, што пануе ў хлявох.

І ўвідзеў гэта на вяку,
Хоць у хлеве і цёмна:
Аж — хлопчык у брыльку
І езьдзіць на кані конна!
Што-ж мне тут чакаць?
Стой, мой ты галубок!
А ён гайдашанькі уцякаць!
А я камянем яму ў бок!

IV.

Ня будзеш ты, чараўніку,
У сяле рабіць галабурды!
Ты ўжо не аднаму чалавеку
Нарабіў ня мала бяды.
Ты ў свадзьбе сядзіш за сталом,
А сватом думаеш гаручку;
Ты ў жыце заломіш залом,
Каб узяць грошы кучку.
І не ў аднаго гаспадара
Авечка і кароўка пала
І ў беднага нашага дудара
Дуда лопнула і прапала.
Ты век хадзіў у насове
І быў вялікі калдун,
Што не адзін мужык на галаве
Насіў, як войлак, калтун.
У нас вясельле ў суботу,
А ты напусьціш на сватоў зык,
Што ўсе сваты бесяцца да поту, —
Вот табе і выперла язык.
Ты быў ужо й дужа стары,
А чараваць табе бывала карціць;
А цяпер выйшла з цябе пара,
Годзе табе ўжо сьвет муціць.
Цябе век чэрці аберагалі —
Ды й вяроўку табе прынясьлі [1]).
А ўсе людзі цябе лаялі ды клялі, —
Вот цябе чэрці й панясьлі.
Ты век і Богу не маліўся,
А толькі губіў людзей, —
Вот на вяроўцы й задавіўся.
Ах ты, вядзьмак, зладзей!
Цябе ўсе й багатыя мужыкі
На куце за стол садзілі, —

[1]) Чараўнік гэты павесіўся.

Ах, ты адбіраў ім языкі,
А к папу дзесяцкія цябе вадзілі.
Ты садзіў людзям скулы ў рот,
А сам піў першую румку,
А каго хватала за жывот,
То ў цябе прасілі ратунку.
Ты чараўніком і радзіўся,
І твая чартова была душа, —
Вот ты хвосьцікам і завіўся...
Пі смалу там з каўша!
Ты з людзей скуру лупіў
І быў нам, як горкая рэдзька;
Ты гарэлку каўшом піў, —
Вот ты й пашоў у пекла, Хведзька!
Ня будзеш ужо ў кароў малако адбіраць,
І ня будзеш заламаваць залом,
Ды й дудар будзець сьмела ўжо йграць, —
Ідзі ты ўжо ў землю калом!

V.

Быў і ў нашым сяле
Чараўнік і скупец, —
Няхай ён кіпіць у смале, —
Ну, багат быў, як купец!
Каліту ён сваю набіў,
Бо ўмеў чарамі прыабратаць;
Але што-ж ён перад сьмерцю зрабіў:
Давай чырвонцы з мёдам глытаць.
І не паспавядаў яго поп,
Без папа душою рыгнуў, —
Аж узарвала ў хаце строп,
Як злы дух з яго прыгнуў.
Вот мы яго на ростанькі занясьлі
Ды пры балоце ў яму зарылі,
Ды й яшчэ мы сябе не спасьлі,
Што мы каменьнем яго не накрылі.
Аж ён і давай хадзіць па начох
Ды бедных мужыкоў страшыць,
Што не аднаго ён заехаў па плячох,
Што другі, бедны, аж запляшаць.
Ён і ночы на магіле стаіць,
І нетуці нам ратунку яго збыць, —
А воcь парадзіў троху поп,
Што трэба асінавы кол забіць.
Гэта-ж нам не калёсы занасіць!
І ўчынілі мы такую раду,

Што трэба папа папрасіць,
Каб ня даць волі гэтаму гаду.
Вот мы яго й адкапалі,
Аж ён ляжыць тварам уніз,
Ды сотню вужак там напалі,
А ён, вядзьмак, ящчэ й не асьліз.
Вось прышоў к магіле наш і поп
І сьвятую малітву сатварыў:
— „Кіньце, кажаць, на яго багуну сноп,
„Я, кажаць, яго ўжо ўмарыў,
„Ды й галаву яму адсячыце,
„Відзіце, што ён ляжыць, як вол,
„Ды к пятам яе прытачыце,
„А ў грудзі забіце яму кол!“
Усё мы гэта зрабілі,
Што прыказаў нам поп,
Асінавы кол яму ў грудзі забілі,
Ды яшчэ й абухом далі ў лоб.
Тады, нячыстая сіла, перастаў хадзіць,
Без галавы, відаць, ужо ня мог,
Ды поп і дарогу яму сумеў загарадзіць,
Хоць не адсеклі мы яму й ног.
Прастыў яго ўжо і сьлед!
І што-ж посьле чуем мы:
Увідзеў дзіва наш сусед,
Ідучы ноччу з карчмы.
Было гэта а паўночы,
Чуець ён: хахочуць і пляшуць...
Аж на магіле яго чэрці, як панічы,
І на суседа рукамі машуць!
— „Хадзі бліжэй к нам, Тарас,
„Мы табе дзіва пакажам;
„Тут будуць грошы у нас,
„Як чараўніка мы разьвяжам“.
Тарас бліжэй падыйшоў,
І ад страху ўвесь дрыжыць,
Чуць з галавы ня сыйшоў,
Што чараўнік на магіле ляжыць.
Магіла яго блізка ад дарогі,
Каб у памяці ўсе мелі;
Аж чэрці як трахнулі яго за ногі,
Дык з яго грошы й загрымелі.
— „Бяры, Тарас, гэтыя грошы,
„Ты цяпер будзеш багат,
„Ды й глядзі-ж: будзь харошы,
„Каб быў і ты яму брат!“

А самі з трупам панясьліся,
Што аж віхор падняўся:
Валей чараўнік на сьвет не радзіся!
А Тарас за грошы прыняўся.
  Кучу золата ён забраў,
  Ды, небарак, не разбагацеў:
  Тыя грошы ў яго злодзей украў,
  А ён толькі абнагацеў.
Такія грошы ня йдуць у прок,
Хоць хто і розум меець;
Забяры іх Сідар або Пятрок,
То кажынны зьбяднееец.
  А чараўнік апрастаў нам дарогу,
  Здаецца, навек мы яго забылі;
  Дзякуй ужо найвышэйшаму Богу,
  Што чэрці і труп яго збылі.

VI.

Як ты думаеш, Ільля:
Што ёсьць такое — чорт?
Ці ён ёсьць, як зьмяя,
Ці ён ёсьць, як хорт?
  Як-бы ён падобен быў да харта,
  Дык ён лавіў-бы зьвярэй і зайцоў,
  Ато ён вылезець з балота
  Ды ловіць мужчын, баб і мальцоў.
Ён-жа ні часу не зяваець,
І ўбогаму даець кусок хлеба,
Ён-жа і духавенства корміць і адзяваець;
А без яго ня ўпала-бы яму з неба.
  Я ня раз гэта гаварыў:
  Каб сатаны не баяўся,
  Дык ніхто і малітвы-бы не тварыў,
  А толькі-бы сьмяяўся...

## П О П.

Наш поп на пропаведзі гаварыў,
Што ўжо скора кончыцца мір,
А хто дарогу сабе ў рай засурыў,
Той пойдзець у вогненны вір.
  І казаў: як будзець страшны суд,
  То грахі будуць класьці на вес,
  А ў каго завесіць болей, як пуд,
  Таго забярэць сабе бес.

І казаў: „Перастаньце вы піць гарэлку,
Ато вас чакаець ад, —
Кладзіце вы грошы ў царкве на тарэлку
То з вас і Бог будзець рад“.

## СТАРШЫНА.

Вот табе, старшына наш Харытон, —
Ты быў міраед харошы,
Цяпер табе ў воласьці ня прытон [1]),
Аддавай ужо крадзеныя грошы.
Годзе табе ўжо ў канцэралі [2]) расьпірацца,
Піва ды гарэлку піць,
Цяпер табе ад бяды не адкапацца,
І годзе табе ўжо і з бедных кпіць.
Ня будзеш ты ўжо курчат есьць ды дзічыну,
І ня будзець табе яечні, сыра і масла, —
Ты і глядзець не хацеў ужо на вятчыну,
А цяпер тваё ўсё ужо згасла.
Ты красьці і ў пісара ня пытаўся
Ды й загадаваў сабе бруха;
Ты, як сыр у масьле, катаўся, —
Ах ты, мужык-юха!
Ня будуць табе мужыкі прыкланяцца
І ня будуць ў банкеты прасіць;
А цяпер ты будзеш мужыкам уніжацца
І будзеш, юха, лапці насіць.
Ты і сам гэта мог паняць,
Што табе вылезуць кілбасы, яйцы і мёд;
Цяпер цябе мужыкі будуць кіямі ганяць,
Вот ты і папаўся пад гнёт!

## СТАРАСТА.

Хто пажываець
Чужое дабро,
Веку не дажываець:
Бярэць за рабро.
А ў нас стараста
Ішоў той-жа трыбай [3]), —
Пад час самага нораста
Падавіўся рыбай!

[1]) Яго скінулі з старшынства. [2]) Канцэлярыі. [3]) Спосабам.

## СОЦКІ.

Быў у нас і соцкі,
Што кілбасой падавіўся;
Еў ён чужыя і клёцкі,
Пакуль у магілу ўваліўся.

## ГРАМАЦЕЙ, САВАСЬЦЕИ І ГАРАДАВЫ.

У нас у сяле ёсьць Мацей,
Ён вялікім розумам дышаць,
Ужо ён такі грамацей,
Што ён нагою прашэньні пішаць!
Ён пісьмы пішаць і к салдатам;
І прашэньні пішаць у воласьць;
Ужо не называй яго і братам,
Бо яму і паны ня новасьць!
А як нашаму дураку,
Хоць-бы сабе і Савасьцею,
Гарадавой дзярнуў па баку, —
Ну як-бы ён так зрабіў Мацею?!
Мацей мaецьдобры вум, —
Ён-бы яго на век засудзіў,
Яму станавога хурман — кум,
Ён-бы яго і з ног ссадзіў.
А Савасьцея дзярнуў па баку шашкай,
Як ён п'яны ішоў к бурла́кам, —
Казаў адыстар [1]) дзярнуў, як плашкай,
Што ён нядзелю хадзіў ракам.

## ДУДАР.

Калі скрыпач або дудар,
То іх любяць дзеўкі і мальцы,
Іх любяць сваты і гаспадар,
Што ў іх няпростыя пальцы.
У дудара хоць і тоўстыя лупы,
І шчокі яго надуты,
Ды, пэўна, ён дзяцюк няглупы,
Калі іграець радуты!

---

[1]) Якраз.

# ЗЪМЕСТ

Стар.



---

*) Ня гледзячы на ўсе труднасьці, паважаны аўтор ласкава прыслаў гэтую сваю новую кнігу з Петрагр. Акад. Навук землякам у Вільню, чым памог укладаньню „Хрыстаматыі“ і наагул разьвіцьцю роднае культуры ў краі.

*) Паведаміў рэдактар „Przegl. Wileńsk.“, п. Л. Абрамовіч, за што яму шчыра дзякую. *М. Г.*

З дняўніка сьветл. пам. Г. Гарэцкай і пасьвячэньне—устаўны ліст.

---



